# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

3

1937



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ТРЭЦЯЯ*



МЕНСК—1937

М. М. ГАЛАДЗЕД

# Аб праекце Канстытуцыі БССР

## Даклад на надзвычайным XII Усебеларускім з'ездзе советаў

15 лютага 1937 г.

### I. Гістарычныя даведкі

ТАВАРЫШЫ!

6 лютага 1935 года VII з'езд Советаў Саюза ССР прыняў пастанову аб унясенні некаторых змен у Канстытуцыю Саюза ССР. У гэтай пастанове было запісана:

„1. Унесці ў Канстытуцыю Саюза ССР змены ў напрамку:

а) далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не зусім роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі;

б) удакладнення соцыяльна-эканамічнай асновы Канстытуцыі ў сэнсе прывядзення Канстытуцыі ў адпаведнасць з цяперашнімі суадносінамі класавых сіл у СССР (стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, уцвярджэння соцыялістычнай уласнасці, як асновы совецкага грамадства і т. п.).

2. Прапанаваць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюза ССР выбраць Канстытуцыйную Камісію, якой даручыць выпрацаваць выпраўлены тэкст Канстытуцыі на ўказаных у пункце першым асновах і ўнесці яго на зацверджанне сесіі ЦВК Саюза ССР.

3. Бліжэйшыя чарговыя выбары органаў совецкай улады ў саюзе ССР правесці на аснове новай выбарчай сістэмы".

7 лютага 1935 г. першая сесія ЦВК Саюза VII склікання ўтварыла Канстытуцыйную Камісію пад старшынствам тав. Сталіна.

Канстытуцыйная Камісія ЦВК Саюза ССР распрацавала праект новай Канстытуцыі Саюза ССР, які быў надрукаван для ўсенароднага абмеркавання. На падставе гэтага Беларуская ССР таксама паставіла пытанне аб выпрацоўцы новай Канстытуцыі БССР, і 26 чэрвеня 1936 г. Прэзідыум ЦВК БССР утварыў Канстытуцыйную Камісію ЦВК БССР у складзе 31 чалавека для распрацоўкі праекта новага тэкста Канстытуцыі БССР. Канстытуцыйная Камісія БССР распрацавала новы тэкст Канстытуцыі БССР, які

прадстаўляецца на абмеркаванне і зацверджанне Надзвычайнага XII З'езда Советаў БССР.

Першая Канстытуцыя Беларускай ССР была прынята Першым З'ездам Советаў БССР 4 лютага 1919 года. У ёй былі запісаны заваяванні рабочых, сялян, батракоў і ўсіх працоўных Беларусі, якія скінулі панаванне памешчыкаў і буржуазіі. Беларусь была аб'яўлена рэспублікай Советаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, і ўся ўлада як у цэнтры, так і на месцах замацоўвалася выключна за Советамі.

У першай Канстытуцыі БССР было запісана:

„Асноўная задача разлічанай на сучасны пераходны момант Канстытуцыі БССР заключаецца ва ўстанаўленні дыктатуры гарадскога і сельскага пролетарыята і бяднейшага сялянства ў выглядзе магутнай совецкай улады, у мэтах поўнага падаўлення буржуазіі, знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам і ўстанаўлення соцыялізма". (Арт. 4.)

17 снежня 1920 года другі З'езд Советаў БССР прыняў дадаткі да Канстытуцыі БССР, якімі вызначаўся парадак утварэння і функцыі цэнтральных органаў совецкай улады ў БССР.

1919—1920 гг.—гэта былі гады жорсткай барацьбы працоўных мас як Беларусі, так і ўсіх совецкіх рэспублік з інтэрвентамі і з унутранай контррэволюцыяй. Беларуская ССР, на якую наступалі перадавыя атрады інтэрвентаў—польскія легіёны, не змагла-б адстаяць сваю незалежнасць без дапамогі рускага рабочага класа і бяднейшага сялянства, а таксама без дапамогі працоўных іншых совецкіх рэспублік. Трэба было аб'яднаць усе рэволюцыйныя сілы рускага, украінскага, беларускага і іншых народаў для таго, каб адстаяць заваяванні вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі і даць адпор капіталістычным інтэрвентам.

Пагэтаму 16 студзеня 1921 года Беларуская ССР заключыла саюз з РСФСР. У саюзным дагаворы запісана, што

„выходзячы з агалошанага Вялікай пролетарскай рэволюцыяй права народаў на самавызначэнне, прызнаючы незалежнасць і суверэннасць кожнай з дагаварваючыхся старон і ўсведамляючы неабходнасць злучыць свае сілы ў мэтах абароны, а таксама ў інтарэсах іх гаспадарчага будаўніцтва... РСФСР і БССР уступаюць паміж сабою ў ваенны і гаспадарчы саюз".

Цесны саюз са старэйшай сваёй сястрой—з РСФСР дапамог рабочым і сялянам Беларусі замацаваць дыктатуру пролетарыята, адбіць атакі знешняй і ўнутранай контррэволюцыі і прыступіць да аднаўлення зруйнаванай гаспадаркі.

Вопыт сумеснай барацьбы совецкіх рэспублік паказаў, што фактычна складвалася Саюзная Совецкая дзяржава.

Таму IV З'езд Советаў БССР у 1922 г. 16 снежня вынес пастанову аб утварэнні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, як адзінай саюзнай дзяржавы, і запісаў аб дабравольным уваходжанні Беларускай ССР у склад Саюза ССР.

На падставе зацверджанай Саюзным З'ездам Советаў Канстытуцыі СССР у 1924 годзе, Беларуская ССР унесла змены ў сваю Канстытуцыю ў адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР.

З паказанага відаць, што існаваўшая да гэтага часу Канстытуцыя БССР адлюстроўвала і замацоўвала заваяванні Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі першага перыяда. Пасля таго часу Беларуская ССР, як і ўвесь Совецкі Саюз, дабілася карэнных змен у сваей эканоміцы, культуры, будаўніцтве і папярэдняя Канстытуцыя ўжо не адлюстроўвае таго, што здабыта беларускім народам. Таму распрацован новы тэкст Канстытуцыі БССР, які і ўносіцца на зацверджанне Надзвычайнага XII З'езда Советаў БССР.

## *II. Асновы Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР з'яўляюцца асновамі Канстытуцыі Беларускай ССР*

Як ужо вядома, Надзвычайны VIII З'езд Советаў Саюза ССР зацвердзіў новую Сталінскую Канстытуцыю, яна ўжо дзейнічае ў нашай соцыялістычнай краіне.

Канстытуцыя Саюза ССР, напісаная вялікім Сталіным, з'яўляецца найвялікшым гістарычным дакументам. Гісторыя ведае два найвялікшых дакументы: Комуністычны Маніфест, напісаны Марксам і Энгельсам, і Сталінскую Канстытуцыю. Але Комуністычны Маніфест быў праграмай, ён вызначаў тое, чаго рабочы клас павінен быў дабівацца, указваў за што весці барацьбу і ўказваў шляхі барацьбы эксплаатуемых мас. Тое, што лепшымі людзьмі чалавецтва вызначалася ў Комуністычным Маніфесце для будучага, гэта ператорана ўжо ў жыццё нашай Комуністычнай партыяй пад кіраўніцтвам геніяльнага Сталіна і запісана ў Канстытуцыю—у асноўны закон. Сталінская Канстытуцыя не ёсць праграма, а Канстытуцыя перамогшага соцыялізма. У ёй запісана не тое, чаго павінны працоўныя масы дабівацца, а тое, чаго яны ўжо дабіліся, што ўжо заваявана рабочым класам Совецкага Саюза. Тым большае значэнне Сталінскай Канстытуцыі. Само сабой зразумела, што для працоўных капіталістычных краін Канстытуцыя СССР з'яўляецца маяком, які асвятляе шлях і кліча іх да барацьбы за звяржэнне капіталізма і пабудаванне соцыялістычнага грамадства.

Новы тэкст Канстытуцыі БССР цалкам і поўнасцю грунтуецца на асновах Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР. Асновы Канстытуцыі Саюза ССР ёсць асновы Канстытуцыі БССР, ды інакш і быць не можа, бо БССР з'яўлялася, з'яўляецца і будзе з'яўляцца састаўной і неад'емнай часткай вялікага непераможнага Саюза ССР. (Працяглыя апладысменты.) Новая Канстытуцыя БССР, як і Канстытуцыя Саюза ССР, таксама з'яўляецца Канстытуцыяй перамогшага соцыялізма. (Апладысменты).

У саюзе з іншымі совецкімі рэспублікамі, у першую чаргу ў саюзе з РСФСР, з яе дапамогай працоўныя БССР выгналі акупантаў. У саюзе з РСФСР і іншымі совецкімі рэспублікамі беларускі народ перамог у грамадзянскай вайне, умацаваў дыктатуру рабочага класа, падняў сваю эканоміку, культуру, пабудаваў соцыялізм.

У цесным саюзе з іншымі совецкімі соцыялістычнымі рэспублікамі, аб'яднанымі ў адзіную магутную саюзную дзяржаву, беларускі народ упэўнена пойдзе да комунізма.

Таму беларускі народ у арт. 13 сваёй Канстытуцыі запісвае, што „ў мэтах ажыццяўлення ўзаемадапамогі па лініі эканамічнай і палітычнай, таксама як і па лініі абароны, Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка добравольна аб'ядналася з роўнапраўнымі Совецкімі Соцыялістычнымі Рэспублікамі: Расійскай СФСР, Украінскай ССР, Азербайджанскай ССР, Грузінскай ССР, Армянскай ССР ,Туркменскай ССР, Узбекскай ССР, Таджыкскай ССР, Казахскай ССР, Кіргізскай ССР у саюзную дзяржаву—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Выходзячы з гэтага, БССР забяспечвае за СССР у асобе яго вышэйшых органаў улады і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва правы, вызначаныя артыкулам 14 Канстытуцыі СССР.

Па-за межамі артыкула 14 Канстытуцыі СССР, БССР ажыццяўляе дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы поўнасцю свае суверэнныя правы".

У цесным саюзе з усімі народамі Саюза ССР мы будзем і надалей умацоўваць соцыялістычны інтэрнацыяналізм і вялікую дружбу народаў. (Працяглыя апладысменты.)

Тыя змены ў эканоміцы, культуры і класавай структуры, якія адбыліся ў Совецкім Саюзе, таксама адбыліся і ў БССР. І таму новая Канстытуцыя БССР цалкам і поўнасцю адлюстроўвае гэтыя змены.

Што-ж гэта за змены, якія адбыліся ў нашай краіне?

Тав. Сталін у сваім гістарычным дакладзе на VIII З'ездзе Советаў Саюза ССР так ахарактарызаваў гэтыя змены:

„Калі мы мелі тады першы перыяд НЭП'а, пачатак НЭП'а, перыяд некаторага ажыўлення капіталізма, то мы маем цяпер апошні перыяд НЭП'а, канец НЭП'а, перыяд поўнай ліквідацыі капіталізма ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі.

Пачаць хоць-бы з таго, што наша прамысловасць вырасла за гэты перыяд у гіганцкую сілу. Цяпер ужо нельга назваць яе слабай і тэхнічна дрэнна аснашчонай. Наадварот, яна базіруецца цяпер на новай, багатай сучаснай тэхніцы з вельмі развітай цяжкай індустрыяй і яшчэ больш развітым машынабудаўніцтвам. Самае-ж галоўнае ў тым, што капіталізм выгнан зусім са сферы нашай прамысловасці, а соцыялістычная форма вытворчасці з'яўляецца цяпер безраздзельна пануючай сістэмай у галіне нашай прамысловасці".

Гэтая характарыстыка змен у галіне прамысловасці, даная тав. Сталіным, цалкам і поўнасцю датычыцца і БССР, бо ў нас вырасла магутная соцыялістычная індустрыя, якая базіруецца на новай сучаснай тэхніцы, з якой канчаткова выгнаны капіталістычныя элементы. У нас у БССР занава пабудавана соцыялістычная прамысловасць і ў такім размеры, што ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ва ўсёй прадукцыі народнай гаспадаркі БССР раўняецца 75%. Гэта гіганцкія заваяванні беларускага народу.

У галіне сельскай гаспадаркі, гаварыў тав. Сталін, адбыліся наступныя змены:

„Замест акіяна дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак з іх слабай тэхнікай і засіллем кулака мы маем цяпер самую буйную ў свеце машынізаваную, узброеную новай тэхнікай вытворчасць у выглядзе ўсеабдымнай сістэмы калгасаў і соўгасаў. Усім вядома, што кулацтва ў сельскай гаспадарцы ліквідавана“.

І гэтая характарыстыка таксама цалкам і поўнасцю адносіцца да сельскай гаспадаркі БССР.

І ў БССР замест дробных і драбнейшых сялянскіх гаспадарак з масай беззямельнага сялянства і батрацтва, з кулацкай кабалой у вёсцы, выраслі і ўмацаваліся калгасы і соўгасы. 86,6% сялянскіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы, а аднаасобны сектар не прадстаўляе колькі-небудзь значнай гаспадарчай сілы. Ён займае толькі 6,8% пасеўных плошчаў БССР. Ліквідавана кулацтва. Сельская гаспадарка БССР узбагацілася магутнай тэхнікай. Варта адзначыць, што ў нашай сельскай гаспадарцы зараз працуе звыш васьмі тысяч трактароў.

У галіне тавараабароту, гаварыў тав. Сталін, адбыліся наступныя змены:

„Купцы і спекулянты выгнаны зусім з гэтай галіны. Увесь тавараабарот знаходзіцца цяпер у руках дзяржавы, кааперацыі і калгасаў. Нарадзіўся і развіўся новы савецкі гандаль, гандаль без спекулянтаў, гандаль без капіталістаў“.

І ў тавараабароце БССР якраз такі-ж малюнак.

Такім чынам поўная перамога сацыялістычнай сістэмы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам. А гэта азначае, што эксплаатацыя чалавека чалавекам і ў нас у БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, знішчана, ліквідавана, а сацыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага савецкага грамадства. У нас створана сацыялістычная эканоміка, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, якая дае грамадзянам нашай БССР усе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця.

Характарызуючы змены ў класавай структуры, тав. Сталін гаварыў, што:

„Клас памешчыкаў, як вядома, быў ужо ліквідаваны ў рэзультаце пераможнага сканчэння грамадзянскай вайны. Што датычыць іншых эксплаататарскіх класаў, то яны падзялілі лёс класа памешчыкаў. Не стала класа капіталістаў у галіне прамысловасці. Не стала класа кулакоў у галіне сельскай гаспадаркі. Не стала купцоў і спекулянтаў у галіне тавараабароту. Усе эксплаататарскія класы аказаліся, такім чынам, ліквідаванымі.

Астаўся рабочы клас.
Астаўся клас сялян.
Асталася інтэлігенцыя“.

Але і ў гэтых сацыяльных групах, як гаварыў тав. Сталін, адбыліся змены. Ён указаў, што наш рабочы клас часта па старой

памяці называюць пролетарыятам. Але пролетарыят—гэта клас, эксплаатуемы капіталістамі, а ў нас клас капіталістаў ужо ліквідаваны, прылады і сродкі вытворчасці адабраны ў капіталістаў, перададзены дзяржаве, кіруючай сілай якой з'яўляецца рабочы клас.

Такім чынам наш рабочы клас не толькі не пазбаўлен прылад і сродкаў вытворчасці, а наадварот, ён уладае гэтымі сродкамі вытворчасці разам з усім совецкім народам. А раз ён уладае сродкамі вытворчасці, а клас капіталістаў ліквідаваны, значыцца, выключаны ўсякія магчымасці эксплаатацыі рабочага класа. А гэта значыць, што пролетарыят Совецкага Саюза з'яўляецца зусім новым класам, ён ператварыўся ў рабочы клас СССР, які знішчожыў капіталістычную сістэму гаспадаркі, уцвярдзіў соцыялістычную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і накіроўвае совецкае грамадства па шляху комунізма. Такога класа яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

Адбыліся змены ў класе сялян.

Звычайна прынята гаварыць, сказаў тав. Сталін, што сялянства гэта клас дробных вытворцаў, члены якога раскіданы па твару ўсёй краіны, працуюць у адзіночку на сваёй дробнай гаспадарцы з адсталай тэхнікай, яны з'яўляюцца рабамі прыватнай уласнасці і эксплаатуюцца памешчыкамі, кулакамі, капіталістамі, спекулянтамі і т. п. У капіталістычных краінах асноўная маса сялянства і зараз з'яўляецца іменна такім класам, а пра сялянства совецкай краіны нельга гэтага сказаць, яно ўжо не падобна на такое сялянства. Наша совецкае сялянства з'яўляецца зусім новым сялянствам. У нас ліквідаваны памешчыкі і кулакі, а таксама купцы і ліхвяры, якія раней эксплаатавалі сялян. Сялянства наша вызвалена ад эксплаатацыі, яно ў сваёй большасці ўжо калгаснае сялянства, г. з. такое сялянства, якое базіруе сваю работу не на аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай працы і новай сучаснай тэхніцы. У аснове гаспадаркі нашага сялянства ляжыць не прыватная ўласнасць, а ўласнасць калектыўная, якая склалася на базе калектыўнай працы.

Такім чынам і наша совецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, якога таксама яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

Адбыліся карэнныя змены і ў інтэлігенцыі.

Інтэлігенцыя ў нас ужо зусім новая, якая служыць народу. Раней інтэлігенцыя служыла класу капіталістаў і была выхадцам з класа капіталістаў і дробнай буржуазіі. Цяпер-жа наша совецкая інтэлігенцыя на 80—90% выходзіць з рабочага класа і сялянства, а таксама і з іншых слаёў працоўных, яна служыць народу, працуе ў адной упражцы з рабочымі і сялянамі па будаўніцтву соцыялізма.

Такім чынам і інтэлігенцыя ў нас новая.

Гэтая геніяльная характарыстыка змен класавай структуры нашага совецкага грамадства, даная тав. Сталіным, цалкам і поўнасцю на ўсе 100% датычыць і Беларусі.

Такім чынам, асноўныя артыкулы Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР, у якіх адлюстраваны соцыяльна-эканамічныя змены, якія адбыліся ў нашай дзяржаве, цалкам і поўнасцю запісаны ў Канстытуцыі БССР. Аб гэтым яскрава гавораць І і VIII раздзелы праекта Канстытуцыі БССР.

## III. У барацьбе з ворагамі беларускі народ пабудаваў сваю Савецкую Соцыялістычную дзяржаву

Абмяркоўваючы і прымаючы праект новай Канстытуцыі БССР, мы падагульваем вялікія заваяванні працоўных мас Беларусі па будаўніцтву соцыялізма і запісваем іх у нашу Канстытуцыю.

Нялёгка дасталіся беларускаму народу гэтыя заваяванні. Пройдзен цяжкі, але слаўны і гераічны шлях барацьбы і будаўніцтва. БССР—гэта вынік паспяховай барацьбы мас, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, барацьбы з усімі і ўсялякімі ворагамі, знешнімі і ўнутранымі.

Наша Беларуская Рэспубліка разам з агульнымі ўмовамі барацьбы з ворагамі мела і свае асаблівыя ўмовы барацьбы.

Аб гэтым гаворыць артыкул 2-гі праекта нашай Канстытуцыі. У ім сказана наступнае:

„Палітычную аснову БССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных, якія выраслі і ўзмацніліся ў выніку зviржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў, заваявання дыктатуры пролетарыята, вызвалення беларускага народу ад нацыянальнага прыгнечання царызма і рускай імперыялістычнай буржуазіі і разгрому беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі“.

Гэты артыкул паказвае, што беларускі народ вёў барацьбу за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята і за нацыянальнае сваё вызваленне як з рускім царызмам і рускай імперыялістычнай буржуазіяй, так і з нацыяналістычнай беларускай контррэволюцыяй.

Як вядома, у барацьбе капіталістаў і памешчыкаў супроць паўстаўшага пролетарыята і працоўнага сялянства, супроць Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі агідную роль адыграла беларуская буржуазія і яе прыслужнікі—беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы. Яны, прыкрываючыся шыльдай барацьбітоў за вызваленне Беларусі ад нацыянальнага прыгнёту, рыхтавалі новае ярмо беларускаму народу. Яны для барацьбы з Кастрычніцкай рэволюцыяй заключалі саюз з рускай імперыялістычнай буржуазіяй, з Рабушынскімі і інш. магнатамі расійскага капіталізма, з рускімі генераламі і т. д. Яны не прызнавалі волі беларускага народу і Кастрычніцкай рэволюцыі.

Вось што пісалі ў дні Кастрычніцкай рэволюцыі так званая „вялікая Рада“, Цэнтральная вайсковая рада і інш. нацыяналістычныя арганізацыі ў сваёй адозве:

„Беларусь павінна быць дэмакратычнай рэспублікай, спаянай з такой-жа рэспублікай Велікаросіяй і інш. суседнімі рэспублікамі Расіі... Уся ўлада ў Беларусі павінна належаць краявой радзе, выбіраемай на аснове... прапарцыянальнага галасавання“.

Яны ў гэтай сваёй адозве да беларускага народу заклікалі захоўваць памешчыцкія маёнткі і ўсё панскае дабро, указваючы, што разбурэнне панскіх маёнткаў:

„вядзе народы Расіі на пагібельны шлях страты вольнасці, атрыманай у лютаўскія дні“.

Тут-жа яны намецілі скліканне так званага „З'езда прадстаўнікоў усяго беларускага народу“ ў г. Менску. Прыкладна праз тры тыдні пасля Кастрычніцкага перавароту ў Менску сапраўды пачала засядаць „беларуская Рада“, але гэта была Рада памешчыкаў, купцоў, генералаў і фабрыкантаў. Самую актыўную ролю ў гэтым зборышчы адыгрывалі беларускія нацыяналісты, якія разам з памешчыкамі і капіталістамі кавалі новыя ланцугі беларускім працоўным масам. Асабліва варожую дзейнасць супроць Кастрычніцкай рэволюцыі і совецкай улады на Беларусі праяўляў Петраградскі беларускі нацыянальны цэнтр. Тады там былі сабраны галоўныя зубры беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

Але працоўныя масы Беларусі былі за Кастрычнік, за совецкую ўладу, супроць беларускіх нацыяналістаў, яны падтрымлівалі свой совецкі ўрад. На падставе сапраўднай волі беларускіх працоўных мас Совет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронта, які ажыццяўляў тады на тэрыторыі Беларусі совецкую ўладу, прымушан быў разагнаць гэтае белагвардзейскае зборышча.

Аб гэтым гаворыць наступны дакумент таго часу—тэлеграма Совета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронта:

„Тэлеграма. Ваенная. Уне чаргі. Петраград. Смольны. Ураду Народных Камісараў, Камісару па нацыянальных справах Сталіну, Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту, Цэнтральнаму органу рэдакцыі „Правда“.

Кіраўнікі беларускіх Рад склікалі на 1—15 снежня ўсебеларускія з'езды і пад уплывам шавіністычных і нацыяналістычных элементаў абвясцілі ў краі новую ўладу, адхіліўшы і абвясціўшы нізложаным і самазваным выбраны З'ездам Советаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў абласны цэнтральны камітэт Советаў і выдзелены ім орган—Совет Народных Камісараў Заходняй вобласці. З'езд 15 склікан у парушэнне ўмоў, дадзеных тав. Сталіну... З'езды адверглі ўстаноўленую советамі ўладу і перадалі яе выбранаму на з'ездзе Рад органу. У адказ на гэта Совет Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронта абвясціў з'езд распушчаным і прапанаваў прэзідыуму яго пакінуць межы края і фронта і прыступіў да ліквідацыі кадэцкіх арганізацый, якія знайшлі прытулак пад флагам беларускага нацыянальнага руху“.

Як бачыце, нацыяналісты сваёй задачай ставілі звяржэнне ўлады рабочых і сялян. На дапамогу беларускім контррэволюцыянерам перш за ўсё прышло польскае белагвардзейскае войска пад камандаваннем генерала Доўбар-Мусніцкага, якое тады засела ў Бабруйску. Гэтае войска пачало разганяць Советы, расстрэльваць і вешаць лепшых рабочых і сялян Беларусі. У Беларусі разгарнулася ўзброеная грамадзянская вайна. На дапамогу беларускім рабочым і сялянам прыйшлі рабочыя і маракі з большэвіцкага Петраграда. У выніку беларускі народ адстаяў сваю ўладу Советаў.

У гэты час рускія рабочыя разграмілі сваю імперыялістычную буржуазію і замацавалі совецкую ўладу, з поспехам вытрымліваючы націск інтэрвентаў.

Пасля падзення рускай буржуазіі беларускія контррэвалюцыйныя нацыяналісты звярнуліся да нямецкіх імперыялістаў, да кайзера Вільгельма II з прапановай заключыць саюз і заклікалі нямецкае войска для акупацыі Беларусі.

Такім чынам нацыяналісты, сулячы „вольную" Беларусь, у тойжа час заключалі саюз з рускай буржуазіяй за „адзіную недзялімую Расію", бо ім патрэбен быў хто ўгодна, толькі-б захаваць закабаленне працоўнага беларускага народу. Але калі руская буржуазія была скінута, а нямецкі імперыялізм акупіраваў Украіну і Беларусь, гэтыя-ж зубры нацыяналістычнай контррэвалюцыі (Цвікевіч, Ластоўскі, Астроўскі, Варонка і інш.) кінулі саюз з рускай буржуазіяй і пайшлі на саюз з нямецкім кайзерам, а потым з польскімі князямі і памешчыкамі і прадавалі беларускі народ оптам і ў розніцу.

Вось што яны пісалі нямецкаму кайзеру:

„Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як выбрана прадстаўніца беларускага народу, звяртаецца да вашай імператарскай вялікасці са словамі глыбачайшай падзякі за вызваленне Беларусі нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску чужога пануючага здзеку і анархіі. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкляравала незалежнасць цэльнай і недзялімай Беларусі і просіць вашу імператарскую вялікасць аб абароне ў яе кіраваннях для ўмацавання дзяржаўнай незалежнасці і недзялімасці края ў сувязі з нямецкай імперыяй. Толькі пад абаронай нямецкай імперыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні."

А калі нямецкія акупанты былі з Беларусі выгнаны і зноў аднавілася совецкая ўлада, а Беларусь была абвешчана Совецкай Рэспублікай, то гэтыя-ж прадажныя здраднікі звярнуліся да польскай буржуазіі і пісалі Пілсудскаму наступнае:

„Мы вітаем цябе як аднаго з першых пракрокаў незалежнасці Беларусі. Вітаем цябе, начальнік польскай дзяржавы, на тваёй роднай зямельцы—Беларусі".

Гэтым самым яны дапамаглі польскім легіёнам акупіраваць Совецкую Беларусь.

Вось як беларускія нацыяналісты перапрадавалі беларускі народ.

Ганьба гандлярам народнай крывёй, фашысцкім лакеям і здраднікам. Беларускі народ, адваяваўшы сабе беларускую дзяржаву, пабудаваўшы соцыялізм, клеймiць ганьбой на векі вечныя беларускіх контррэволюцыйных нацыяналістаў, прадаваўшых працоўныя масы Беларусі пад ярмо нямецкіх і польскіх фашысцкіх крывапіўцаў.

Разграміць усе гэтыя варожыя сілы мы ніяк не змаглі-б, калі-б нам не дапамог рускі рабочы клас, калі-б намі не кіравала вялікая большэвіцкая партыя. Толькі дзякуючы таму, што працоўнымі масамі Беларусі кіравала партыя Леніна—Сталіна, дзякуючы магутнай дапамозе рускага рабочага класа—гегемона пролетарскай рэволюцыі, які з'яўляецца носьбітам пролетарскага інтэрнацыяналізма, нам удалося з поспехам разграміць і „сваю" і „чужую" буржуазную контррэволюцыю, утварыць вольную, суверэнную беларускую совецкую дзяржаву, знайсці сваю шчаслівую бацькаўшчыну ў саюзе

і з дапамогай старэйшай сваёй сястры—РСФСР (працяглыя апладысменты) і іншымі совецкімі рэспублікамі.

Беларускі народ, прымаючы сваю новую Канстытуцыю, Канстытуцыю перамогшага соцыялізма, выносіць сваю сардэчную, самую шчырую падзяку вялікаму рускаму народу за брацкую дапамогу, якую ён аказваў і аказвае беларускаму народу. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Слава вялікаму рускаму народу! (Гучныя, працяглыя апладысменты.)

Беларускі народ выносіць сваю глыбачайшую падзяку партыі Леніна - Сталіна, якая дала яму беларускую совецкую суверэнную дзяржаўнасць. (Бурныя працяжныя апладысменты.)

Слава нашай любімай ленінска-сталінскай партыі! (Бурныя апладысменты.)

## IV. Беларускую ССР стварыў вялікі Сталін

Беларускі народ за шматвяковую гісторыю свайго існавання ўпершыню ў гісторыі обрел сваю дзяржаўнасць. Беларусь на працягу вякоў з'яўлялася арэнай спрэчак, за кошт якой уладжвалі канфлікты розныя князі, каралі і баяры, а таксама праваслаўная і рымска-каталіцкая царква. А беларускі народ аднолькава прыгнятаўся як баярамі маскоўскімі, князямі польскімі і літоўскімі, таксама і царквой.

Толькі партыя Леніна—Сталіна, партыя большэвікоў і яе кіраўнікі Ленін і Сталін прывялі беларускі народ да соцыяльнага і нацыянальнага вызвалення, а Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя практычна, канчаткова вырашыла пытанне аб арганізацыі беларускай дзяржавы, як і іншых нацыянальных дзяржаў нашага Саюза. Беларусь ёсць вынік ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. (Працяглыя апладысменты.)

Геніяльны Ленін у 1913 годзе пісаў:

„Адзін толькі пролетарыят адстойвае ў нашы дні існінную свабоду нацый і адзінства рабочых усіх нацый.

Каб розныя нацыі свабодна і мірна ўжываліся разам або разыходзіліся (калі гэта ім выгадней), складаючы розныя дзяржавы, для гэтага неабходны поўны дэмакратызм, які адстойваецца рабочым класам. Ні адной прывілеі ні для адной нацыі, ні для адной мовы! Ні малейшага прыгнечання, ні малейшай несправядлівасці да нацыянальных меншасцей!—вось прынцыпы рабочай дэмакратыі". (Ленін, том XVI, выд. II, ст. 389.)

Так ставіў пытанне аб нацыянальнай палітыцы геніяльны арганізатар і правадыр Владзімір Ільіч Ленін.

Геніяльны саратнік геніяльнага Леніна тав. Сталін, абараняючы прынцыпы большэвізма ў сваёй класічнай працы па нацыянальнаму пытанню ў 1913 годзе ўшчэнт разбіў тэорыі меншавікоў, Бунда і аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі аб так званай культурнай аўтаноміі, якую прапаведвалі гэтыя партыі на чале з Отто Бауэрам. Тав. Сталін у гэтай сваёй працы даў класічнае азначэнне што такое

нацыя, паказаў як большэвізм вырашае нацыянальнае пытанне, абгрунтаваў палажэнне пра нацыянальнае самавызначэнне аж да аддзялення. (**Сталін**, Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне.)

Выходзячы з гэтых палажэнняў правадыроў нашай партыі, Леніна і Сталіна, Цэнтральны Камітэт большэвікоў у 1913 г. вынес наступную пастанову:

„Што датычыць правоў прыгнечаных нацый на самавызначэнне, г. зн. аддзяленне і стварэнне самастойных дзяржаў, то соцыял-дэмакратычная партыя безумоўна павінна адстойваць гэтыя правы. Гэтага патрабуюць як асноўныя прынцыпы міжнароднай дэмакратыі наогул, так і ў асаблівасці нечуванае нацыянальнае прыгнечанне большасці насельніцтва Расіі царскай манархіяй, якая прадстаўляе самы рэакцыйны дзяржаўны лад у параўнанні з суседнімі дзяржавамі Еўропы і Азіі“. (З рэзалюцыі па нацыянальнаму пытанню, прынятай на нарадзе ЦК РСДРП з партыйнымі работнікамі летам 1913 года.)

Так Ленін і Сталін і наша партыя паставілі пытанне аб дзяржаўнасці прыгнечаных нацый, так яно і вырашана. У большэвікоў не разыходзіліся і не разыходзяцца словы са справамі. Большэвікі заўсёды, вызначаючы праграму, паслядоўна яе ажыццяўляюць.

Практычным вынікам ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і з'яўляецца наша БССР. У канцы 1918 года Беларусь была абвешчана самастойнай Совецкай рэспублікай.

Такім чынам, БССР была арганізавана партыяй Леніна—Сталіна, а непасрэдным яе творцом і арганізатарам з'яўляецца вялікі стратэг пралетарскай рэвалюцыі тав. Сталін. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Гістарычнай датай утварэння Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца 30 снежня 1918 года, калі 6-ая Канферэнцыя большэвікоў Заходняй вобласці пастанавіла абвясціць Беларусь свабоднай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікай, а Канферэнцыю перайменаваць у Першы З'езд КП(б)Б.

Калі мы прымаем новую Канстытуцыю, то мы павінны асабліва спыніцца на ролі вялікага Сталіна ў арганізацыі БССР, як самастойнай рэспублікі.

Тав. Сталін асабіста падрыхтаваў утварэнне і стварыў БССР, ён непасрэдна кіраваў абаронай Совецкай Беларусі ад наступлення інтэрвентаў, ён кіраваў барацьбой за вызваленне Беларусі ад нямецкіх і польскіх акупантаў.

Тав. Сталін непасрэдна кіраваў абаронай г. Менска. Ён сам прыязджаў у Беларусь і ў г. Менск у 1919 годзе. Па яго геніяльнаму плану былі разгромлены акупанты заходнееўрапейскіх дзяржаў і ўнутраная контррэвалюцыя як на Украіне, так і ў Беларусі.

Тав. Сталін кіраваў кожным баявым участкам Чырвонай Арміі, якая вызваляла Беларусь ад польскіх акупантаў. У сваім паведам-

ленні аб становішчы на польскім фронце ў 1920 годзе тав. Сталін пісаў:

„Два апошнія месяцы май і чэрвень прадстаўляюць два зусім розныя малюнкі становішча на фронце. Май—гэта месяц выключных поспехаў польскіх войск. На правым сваім флангу палякі з поспехам прасоўваюцца за лінію Кіеў—Жмерынка, пагражаючы Одэсе. На левым флангу з поспехам ліквідуюцца наступальныя дзеянні нашых войск у напрамку Маладзечна—Менск. У цэнтры, замацаваўшы за сабой Мазыр і заняўшы Рэчыцу, польскія войскі пагражаюць Гомелю.

Чэрвень, наадварот,—месяц хуткай і рашучай ліквідацыі майскіх поспехаў польскіх войск. Прасоўванне палякаў на Украіну ўжо ліквідавана, бо палякі не толькі выгнаны з Кіева, але адкінуты за лінію Роўно—Праскуроў—Магілёў. Прасоўванне палякаў у бок Гомеля таксама ліквідавана, бо польскія войскі адкінуты за Мазыр. Што датычыць левага флангу палякаў, найбольш устойлівага па водзыву польскага друку, то трэба сказаць, што вызначыўшыяся за апошнія дні ў гэтым раёне магутныя ўдары нашых войск у напрамку Маладзечна не пакідаюць сумнення ў тым, што палякі будуць адкінуты назад і ў гэтым раёне. Ліпень адкрывае малюнак рашучага пералому на фронце ў карысць Расіі з яўнай перавагай на баку савецкіх войск". (З гутаркі з тав. Сталіным аб становішчы на польскім фронце.)

Тав. Сталін, кіруючы непасрэдна барацьбой Чырвонай Арміі і барацьбой беларускага народу па разгрому акупантаў, цесна звязваўся з беларускім народам, да якога ён адносіўся з вялікай любоўю. Ён любіў і любіць беларускі народ, як ніхто. (Працяглыя апладысменты.)

Цікава прывесці водзыў тав. Сталіна аб беларускім сялянстве. У паведамленні тав. Сталіна, надрукаваным у газеце 16-ай арміі „Красноармеец" 15 ліпеня 1920 года, тав. Сталін гаварыў, як беларускія сяляне сустракаюць Чырвоную Армію.

Газета пісала:

„Член Рэўваенсовета Рэспублікі тав. Сталін паведамляе, што не можа не адзначыць выключна добрых адносін мясцовага насельніцтва да Чырвонай Арміі. Такіх адносін мне не прыходзілася сустракаць ні на ўсходзе, ні на поўдні. Не гледзячы на беднасць сялянскіх мас на захадзе ў параўнанні з Паваложжам і поўднем, усё ж сяляне дзяліліся апошнім з чырвонаармейцамі. Надзвычай цяжкая падводная павіннасць выконвалася без нараканняў. Чырвонаармейцам аказвалася ўсялякае садзейнічанне, усякая дапамога, і вялікае было гора насельніцтва, калі мы былі прымушаны ў канцы мая пачаць адыход. Насельніцтва прыфронтавай паласы перанесла ўсю цяжкасць польскай акупацыі, пры гэтым добра ўсвядоміла чым пагражае яму ўтаржэнне польскіх паноў. На нашым фронце ёсць цэлая група войска, уся санітарная справа якога знаходзіцца ў руках сялян і сялянак, якія праяўляюць найвялікшыя клопаты і ўвагу да нашых раненых чырвонаармейцаў.

Што датычыць настрояў беларускіх сялян за фронтавай паласой, то па нашых звестках там адбываюцца сплашныя паўстанні, дзейнічаюць партызанскія атрады, якія руйнуюць тыл праціўніка, спальваючы склады і знішчаючы памешчыкаў. Можна смела сказаць, што паўтараецца такая-ж гісторыя, што ў Сібіры з Калчаком. Пры набліжэнні нашых часцей усюды тыл праціўніка пачынае ўзрывацца знутры. Мы прысутнічаем у сучасны момант пры сапраўднай сялянскай рэволюцыі ў Беларусі (З газеты „Красная Звезда“ № 158, 11-VII 1935 г., стар. 1).

Тав. Сталін дапамагаў беларускаму народу ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята, уладу Советаў пасля вызвалення Беларусі ад акупацыі. Тав. Сталін стварыў КП(б)Б і вырасціў яе. (Бурныя працяглыя апладысменты.) Ён вырошчваў і выхоўваў кадры з беларускага народу. Ён заўсёды чула і ўважліва адносіўся да патрэб соцыялістычнага будаўніцтва, да ўздыму культуры і матэрыяльнага добрабыту працоўных мас Беларусі. Нашым магутным ростам соцыялістычнай эканомікі, культуры і матэрыяльнага добрабыту мы абавязаны вялікаму Сталіну. (Бурныя апладысменты.)

Тав. Сталін стварыў Беларусь, адстаяў яе ад інтэрвентаў. Тав. Сталін арганізаваў і непасрэдна кіраваў будаўніцтвам соцыялізма ў БССР. **І таму БССР ёсць сталінская Рэспубліка.** (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Беларускі народ, сабраўшыся на сваім З'ездзе Советаў, прыносіць вялікае і сардэчнае дзякуй другу беларускага народу, арганізатару вялікіх перамог—тав. Сталіну. (Бурныя, працяглыя апладысменты.) Слава вялікаму палкаводцу соцыялістычнай рэволюцыі тав. Сталіну! (Бурныя працяглыя апладысменты, пераходзячыя ў доўгую авацыю. З'езд стоячы вітае тав. Сталіна.)

Вялікую ролю ў справе арганізацыі працоўных мас Беларусі, асабліва Палесся, адыграў Палескі камітэт большэвікоў. Гэта—адна з найстарэйшых і моцных большэвіцкіх арганізацый на Беларусі. Палескі большэвіцкі камітэт падрыхтаваў рабочых і сялян Беларусі да перамог у дні Кастрычніцкай рэволюцыі.

Працоўныя масы БССР адзначаюць вялікую ролю кіраўніка Палескага камітэта тав. Л. М. Кагановіча (бурныя апладысменты), які ў 1917 годзе, як непахісны ленінец-сталінец, арганізоўваў рабочых і беднейшае сялянства і вёў іх на штурм расейскай і беларускай буржуазіі. Усім працоўным масам Беларусі вядома яго кіпучая работа ў барацьбе за ўладу советаў. Досыць напомніць аб яго выступленнях у Магілеве і іншых гарадах Беларусі летам 1917 года і яго заклікі да Кастрычніцкага паўстання.

Беларускі народ выносіць шчырую падзяку слаўнаму кіраўніку Палескага камітэта, саратніку вялікага Сталіна—Лазару Майсеевічу Кагановічу. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Нашы перамогі з'яўляюцца вынікам уважлівых клопатаў з боку Урада Саюза ССР, асабліва з боку кіраўніка Саюзнага Урада В. М. Молатава. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

З выключнай увагай, з бальшэвіцкай любоўю ён заўсёды адносіўся да беларускага народу, да соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, да ўздыму соцыялістычнай эканомікі і культуры беларускага народу. Многія фабрыкі, заводы і іншыя будоўлі, пабудаваныя ў Беларусі, ёсць вынік уважлівых адносін з боку кіраўніка Саюзнага Ураду тав Молатава.

Беларускі народ, прымаючы сваю Канстытуцыю, выносіць шчырую падзяку Ураду Саюза ССР і яго кіраўніку вернаму саратніку вялікага Сталіна—тав. Молатаву. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

У справе вызвалення Беларусі ад акупацыі, у справе разгрому ўнутранай і знешняй контррэволюцыі адыграў вялікую роль наш совецкі маршал Кліменцій Ефрэмавіч Варашылаў. (Бурныя апладысменты.) Рабочыя і сяляне Беларусі памятаюць, як слаўныя палкі варашылаўскай Чырвонай конніцы сражаліся на палях Беларусі за лёс беларускага народу з польскімі панамі і белагвардзейскімі бандамі. Кіраваў гэтымі баямі Кліменцій Ефрэмавіч Варашылаў.

Яго выключная ўвага да ўзмацнення граніц Беларусі, да ператварэння Беларусі ў непрыступны фарпост соцыялізма, да ўздыму эканомікі і культуры беларускага народу, яго асаблівая любоў да беларускага народу вядомы ўсім рабочым і сялянам Беларусі.

Мы выносім нашу падзяку слаўнаму палкаводцу, баявому саратніку тав. Сталіна—Кліменцію Ефрэмавічу Варашылаву. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Беларускі народ ганарыцца тым, што ён вёў барацьбу за сваё вызваленне ад прыгнёту капіталістаў і памешчыкаў пад непасрэдным кіраўніцтвам вялікага Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў. (Апладысменты.)

## *V. Сталінская Канстытуцыя прынесла радаснае і шчаслівае жыццё беларускаму народу*

У праекце Канстытуцыі БССР, які прадстаўлен на зацверджанне З'езда Советаў, адлюстраван магутны рост беларускага народу. Няма ў нас ужо той нужды, галечы, якія калісьці былі ўдзелам беларускага народу.

Варта ўспомніць, як пры царызме жылі рабочыя, сяляне і ўсе працоўныя масы Беларусі. Для прыкладу прывяду дакумент, напісаны ў 1899 годзе старшым фабрычным інспектарам Менскай губерні Баклеўскім, пасля абследвання некаторых прадпрыемстваў. Ён пісаў наступнае:

„У большасці заводаў наглядаецца адсутнасць самай неабходнай элементарнай бяспекі ад машын, трансмісій, апаратаў... Рабочыя змяшчаюцца ў цесных і душных пакоях, якія размешчаны нярэдка на другім паверсе завода, куды пранікаюць у вялікай колькасці ўсе шкодныя выпарэнні ад вытворчасці. Прыходзілася наглядаць на некаторых заводах, што па прычыне цеснаты ў памяшканнях рабочыя ютціліся пад уну-

транымі лесніцамі завода. Работа на большасці заводаў праходзіць у самых шкодных у санітарных адносінах умовах. Работа на падобных заводах пачынаецца каля 2-х гадзін раніцы і канчаецца ў 4, а то і ў 5—6 гадзін увечары".

У газеце „Минский листок" у 1896 годзе адзін карэспандэнт пісаў аб рабоце на гільзавых фабрыках наступнае:

„Становішча рабочых на менскіх фабрыках і заводах нагул, а на гільзавых фабрыках у асаблівасці вельмі жалкае і плачэўнае ва ўсіх адносінах. Рабочы час на гэтых фабрыках і заводах вельмі працяглы, а зарплата рабочых вельмі мізэрная. Заработак дарослага работніка раўняецца 3—4 рублям, а дарослай работніцы—1—1,5 рубля ў тыдзень. На некаторых з гільзавых фабрых большую частку рабочых складаюць маленькія дзеці, праца якіх эксплаатуецца іх гаспадарамі самым жахлівым і бяссовесным чынам. За вельмі цяжкую і знясільваючую работу малалетняму рабочаму плацяць ад 30 да 50 кап. у тыдзень, але не больш. Гэта небывалы, але даставерны факт, які можа быць засведчан пішучым гэтыя радкі.

Няшчасныя дзеці—працаўнікі да немагчымасці знясільваюцца пры работах на гільзавых фабрыках, дзе яны бываюць па 16—18 гадзін у суткі. Такім чынам не маюць ні малейшай магчымасці атрымаць хаця-б якую-небудзь асвету. Сэрца абліваецца кроўю, калі глядзіш на малых гэтых, на якіх прапітаная міязмамі фабрычная атмасфера адбіваецца самым убійственным чынам ва ўсіх адносінах".

(„Минский листок" № 39, 1896 г. Д. Р.)

Гэтыя дакументы не патрабуюць тлумачэння, яны гавораць самі за сябе. З іх відаць, як жыў рабочы на прадпрыемствах Беларусі ў царскія часы.

А чаго цяпер дабіўся рабочы клас Беларусі?

Няма чаго і гаварыць, што ўмовы работы на соцыялістычных прадпрыемствах абстаўлены добра. Як правіла, фабрычна-заводскія памяшканні маюць многа святла, утрымліваюцца ў чыстаце, добра пастаўлена ахова працы. Самым галоўным дасягненнем рабочага класа з'яўляецца поўная ліквідацыя беспрацоўя і ўстанаўленне сямігадзіннага рабочага дня (*працяглыя апладысменты*), аб чым запісана ў Канстытуцыі. Кожнаму грамадзяніну нашай краіны гарантуецца атрыманне работы.

Зараз рабочы зарабляе за сваю працу столькі, што мае магчымасць добра жыць, выхоўваць сваіх дзяцей і павышаць свой культурны ўзровень.

Вось прыклад. У сям'і рабочага Зальцмана (г. Менск) пяць дачок і пяць сыноў. Адна дачка—былая работніца фабрыкі імя Кагановіча, зараз ужо працуе інжынерам у Белскуртрэсце па сканчэнні інстытута ў Маскве, член ВКП(б). Другая дачка скончыла Ленінградскі педагагічны інстытут, таксама член ВКП(б), працуе загадчыкам вучэбнай часткі дашкольнага педагагічнага тэхнікума. Трэцяя дачка скончыла Вышэйшы педагагічны інстытут у Менску,

член ВКП(б), намеснік старшыні ЦП Саюза дашкольных работнікаў. Чацвертая дачка зараз студэнтка другога курса фізмата БДУ. Адзін сын—былы рабочы-закройшчык фабрыкі імя Кагановіча, зараз студэнт 3-га курса мастацкай акадэміі ў Ленінградзе і два сыны—рабочыя закройшчыкі.

Майстар ліцейнага цэха завода імя Варашылава Заборскі Канстанцін Ігнацьевіч мае вытворчы стаж 36 год. Лепшы стаханавец завода, заработак яго 700 рублёў у месяц. Адна дачка—урач, другая дачка—канчае медыцынскі інстытут, сын канчае дзесяцігодку.

Вось другі прыклад. Рабочы фабрыкі імя Кагановіча ў Менску тав. Кугель працуе на фабрыцы з 1923 года, дзяцей мае 6 чалавек: адзін сын ужо інжынер-канструктар-лётчык, другі сын—зоатэхнік, дачка—урач, астатнія дзеці таксама вучацца.

Такіх прыкладаў ёсць тысячы. Яны гавораць аб тым, што рабочы клас, узяўшы ў свае рукі ўладу ў кастрычніку 1917 года пад кіраўніцтвам партыі Леніна-Сталіна пабудаваў соцыялізм, перарабіў эканоміку, культуру і быт.

А якое становішча рабочых у капіталістычных краінах, дзе да гэтага часу пануе капіталізм?

Вось прыклад—становішча рабочага класа Польшчы. Я прывяду вам афіцыяльнае выступленне рэферэнта міністэрства соцыяльнай забяспекі Польшчы Тамашэўскага, які ў сваім выступленні на пасяджэнні бюджэтнай камісіі сейма гаварыў наступнае:

„З 1928 па 1935 год агульная сума зарплаты рабочых у Польшчы ўпала да 49%. Сярэдні заработак рабочага за тыдзень складае каля 26 злотых. 43% рабочых зарабляе менш 20 злотых у тыдзень. Амаль 12% рабочых буйнай і сярэдняй прамысловасці ў 1935 годзе зарабляла менш 20 злотых у тыдзень. Асабліва дрэннае становішча моладзі: у 1936 г. было 2,5 млн. моладзі, з якіх большасць з'яўлялася беспрацоўнымі. На кожную 1000 маладых рабочых працуе толькі 27 чалавек" (з газеты „Фольгсцэйтунг" ад 17/I 1937 г.).

Як бачыце, па сведчанню саміх работнікаў польскага дзяржаўнага апарата заработак рабочых Польшчы не перавышае 4 р. 50 к. у тыдзень.

Якое становішча беспрацоўных у Польшчы—можна бачыць з той-жа газеты ў нумары ад 18/I 1937 г.

„Дэлегацыя беспрацоўных у Гродне, якая звярнулася да старшыні зімняга камітэта дапамогі, паказвае, што прадукты, якія выдаюцца камітэтам, немагчыма есці. Бульба зусім гнілая, мука, соль і крупа мокрыя і поўна там смецця, і за гэтыя „прадукты" рабочы павінен яшчэ адпрацоўваць".

Асабліва цяжкае становішча рабочых у Заходняй Беларусі. Па законах Польшчы беларусам недаступна дзяржаўная служба ні ў адміністрацыйным апараце, ні ў судзе, ні ў іншых установах, а таксама на тэрыторыі Заходняй Беларусі беларус не можа быць чыгуначнікам.

Няма чаго і гаварыць, што жыццё беларускага сялянства ў мінулым было неймаверна цяжкім. Прывяду адзін прыклад.

Ва ўсеподданейшым данясенні галоўнага начальніка края па Віцебскай губерні пісалася:

„Сяляне зусім не ведаюць хлеба, харчуюцца грыбамі і рознай сырызнай, якая параджае розныя хваробы. Жабрацтва страшэннае, а тут-жа поруч роскаш памешчыкаў. Жыццёвыя сілы края зусім вычарпаліся ў маральных і фізічных адносінах. Расслабленне дасягнула крайніх прэдзелаў“.

А ў кнізе Сямёнава—намесніка старшыні імператарскага расійскага геаграфічнага обшчэства можна знайсці апісанне наступнага факту, што

„насельніцтва Паддзвіння знаходзіцца ў страшэнным жабрацтве. Калі баржы з хлебам напраўляліся па Дзвіне ў Рыгу, то сотні галадаючых і поуголых сялян таўпіліся на беразе рэчкі і на прыстанях. Яны прасілі ў суднаўшчыкоў хлеба. Некаторыя суднагаспадары рыхтавалі для раздачы печаны хлеб, і калі хлеб звазіўся на бераг, галодныя сяляне кінуліся на яго, як зверы, прычым адбываліся раздзіраючыя душу сцэны. Мужчыны вырывалі хлеб у жанчын, дарослыя—у дзяцей“.

Няма чаго і гаварыць аб тым, што сяляне Савецкай Беларусі даўно ўжо забылі аб такім жыцці. Яны, дзякуючы перамогам соцыялістычнага будаўніцтва, дасягнулі высокай ступені матэрыяльнага і культурнага жыцця. Калгасны лад прывёў беларускіх сялян да заможнага і шчаслівага жыцця.

Раней да рэволюцыі памешчыцкія і манастырскія землі ў Беларусі складалі 58,9% усёй зямлі, а сяляне займалі толькі 41%. Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі ўся гэтая зямля перайшла да сялянства. Наша Канстытуцыя ў арт. 8 запісвае:

„Зямля, якая займаецца калгасамі, замацоўваецца за імі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, гэта значыць навечна“.

Такім чынам, беларускае сялянства, у выніку канчатковай перамогі соцыялізма, атрымала ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне ўсю зямлю, на якой яно працуе. Больш таго і зямля калгасная пачала больш даваць ураджаю. Калі раней селянін збіраў на сваёй палосцы 20—25 пудоў збожжа, то зараз ураджай стаў значна большы. Там, дзе калгас добра арганізаваў работу, там мы маем і гіганцкія ўраджаі, якія даюць вялікую карысць сялянству. Напрыклад: калгаснік Бурдак Кузьма ў калгасе „Прамень комуны“ Слуцкага раёна сабраў ураджай аўса 35,1 цэнтнера, жыта 29,1 цэнтнера, ячменю—26,5 цэнтнера з га.

Калгасніца Мініна з калгаса „Май“ Чэрвенскага раёна сабрала ўраджай ільнавалакна 13,1 цэнтнера з га. Калгаснік Шэршань Мацвей з калгаса „Большэвік“ Барысаўскага раёна дабіўся ўраджаю бульбы 558 цэнтнераў з га.

А як жывуць нашы браты сяляне-беларусы ў фашысцкай Польшчы, дзе яшчэ пануе фашызм і дыктатура капіталістаў? Па даных

міністэрства фінансаў Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ёсць 223 буйных памешчыкі, у якіх знаходзіцца 1.586.411 га лепшых зямельных угоддзяў, а ў 408.000 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак ёсць зямлі—1.544.894 га.

Як бачыце, 223 памешчыкі маюць больш зямлі, чым 408 тысяч сялянскіх гаспадарак. Таму не выпадкова мы чытаем у газеце „Кур'ер Віленскі" ад 26/I 1936 г. паведамленне аб тым, што:

„У ваяводствах Брэслаўскім, Дзісненскім, Пастаўскім пачаўся масавы голад. 30% насельніцтва не мае хлеба і харчуецца выключна бульбай. Згодна афіцыйных даных 120 тысяч насельніцтва, сярод якога 45 тысяч дзяцей, галадаюць".

Як бачыце жыццё сялян Заходняй Беларусі нічым не адрозніваецца ад жыцця сялян пры рускім царызме.

Як у Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР, так і ў праекце Канстытуцыі БССР яскрава адлюстраваны правы жанчын. У арт. 97 Канстытуцыі БССР сказана:

„Жанчыне ў БССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынай права на працу, аплату працы, адпачынак, соцыяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў, з захаваннем утрымання, шырокай сеткі радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў".

Совецкая жанчына зараз з'яўляецца актыўным удзельнікам будаўніцтва соцыялізма, ніякіх перашкод як у прававых адносінах, так і ў праве на працу, у аплаце гэтай працы, у праве на асвету, у нас даўно ўжо няма.

Варта прывесці наступныя факты, што ў БССР ужо налічваецца сярод жанчын 17.109 чалавек настаўніц, 558 чалавек навуковых работнікаў, 1550 урачоў.

У складзе рабочых Совецкай Беларусі 44% складаюць работніцы.

Сярод усіх трактарыстаў БССР 1.212 жанчын-трактарыстак.

У нас, у БССР, як і ў іншых совецкіх рэспубліках, жанчыны сапраўды кіруюць дзяржаўнай работай: 106 жанчын старшынь сельсоветаў, 12.910 жанчын членаў советаў і райвыканкомаў.

А як жанчына жыла раней, пры царызме? Прывяду адзін прыклад:

У маёнтак графа Патоцкага наймалася адна сялянка на работу Быў заключан з ёй такі дагавор:

„Я, сялянка, паступіла ў наймы па сваёй згодзе ў маёнтак графа Патоцкага на сельскагаспадарчыя работы, якія-б мне ні даручалі, усяго на 144 рабочыя дні, на сваім утрыманні, за плату за ўвесь час 34 рублі, у лік якіх атрымала задатак 10 рублёў, а астатнія грошы буду атрымліваць потым, калькі я заслужу.

1. Выходзіць на работу з усходу сонца і працаваць да заходу сонца.

2. Калі я пакіну работу без законных прычын, я павінна звярнуць задатак удвая, не патрабуючы за час работы ніякай аплаты.

3. На работы абавязваюся выходзіць адразу-ж, як мяне выклікаюць.

4. Калі маёнтак выклікае мяне на якую-небудзь работу ў свята ці нядзелю, то я не маю права адмаўляцца працаваць.

5. Калі я ў свята ці ў будні дзень без дазволу маёнтка кудынебудзь пайду, то абавязана за гэтыя прагульныя дні адпрацаваць.

6. Калі я захварэла ці памёрла, то за мяне павінна адпрацаваць мая сям'я.

7. Ні ў якім разе я не магу пакінуць работу да тэрміну.

Гэтыя ўмовы мне вядомы, у чым і распісваюся".

А такіх батрачак былі тысячы і ім прыходзілася прадаваць свае рабочыя рукі, атрымліваючы за гэта грошы.

Як жывуць жанчыны капіталістычных краін, дзе пануе дыктатура капіталістаў?

Вось аб чым пішуць польскія работніцы-эмігранткі:

„Мы бачылі сваімі вачыма, як у Лодзі на прадзільнай фабрыцы Відзе стаяла ля станка цяжарная работніца Глінкер. Пачаліся родавыя схваткі. Асталося 15 мінут да гудка. Майстар не адпусціў яе з работы. Яна ў першы раз не паслухалася і, скорчыўшыся ад болю, папаўзла да прахадной будкі, але майстар забараніў выпускаць яе з фабрыкі. Засвісцеў гудок, Глінкер выйшла за вароты фабрыкі і павалілася. У пыльнай канаве на вачах усіх яна нарадзіла...

Мы былі сведкамі як у горадзе Петракове цяжарная работніца, якая была паслана гаспадыняй на рынак, ледзь дайшла да грамадскай прыбіральні і там нарадзіла.

Нам вядома, што памешчык Гутоўскі, даведаўшыся, што батрачка Швіцкая зацяжарыла, груба выгнаў яе са свайго маёнтка. Швіцкая павесілася ў лесе, які належаў пану Гутоўскаму".

У нашай Канстытуцыі запісваецца:

„Грамадзяне БССР маюць права на асвету.

Гэтае права забяспечваецца ўсеагульна-абавязковай пачатковай асветай, бясплатнасцю асветы, уключаючы вышэйшую асвету, сістэмай дзяржаўных стыпендый пераважнай большасці навучаючыхся ў вышэйшай школе, навучаннем у школах на роднай мове, арганізацыяй на заводах, у соўгасах, машына-трактарных станцыях і калгасах бясплатнага вытворчага, тэхнічнага і агранамічнага навучання працоўных".

Што адлюстроўвае гэты артыкул?

Гэта значыць, што ўсё насельніцтва БССР навучылася пісьменнасці. Толькі адзінкі процантаў старэйшых узростаў яшчэ не ліквідавалі сваю непісьменнасць.

У нас у школах усеагульнага навучання вучыцца 969,3 тысяч дзяцей; у ВНУ, тэхнікумах вучыцца 43.107 студэнтаў на інжынераў, урачоў, аграномаў, настаўнікаў, на савецкіх юрыстаў, эканамістаў і так далей.

Не выпадкова, што вёска Крывічы, Старобінскага раёна налічвае сярод сваіх сялян сотні людзей з вышэйшай асветай. Напрыклад, з гэтай вёскі ўжо выйшла 15 інжынераў, 13 аграномаў, 5 урачоў, 114 настаўнікаў, 18 камандзіраў Чырвонай Арміі ад лейтэнантаў да камандзіра дывізіі. З гэтай вёскі цяпер вучыцца толькі ў ВНУ 27 чалавек, а такіх вёсак у БССР многа.

З многіх рабочых сем'яў гарадоў БССР ужо выйшла па 4—5 чалавек інжынераў, тэхнікаў, урачоў і іншых спецыялістаў.

У нас забяспечана поўная магчымасць вучыцца на роднай мове ўсім нацыянальнасцям, якія жывуць на тэрыторыі БССР.

У нас налічваецца 196 яўрэйскіх школ, 107 польскіх, 9 літоўскіх, 10 нямецкіх, 24 украінскіх, 12 латышскіх, 178 рускіх і 6.323 беларускіх.

А што было з асветай беларускага народу пры царызме?

Па даных перапісу 1897 г. у вясковых мясцовасцях сучаснай БССР прыходзілася на 1000 душ насельніцтва толькі 142 пісьменных, а сярод жанчын непісьменнасць была яшчэ большай—на 1000 чалавек жанчын было толькі 70 пісьменных.

Няма чаго і гаварыць, што ў капіталістычных краінах, асабліва ў Польшчы, становішча з народнай асветай знаходзіцца на такім узроўні, якое ў нас было пры царызме. Там працант непісьменнасці, асабліва сярод сялянства, захаваўся на ўзроўні часоў царызма.

Гэта відаць з газеты „Кур'ер Поранны", якая пісала аб становішчы народнай асветы ў Заходняй Беларусі наступнае:

„У некаторых мясцовасцях Палесся з самага пачатку ўзнікнення польскай дзяржавы няма школ, а моладзь астаецца там поўнымі анальфабетамі".

Гэта значыць моладзь не ведае нават азбукі.

Адносна навучання дзяцей на сваёй роднай мове для нацменшасцей, якія пражываюць у Польшчы, няма чаго і гаварыць. Там зусім няма беларускіх школ, а якія былі раней, то і тыя зачынены.

Праследванне нацыянальнай культуры ў Польшчы такое-ж, як і ў фашысцкай Германіі. У гэтых адносінах польскі фашызм не адстае ад фашызма нямецкага.

Беларуская мова праследуецца. Нават фашысцкая газета „Беларуская Крыніца" і то прымушана напісаць наступнае:

„Калі беларусы выходзяць з касцёла, то на паперці і на плошчы імкнуцца гаварыць паміж сабой на польскай мове. А калі ў каго-небудзь і вырвецца беларускае слова, то ён спалохана аглядаецца ва ўсе бакі, ці не пачуў яго хто-небудзь. Найбольш абражаны ў гэтых адносінах дзеці. Гаварыць на беларускай мове дзецям забараняецца. Яны глядзяць на бацькоў і здзіўляюцца і не разумеюць, чаму, калі бацькі гавораць паміж сабой пабеларуску, то ім нельга на гэтай мове гаварыць ні з бацькамі, ні паміж сабой".

Не выпадкова польскі друк, у тым ліку пэпээсаўская газета „Работнік“, паднімалі вой і брахню на савецкую Канстытуцыю. Ім патрэбна было брахаць, скажаць сэнс совецкай Канстытуцыі для таго, каб абманваць працоўныя масы Польшчы і асабліва нацменшасці, бо совецкая Канстытуцыя для ўсіх працоўных капіталістычных краін, у тым ліку і для працоўных мас Польшчы, з'яўляецца баявым заклікам барацьбы за нацыянальнае і соцыяльнае вызваленне.

Але колькі-б яны ні паклёпнічалі на Совецкі Саюз і на Совецкую Беларусь, колькі-б яны ні абманвалі народныя масы, ім ніколі не ўдасца скрыць сапраўднага сэнсу Сталінскай Совецкай Канстытуцыі, у якой запісаны гіганцкія заваяванні народаў Саюза ССР. Як-бы польскія буржуазныя пісакі ні хавалі ад сваіх мас Канстытуцыю, праўда сталінскай Канстытуцыі народнай малвой дойдзе да рабочых і сялян, нашых братоў за граніцай і яны будуць змагацца за тое, каб адваяваць сабе гэтыя правы, якія запісаны нашым народам у сваю канстытуцыю. (Апладысменты.)

Прыходзіцца выказаць сажаленне, што значная частка беларускага народу, якая жыве за граніцай пад уціскам капіталізма, на жаль, яшчэ не карыстаецца тымі палітычнымі правамі і матэрыяльнымі благамі, якія заваяваны і запісаны ў нашай Канстытуцыі працоўнымі масамі Совецкай Беларусі. Рабочым і сялянам Заходняй Беларусі, на вялікі жаль, пакуль што прыходзіцца пакутваць пад ігам польскага фашызма.

## *VI. Аб дэмакратызме*

Наша Канстытуцыя ёсць самая дэмакратычная Канстытуцыя.

Ні ў адной капіталістычнай краіне няма і ў паміне такога дэмакратызма.

Многія буржуазныя так званыя дэмакратычныя краіны выхваляюцца сваімі дэмакратычнымі канстытуцыямі, але сапраўдным дэмакратызмам там і не пахне, бо там пануе капіталізм.

Краінамі кіруе нязначная кучка капіталістаў і ўсе канстытуцыі буржуазных краін накіраваны на ахову інтарэсаў пануючых класаў. Толькі ў краіне пролетарскай дыктатуры ёсць сапраўдная дэмакратыя.

Таварыш Сталін не раз падкрэсліваў, што найвышэйшая форма дэмакратыі гэта ў нас, у Совецкім Саюзе, бо гэта ёсць дэмакратыя перамогшага пролетарыята, дэмакратыя большасці совецкага народу, які сам кіруе сваёй дзяржавай і ўсім сваім жыццём.

Наш дэмакратызм ёсць дэмакратызм усяго народу.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе на VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў сказаў, што:

„Буржуазныя канстытуцыі можна разбіць на дзве групы: адна група канстытуцый прама адмаўляе або зводзіць фактычна

на нішто роўнасць правоў грамадзян і дэмакратычныя свабоды. Другая група канстытуцый ахвотна прыемле і нават афішыруе дэмакратычныя пачаткі, але робіць пры гэтым такія агаворкі і абмежаванні, што дэмакратычныя правы і свабоды аказваюцца зусім зуродаванымі. Яны гавораць аб роўных выбарчых правах для ўсіх грамадзян, але тут-жа абмяжоўваюць іх аселасцю і асветным і нават маёмасным цэнзам. Яны гавораць аб роўных правах грамадзян, але тут-жа агаварваюцца, што гэта не датычыць жанчын, або датычыць іх толькі часткова".

Напрыклад, маёмасны цэнз існуе ў Англіі, Амерыцы, Японіі. Цэнз аселасці існуе ў Францыі, Амерыцы, Японіі. Трэба пражыць 6—12 і нават 24 месяцы на адным месцы, каб атрымаць права голасу. Асветны цэнз існуе ў Англіі, Амерыцы, Венгрыі. І вядома, што гэты цэнз скарыстоўваецца багатымі супроць бедных.

Няма чаго і гаварыць аб абмежаванні правоў жанчын у капіталістычных краінах. Напрыклад, жанчыны пазбаўлены права голасу пры выбарах у парламент у такіх краінах, як: Францыя, Бельгія, Італія, Швейцарыя, Югаславія, Грэцыя, Японія, Аргенціна. Грамадзяне, якія знаходзяцца ў арміі, ні ў адной краіне не карыстаюцца правам удзелу ў выбарах у парламент, за выключэннем Англіі. Як салдаты, так і афіцэры ў арміях ва ўсіх буржуазных краінах пазбаўлены гэтых элементарных грамадзянскіх правоў.

А ў нас усе грамадзяне, да якой-бы расы і нацыянальнасці ні належалі-б, дзе-б яны ні працавалі, да якога-б кола яны ні адносіліся—маюць аднолькавыя правы. Аб гэтым гавораць артыкулы 98, 110, 111, 112, 113 праекта нашай Канстытуцыі. Больш таго, якое-б то ні было прамое ці ўскоснае абмежаванне правоў, або, наадварот, устанаўленне прамых або ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, таксама як усякая пропаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці або нянавісці і пагарды—караюцца законам.

У артыкуле 85 праекта нашай Канстытуцыі запісана:

„Народныя суды абіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на тры гады".

Суд буржуазных краін—гэта самая кансерватыўная арганізацыя капіталізма, якая абараняе інтарэсы эксплаататараў.

Савецкі народны суддзя абіраецца грамадзянамі і ўсякія адхіленні народнага суда ад савецкіх законаў і ад абароны інтарэсаў савецкіх грамадзян могуць прывесці да таго, што насельніцтва пры наступных выбарах не можа аказаць давер'я гэтаму народнаму суддзі.

Дэпутаты, якія выбіраюцца ў Советы, павінны рэгулярна рабіць справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі.

Па нашай Канстытуцыі той ці іншы дэпутат Совета можа быць у любы час адклікан выбаршчыкамі, калі ён не будзе апраўдваць

таго давер'я, якое яму аказалі грамадзяне пры выбарах у Совет дэпутатаў працоўных.

Ні адна капіталістычная краіна не мае ў сябе такой Канстытуцыі, якая-б гарантавала выбаршчыкам адкліканне дэпутатаў.

Згодна Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР у нас арганізаваны 3 прамысловых новых наркаматы і Наркамат соўгасаў.

Гэтае мерапрыемства накіравана на большае развіццё эканомікі нацыянальных рэспублік, узмацняе зацікаўленасць мясцовых Советаў і ўрадаў саюзных рэспублік у развіцці мясцовай прамысловасці.

У сувязі з арганізацыяй новых наркаматаў нам перадана ў непасрэднае кіраўніцтва з саюзнай прамысловасці 339 прамысловых прадпрыемстваў і 150 соўгасаў.

Наша задача заключаецца ў тым, каб усямерна развіваць мясцовую ініцыятыву ў наладжванні работы прамысловых прадпрыемстваў і соўгасаў.

Як у Сталінскай Канстытуцыі Саюза ССР, так і ў праекце Канстытуцыі БССР у артыкуле 101 запісана, што грамадзянам БССР забяспечваецца права аб'яднання ў розныя грамадскія, прафесіянальныя, абаронныя, маладзёжныя і інш. арганізацыі і таварыствы, а „найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных яднаюцца ва Ўсесаюзную комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу і якая з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных". (Апладысменты.)

Гэты артыкул прымаецца беларускім народам з вялікім захапленнем, бо ўся гісторыя барацьбы паказала, што толькі партыя Леніна—Сталіна непахісна стаіць за інтарэсы працоўных, яна вывела беларускі народ, як і народы іншых краін, на шлях радаснага і культурнага жыцця, на шлях соцыялізма. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна соцыялізм перамог канчаткова. (Працяглыя апладысменты.)

## *VII. Узмацняць абарону соцыялістычнай дзяржавы*

У раздзеле VIII праекта Канстытуцыі БССР запісаны правы грамадзян БССР. Але ў гэтым-жа раздзеле і запісаны абавязкі грамадзян БССР. Вялікія правы даюцца і вялікія абавязкі ўскладаюцца на ўсіх грамадзян.

Яны, гэтыя абавязкі грамадзян БССР у першую чаргу заключаюцца ў тым, каб мы, жывучы і працуючы на мяжы з капіталістычным светам, як зяніцу вока ахоўвалі сваю родную бацькаўшчыну—Саюз Советскіх Соцыялістычных Рэспублік.

У арт. 108 праекта Канстытуцыі БССР запісана:

„Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна БССР.

Здрада радзіме: парушэнне прысягі, пераход на бок ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж—караюцца па ўсёй строгасці закона, як самае цяжкае злачынства".

У арт. 107 запісана:

„Усеагульны вайсковы абавязак з'яўляецца законам. Вайсковая служба ў Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе пачэсны абавязак грамадзян БССР".

Наша задача заключаецца ў тым, каб яшчэ больш узмацняць БССР, як перадавы і надзейны фарпост Вялікага Саюза ССР, узмацняць недатыкальнасць нашых граніц, узмацняць абароназдольнасць нашай слаўнай Чырвонай Арміі, дапамагаць нашым чырвоным пагранічнікам—чэкістам ахоўваць совецкія граніцы.

У нас ёсць шмат прыкладаў, калі насельніцтва Беларусі: мужчыны, жанчыны, дарослыя, дзеці і старыкі аказваюць вялікую дапамогу пагранічнікам у ахове совецкіх граніц. Але мы яшчэ павінны ўзмацніць сваю ўвагу да гэтай важнейшай дзяржаўнай справы і браць прыклад з герояў калгаснікаў, якія, не шкадуючы сваіх сіл, вартуюць совецкія граніцы. Напрыклад: калгаснік Паўлюкевіч Емельян Антонавіч 66 год з калгаса „Праўда" Бігосаўскага сельсовета, не гледзячы на свой узрост, прымае самы актыўны ўдзел у ахове граніц. Ён асабіста затрымаў 20 парушальнікаў граніцы, у ліку якіх былі агенты замежнай разведкі, і за сваю актыўную дапамогу пагранічнай ахове тав. Паўлюкевіч узнагароджан ордэнам „Знак пачота".

Нам трэба браць прыклад з такіх калгасніц, як Янкоўская Марыя Людвігаўна з калгаса „Чырвоны пагранічнік" Пучынскага сельсовета. Яна з 1934 года актыўна дапамагае пагранічнай ахове і асабіста затрымала 13 парушальнікаў граніцы. Яна таксама за актыўную дапамогу пагранічнай ахове ўзнагароджана ордэнам „Знак пачота".

Шэўчук Цімафей Якаўлевіч—калгаснік Старобінскага раёна таксама прымае актыўны ўдзел у ахове граніц. Ён асабіста затрымаў 10 парушальнікаў граніцы і ў 1934 годзе прымаў непасрэдны ўдзел у ліквідацыі буйнай банды ў час узброенай сутычкі.

Тав. Шэўчук за актыўную дапамогу ў ахове граніцы таксама ўзнагароджан ордэнам „Знак пачота".

Абмяркоўваючы і зацвярджаючы новую Канстытуцыю, працоўныя БССР павінны ўзяць на сябе абавязак, што кожны калгаснік, кожны рабочы Совецкай Беларусі будзе зоркім часавым нашых заходніх граніц.

Прымаючы сваю Канстытуцыю, беларускі народ заяўляе Ўраду Совецкага Саюза і свайму вялікаму другу і правадыру таварышу Сталіну, што беларускі народ з'яўляецца надзейным перадавым атрадам на рубяжы з капіталістычным Захадам. (Працяглыя апладысменты.)

Беларускі народ заяўляе словамі маршала Совецкага Саюза таварыша Варашылава, што калі вораг пасмее на нас напасці, то мы будзем яго дабіваць—на яго тэрыторыі. (Працяглыя апладысменты.) Няхай памятаюць фашысцкія падпальшчыкі

вайны, што першае, што яны знойдуць на нашых совецкіх граніцах,—гэта сваю ўласную пагібель. Совецкія граніцы будуць граніцай смерці капіталізма. (Бурныя, працяглыя апладысменты.)

Таварышы, наша пасляховая работа, бурны рост соцыялізма непакоіць розных ворагаў як унутры, так і асабліва за граніцай. Фашызм рыхтуецца да нападу на нас. У падрыхтоўцы вайны яму дапамагае праклятый забойца і вораг народу, фашысцкі найміт Троцкі.

Падонкі трацкізма, яго агенты, якія асталіся ў нашай краіне, па дырэктыве Троцкага, японскай і нямецкай разведак праводзілі шпіёнска дыверсыйную і тэрарыстычную работу. Яны хацелі затармазіць пасляховы ход совецкага народу ўперад па шляху да комуністычнага грамадства.

У гэтай шкодніцкай рабоце трацкісцкім вырадкам дапамагалі і правыя рэстаўратары капіталізма—Бухарын, Рыкаў, Угланаў і інш. чэлядзь; дапамагалі гэтым забойцам, шпіёнам і беларускія контррэволюцыйныя нацыяналісты, якія таксама ў саюзе з Троцкім і правымі рэстаўратарамі капіталізма імкнуліся сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў Совецкай Беларусі.

Нашы органы пролетарскай дыктатуры, НК Унутраных спраў выкрылі шпіёнска-шкодніцкую і тэрарыстычную дзейнасць трацкістаў, зіноўеўцаў, правых і нацыяналістаў. Пролетарскі суд нашай совецкай дзяржавы вынес свой прыгавор над трацкістамі шкоднікамі-шпіёнамі, над Пятаковым, Радэкам, Серабраковым, Сакольнікавым і іншымі.

Беларускі народ разам з усім народам Совецкага Саюза аднадушна ўхваліў прыгавор пролетарскага суда над гэтымі заклятымі ворагамі, над гэтымі гандлярамі народнай крывёй. (Апладысменты.) Беларускі народ заяўляе, што ён удзесяцярыць сваю рэволюцыйную пільнасць, што беларускі народ стальной шарэнгай, цесна згуртаваўшыся вакол Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі, вакол яе ЦК не будзе даваць літасці ворагам народу: трацкістам, правым, беларускім нацыяналістам, і будзе іх змятаць з твару совецкай зямлі і зніштажаць, як самых заклятых ворагаў соцыялізма. (Апладысменты.)

Ніякім ворагам народу—ні нямецкім, ні польскім, ні японскім фашыстам, ні фашысту забойцу Троцкаму і яго агентам не ўдасца прыпыніць наш пасляховы ход да комуністычнага грамадства.

* * *

Няма сумнення, таварышы, у тым, што праект Канстытуцыі БССР З'ездам будзе прынят аднагалосна (працяглыя апладысменты), бо гэтая Канстытуцыя ёсць Канстытуцыя перамогшага соцыялізма. Гэтая Канстытуцыя падводзіць ітог цэлай эпохі, яна падводзіць ітог барацьбы за соцыялізм. Мы прайшлі этап пабудовы соцыялізма і завяршылі яго ў баях з класавым ворагам.

З зацвярджэннем новай Канстытуцыі мы ўступаем у новую эпоху, у эпоху барацьбы за таржаство комунізма.

Беларускі народ, узброіўшыся рэвалюцыйнай пільнасцю, мабілізаваўшы ўсе свае сілы, згуртаваўшыся вакол партыі Леніна—Сталіна, са сцягам Сталіна пойдзе ўперад да комунізма. (Працяглыя апладысменты.)

**Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя СССР!** (Бурныя апладысменты.)

**Няхай жыве Канстытуцыя БССР!** (Бурныя апладысменты.)

**Няхай жыве вялікі тварэц вялікай Канстытуцыі соцыялізма, тварэц БССР таварыш Сталін!** (Бурныя, працяглыя апладысменты, усе ўстаюць, музыка, бурныя працяглыя апладысменты, пераходзячыя ў доўга незмаўкаючую авацыю ў гонар таварыша Сталіна. Галасы з месц: **„Няхай жыве Канстытуцыя БССР!“, „Няхай жыве вялікі Сталін!“, „Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя Саюза ССР!“.**)

# КАНСТЫТУЦЫЯ (АСНОЎНЫ ЗАКОН) Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі

## РАЗДЗЕЛ I

### ГРАМАДСКІ ЛАД

АРТЫКУЛ 1. Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян.

АРТЫКУЛ 2. Палітычную аснову БССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных, якія выраслі і ўзмацніліся ў выніку звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў, заваявання дыктатуры пролетарыята, вызвалення беларускага народу ад нацыянальнага прыгнечання царызма і рускай імперыялістычнай буржуазіі і разгрому беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

АРТЫКУЛ 3. Уся ўлада ў БССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 4. Эканамічную аснову БССР складаюць соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якія ўмацаваліся ў выніку ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам.

АРТЫКУЛ 5. Соцыялістычная ўласнасць у БССР мае або форму дзяржаўнай уласнасці (усенародны здабытак), або форму кааператыўна-калгаснай уласнасці (уласнасць паасобных калгасаў, уласнасць кааператыўных аб'яднанняў).

АРТЫКУЛ 6. Зямля, яе нетры, воды, лясы, заводы, фабрыкі, шахты, руднікі, чыгуначны, водны і паветраны транспарт, банкі, сродкі сувязі, арганізаваныя дзяржавай буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы (соўгасы, машынатрактарныя станцыі і т. п.), а таксама комунальныя прадпрыемствы і асноўны жыллёвы фонд у гарадах і прамысловых пунктах з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, гэта значыць усенародным здабыткам.

АРТЫКУЛ 7. Грамадскія прадпрыемствы ў калгасах і кааперbegin ратыўных арганізацыях з іх жывым і мёртвым інвентаром, прадукцыя, якая выпрацоўваецца калгасамі і кааператыўнымі арганізацыямі, таксама як і іх грамадскія будынкі складаюць грамадскую, сацыялістычную ўласнасць калгасаў і кааператыўных арганізацый.

Кожны калгасны двор, апрача асноўнага прыбытку ад грамадскай калгаснай гаспадаркі, мае ў асабістым карыстанні невялікі прысядзібны ўчастак зямлі і ў асабістай уласнасці падсобную гаспадарку на прысядзібным участку, жылы дом, прадукцыйную жывёлу, птушак і дробны сельскагаспадарчы інвентар—згодна статута сельскагаспадарчай арцелі.

АРТЫКУЛ 8. Зямля, якая займаецца калгасамі, замацоўваецца за імі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, гэта значыць навечна.

АРТЫКУЛ 9. Побач з сацыялістычнай сістэмай гаспадаркі, якая з'яўляецца пануючай формай гаспадаркі ў БССР, дапускаецца законам дробная прыватная гаспадарка аднаасобных сялян і саматужнікаў, якая аснована на асабістай працы і выключае эксплаатацыю чужой працы.

АРТЫКУЛ 10. Права асабістай уласнасці грамадзян на іх працоўныя прыбыткі і зберажэнні, на жылы дом і падсобную хатнюю гаспадарку, на прадметы хатняй гаспадаркі і ўжытку, на прадметы асабістага спажывання і выгоды, таксама як права наследвання асабістай уласнасці грамадзян—ахоўваюцца законам.

АРТЫКУЛ 11. Гаспадарчае жыццё БССР вызначаецца і накіроўваецца дзяржаўным народнагаспадарчым планам у інтарэсах павелічэння грамадскага багацця, няўхільнага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацавання БССР і ўзмацнення абараназдольнасці і незалежнасці Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

АРТЫКУЛ 12. Праца ў БССР з'яўляецца абавязкам і справай гонару кожнага здольнага да працы грамадзяніна па прынцыпу: „хто не працуе, той не есць“.

У БССР ажыццяўляецца прынцып сацыялізма: „ад кожнага па яго здольнасці, кожнаму—па яго працы“.

## РАЗДЗЕЛ II

## ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД

АРТЫКУЛ 13. У мэтах ажыццяўлення ўзаемадапамогі па лініі эканамічнай і палітычнай, таксама як і па лініі абароны, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка добраахвотна аб'ядналася з роўнаправымі Савецкімі Сацыялістычнымі Рэспублікамі:

Расійскай СФСР, Украінскай ССР, Азербайджанскай ССР, Грузінскай ССР, Армянскай ССР, Туркменскай ССР, Узбекскай ССР, Таджыкскай ССР, Казахскай ССР, Кіргізскай ССР у саюзную дзяржаву — Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Выходзячы з гэтага, БССР забяспечвае за СССР у асобе яго вышэйшых органаў улады і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва правы, вызначаныя артыкулам 14 Канстытуцыі СССР.

Па-за межамі артыкула 14 Канстытуцыі СССР, БССР ажыццяўляе дзяржаўную ўладу самастойна, захоўваючы поўнасцю сваё суверэнныя правы.

АРТЫКУЛ 14. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з акруг: Лепельскай у складзе раёнаў: Бягомльскага, Лепельскага, Ушацкага, Чашніцкага; Мазырскай у складзе раёнаў: Даманавіцкага, Ельскага, Жыткавіцкага, Капаткевіцкага, Лельчыцкага, Мазырскага, Нараўлянскага, Петрыкаўскага, Тураўскага; Полацкай у складзе раёнаў: Асвейскага, Ветрынскага, Дрысенскага, Полацкага, Расонскага; Слуцкай у складзе раёнаў: Грэскага, Копыльскага, Любаньскага, Слуцкага, Старобінскага, Чырвонаслабодскага; і раёнаў: Аршанскага, Асіпавіцкага, Бабруйскага, Багушэўскага, Барысаўскага, Бешанковіцкага, Брагінскага, Буда-Кашалеўскага, Быхаўскага, Бялыніцкага, Бярэзінскага, Веткаўскага, Віцебскага, Гарадокскага, Глускага, Гомельскага, Горацкага, Дзяржынскага, Добрушскага, Дрыбінскага, Дубровенскага, Жлобінскага, Журавіцкага, Заслаўскага, Камарынскага, Кармянскага, Касцюковіцкага, Кіраўскага, Клімавіцкага, Клічаўскага, Круглянскага, Крупскага, Крычаўскага, Лагойскага, Лёзненскага, Лоеўскага, Магілеўскага, Менскага, Мехаўскага, Мсціслаўскага, Парыцкага, Плешчаніцкага, Прапойскага, Пухавіцкага, Рагачоўскага, Рэчыцкага, Свяцілавіцкага, Сенненскага, Сіроцінскага, Смалявіцкага, Смілавіцкага, Старадарожскага, Суражскага, Талачынскага, Уваравіцкага, Уздзенскага, Халопеніцкага, Хойніцкага, Хоцімскага, Церахоўскага, Чырвонапольскага, Чавускага, Чачэрскага, Чэрвеньскага, Чэрыкаўскага, Шклоўскага, і гарадоў, якія не ўваходзяць у склад раёнаў: Менска, Віцебска, Гомеля, Магілева.

АРТЫКУЛ 15. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка захоўвае за сабою права свабоднага выхаду з Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

АРТЫКУЛ 16. Тэрыторыя БССР не можа быць зменена без згоды БССР.

АРТЫКУЛ 17. Законы СССР абавязковы на тэрыторыі БССР.

АРТЫКУЛ 18. Кожны грамадзянін БССР з'яўляецца грамадзянінам СССР.

Грамадзяне ўсіх іншых саюзных рэспублік карыстаюцца на тэрыторыі БССР аднолькавымі правамі з грамадзянамі БССР.

АРТЫКУЛ 19. Веданню Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў асобе яе вышэйшых органаў улады і органаў дзяржаўнага кіравання падлягаюць:

а) устанаўленне Канстытуцыі БССР і кантроль за яе выкананнем;

б) устанаўленне граніц акруг, раёнаў, сельскіх саветаў і стварэнне новых акруг, раёнаў і сельскіх саветаў;

в) заканадаўства БССР;

г) ахова дзяржаўнага парадку і правоў грамадзян;

д) зацвярджанне народнагаспадарчага плана;

е) зацвярджанне дзяржаўнага бюджэта БССР;

ж) кіраўніцтва складаннем і выкананнем бюджэтаў рэспублікі, акруг, раёнаў і гарадоў і ўстанаўленне, у адпаведнасці з заканадаўствам СССР, дзяржаўных і мясцовых падаткаў, збораў і непадатковых прыбыткаў;

з) кіраўніцтва страхавой і ашчаднай справай;

і) кіраванне банкамі, прамысловымі, сельскагаспадарчымі і гандлёвымі прадпрыемствамі і арганізацыямі рэспубліканскага падпарадкавання, а таксама кіраўніцтва мясцовай прамысловасцю;

к) кантроль і нагляд за кіраваннем і становішчам прадпрыемстваў саюзнага падпарадкавання;

л) устанаўленне парадку землекарыстання, а таксама карыстання нетрамі, лясамі і водамі;

м) кіраўніцтва жыллёвай і комунальнай гаспадаркай, жыллёвым будаўніцтвам і добрабытам гарадоў і інш. населеных месц;

н) дарожнае будаўніцтва, кіраўніцтва мясцовым транспартам і сувяззю;

о) заканадаўства аб працы;

п) кіраўніцтва справай сацыяльнага забяспечання;

р) кіраўніцтва справай пачатковай, сярэдняй і вышэйшай асветы;

с) кіраўніцтва культурна-асветнымі і навуковымі арганізацыямі і ўстановамі ў БССР і кіраванне культурна-асветнымі і навуковымі арганізацыямі і ўстановамі рэспубліканскага значэння;

т) кіраўніцтва справай народнай аховы здароўя і кіраванне ўстановамі аховы здароўя рэспубліканскага значэння;

у) кіраўніцтва і арганізацыя справы фізічнай культуры і спорта;

ф) арганізацыя судовых органаў у БССР;

х) прадастаўленне правоў грамадзянства БССР;

ц) амністыя і памілаванне грамадзян, асуджаных судовымі органамі БССР.

## РАЗДЗЕЛ III

# ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

АРТЫКУЛ 20. Вышэйшым органам дзяржаўнай улады БССР з'яўляецца Вярхоўны Совет БССР.

АРТЫКУЛ 21. Вярхоўны Совет БССР абіраецца грамадзянамі БССР па выбарчых акругах тэрмінам на чатыры гады па норме: адзін дэпутат на 20 тысяч насельніцтва.

АРТЫКУЛ 22. Вярхоўны Совет БССР ажыццяўляе ўсе правы, прысвоеныя БССР, згодна артыкулаў 13 і 19 Канстытуцыі БССР, паколькі яны не ўваходзяць, па Канстытуцыі, у кампетэнцыю падсправаздачных Вярхоўнаму Совету БССР органаў БССР: Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, Совета Народных Камісараў БССР і Народных Камісарыятаў БССР.

АРТЫКУЛ 23. Вярхоўны Совет БССР з'яўляецца адзіным законадаўчым органам БССР.

АРТЫКУЛ 24. Закон лічыцца зацверджаным, калі ён прынят Вярхоўным Советам БССР простай большасцю галасоў.

АРТЫКУЛ 25. Законы, прынятыя Вярхоўным Советам БССР публікуюцца на беларускай, а таксама на рускай, польскай і яўрэйскай мовах за подпісамі старшыні і сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 26. Вярхоўны Совет БССР абірае старшыню Вярхоўнага Совета БССР і двух яго намеснікаў.

АРТЫКУЛ 27. Старшыня Вярхоўнага Совета БССР кіруе паседжаннямі Вярхоўнага Совета БССР і загадвае яго ўнутраным распарадкам.

АРТЫКУЛ 28. Сесіі Вярхоўнага Совета БССР склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР два разы ў год.

Нечарговыя сесіі склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР па яго погляду ці па патрабаванню адной трэці дэпутатаў Вярхоўнага Совета.

АРТЫКУЛ 29. Вярхоўны Совет БССР абірае Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР у складзе: старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, двух яго намеснікаў, сакратара Прэзідыума і 15 членаў Прэзідыума.

АРТЫКУЛ 30. Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР падсправаздачны Вярхоўнаму Совету БССР ва ўсёй сваёй дзейнасці.

АРТЫКУЛ 31. Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР:

а) склікае сесіі Вярхоўнага Совета БССР;

б) дае тлумачэнне законаў БССР, выдае ўказы;

в) праводзіць усенароднае апытанне (рэферэндум);

г) адмяняе пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў БССР у выпадку, калі яны не адпавядаюць закону;

д) у перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР, па прадстаўленню старшыні Совета Народных Камісараў БССР, вызваляе ад пасады і прызначае асобных Народных Камісараў БССР з наступным унясеннем на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР;

е) надае ганаровыя званні БССР;

ж) ажыццяўляе права памілавання грамадзян, асуджаных судовымі органамі БССР.

АРТЫКУЛ 32. Вярхоўны Совет БССР абірае Мандатную Камісію, якая праверае паўнамоцтвы дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР.

Па прадстаўленню Мандатнай Камісіі Вярхоўны Совет БССР рашае або прызнаць паўнамоцтвы, або касіраваць выбары асобных дэпутатаў.

АРТЫКУЛ 33. Вярхоўны совет БССР назначае, калі ён палічыць неабходным, следчыя і рэвізійныя камісіі па любому пытанню.

Усе ўстановы і службовыя асобы абавязаны выконваць патрабаванні гэтых камісій і прадстаўляць ім неабходныя матэрыялы і дакументы.

АРТЫКУЛ 34. Дэпутат Вярхоўнага Совета БССР не можа быць прыцягнут да судовай адказнасці або арыштаваны без згоды Вярхоўнага Совета БССР, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР—без згоды Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 35. Па сканчэнні паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР назначае новыя выбары ў тэрмін не больш двух месяцаў з дня сканчэння паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 36. Па сканчэнні паўнамоцтваў Вярхоўнага Совета БССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР захоўвае свае паўнамоцтвы аж да ўтварэння новаабраным Вярхоўным Советам БССР новага Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР.

АРТЫКУЛ 37. Новаабраны Вярхоўны Совет БССР склікаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР ранейшага склікання не пазней як праз месяц пасля выбараў.

АРТЫКУЛ 38. Вярхоўны Совет БССР утварае Ўрад БССР—Совет Народных Камісараў БССР.

## РАЗДЗЕЛ IV

# ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

АРТЫКУЛ 39. Вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам дзяржаўнай улады БССР з'яўляецца Совет Народных Камісараў БССР.

АРТЫКУЛ 40. Совет Народных Камісараў БССР адказны перад Вярхоўным Советам БССР і яму падсправаздачны, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета БССР—перад Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР, якому падсправаздачны.

АРТЫКУЛ 41. Совет Народных Камісараў БССР выдае пастановы і распараджэнні на аснове і ў выкананне дзейнічаючых законаў Саюза ССР і БССР, пастаноў і распараджэнняў Совета Народных Камісараў СССР і правярае іх выкананне.

АРТЫКУЛ 42. Пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў БССР абавязковы да выканання на ўсёй тэрыторыі БССР.

АРТЫКУЛ 43. Совет Народных Камісараў БССР:

а) яднае і накіроўвае работу рэспубліканскіх і саюзнарэспубліканскіх Народных Камісарыятаў БССР і іншых падпарадкаваных яму гаспадарчых, адміністрацыйных і культурных устаноў; яднае і правярае работу ўпаўнаважаных агульнасаюзных Народных Камісарыятаў;

б) складае народнагаспадарчы план БССР, уносіць яго на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР і прымае меры па ажыццяўленню народнагаспадарчага плана;

в) складае дзяржаўны бюджэт БССР і звод мясцовых бюджэтаў БССР, уносіць дзяржаўны бюджэт на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР і прымае меры па ажыццяўленню дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў;

г) прымае меры па забяспечанню грамадскага парадку, абароне інтарэсаў дзяржавы і ахове правоў грамадзян;

д) кіруе і правярае работу выканаўчых камітэтаў акруговых, раённых і гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных;

е) утварае, у выпадку неабходнасці, спецыяльныя камітэты і Галоўныя Кіраўніцтвы пры Совеце Народных Камісараў БССР па справах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

АРТЫКУЛ 44. Совет Народных Камісараў БССР мае права адмяняць загады і інструкцыі Народных Камісараў БССР, рашэнні і распараджэнні акруговых, раённых і гарадскіх выканаўчых камітэтаў Советаў дэпутатаў працоўных і прыпыняць пастановы і рас-

параджэнні акруговых, раённых і гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 45. Совет Народных Камісараў БССР утвараецца Вярхоўным Советам БССР у складзе:

Старшыні Совета Народных Камісараў БССР;

Намеснікаў старшыні Совета Народных Камісараў БССР;

Старшыні Дзяржаўнай Планавай Камісіі БССР;

Народных Камісараў БССР:

Харчовай прамысловасці;

Лёгкай прамысловасці;

Лясной прамысловасці;

Земляробства;

Зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў;

Фінансаў;

Унутранага гандлю;

Унутраных спраў;

Юстыцыі;

Аховы здароўя;

Асветы;

Мясцовай прамысловасці;

Комунальнай гаспадаркі;

Соцыяльнага забяспечання;

Упаўнаважанага Камітэта загатовак Саюза ССР;

Начальніка Кіраўніцтва па справах мастацтваў;

Упаўнаважаных агульнасаюзных Народных Камісарыятаў.

АРТЫКУЛ 46. Народныя Камісары БССР кіруюць галінамі дзяржаўнага кіравання, якія ўваходзяць у кампетэнцыю БССР.

АРТЫКУЛ 47. Народныя Камісары БССР выдаюць у межах кампетэнцыі адпаведных Народных Камісарыятаў загады і інструкцыі на падставе і ў выкананне законаў СССР і БССР, пастаноў і распараджэнняў Совета Народных Камісараў СССР і Совета Народных Камісараў БССР, загадаў і інструкцый саюзна-рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў СССР і правяраюць іх выкананне.

АРТЫКУЛ 48. Народныя Камісарыяты БССР з'яўляюцца або саюзна-рэспубліканскімі, або рэспубліканскімі.

Да саюзна-рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў БССР адносяцца Народныя Камісарыяты БССР:

Харчовай прамысловасці;

Лёгкай прамысловасці;

Лясной прамысловасці;

Земляробства;

Зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў;

Фінансаў;
Унутранага гандлю;
Унутраных спраў;
Юстыцыі;
Аховы здароўя.

Да рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў адносяцца Народныя Камісарыяты БССР:

Асветы;
Мясцовай прамысловасці;
Комунальнай гаспадаркі;
Сацыяльнага забяспечання.

АРТЫКУЛ 49. Саюзна-рэспубліканскія Народныя Камісарыяты БССР кіруюць даручанымі ім галінамі дзяржаўнага кіравання БССР, апрача толькі абмежаванай колькасці прадпрыемстваў па спісу, які зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР, падпарадкуючыся як Совету Народных Камісараў БССР, так і адпаведным саюзна-рэспубліканскім Народным Камісарыятам СССР.

АРТЫКУЛ 50. Рэспубліканскія Народныя Камісарыяты БССР кіруюць даручанымі ім галінамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкуючыся непасрэдна Совету Народных Камісараў БССР.

АРТЫКУЛ 51. Урад БССР або Народны Камісар БССР, да якіх звернута запытанне дэпутата Вярхоўнага Совета БССР, абавязаны не больш як у трохдзённы тэрмін даць вусны або пісьмовы адказ у Вярхоўным Совеце БССР.

## РАЗДЗЕЛ V

## МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ

АРТЫКУЛ 52. Органамі дзяржаўнай улады ў акругах, раёнах, гарадах, сёлах, мястэчках, вёсках, пасёлках з'яўляюцца Советы дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 53. Акруговыя, раённыя, гарадскія, раённыя ў вялікіх гарадах, сельскія, местачковыя і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных абіраюцца адпаведна працоўнымі акругі, раёна, горада, сяла, вёскі, мястэчка, пасёлка тэрмінам на два гады.

АРТЫКУЛ 54. Советы дэпутатаў працоўных (акругі, горада, раёна, сяла, мястэчка, пасёлка) кіруюць культурнапалітычным і гаспадарчым будаўніцтвам на сваёй тэрыторыі, устанаўляюць мясцовы бюджэт, кіруюць дзейнасцю падпарадкаваных ім органаў кіраўніцтва, забяспечваюць ахову дзяржаўнага парадку, садзейнічаюць

узмацненню абароназдольнасці краіны, забяспечваюць выкананне законаў і ахову правоў грамадзян.

АРТЫКУЛ 55. Советы дэпутатаў працоўных прымаюць рашэнні і даюць распараджэнні ў межах правоў, якія ім належаць па законах СССР і БССР.

АРТЫКУЛ 56. Выканаўчымі і распарадчымі органамі акруговых, раённых, гарадскіх і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных з'яўляюцца выканаўчыя камітэты, якія абіраюцца імі ў складзе: старшыні, яго намеснікаў, сакратара і членаў.

АРТЫКУЛ 57. Выканаўчымі і распарадчымі органамі сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных (у сёлах, вёсках, пасёлках, мястэчках) у невялікіх паселішчах з'яўляюцца старшыня, яго намеснік і сакратар, якія абіраюцца адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 58. Выканаўчыя камітэты Советаў дэпутатаў працоўных (акругі, раёна, горада, сяла, мястэчка, пасёлка) ажыццяўляюць кіраўніцтва культурна-палітычным і гаспадарчым будаўніцтвам на сваёй тэрыторыі на аснове рашэнняў адпаведных Советаў дэпутатаў працоўных і вышэйстаячых дзяржаўных органаў.

АРТЫКУЛ 59. Сесіі акруговых, раённых Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі камітэтамі не менш шасці раз у год.

АРТЫКУЛ 60. Сесіі гарадскіх і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі органамі не менш аднаго разу ў месяц.

АРТЫКУЛ 61. Акруговыя, раённыя і гарадскія Советы дэпутатаў працоўных абіраюць на час сваёй сесіі старшыню і сакратара для вядзення паседжанняў сесіі.

АРТЫКУЛ 62. Старшыня сельскага Совета дэпутатаў працоўных склікае сельскі Совет і вядзе яго паседжанні.

АРТЫКУЛ 63. Выканаўчыя органы Советаў дэпутатаў працоўных акруг, раёнаў, гарадоў, сёл непасрэдна падсправаздачны як Совету дэпутатаў працоўных, які іх абраў, так і выканаўчаму органу вышэйстаячага Совета дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 64. Вышэйстаячыя выканаўчыя камітэты Советаў дэпутатаў працоўных маюць права адмяняць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых выканаўчых камітэтаў і прыпыняць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых Советаў дэпутатаў працоўных.

АРТЫКУЛ 65. Вышэйстаячыя Советы дэпутатаў працоўных маюць права адмяняць рашэнні і распараджэнні ніжэйстаячых Советаў дэпутатаў працоўных і іх выканаўчых камітэтаў.

АРТЫКУЛ 66. Акруговыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Зямельны;
Народнай асветы;
Аховы здароўя;
Фінансавы;
Соцыяльнага забеспячэння;
Комунальнай гаспадаркі;
Унутранага гандлю;
Дарожны;
Агульны;
Планавую камісію;
Сектар кадраў пры старшыні выканаўчага камітэта.

АРТЫКУЛ 67. У адпаведнасці з умовамі акругі, на аснове законаў СССР і БССР, агульнасаюзныя Народныя Камісарыяты, а таксама саюзна-рэспубліканскія і рэспубліканскія Народныя Камісарыяты ўтвараюць пры акруговых Советах дэпутатаў працоўных кіраўніцтвы.

АРТЫКУЛ 68. Аддзелы і кіраўніцтвы акруговых Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як адпаведнаму акруговаму Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР.

АРТЫКУЛ 69. Раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Зямельны;
Народнай асветы;
Фінансавы;
Унутранага гандлю;
Аховы здароўя;
Соцыяльнага забеспячэння;
Дарожны;
Агульны;
Планавую камісію.

Сектар кадраў пры старшыні выканаўчага камітэта і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі гаспадаркі раёна, з зацвярджэння Вярхоўнага Совета БССР, раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы комунальны і мясцовай прамысловасці.

АРТЫКУЛ 70. У адпаведнасці з умовамі раёна, на аснове законаў СССР і БССР, з зацвярджэння Совета Народных Камісараў БССР, Народны камісарыят Унутраных спраў утварае пры раённых Советах дэпутатаў працоўных кіраўніцтвы.

АРТЫКУЛ 71. Аддзелы раённых Советаў дэпутатаў працоўных

падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як раённаму Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу акруговага совета дэпутатаў працоўных і адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР.

АРТЫКУЛ 72. Гарадскія Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Фінансавы;

Комунальнай гаспадаркі;

Унутранага гандлю;

Аховы здароўя;

Народнай асветы;

Соцыяльнага забеспячэння;

Агульны;

Планавую камісію.

Сектар кадраў пры старшыні выканаўчага камітэта і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі прамысловасці горада, яго гарадской і прыгараднай гаспадаркі:

Мясцовай прамысловасці;

Зямельны.

АРТЫКУЛ 73. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як гарадскому Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму акруговаму, раённаму аддзелу Совета дэпутатаў працоўных або непасрэдна адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР.

АРТЫКУЛ 74. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных Менска, Віцебска, Гомеля і Магілева падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як Советам дэпутатаў працоўных Менска, Віцебска, Гомеля і Магілёва і іх выканаўчым камітэтам, так і адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР непасрэдна.

АРТЫКУЛ 75. Па сканчэнні паўнамоцтваў акруговых раённых, гарадскіх, местачковых, сельскіх і пасялковых Советаў дэпутатаў працоўных іх выканаўчыя і распарадчыя органы захоўваюць свае поўнамоцтвы аж да ўтварэння новаабранымі Советамі дэпутатаў працоўных новых выканаўчых і распарадчых органаў.

## РАЗДЗЕЛ VI

## БЮДЖЭТ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

АРТЫКУЛ 76. Дзяржаўны бюджэт БССР складаецца Советам Народных Камісараў БССР і ўносіцца ім на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР.

Зацверджаны Вярхоўным Советам БССР дзяржаўны бюджэт БССР публікуецца да ўсеагульнага ведама.

АРТЫКУЛ 77. Вярхоўны Совет БССР абірае Бюджэтную Камісію, якая дакладвае Вярхоўнаму Совету сваё заключэнне па дзяржаўнаму бюджэту БССР.

АРТЫКУЛ 78. Справаздача аб выкананні дзяржаўнага бюджэта БССР зацвярджаецца Вярхоўным Советам БССР і публікуецца да ўсеагульнага ведама.

АРТЫКУЛ 79. У бюджэты акруговых, раённых, гарадскіх і сельскіх Советаў уключаюцца прыбыткі ад мясцовай гаспадаркі, адлічэнні ад дзяржаўных прыбыткаў, якія паступаюць на іх тэрыторыі, а таксама паступленні ад мясцовых падаткаў і збораў у размерах, якія ўстанаўляюцца законадаўствам СССР і БССР.

## РАЗДЗЕЛ VII

## СУД І ПРАКУРАТУРА

АРТЫКУЛ 80. Правасуддзе ў БССР ажыццяўляецца Вярхоўным Судом БССР, акруговымі судамі і народнымі судамі, а таксама спецыяльнымі судамі Саюза ССР, якія ствараюцца па пастанове Вярхоўнага Совета СССР.

АРТЫКУЛ 81. Разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца з удзелам народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам.

АРТЫКУЛ 82. Вярхоўны Суд БССР з'яўляецца вышэйшым судовым органам БССР.

На Вярхоўны Суд БССР ускладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў БССР.

АРТЫКУЛ 83. Вярхоўны Суд БССР абіраецца Вярхоўным Советам БССР тэрмінам на пяць гадоў.

АРТЫКУЛ 84. Акруговыя суды абіраюцца акруговымі Советамі дэпутатаў працоўных тэрмінам на пяць гадоў.

АРТЫКУЛ 85. Народныя суды абіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на тры гады.

АРТЫКУЛ 86. Судаводства ў БССР вядзецца на беларускай мове з забяспечаннем для асоб, якія не ўладаюць гэтай мовай, поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць на судзе на роднай мове.

АРТЫКУЛ 87. Разгляд спраў ва ўсіх судах БССР адкрыты,

паколькі законам не прадугледжаны выключэнні, з забяспечаннем абвінавачваемаму права на абарону.

АРТЫКУЛ 88. Суддзі незалежны і падпарадкуюцца толькі закону.

АРТЫКУЛ 89. Вышэйшы нагляд за дакладным выкананнем законаў усімі Народнымі Камісарыятамі і падпарадкаванымі ім установамі, роўным чынам, як асобнымі службовымі асобамі, а таксама грамадзянамі на тэрыторыі БССР, ажыццяўляецца як Пракурорам СССР непасрэдна, так і праз Пракурора БССР.

АРТЫКУЛ 90. Пракурор БССР прызначаецца Пракурорам СССР тэрмінам на пяць гадоў.

АРТЫКУЛ 91. Акруговыя, раённыя і гарадскія пракуроры прызначаюцца Пракурорам БССР з зацвярджаннем Пракурора СССР тэрмінам на пяць гадоў.

АРТЫКУЛ 92. Органы пракуратуры ажыццяўляюць свае функцыі незалежна ад якіх-бы то ні было мясцовых органаў, падпарадкуючыся толькі Пракурору СССР.

## РАЗДЗЕЛ VIII

## АСНОЎНЫЯ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН

АРТЫКУЛ 93. Грамадзяне БССР маюць права на працу, гэта значыць права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам вытворчых сіл совецкага грамадства, устараненнем магчымасці гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя.

АРТЫКУЛ 94. Грамадзяне БССР маюць права на адпачынак.

Права на адпачынак забяспечваецца скарачэннем рабочага дня для пераважнай большасці рабочых да сямі гадзін, устанаўленнем штогадовых водпускаў рабочым і служачым з захаваннем заработнай платы, прадастаўленнем для абслугоўвання працоўных шырокай сеткі санаторыяў, дамоў адпачынку, клубаў.

АРТЫКУЛ 95. Грамадзяне БССР маюць права на матэрыяльнае забяспечанне ў старасці, а таксама ў выпадку хваробы і страты працаздольнасці.

Гэтае права забяспечваецца шырокім развіццём соцыяльнага страхавання рабочых і служачых за кошт дзяржавы, бясплатнай медычнай дапамогай працоўным, прадастаўленнем у карыстанне працоўным шырокай сеткі курортаў.

АРТЫКУЛ 96. Грамадзяне БССР маюць права на асвету.

Гэтае права забяспечваецца ўсеагульна-абавязковай пачатковай асветай, бясплатнасцю асветы, уключаючы вышэйшую асвету, сістэмай дзяржаўных стыпендый пераважнай большасці навучаючыхся ў вышэйшай школе, навучаннем у школах на роднай мове, арганізацыяй на заводах, у соўгасах, машынатрактарных станцыях і калгасах бясплатнага вытворчага, тэхнічнага і агранамічнага навучання працоўных.

АРТЫКУЛ 97. Жанчыне ў БССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынам ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынам права на працу, аплату працы, адпачынак, соцыяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткай радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў.

АРТЫКУЛ 98. Роўнапраўе грамадзян БССР, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, ва усіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця з'яўляецца непарушным законам.

Якое-б то ні было прамое або ўскоснае абмежаванне правоў або наадварот, устанаўленне прамых або ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, таксама як усякая пропаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці, або нянавісці і пагарды—караюцца законам.

АРТЫКУЛ 99. У мэтах забяспечання за грамадзянамі свабоды совесці царква ў БССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода правіць рэлігійныя культы і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

АРТЫКУЛ 100. У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу грамадзянам БССР гарантуюцца законам:

а) свабода слова;

б) свабода друку;

в) свабода сходаў і мітынгаў;

г) свабода вулічных шэствіяў і дэманстрацый.

Гэтыя правы грамадзян забяспечваюцца прадастаўленнем працоўным і іх арганізацыям друкарняў, запасаў паперы, грамадскіх будынкаў, вуліц, сродкаў сувязі і іншых матэрыяльных умоў, неабходных для іх ажыццяўлення.

АРТЫКУЛ 101. У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах развіцця арганізацыйнай самадзейнасці і палітычнай актыўнасці народных мас, грамадзянам БССР забяспечваецца права аб'яднання ў грамадскія арганізацыі: прафесіянальныя саюзы, кааператыўныя аб'яднанні, арганізацыі моладзі, спартыўныя і абаронныя арганізацыі, культурныя, тэхнічныя і навуковыя таварыствы, а найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных яднаюцца ва Ўсесаюзную комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу і якая з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных.

АРТЫКУЛ 102. Грамадзянам БССР забяспечваецца недатыкальнасць асобы. Ніхто не можа быць арыштаваны інакш як па пастанове суда або з санкцыі Пракурора.

АРТЫКУЛ 103. Недатыкальнасць жылля грамадзян і тайна перапіскі ахоўваюцца законам.

АРТЫКУЛ 104. БССР прадастаўляе права прытулку замежным грамадзянам, якія праследуюцца за абарону інтарэсаў працоўных або навуковую дзейнасць, або нацыянальна-вызваленчую барацьбу.

АРТЫКУЛ 105. Кожны грамадзянін БССР абавязан выконваць Канстытуцыю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі выконваць законы, захоўваць дысцыпліну працы, сумленна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульнасумеснага жыцця.

АРТЫКУЛ 106. Кожны грамадзянін БССР абавязан берагчы і ўмацоўваць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, як свяшчэнную і недатыкальную аснову совецкага ладу, як крыніцу багацця і магутнасці радзімы, як крыніцу заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных.

Асобы, якія пасягаюць на грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, з'яўляюцца ворагамі народу.

АРТЫКУЛ 107. Усеагульны вайсковы абавязак з'яўляецца законам.

Вайсковая служба ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе пачэсны абавязак грамадзян БССР.

АРТЫКУЛ 108. Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна БССР. Здрада радзіме: парушэнне прысягі, пераход на бок ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж—караюцца па ўсёй строгасці закона, як самае цяжкае злачынства.

# РАЗДЗЕЛ IX

## ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

АРТЫКУЛ 109. Выбары дэпутатаў ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных: Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, акруговыя, раённыя, гарадскія, местачковыя, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

АРТЫКУЛ 110. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне БССР, якія маюць 18 гадоў, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, асветнага цэнза, аселасці, соцыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць абранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

АРТЫКУЛ 111. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

АРТЫКУЛ 112. Жанчыны карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з мужчынамі.

АРТЫКУЛ 113. Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з усімі грамадзянамі.

АРТЫКУЛ 114. Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных аж да Вярхоўнага Совета БССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

АРТЫКУЛ 115. Галасаванне пры выбарах дэпутатаў з'ўляецца тайным.

АРТЫКУЛ 116. Кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі.

АРТЫКУЛ 117. Кожны дэпутат абавязан рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі аб сваёй рабоце і аб рабоце Совета дэпутатаў

працоўных і можа быць у любы час адкліканы па рашэнню большасці выбаршчыкаў ва ўстаноўленым законам парадку.

АРТЫКУЛ 118. Выбары ў Советы дэпутатаў працоўных БССР праводзяцца па выбарчых акругах па наступных нормах:

а) у акруговы Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 2.000 і не больш як ад 3.000 чалавек насельніцтва;

б) у раённы Совет дэпутатаў працоўных — адзін дэпутат не менш як ад 500 і не больш як ад 1.000 чалавек насельніцтва;

в) у гарадскі Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 150 і не больш як ад 300 чалавек насельніцтва;

г) у сельскі і местачковы Советы дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 100 і не больш як ад 250 чалавек насельніцтва.

Выбарчыя нормы для асобных Советаў дэпутатаў працоўных у межах выбарчых норм, указаных у гэтым артыкуле, вызначаюцца выбарчым законам БССР.

## РАЗДЗЕЛ X

## ГЕРБ, СЦЯГ, СТАЛІЦА

АРТЫКУЛ 119. Дзяржаўны Герб Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі складаецца з выяўлення ў праменнях усходзячага сонца сярпа і молата, абкружаных вянком; гэты вянок складаецца злева з жытніх каласоў, пераплеценых канюшынай, а справа—з дубовай галінкі; унізе паміж абодвума палавінамі вянка знаходзіцца частка зямной кулі. Абедзве палавіны вянка перавіты чырвонай стужкай, на якой змешчаны надпісы на беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай мовах: „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!“, і ніжэй — ініцыялы БССР. Уверсе герба знаходзіцца пяцікановая зорка.

АРТЫКУЛ 120. Дзяржаўны сцяг Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі складаецца з чырвонага палотнішча з выяўленнем на яго верхнім кутку каля дрэўка залатых сярпа і молата і над імі—чырвонай пяцікановай зоркі, абкружанай залатой каймой, а ўнізе сярпа і молата залатыя літары—БССР. Адносіны шырыні да даўжыні 1:2.

АРТЫКУЛ 121. Сталіцай Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца горад Менск.

# РАЗДЗЕЛ XI

## ПАРАДАК ЗМЕНЫ КАНСТЫТУЦЫІ

АРТЫКУЛ 122. Змена Канстытуцыі Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі робіцца толькі па рашэнню Вярхоўнага Совета БССР, прынятаму большасцю не менш $^2/_3$ галасоў Вярхоўнага Совета.

# *Народжаныя бурай* *

## НІКАЛАЙ ОСТРОЎСКІ

### *Раздзел сёмы*

Васілёк прабраўся на завод з першай групай рабочых, якія прышлі на змену. Ён вельмі хацеў першы расказаць брату, як забілі дзядзьку Сярогу, іх суседа.

Васілёк не аднойчы прабіраўся да брата нават у часе работы, як вуж праслізгаючы між рабочых, унікаючы сустрэчы з вартаўнікамі. Ён часта ўсю змену праводзіў з братам у кацельнай, стараючыся дапамагаць яму чым-небудзь. Качагары любілі гэтага шустрага хлопчыка, які шпарка навучаўся майстэрству качагарнай справы.

Аднойчы ён нават трапіў на вочы пана Струміла, але качагары заступіліся за хлопчыка, і механік махнуў рукою. Хлопчык дапамагаў качагарам разгружаць вагоны з вугаллем, ведаў у кацельнай усе хады і выхады і хутка знайшоў выгодны для сябе пралаз, праз які прабіраўся ў кацельную, мінаючы ўсіх дзвярных кантралёраў. Ён забіраўся на вугольны двор, улазіў у шырокую вентыляцыйную трубу, па якой спускаўся да выграбной ямы, куды звальваўся адпрацаваны вугальны шлак. Потым па жалезнай балцы дабіраўся ён да вугальнай ямы, а адтуль, адкінуўшы два-тры кускі антрацыта, трапляў у кацельную, у яміну, з якой бралі вугалле. Свой сакрэт Васілёк не выдаваў нікому, нават брату. Яму было прыемна з'яўляцца нечакана і выклікаць у качагараў захапленне спрытам, з якім ён праслізгваў паўз кантралёраў.

Жах ахапіў Васілька, калі ён даведаўся, што Андрый запёрся ў кацельнай і што яго хочуць забіць. Хлопчык з заміраючым сэрцам сачыў, як легіянеры спрабавалі забрацца ў кацельную.

Калі гэтая спроба правалілася, ён узрадаваўся бязмежна. Васілёк кідаўся сярод рабочых і, упрашальна пазіраючы поўнымі слёз вачыма, пытаў у знаёмых качагараў:

— Скажыце, дзядзька, што яны з ім зробяць?

Качагары моўчкі хмурыліся. А адзін узяў яго за руку і адвёў у бок:

— Уляпётвай адсюль, пакуль жывы! Адзін ужо дастукаўся... Ці хочаш, каб і табе пад гарачую руку галаву адкруцілі?

---

* Канец. Пачатак глядзі ў „Полымі рэволюцыі" № 12—за 1936 г. і ў № 1—за 1937 г.

Васілёк выкруціўся ад яго. Заліваючыся слязмі, зноў пабег глядзець, што робяць легіянеры.

За тым, што адбывалася ў кацельнай, сачылі ўсе рабочыя, якіх затрымалі на заводскім двары. Вялікая адвага адзіночкі, перад якой былі бяссільны ўзброеныя легіянеры, пакарыла сэрцы. Панурыя, змучаныя цяжкай работай, людзі адчувалі ў гэтым супраціўленні аднаго чалавека дакор сваёй пасіўнасці. А гуд не даваў забыцца на гэта ні на адну хвіліну. Цяпер лёс Птахі вельмі трывожыў усіх. Захапляцца ім пачалі адкрыта, асабліва жанчыны. Пачуліся галасы абурэння.

— Пасаромілісяб, мужчыны, глядзець! Пакінулі на пагібель аднаго...

— Больш з бабамі ваюеце...

— Там яны героі—бабам зубы выбіваць...

Узрушаныя жаночымі крыкамі, гудам і ўсім, што адбывалася, рабочыя адмаўляліся выходзіць з двара. Легіянеры пусцілі ў ход штыкі. Кавалерысты націскалі на іх коньмі і лупцавалі бізунамі.

Раз'ятраныя рабочыя сцягнулі з каня аднаго легіянера. Яго ледзьве адбілі. З вялікімі цяжкасцямі ўзвод Зарэмбы ачышчаў двор.

Васілёк не знаходзіў сабе месца. Гэтую мятуслівую маленькую постаць ужо заўважылі легіянеры.

— Эй, ты! Што табе тут трэба? Стой, пся твая маць! Куды бяжыш?—крыкнуў на яго адзін.

Васілёк нырнуў у натоўп і, піхаючыся локцямі і галавой, забіраўся ў самую гушчу. Баючыся, каб яго не злавілі, ён выбег праз службовы праход на вугальны склад і толькі тут успомніў пра свой пралаз...

Дабраўшыся да вугальнай ямы, Васілёк доўга поўзаў упоцемку па вуглаллі, збіваючы калені і галаву аб камenні, шукаючы праходу да ямы і не знаходзячы яго. Ён быў засыпаны нядаўна прывезеным вуглем. Тады хлопчык пачаў разграбаць вуглі, адцягваючы ў бок цяжкія кускі. Адзін з іх скаціўся зноў і балюча ўдарыў яго па босых нагах. Васілёк упаў і доўга плакаў. Але, паплакаўшы, зноў узяўся за работу. Ён ужо выбраў невялікую яму. Але разграбаць рабілася ўсё цяжэй. Вугаль трэба было цягаць угару і адкідаць далей, каб ён не скачваўся на галаву. Вугальны пыл лез у нос і вочы. Ён чыхаў і пляваўся. Але вуглю не было канца. Васілёк падумаў, што ён не там капае. Яму зрабілася крыўдна і страшна. Ён зноў заплакаў:

— Андрый, Андру-у-шка!..—закрычаў ён на ўвесь дух.

Андрый падскочыў, быццам яго жыганулі.

— Тфу, чорт!

Яму здалося, што дзесьці за спіною плача Васілёк.

Птаха стаяў у вугальнай яме, трымаў у руках карабін і не адрываў позірку ад акон.

Брандсбойт ляжаў побач. Пара, якая ледзьве не задушыла яго, павольна выходзіла праз вокны. У кацельнай было змрочна і душна.

Андрыю часамі здавалася, што ўсё гэта—брыдкі сон. Ужо мінулася тры гадзіны, а яго ніхто не выручаў. І ўсё, што ён зра-

біў, нічога не дало. Яго ўсёроўна забяруць і застрэляць. І нікому няма да гэтага справы. Усе ў баку, толькі ён адзін, Птаха, павінен загубіць сваю галаву!..

— Андрушка!—недзе зусім блізка крычаў Васілёк.

З гары скаціўся камень і балюча ўдарыў Андрыя па плячы. Следам за гэтым узрадаваны вокліч: „Гэта я, Васька!“ стрымаў Птаху ад стрэлу.

Сапраўдны, жывы Васька спускаўся да яго. У Андрыя заляскалі зубы ад думкі, што ён ледзь не застрэліў яго цяпер.

— Андрушка, гэта я... Там іх наехала яшчэ больш... Увесь двор на конях. І самы галоўны іх... Уцякай адсюль! Тут дзірка ёсць... Я праз яе кожны раз пралазіў. Цяпер толькі вугалле насыпалі да верху, я не мог пралезці,—крычаў Васілёк на вуха брату, абнімаючы яго.

Сэрца Андрыя забілася.

— Адкуль ты залез сюды?

— З вугальнага двара.

— Там-жа няма праходу...

— А я праз трубу. Яна шырокая! І ты пралезеш. Хадзем, Андрушка, хадзем! Бо іх наехала там! Дзядзька Астап кажа, што яны цябе заб'юць!

Васілёк цягнуў Андрыя да трубы.

— Лезь, а я за табою!

Васілёк палез угару. Птаха яшчэ раз агледзеў кацельную, патухаючыя топкі і палез за ім. Васілёк ужо чакаў яго там. Андрый асцярожна ўзвёў засцерагальнік і падаў яму карабін. Потым, абдзіраючы плечы, уціснуўся ў дзірку, і, хапаючыся рукамі за сыпкі вугаль, ледзьве выбраўся наверх.

Васілёк падганяў яго. Андрый схапіўся рукамі за цяжкую каменную глыбу і скаціў яе ў дзірку. Хлопчык дапамагаў яму, рукамі і нагамі спіхаючы туды кускі антрацыта. Праз хвіліну дзірка была завалена.

Васілёк вёў Андрыя сваімі шляхамі. Птаха з жахам думаў, што будзе, калі ён не ўлезе ў вентыляцыйную трубу. Уздыхнуў лёгка толькі тады, калі следам за Васільком прасунуў галаву і плечы і пачаў павольна пасоўвацца наперад.

Калі яны выбраліся наверх, сыпаў дробны дождж. Вугальны двор быў па-за асноўнай заводскай тэрыторыяй, ад якой быў адгароджан высокай каменнай сцяною.

Сюды падыходзілі пад'ездныя пуці.

Васілёк пашоў на разведку. Неўзабаве ён вярнуўся і паведаміў, што на пуцях нікога няма.

— Там тры рады пустых вагонаў. Пад вагонамі можна прайсці і ніхто не ўбачыць. А каля задніх варот няма нікога. Іх на замок замкнулі. Мы на вагон узлезем, а з вагона на вароты—і гайда ў поле!—гаварыў Васілёк Андрыю ў самае вуха.

Яны спаўзлі з вугальнай гары і, сагнуўшыся, пабеглі між вагонаў.

Васількоў план быў добры. Апошні вагон стаяў каля самых варот. Яны пералезлі цераз рашоткавыя жалезныя вароты і кінуліся бегчы па чыгуначнаму палатну.

Васілёк ляцеў наперадзе, як птушка, расставіўшы рукі і скакаючы на два метры. Ён часта азіраўся, ці паспявае за ім брат. Андрый бег на ўвесь дух. Дождж сцябаў ім у твар. Нізкія цяжкія хмары зацягнулі ўсё неба.

Андрый не кідаў карабіна. „Усёроўна заб'юць, калі зловяць. Так хоць дваіх пакладу перад канцом“, думаў ён, не даючы сабе веры, што выратуецца. І толькі калі завод застаўся далёка з-заду і пад'яздныя пуці пачалі паварачваць да вакзала, Андрый спыніўся і, зняморжаны, асеў на насып.

— Стой, Васілёк, не магу больш!—крыкнуў ён і схапіўся рукою за грудзі.

— Уцякайма, Андрушка, уцякайма, а то дагоняць!—Баязліва азіраючыся, хлопчык нецярпліва падскакваў. Прамокшы да ніткі, ён зябка пацiскаўся ад холаду і страху. Запырсканыя гразёю босыя ногі яго акачанелі. Стоячы на шпале, ён цёр нага аб нагу. Яму здавалася, што Андрый сядзіць вельмі доўга.

— Хопіць ужо, Андрушка, пабяжым!

Птаха стомлена павярнуўся, паглядзеў на Васільковы ногі і на нешта падобнае да шапкі, якая як блін прыліпла да яго галавы, на ўсю яго скурчаную ў тры пагібелі постаць у старой жаночай кофце, і востры жаль і горкая крыўда на сабачае жыццё, калі ён не мог зарабіць нават на боты і адзенне гэтаму дзіцяці, сціснулі яму горла.

„А цяпер і куска хлеба не будзе. І самому няма дзе дзецца“.

— Андрушка,—жаллівa зацягнуў Васілёк.

Андрый устаў. Адтуль, дзе ў густым тумане патануў завод, імчалася грознае завыванне гудка.

— Гудзіць,—з гордасцю прашаптаў ён, прыслухоўваючыся з асалодаю да густога басу свайго суудзельніка, і ўжо не пабег, а пашоў шпаркім крокам. Васілёк бег побач, штохвілінна азіраючыся.

З высокага насыпу Птаха ўбачыў знаёмы дамок каля вадакачкі і толькі цяпер паверыў, што выратаваны.

— Васілёк, брацішка! Пацанёнак... Васька сцярвец! Плявалі мы цяпер на іх! А за цябе я яшчэ разлічуся...—ён абняў брацiка, прытуліў яго да грудзей. Добра, што не трэба таіць слёз. Хто ўбачыць іх, калі дождж ліецца цэлымі патокамі?

— Мы можам пачаць толькі ноччу. А выйсці цяпер групкай з трыццаці чалавек—глупства,—ужо сярдзіта адрэзаў Раеўскі.

Чобат упарта матнуў галавою.

— Да ночы яны ўсіх паразганяюць і нашых у турме рашаць. Зараз—самы час. Я не згодзен, і канец!

Следам за ім горача загаварыў Мяцельскі.

— Таварыш Сігізмунд, Чобат праўду кажа. Калі масы вышлі на вуліцу, калі рабочых расстрэльваюць, мы абавязаны выступіць са зброяй. Няхай сабе нас разгромяць, але мы не можам не выступіць. Інакш мы пакрыем сябе ганьбай .. Бо гэта-ж аксіома марксізма... Няхай сабе выступленне дачаснае, але мы павінны яго ўзначаліць, калі яно пачалося.

Раеўскі няўхвальна скосіўся на яго.

— Узначаліць не значыць цягнуцца ў хвасце.

Мяцельскі ўспыхнуў.

— Першы раз чую, што выступіць са зброяй—значыць цягнуцца ў хвасце. Мне страшна чуць гэтае ад вас...

— Факт,—прагудзеў Чобат.

Мяцельскі нервова пачаў хадзіць па пакоі. Яго твар з тонкімі рысамі, з высокім прыгожым ілбом, зноў пабляднеў. Вялікія цёмныя вочы свяціліся нутраным агнём. Ва ўсёй яго постаці было штосьці кволае. Раеўскі яшчэ раз зірнуў на маладога доктара і ўжо больш спакойна адказаў:

— Мы вельмі зацягнулі нашу нараду. Думаю, час скончыць гэтую бескарысную спрэчку... Чобат і доктар супроць. Я і Кавала—за тое, каб выступіць ноччу. Да гэтага часу мы сабярэм і ўзброім каля двухсот чалавек чыгуначнікаў і цукраварнікаў. Да гэтага часу прыдзе Шчабель з Сасноўкі і, магчыма, з ім сяляне... Выступаць-жа, абы толькі выступаць, гэта не па-большэвіцку. Таварыш Мяцельскі, нас заклеймяць ганьбай, калі мы кінем трыццаць комуністаў на пэўную і бескарысную пагібель. А калі вас паслухацца, дык вы дасце ворагу гэтую магчымасць. Я яшчэ раз паўтараю: усе комуністы павінны зараз мабілізаваць рабочых. Так, так! Трэба пагаварыць з кожным, на каго ёсць надзея, што ён возьмецца за зброю. Вы самі бачылі, як групка ўзброеных паноў распраўлялася з тысячамі людзей. Ад чаго гэта? Ад таго, што рабочыя не былі арганізаваны, іх білі.

Для таго і існуе партыя, каб арганізаваць адпор. Тут менш за ўсё патрэбны квяцістыя фразы. Давайце падумаем аб тым, як лепш і больш шпарка ўзброіць рабочых. Я думаю, што аб усім тут гаварылася дастаткова. За гэты час таварышы, пасланыя намі, зрабілі больш чым мы тут... У нас ёсць зброя, але няма яшчэ патронаў. Пра гэта трэба памятаць. Я супроць вашай прапановы здабываць патроны паасобна і везці іх сюды. Склад блізка ад вакзала і досыць самай малой няўдачы, каб мы патронаў не атрымалі. Таму атрад збіраецца тут і ўсёй масай рушыць да патронных складаў, знімае караульнага, захватвае патроны і, ужо ўзброены, пачынае наступ на горад... Чобат прапхне на завод дзве пляцформы са зброяй і патронамі. У пасёлку мы ўзброім астатніх, якія яшчэ не паспелі альбо не адважыліся далучыцца. Нашай апорай будзе пасёлак. Большасць атрада будзе з пасёлка. Вось усё!

Кавала ўхвальна кракнуў.

— Вельмі шкада, што няма тут таварыша Патлая. Але ноччу мы яго вызвалім, бо турма будзе першым пунктам у горадзе, на які мы пачнем наступаць. І так, вырашана, таварышы. Я, як старшыня, прапаную вам прыступіць да дзеянняў зараз-жа. Але каб мы былі ўпэўнены, прашу вас адказаць—падпарадкуецеся вы гэтаму?

Чобат пакрыўджана зірнуў на Раеўскага.

— Якое можа быць сумненне? Хіба мы не разумеем партыйнай дысцыпліны?..

Раеўскі стомлена ўсміхнуўся. Ён устаў з-за стала, падышоў да Мяцельскага, падружацку паклаў яму на плячо руку:

— Скажыце, доктар, вы дастанеце ўсё неабходнае для перавязак? Бо без крыві не абысціся...

— Усё, што трэба, я дастану. Куды загадаеце зараз мне накіравацца?

— Не будзьце дзіцем, Мяцельскі. Не час! Схадзіце на вакзал, прашчупайце немцаў. Вы як чыгуначны доктар зможаце пагаварыць з афіцэрамі. Які ў іх настрой? Добра-б было праведаць, якую немцы займуць пазіцыю, калі пачнецца наша сутычка з легіянерамі.

Яны разам вышлі на ганак. Находзіў вечар. Падаў дождж. Было сыра і пахмурна.

— Надвор'е добрае,—сказаў Раеўскі,—што-ж, сябры, разыйдземся да дзевяці вечара. Ты, Грыгорый Міхайлавіч, схадзі да сваіх дэпоўскіх. Няхай чалавек пяць членаў партыі прыдуць сюды. Трэба, каб у нас тут была апора. Калі у каго ёсць зброя, няхай возьмуць. А вось і твая ластаўка ляціць!—Раеўскі цёпла ўсміхнуўся.

З гары збягала Олеся.

— Усё, што ты даручыў, бацька, я зрабіла,—сказала яна, запыхаўшыся.

Яна крыху саромелася чужых. Прамоклае наскрозь плацце прыліпала да яе цела, і яна спяшалася шмыгануць у пакой.

— А Раймонд дзе?—затрымаў яе Раеўскі.

— Мы з ім гадзіны ўжо дзве, як разыйшліся ў горадзе. Ён цяпер у пасёлку... Ядвіга Багданаўна панесла на вашу старую кватэру нейкі пакунак з паперамі... Раймонд прасіў перадаць, што каля турмы стаіць пяць чалавек і кулямёт. Я забягала да Варабейкі, дык ён сказаў, што паравоз будзе,—шпарка перадала Олеся і шмыгнула ў пакой.

— Добрая ў цябе дачка,—тужліва ўздыхнуў Чобат.

Ён быў бяздзетны.

— Дзякую. Шкада, што адна ў мяне. А дзяўчурка быццам і не благая,—нечакана нахмурыўшыся, ціха адказаў Кавала.

Дождж хлынуў большы. Касыя струмені залілі ганак. Мяцельскі насунуў капялюш і захінуў гумовы плашч.

— Пашлі?

Раеўскі праводзіў іх позіркам да самай будкі. Толькі калі яны разыйшліся ў розныя бакі, ён увайшоў у дом.

Олеся паспела да гэтага часу пераапрануцца і вышла да яго з свайго пакою.

— А вы напэўна нічога не елі?—сарамліва спытала яна, выціскаючы мокрую касу.—Я зараз звару бульбы і прынясу квашанай капусты... Бацька ніколі не здагадаецца паставіць гаршчок у печ. Я-ж яму прыгатавала,—з жартлівым нездаволеннем гаварыла яна.

Могельніцкі ў халоднай лютасці шчоўкаў бізуном па халяве бота.

— Хутчэй думайце, пане Струміл! У мяне няма часу. Вы дапусцілі гэта бясчынства і калі на працягу дзесяцёх хвілін не прыду-

маеце, як спыніць гуд—баюся, што мне давядзецца расстраляць вас.

Эдвард бачыў, як задрыжэлі калені ў механіка. Ён нават не паглядзеў яму ў твар.

— Злітуйцеся, пане палкоўнік, чым-жа я вінаваты?

— Не апраўдвайцеся, а скажыце, як яго выкурыць адтуль.

— Я ўжо думаў...

— Дрэнна думалі,—перарваў яго Эдвард.

Яны стаялі ў машынным аддзяленні.

— Ці нельга пусціць да яго пару?

— Ён выключыў машыннае аддзяленне,—роспачліва прамямліў Струміл і раптам, шырока раскрыўшы рот, так і застыў з гэтым ідыётскім выразам, праняты нейкай ідэяй. Радасна хлопнуў сябе па ілбу.

— Ёсць, знайшоў! Пан палкоўнік даў мне думку. Мы закрыем дымовую цягу. Тады ён задушыцца ад дыму...

— Рабіце.

Праз поўгадзіны, калі густы, чорны дым перастаў валіць з акон кацельнай, Эдвард загадаў:

— Праверце!

Запасныя дзверы адчыніліся, і капрал, за якім стаяла некалькі легіянераў, што лазілі ў кацельную, кашляючы і міргаючы поўнымі слёз вачыма, разгублена далажыў.

— Нікога не знайшлі, пане палкоўнік...

— Што-а-а?—Эдвард так сціяў ручку бізуна, што аж хруснулі пальцы.

З кацельнай патыхала чадам. Эдвард рэзка павярнуўся і, ні на каго не пазіраючы, пашоў да выхада.

Зарэмба, Врона, Зайончкоўскі і Струміл увайшлі ў кацельную. Эдвард хадзіў па двары, не звяртаючы ўвагі на праліўны дождж.

— Ну?—нядобра запытаўся ён, калі Врона і Зарэмба вярнуліся.

Зайончкоўскі і Струміл палічылі за лепшае не паказвацца яму на вочы.

— Яго сапраўды няма... І не дадумацца, куды ён мог схавацца...

Цяпер, калі замоўк гуд, зрабілася неяк асабліва ціха.

— Значыць, там нікога не было? Або як загадаеце зразумець усё гэта?

— Быў, але куды ўцёк—не здагадаемся...—развінуў рукамі Зарэмба.

— Значыць, вы яго выпусцілі?

— Гэтага не магло быць—усе дзверы ахоўваліся. Нічога не разумею, пане палкоўнік...

— Калі-б вы не былі баявым афіцэрам, паручык, я зрабіў-бы з вамі іначай. Пане Врона, калі мы навядзем у горадзе парадак, загадваю пасадзіць паручыка на пятнаццаць сутак пад суровы арышт. Эй, хто там, падаць каня!

... Дамок каля вадакачкі напаўняўся людзьмі. Першай прышла Ядвіга. Пакуль Олеся корпалася ў кухні каля печы, яна паспела расказаць мужу ўсе навіны.

За ёй з'явіўся Варабейка. Ён дастаў з-пад паліто разабраную дубальтоўку і патранташ. Прымацаваўшы рулю да прыклада, зарадзіў стрэльбу і здаволена паставіў яе ў кут.

— Патроны я набіў карцеччу. На дваццаць крокаў смела можна пыляць... Ноччу не разбярэш, з чаго страляюць, а грукату наробіць шмат. Для пачатку хопіць! А гэта на закусь,—з гордасцю сказаў ён, вымаючы з кішэні абойму з нямецкімі патронамі.—Пяць штук... У суседскага хлапчука выпрасіў. Недзе-ж знайшоў, чарцянё. Яму на што? А нам да зарэзу... Дадзім пяцём па патрону, кожны па разу бухнуць зможа...

Варабейка беражна паклаў абойму на стол. Вада цякла з яго струменямі. Але памочнік машыніста быў у добрым настроі. Ён смешна шавяліў сваімі бялесымі бровамі і, часта шморгаючы носам, ажыўлена расказваў, якіх удалых хлапцоў ён прывядзе.

— На хаду падмёткі рвуць!—не знайшоў ён больш моцнага выразу.—Калі зусім сцямнее, я прывяду іх. А зараз я паляцеў назад. Там яшчэ пагаварыць трэба з тым-сім, да і паравоз наладзіць. Каб не немцы, дык-бы гэта была плёвая справа... Прынёс іх чорт якраз! Кажуць, цяпер ім наперад ходу няма—там ім немцы загародні ставяць... Ну, я пашоў,—заспяшаў ён.

Ужо ў сенцах, успомніўшы нешта, вярнуўся.

— А ці не прынесці вам пакуль што вінтоўку з камеры? А то зансе сюды нядобрае якую-небудзь сцерву, адбіцца нечым!

Раеўскі кіўнуў галавою.

Калі Варабейка вярнуўся, у доме ўжо былі Раймонд і некалькі рабочых. Сярод іх—высокі белавалосы хлапец, якога Раймонд пазнаёміў з бацькам.

— Гэта Пшанічак. Ён табе раскажа пра Патлая і другіх таварышоў. Я яго выпадкова спаткаў у Стэпавога.

Раеўскі крэпка паціснуў руку хлапца.

—А гэта,—шэптам дадаў Раймонд, паказваючы вачыма на рабочых, якія ўваходзілі,—кулямётчыкі. Ты, памятаеш, казаў, каб я пазнаёміў цябе? Вось гэты высокі, Стэповы, а другі вусаты, Гнат Вярба,—гэта старыя салдаты. Кулямёт яны, між іншым, прынеслі ў мяшках па частках. Мы яго зараз збяром на вадакачцы. Істужка ёсць, толькі патронаў няма... Астатнія прыдуць пазней, як загадаў ты.

У пакоі рабілася цесна. Высокі рабочы правяраў прынесеную Варабейкам вінтоўку.

— Новенькая! Штык прымацоўваецца вось так: раз, два і гатова!

Раеўскі распытваў у рабочых пра настроі ў пасёлку. Ядвіга пашла дапамагаць Олесі. Раймонд таксама пайшоў на кухню, паклікаўшы з сабою Пшанічака.

— Вось, Олеся, новы таварыш. Памятаеце яго?

Пшанічак, не ведаючы, дзе падзець мокрую шапку, круціў яе ў руках. Яму ўжо расказалі пра арышт бацькі. Трывога за старога не давала яму спакою.

— Сядайце вось тут, на лаўцы. Хоць і цесна, але прабачце ужо,—запрасіла яго Олеся і спрытна высыпала з гаршка ў вялікую міску вараную бульбу.

Ядвіга палівала алеем кіслую капусту.

Раймонд адчуваў, што неабходна сказаць дзяўчыне пра Андрыя.

— Олеся, вы ведаеце, хто гэта гудзіць?

— Не, а што?

Кажуць, гэта Птаха зачыніўся ў кацельнай.

Чорныя бровы дзяўчыны ўстрапянуліся. Яна не адчувала, што гарачы чыгун апякае ёй пальцы.

— Як Андрый? Адзін?

— Так. Яго абкружылі... Да гэтага часу ён адбіваецца ад іх.

Пшанічак сачыў за Олесей тужлівым позіркам.

— Як-жа так, Раймонд? Чаму яго пакінулі? Што-ж ён адзін зробіць?

Раймонд не мог глядзець ёй у вочы. Ён вышаў з кухні.

— Бацька, ты памятаеш, я табе казаў пра Андрыя Птаху?

— Памятаю.

— Гэта ён гудзіць на заводзе. Яго заб'юць. Дазволь нам, бацька, прашу цябе...

Раймонд адчуваў, што за яго спіною стаіць Олеся.

— Дазволь нам... Зараз яшчэ таварышы прыдуць з пасёлка... Усе ведаюць Андрушку. Дазволь нам выратаваць яго!

— Так, шкада хлапца! Заб'юць яны яго,—паціху сказаў высокі рабочы, які стаяў каля дзвярэй, той, каго Раймонд назваў кулямётчыкам.

Бровы Сігізмунда сышліся ў адну суцэльную лінію.

— У нас няма патронаў. Пры гэтым выступаць часткамі нельга.

Ніхто не шавяльнуўся. Раймонд стаяў перад бацькам як немая просьба.

Раеўскі паглядзеў у шырака адкрытыя вочы дзяўчыны і яна зразумела, што ён не саступіць.

— Божа мой! Няўжо ў вас няма сэрца!—ледзь чутна прашаптала яна.

Сівая галава Раеўскага на некалькі секунд зморана схілілася на руку. Канцы вусоў сурова абвіслі ўніз. Олеся ўспомніла, што гэты чалавек не спаў дзве ночы. А колькі такіх бяссонных начэй было да гэтага! З якою любоўю і пашанаю гаворыць пра яго бацька...

Гэты чалавек, які рэдка ўсміхаўся, заўсёды сустракаў яе ласкава. Ёй зрабілася сорамна ад сваёй першай думкі...

Гуд раптоўна абарваўся. На працягу некалькіх секунд ніхто не праказаў ні слова. Олеся заплакала і пабегла ў свой пакой. Паваліўшыся на ложак, яна ўздрыгвала ад рыданняў.

Ядвіга моўчкі гладзіла яе па галаве. У дом уваходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Машыннае аддзяленне вадакачкі, склад, вялікі пакой і кухня ледзь змяшчалі прыйшоўшых. Вярнуліся Кавала, Чобат, з імі чыгуначнікі.

Усе пакутвалі ад невядомасці, чаму змоўк гуд.

— Дабраліся такі!
І раптам у дзвярах з'явіўся Птаха. За ім—Васілёк.
— Вот табе і на!—ахнулі ўсе.
Птаху здалося, што ён адчуў у гэтым воклічы нейкае расчараванне, амаль нездаволенне.
— Птаха, ты?—крыкнуў Раймонд, выбягаючы з кухні.
— А то хто-ж?—буркнуў Андрый, здзіўлены ад мноства людзей, якія чамусьці сабраліся тут і тым, што каля мастка іх з Васільком спыніў узброены Варабейка.
Загаварылі ўсе разам.
— Глядзіце, казалі, што ён гудзіць на заводзе, а ён сабе пагульвае.
Пачуўшы вокліч Раймонда, Олеся ўбегла ў пакой. Кавала з-пад ілба нездаволена зірнуў на Андрыя;
— Тут пра цябе байкі ходзяць, быццам ты гудзіш, а выходзіць, дарэмна?
— Значыць там нехта другі. Ад страху тыя балды качагары перабл ыталі...
— Хто-ж гудзеў?
— Геройскі, відаць, хлопец!
— Сапраўдны баец! Цудоўны чалавек! Вельмі шкада, калі гэтыя нягоднікі забілі яго,—усхвалявана сказаў Раеўскі і выпрастаўся.
У Андрыя пацямнела ў ваччу ад крыўды. Змардаваны, схудзелы за гэтыя некалькі гадзін, ён стаяў нізка апусціўшы галаву, прамоклы, увесь вымазаны вугалем. Гэтага ніхто не заўважыў. Бывае так: людзі, занятыя чым-небудзь хвалюючым, не заўважаюць таго, што ў спакойных абставінах адразу кінулася-б ім на вочы.
Пра Птаху зараз-жа забыліся. Ён быў як прыкры эпізод. Яго палічылі за героя, а ён аказаўся хлапцом, які бадзяўся так сабе. Гэта выклікала ва ўсіх пачуццё нездаволення, нават крыўды за памылку.
Олеся засаромілася за свае слёзы, за тое, што іх усе бачыл і могуць усяк падумаць пра яе. Тое, што Птаха трапіў у такое брыдкае становішча хоць і без сваёй віны, балюча закранала яе дзявочы гонар.
Яна аглядзела здрабнелую постаць Андрыя крыўдным позіркам. „І што я ў ім бачыла добрае? Стаіць як дурань! Хоць-бы пайшоў, ці што!“—злосна падумала яна.
Раймонд стараўся не сустрэцца з ёю позіркам. Яму было няёмка.
Васілёк абурана пазіраў з-за спіны брата. Ен не разумеў, як гэта Андрушка трывае. „Як яны думаюць, дык мы і на заводзе не былі? А тое, што мне вугаллем пальцы пабіла, дык гэта іх не тычыцца“,—чамусьці менавіта пра пальцы ўспомніў ён.—„А яшчэ мамка лупцоўкі дасць“,—тужліва падумаў ён і гатовы быў заплакаць. Ён пачаў ужо смаркацца.
Андрый падняў галаву.
Олеся бачыла, як раптам пабляднеў яго твар. Ён пахіснуўся і, каб не павалішча, схапіўся рукою за сцяну.

„Ці не п'яны ён? Толькі гэтага не ставала!"—спалохана падумала Олеся. Але штосьці падказвала ёй пра іншае. Ей стала шкада яго. Яна падышла да яго і ціха сказала.

— Чаго ты тут тырчыш? Ідзі ў кухню. На каго ты падобны! Таксама герой...

Андрый ступіў крок наперад, адпіхнуў яе рукою ў бок.

— Дык, значыць, з мяне кпіны строіце? Я жыцця не шкадаваў... Вы ўсе разбегліся, мяне аднаго пакінулі на расправу! Я адзін з імі змагаўся, ад вас дапамогі чакаў, а вы тут прахлаждаліся... А цяпер кпіны...—Андрый глытаў слёзы.

Усе зноў зірнулі на яго. Яго напружаны як струна голас, яго хваляванне, увесь выгляд, эмардаваны і ўзрушаны, прымусіў усіх паглядзець на Андрыя іншымі вачыма.

Птаха больш не мог гаварыць. Хістаючыся, ён пайшоў у кухню, праз яе—у пакой Олесі. Тут Андрый апусціўся на падлогу і так ляжаў у драмоце. Ашаломленая ўсім гэтым Олеся дарэмна старалася што-небудзь выпытаць у яго.

За тое Васілёк ахвотна расказваў у кухні Раймонду і Пшанічаку пра ўсё, што здарылася. Маленькага сведку падвялі да Раеўскага. Васілёк, асвойтаўшыся і нагрэўшыся, паўтарыў свой расказ, не прамінуўшы дадаць:

— А стрэльбу Андрушка з сабою ўзяў, далібог! Яна за хлевам стаіць. Зараз прынясу.—І не чакаючы згоды, знік за дзвярыма.

Хутка ён вярнуўся.

— Во. Зараджаная.

Сігізмунд пайшоў у пакой Олесі. Птаха ўсё яшчэ ляжаў на адлозе.

Раеўскі прыўзняў абедзьвюма рукамі яго галаву. З вачэй хлапца цяклі слёзы.

— Вы малайчына, Птаха! Я не бяру сваіх слоў назад... А таварышам трэба дараваць іх памылку.

Птаха знайшоў яго руку.

— Гэта я гудзеў,—прашаптаў ён.

— Ніхто ў гэтым цяпер не сумняваецца.

Раеўскі адчуў у сваёй руцэ яго разбухлыя пальцы.

— Што з вашымі рукамі?

— Я абварыў іх кіпятком...

— Вы застанецеся тут і адпачніце. Я вызваляю вас ад удзелу ў ба. Ахоўвайце жанчын.

## *Раздзел восьмы*

Чырвоны язычок полымя лізаў край глінянага кубка, напоўненага валовым тлушчам.

На сцяне калідора роўнаважна ўзмахвала крыллямі цень нейкай агромністай птушкі.

Ахапіўшы рукамі калені, Сара як зачараваная пазірала на драбнюткі язычок полымя. Меер сшываў дратвою халявы бота.

За дзвярыма ў пакоіку сціхла. Там ляглі спаць. Меер наўмысля

выбраў бесшумную работу, каб не трывожыць іх. Старэнькі тата захварэў. Усе гэтыя нягоды—высяленне, пераезд—падрэзалі яго зусім. Старыя заказчыкі сюды не пойдуць—далёка, а новых не хутка знойдзеш. Рэпутацыя добрасумленнага шаўца набываецца на працягу гадоў. На новым месцы пачынай нанава. Цяжка, вельмі цяжка гэта, калі табе шэсцьдзесят чатыры гады...

Што добрае, радаснае бачыў бацька праз усё сваё доўгае жыццё? Сара ўспомніла яго расказы. Жыццё бацькі, як яна ўявіла, было падобна на бясконцы ланцуг маленькіх шэрых драўляных цвічкоў, падобных адзін да аднаго. Аднатонны стук малатка, пах скуры, згорбленая спіна і праца, катаржная праца ад світання да позняй ночы. І гэта з адзінаццаці год...

Птушка на сцяне ўзмахвала крыллямі.

Сара зажмурыла вочы. Няўжо і яе, і Меера, і Мойшу, маленькага рыжанькага Мойшу чакае такі-ж лёс? Даўно, калі яна была зусім неўцямнай, бабулька казала ёй:

„Лёс—гэта загадкавая госця і кожная дзяўчына чакае яе прыходу з трапяткой надзеяй. Лёс гэты пасылае сам бог. Ён няўхільны. Ад яго не ўцячы. І гнявіць лёс не трэба. Што больш пакорліва прымае яго чалавек, тым больш літасцівы ён да яго...“

Бабулька даўно памерла. Сара забылася на яе казкі, не ўзышло пасеянае ёю ў дзіцячай галоўцы насенне. І каб прыйшоў зараз, у гэты халодны асенні вечар, развенчаны у сваёй таемнасці лёс, Сара зачыніла-б перад гэтым злым вяшчуном гора дзверы. Яна і так ведае, што бляхар Фальшток ходзіць да іх толькі для таго, каб атручваць ёй жыццё. Ён самаўпэўнены—у яго майстэрні, ён салідны жаніх. І хоць яго маці сапраўдная фурыя (яна нават цяпер б'е сына), якая яму справа да таго, як будзе жыць з гэтай ведзьмай яго жонка? У яго трое рабочых і дом... яму патрэбна жаніцца. А чым благая нявеста Сара? Яна будзе раджаць для яго дзяцей і варыць смачны фіш... А тое, што яна праз пяць год зробіцца старою,—дык што-ж, такі лёс яўрэйскай дзяўчыны, калі ў яе бацькі нічога няма апроч дачкі...

Нехта ціха пастукаў у дзверы. Меер павярнуўся.

Цяпер на сцяне вырысаваўся профіль яго ўскалмачанай галавы з арліным носам.

— Гэта Раймонд. Ён... прыйшоў па мяне,—ціха сказала Сара, устаючы.

Раймонд прынёс з сабою пах сырой асенняй ночы.

— Я зараз апрануся,—Сара ціха адчыніла дзверы пакою.

Раймонд паціснуў Мееру руку і сеў насупроць шаўца на бацькаў зэдлік.

Вышла, апранаючы жакет, Сара. Меер насмольваў дратву. Сара бачыла—ён нездаволены.

— Куды вы пойдзеце дажджом... І так позна. Знайшлі час!— Меер сказаў гэта па-яўрэйску.

І ўсё-ж Раймонд зразумеў, пра што ён гаворыць, і пачырванеў. Сара некаторы момант не адважвалася, потым ціха запытала:

— Можна яму сказаць?

— Я не ведаю,—з непакоем адказаў Раймонд.

— Думаю, што можна,—вырашыла Сара.—Паслухай, Меер, пакінь на хвілінку сваю дратву!

— У мяне тэрміновы заказ, я не маю часу...

— Меер, сёння ў горадзе пачнецца паўстанне...

Яна змоўкла, убачыўшы, як нерухома застыў на ёй позірк такіх-жа вялікіх чорных, як у яе, Мееравых вачэй.

— Паўстанне? Адкуль ты ведаеш? І...—Ён не дагаварыў.

Сара дакранулася да яго пляча.

— Меер, можа ты пойдзеш з намі?

— Куды?

— Калі пойдзеш, скажам.

Меер шпарка заміргаў і хваравіта скрывіў губы.

— Нікуды я не пайду!—рэзка сморгаючы аблепленую смалой дратву, сказаў ён.

Цень птушкі на сцяне ўзмахнула адным крылом.

— І ты не пойдзеш... Ідзі спаць... А яму скажы, няхай ён больш сюды не прыходзіць... Так, так,—няхай не прыходзіць! Я не хачу, каб цябе павесілі,—зашаптаў ён палахліва і злосна.

Раймонд услухоўваўся ў незразумелую гаворку, стараючыся разгадаць яе сэнс. Па ледзь улоўнаму руху ў яго бок ён зразумеў, што Меер гаворыць пра яго.

— Што-ж, аставайся, а я пайду. Я думала, што ты не такі...— Яна хацела сказаць „трус“, але не змагла праказаць гэтае слова.

Калодка з халявай звалілася з Мееравых каленяў на падлогу. Усе палахліва азірнуліся на дзверы.

— Ты-б падумала пра сям'ю.. пра бацьку! Чаго ты хочаш— каб нас усіх парэзалі? Дзе тваё сумленне? Што табе там патрэбна?— шаптаў ён, усё больш хвалюючыся.

— Маё сумленне?.. Я хачу жыць, Меер. Жыць хачу! Хіба гэта несумленна?

— Хо! Хочаш жыць? А ідзеш на смерць...

— Я не магу больш так! Вечна галадаваць, жыць у жабрацтве... каб кожны, у каго ёсць грошы і ўлада, мог піхаць цябе ботам у самае сэрца... Скажы, на што жыць вось такім чарвяком, якога кожная з тэтых гадзін можа раздушыць? Лепш няхай заб'юць мяне на вуліцы!—таксама шэптам горача гаварыла Сара.

— Хто навучыў цябе гэтаму?

— Жыццё навучыла, праклятае жыццё...

— Разумнейшыя за цябе людзі нічога не маглі зрабіць, а ты думаеш свет перавярнуць?

Сара ўстала.

— Не змаглі зрабіць? Ты чакаеш, каб табе нехта зрабіў. А сам будзеш поўзаць перад Шпільманамі і Баранкевічамі! Клясці лёс і пагражаць кулаком, калі гэтага ніхто не бачыць... А мы хочам іх знішчыць! Гэта-ж і твае ворагі. Чаму-ж ты баішся узняць руку на іх? Дзе-ж твае сумленне?

Меер раздражнена паглядзеў на яе.

— Мае сумленне гэта—сям'я.—Ён нервова камячыў худымі пальцамі камяк смалы.—Без нас яны здохнуць з голаду. Разумееш? Здохнуць! І ніхто ім не дапаможа... Хочаш ісці, ідзі!—Ён жорстка

махнуў рукою ў бок дзвярэй,—ідзі, ідзі! А я яўрэй, шавец—жабрак... У мяне няма радзімы, за якую я павінен пакласці галаву... Быў рускі цар, мяне ганялі, як сабаку. Прыйшлі немцы,—тое-ж самае. Цяпер палякі—страшна выйсці на вуліцу. Ну, а калі замест іх прыдуць гетманскія гайдамакі, дык нам будзе лягчэй? Я не ведаю, якое там паўстанне і хто каго хоча прагнаць. Я ведаю толькі, што яўрэй павінен сядзець дома...

— Сёння ноччу паўстануць рабочыя.

— Рабочыя?—разгублена перапытаў Меер.

На вакзале працяжна загудзеў паравоз. На момант змоўк. Потым яшчэ тры кароткія гудкі. Яны дайшліся сюды прыглушаныя, далёкія. Раймонд шпарка ўстаў.

— Бывай, Меер!—усхвалявана сказала Сара.

— Дык ты ідзеш?—Мееравў голас задрыжэў.

— Так.

Меер тужліва паглядзеў на яе. Сара чакала яшчэ некаторы момант.

— Пераб'юць вас. З чым вы супроць іх пойдзеце?—ледзь чутна прамармытаў ён.

Потым трывожна міргаючы прыпухлымі павекамі, нахіліўся, падняў абшыты скурай шавецкі нож.

— Вазьмі хоць гэта...

Дзверы за імі зачыніліся. Меер доўгі час сядзеў нерухома. Трывожныя, нядобрыя думкі не пакідалі яго.

У пакоі, стоячы, цесна прыціскаючыся адзін да аднаго, змаглі змясціцца каля пяцідзесяці чалавек. Астатнія стаялі ў двары, на ганку і ў дзверах машыннага аддзялення. Усе былі ўзброены вінтоўкамі з прыкручанымі штыкамі.

Акно ад пераезда Олеся завесіла коўдрай.

Андрый, апрануўшы сухое адзенне Грыгорыя Міхайлавіча,—Кавала загадаў, каб ён зрабіў гэта,—стаяў з іншымі ў кухні. Васільку Олеся таксама дастала бацькавы штаны, дала яму свой стары світэр і цяпер ён старанна ўсцягваў на ногі яе панчохі. Тут-жа каля яго стаялі олесіны камашы. Мокрае бруднае адзенне абодвух братоў Олеся кінула ў каморку.

— Ну, і доўгія!—соп Васілёк.

Ён спяшаўся. Яму хацелася паслухаць, што гаварыў высокі дзядзька з сівымі вусамі.

— Я думаю, сябры, многа гаварыць не патрэбна,—сказаў Раеўскі.—Кожны з вас прыйшоў сюды добраахвотна, кожны ведае, для чаго. Дык давайце, таварышы, пастановім цвёрда: у каго сэрца не вытрымоўвае бою, няхай адыйдзе. А тыя, хто астаецца, хто рашыў пакончыць з гэтымі грабежнікамі, з адвечнымі нашымі ворагамі, той няхай дасць слова рабочае ў часе бою не ўцякаць.—Раеўскі памаўчаў.—А хто пабяжыць...—ён паглядзеў у твар таварышоў, нібы пытаючы іх.

— Таго будзем страляць!—скончыў замест яго Стэповы.

Раеўскі знайшоў позіркам яго.

— Так, хто кінецца ўцякаць, той не толькі трус, але і здраднік.

Раеўскі стаяў каля акна, абапіраючыся аб вінтоўку. Ён гаварыў, не павышаючы голаса, як заўсёды стрымана, выразна вымаўляючы словы, думаючы аб кожным сказе, каб ён проста і ясна выражаў яго думку.

І ад таго, што гэты шырокаплечы дужы чалавек з вачыма, якія ўсё ведалі, быў спакойны, у ва ўсіх узмацнялася ўпэўненасць у сваю сілу. Гэты чалавек чараваў сваёю прастатою, пазбаўленай якой небудзь позы, непахіснай упэўненасцю ў праўду сваёй справы, якая так характэрна для людзей, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі рэволюцыйнай барацьбе.

Кавала зірнуў на гадзіннік.

— Зыгмунд, пара!

Раеўскі надзеў шапку.

— Так, сябры,—гучна сказаў ён.—Лепш два разы падумаць і ў час адыйсці, чым потым збегчы...

Ніхто не шавяльнуўся.

Ён клапатліва аглядаў сваіх саратнікаў ад ног да галавы. Відаць, што большасць іх не была на фронце. Вінтоўкі трымаюць магазіннай каробкай да сябе, рамень так нацягнуты, што рукі не прадзенеш. Але па тварах відаць—будуць змагацца!.. Вось хоць-бы гэты курносы хлапчына ў кепцы, насунутай на самыя вушы,— вінтоўку прыціснуў да сябе, нібы дзяўчыну. Вочы сур'ёзныя, але наіўна, як у дзяцей надзьмутыя губы з галавою выдаюць яго восемнаццаць год.

З заду худы рабочы ў скуранай шапцы адказаў за ўсіх:

— Перадумваць нам няма чаго. Тыя, у каго гайка слабая, дома асталіся. А хто сюды прыйшоў, дык не для таго, каб назад варочацца.

Раеўскі ўскінуў вінтоўку за спіну.

— Перадайце, таварышы, астатнім у двары і ўсім наша рашэнне. Камандзірам рэволюцыйны камітэт прызначыў мяне. А вы выбярэце двух памочнікаў,—сказаў Раеўскі.

— Чобат!

— Стэповы!

— Больш нікога?

— Не!

— Тады выступаем. Тыя, у каго ёсць патроны, ідуць наперадзе. Захопім склад, адтуль у пасёлак, а потым—на турму. Кожны дзесятак ведае свайго камандзіра?

— А чаму не!

— Ведаем!

Сто шэсцьдзесят тры чалавекі пайшлі ў начную цемру. Шоргат іх крокаў змяшаўся з шумам дажджу і посвістам ветру.

Кавала апошнім пакінуў дом. Ён нават не абняў дачкі,—неяк няёмка было ў прысутнасці Ядвігі і Птахі.

„Не ў час, скажуць стары чорт расчуліўся. Яшчэ, бач, і слязу пусціць". Ён абвёў позіркам знаёмы пакой і, утаропіўшыся на ногі, з робленай абыякавасцю сказаў:

— Ты таго, дачушка... не бойся! Да абеду прыдзем. А ты нам бульбачкі насмаж да гэтага часу ды агурочка вынь... Ну, бывай здарова...

Ад парогу яшчэ раз азірнуўся. У Олесі—вочы поўныя слёз.

— Ну, вось яшчэ! Сказаў, да абеду вернемся...—І, спяшаючы, дадаў:—Ты, Андрый, наглядай тут. Замкніся і не пускай нікога. Я пакінуў-бы табе стрэльбу, але гэта горш. Тапор тут, у сенцах...— На ступеньках ціха сказаў Андрыю:—Калі няўдача, забірай Олесю, Ядвігу Багданаўну, клумак барахла і ўцякайце ў Сасноўку.

— А як-жа дом?

— А чорт з ім! Калі разаб'юць, дык нам тут усёроўна не жыць. Ты дзеўку беражы.

— Грыгорый Міхайлавіч, ды я...

— Ведаю, што ты... Вось і глядзі. А калі мяне...—Кавала памаўчаў. Яны ўжо былі каля форткі.

Андрый не бачыў старога.

— Дык ты будзь для яе братам...

Праз шум дажджу Андрый ледзь учуў:

— У мяне, апрача яе, нікога няма...

— У мяне таксама, апрача...

— Ну, там пабачым, а пакуль—глядзі...

Андрый вярнуўся ў дом. Хацеў замкнуць крукамі дзверы,—не здолеў. Упершыню адчуў боль у пальцах.

— Олеся, зачыні, а то ў мяне рукі апухлі, чорт бы іх узяў!

Святло ў большым пакоі патушылі. Ядвіга села каля акна. Калі па пуці пройдзе да завода паравоз з платформай, значыць, патроны ўзялі...

Сігізмунд загадаў жанчынам астацца. Каб яна была з ім, ёй-бы было спакайней. Наперадзе доўгая ноч, чаканне пакутнае, трывожнае.

— Пакажы свае рукі! Божа мой, чаго-ж ты маўчыш?—палахліва крыкнула Олеся.

Яна хутка прынесла пакінуты Мяцельскім пакет і, хваравіта моршчачыся ад спачування, пачала асцярожна перавязваць абвараныя Андрыевы пальцы, з якіх шматкамі звісала скура.

Васілёк кляваў носам.

— Ідзі на кухню, кладзіся спаць на тапчане,—ласкава сказаў Андрый.

Васілёк устрапянуўся.

— А, можа, я да хаты пайду? Мамка будзе лупцаваць. Дзе ты, скажа, бадзяўся ўвесь дзень?—нявесела адказаў хлопчык.

— Нічога не будзе. Кладзіся спаць, а заўтра разам пойдзем. Кажу, што пальцам ніхто не кране! Калі паслухаеш цябе, дык маці ў нас толькі тое і робіць што б'ецца.

— Табе нічога, а мне кожны раз пападае.

— А ты што, хочаш, каб цябе за твае ўчынкі па галоўцы гладзілі?

Васілёк пакрыўджана выцер нос рукавом і моўчкі пашоў у кухню. Ён заснуў, як толькі дабраўся да тапчана.

Андрый, прыкусіўшы губу, пазіраў, як спрытныя пальчыкі Олесі, пяшчотна дакранаючыся да яго рукі, аддзялялі амяртвелае шмацце скуры і ўхутвалі пальцы беласнежнай павязкай. Каб было выгадней, яна села на падлогу. Андрый пазіраў на яе зверху ўніз і бачыў, як кожны яго гэст болю выклікаў у адказ уздрыгванне дзівосных дзявочых расніц і пяшчотных губ, цудоўных дзявочых губ, свежых і прывабных сваей недаступнасцю. Андрый ніколі не цалаваў іх. Ён не адважваўся гэтае рабіць, ведаючы, што яна не даруе за самую найменшую вольнасць. І ён чакаў, стрымліваючы свае парывы, аберагаюы яе дружбу.

Олеся заканчвала перавязку. Нахіляючыся па ножніцы, каб адрэзаць канцы бінта, яна сказала:

— А ты цярплівы...

На адзін толькі момант Андрый убачыў у выразе блузкі яе высокія грудзі і ён балюча ўсхваляваўся. Гэтая дзёрзкасць, у якой ён быў невінаваты, збянтэжыла яго. І глыбокі сум запоўніў яго сэрца.

— Што з табою? Я табе зрабіла боль?

— Так. Але я больш не буду...

— Бачыш, якая я няёмкая—штурханула і не заўважыла нават.

Андрый маўчаў.

— Ты кладзіся, адпачні, а я пайду да Ядвігі Багданаўны. Ну, я тушу...

Ён доўга яшчэ сядзеў каля стала, схіліўшы галаву на рукі, апанаваны ўвесь невясёлымі думкамі. Потым зморана апусціўся на падлогу, на пасланы Олесяй сяннік і стараўся заснуць.

„І чаго я прыстаў да яе? Быццам апрача яе дзяўчат добрых няма на свеце“.

Андрыю хацелася запэўніць сябе, што ў Олесі няма нічога асаблівага. „Ёсць прыгажэйшыя за яе. Хоць-бы Паша Салагуб або Марына Канаплянская. Дзяўчаты агонь. І ласкавыя, з імі і пажартаваць можна... Ды ці мала прыгожых дзяўчат? Дык не—яму трэба было ўчапіцца за гэту. Насміхаецца, дражніць, камандуе... Пальцам яе не крані! І ён усё гэта цярпіць, ён, на якога і не такія яшчэ дзяўчаты заз іраюць“.

Ад гэтых думак Андрыю зрабілася яшчэ больш крыўдна.

„Такая ўжо, відаць, у мяне планета. Усё наперакос ідзе“...

Ён задрамаў, але неўстрывожаная думка вярнулася да яго на момант уяўленнем. Гэта былі дзівосныя, густыя расніцы дзяўчыны, яе задорныя вочы з насмешлівымі іскаркамі...

Жанчыны, пакутуючы і хвалюючыся, моўчкі стаялі каля акна.

Ядвіга парадзіла Олесі заснуць:

— Я разбуджу вас, калі што-небудзь пачую.

У кухні соладка соп Васілёк.

Олеся на цыпках увайшла ў пакой. Цішыня ў доме прыгнятала яе. Яна не знаходзіла сабе месца.

Небяспека пасялілася тут моцна з таго дня, калі бацька ўпершыню спаткаўся з Раеўскім. Олеся любіла бацьку глыбока і пяшчотна. Думка пра яго не пакідала яе.

Дзяўчына асцярожна, каб не разбудзіць Андрыя, прылягла на ложку.

Але Птаха не спаў. Яму пякло рукі.

— Ты не спіш?—шэптам спытала Олеся, пачуўшы яго рух.

— Не.

— Баляць рукі?

— Што мне рукі? Тут сэрца спакою не дае.

Ён сеў на падлозе і ў гаркоце схіліў галаву на калені.

— Ты аб чым гэта?—Олеся крыху нахілілася да яго.

— Я пра тое, што няма ў жыцці шчасця. Толькі адна крыўда... І чорт яго ведае, для чаго гэта людзі жывуць на свеце. Дзе ні зірні, адна несправядлівасць...

Олеся таксама села. Ён адчуваў яе блізкасць. Непераможнае жаданне выказаць сваю крыўду ахапіла яго.

„Скажу ёй усё і пайду. Няхай мяне заб'юць там".

Ён працягнуў руку, каб устаць і адчуў яе калені. І адразу-ж рукі Олесі ляглі на яго забінтаваную руку. Баючыся зрабіць яму боль, яна паціху знімала яго руку з калена.

Андрый забыўся на ўсё—і крыўду і папрокі. Асталося толькі жаданне ласкавага дотыку, хоць-бы слова ад гэтай дзяўчыны любай, такой дзівоснай і роднай.

— Олеся,—сказаў ён тужліва і ціха.—Олеся, навошта ты так?

— Пра што ты?

— Олеся, няма ў мяне шчасця іншага, як ты...

Ён абняў яе калені. Яна не магла супраціўляцца. Як адпіхнуць гэтыя пакалечаныя рукі?

— Андрый,—спасцярожліва прашаптала яна.

Ен дакрануўся губамі да яе калень. Яго абравіла грубая тканіна. Забываючыся на ўсё і не адчуваючы болю, ён скамячыў яе пакалечанай рукою.

— Андрый!..

Але ён ужо цалаваў яе калені і не па яе сіле было перашкодзіць гэтаму. Захопленая знячэўку, устрывожаная гэтым палкім парывам, Олеся разгубілася, не ведаючы, што рабіць з гэтым звар'яцелым хлопцам.

— Олеся... Зорка мая...

Узрушаная Олеся парыўчата ўстала. Андрый адпусціў яе. Нічога не сказаўшы, яна вышла да Раеўскай.

„Ну, чаго я натварыў? Цяпер усё прапала. Ну і няхай!— Андрый роспачліва махнуў рукою.

Востры боль напомніў аб сабе. Ён упаў на пасцель. Сэрца стукала.

—„Так заўсёды—усё навыварат. Ну, і няхай. Заўтра пайду і ніколі больш не ўбачуся",—сказаў ён сабе і зараз-жа не паверыў гэтаму.—„Вось калі яна табе па мордзе надае, тады, можа, і пойдзеш. І то яшчэ пабачым... А што ты дачакаеш гэтага, дык гэта відаць ужо цяпер.

І што яна пра мяне падумае?

Людзі ў бой пашлі. Можа, на пагібель... Дзяўчына непакоіцца пра бацьку, а ён трывожыць яе. Не знайшоў іншага часу".

Яму стала сорамна за свой парыў.

„А калі-ж было ёй сказаць? Можа, заўтра я жыць не буду“. Хіба сёння ён не цудам выратаваўся ад пагібелі?

Дзесьці далёка ледзь чутна трэснула. Андрый прыслухаўся. Потым устаў на калені.

„Пачалося ці што?—мільганула ў яго галаве. Ён падняўся, асцярожна выставіў наперад рукі, наздагад пашоў да дзвярэй.

У пакоі абедзве жанчыны прытуліліся да акна.

— Гэта я,—наткнуўшыся на стол, сказаў Андрый.

— Я адчыню фортку,—прашаптала Ядвіга.

Потыхала вільгаццю. Ішоў дождж. Было цёмна і ціха. Так яны доўга стаялі ўтраіх, насцярожаныя і маўклівыя.

— Глядзіце, вось агні! Гэта паравоз! Значыць, удалося!—крыкнула Олеся.

У непраніклай імгле ўспыхнулі два вокі. Здавалася, што там на гары, глыбока дыхаючы і пырхаючы, паўзло нейкае чудзішча.

Яны прыслухоўваліся да грукату, які аддаляўся.

Горад спаў.

Раптам праз шолах дажджу і журчэнне вады даляцеў карроткі хлапок. А праз момант быццам нехта шпурнуў жменю каменняў на бляшаны дах.

Нейкі неспакойны вартаўнік захадзіў па пасёлку. Абуджаў людзей сваёй калатушкай, стукаў у вакяніцы, узнімаў усіх на ногі. Загаварылі нямыя, бязлюдныя вуліцы. Заблішчэлі агенькі. Людзей не было відаць, але яны былі чуваць. Занадта гучна загаварылі яны. Як ні моцна спаў сержант Кабыльскі, але яго абудзіла гэтая гаворка. Ён выскачыў з штаба босы. Тут не да ботаў і шынеля—дай божа ногі вынесці...

Як шчэбень сыпаліся шыбы. Кіпела на вуліцах. Па бляшаным даху штаба хтосьці дзіка скакаў гапака.

Проста перад Кабыльскага тварам штосьці зырнула і аглушальна хлопнула. Ён замятаўся і, сагнуўшыся, пабег цераз вуліцу ў вароты насупраць.

У беспарадкавы грукат уварваўся роўнаважны і рэзкі стук. Гэта страчыў з завулка па турэмных варотах Стэповы.

— Наперад, сябры!—пачуўся моцны голас Раеўскага.

Раймонд бег побач з ім цераз пляц, баючыся выпусціць яго з позірку ў гэтай густой цемры. Каля варот ледзь не паваліўся, спаткнуўшыся аб нейчае цела, і рынуўся за бацькам у двор. Каля ўваходу ў турэмны корпус—ліхтары. З дзвярэй стралялі. Бацька ўбег туды. Ззаду грукат ботаў. Тлумная страляніна. Лязгат штыкоў. Нехта ўцякаў. Некага дагналі. Крыкі... Кароткая бойка ў дзвярах...

Раймонд ударыў штыком легіянера, які нацэліўся ў бацьку.

— Бі шляхту! Крышы яе, у бога маць!—роў Чобат, урываючыся ў калідор.

У рассыпную ратаваліся ад яго штыка легіянеры. Раеўскі бег ужо наверх па лесвіцы. Яго апярэдзіў малады хлопчык у ссунутай на вуха кепцы.

Чобатаў бас грымеў у калідоры:

— Эй, Патлай, дзе ты? Абзывайся? Наша ўзяло... Патла-а-ай!

Дзёбек мятаўся на заднім двары, на бягу зрываючы з сябе пагоны. У ім білася адна думка! „Канец... канец... Зараз яны ўварвуцца сюды. Куды ўцякаць?“

Далей не было куды—тупік.

Ён уляцеў у прыбіральню. Жах гнаў яго ў брыдотную смярдзючую яму. Ён залез у агідную жыжку, запоўз пад дошкі, адчуваючы, што зараз задушыцца ад нястрымнага смуроду. Усё-ж думаў аб адным—жыць!

Канцылярыя начальніка турмы была захвачана апошняй. Сюды рушылі. Тут аказаліся вызваленыя Пшыгодскі, Патлай і Цыбуля, той самы здаравяка-селянін, з якім Пшыгодскі праводзіў гутаркі ў камеры.

Стэповы і другі кулямётчык, Гнат Вярба, асталіся каля варот. У Гната быў цяпер свой кулямёт, адбіты ад легіянераў у часе атакі на турму. Здаравенны Вярба ўхаджаўся каля яго.

— Вазьміце мяне к сабе,—сарамліва сказала яму Сара.— Я буду выконваць усё, што вы мне загадаеце.

Вярба, які на карачках правяраў, ці лёгка паварачваецца кулямёт, здзіўлена азірнуўся на яе. Падумаўшы крыху, пераконана адказаў:

— Не бабская гэта справа! Кулямёт—гэта для вас не швейная машына, паненка.

Сару гэты адказ зняважыў. Яна адыйшла.

— Навошта вы яе пакрыўдзілі?—папракнуў Вярбу Раймонд.

Да іх падбег Пшанічак з групай рабочых.

— Уцёк, сакраменска потвора!—злосна крыкнуў ён.

— Хто ўцёк?—запытаў Стэповы.

— Ды той мярзотнік. Нос ад птушкі... Як яго?—Ён успомніў:— Дзёбек! Усюды шукалі—няма! А пленныя кажуць, быў тут.

Вярба ўклаў істужку, усеўся выгодна:

— Стэповы, зараз дам паверх даху чаргу для спробы...

І зараз-жа загрукацела.

— Усё ў парадку.

Стэповы вылаяўся.

— Пшанічак, бяжы ў канцылярыю! Скажы, што спроба. А так усё спакойна, панкі яшчэ не ачухаліся...

Ужо ў калідоры Пшанічак пачуў голас Раеўскага:

— Прапанова ўмацавацца на заводзе і ў турме і чакаць падыходу сасноўскіх і халмянскіх нікуды не варта! Трэба дзейнічаць імкліва, не даючы ім апамятацца. Да раніцы горад павінен быць наш. Зараз, калі яны разгубіліся, трэба біць і біць. Майце на ўвазе, палавіна салдат у маёнтку. Хутка яны з'явяцца тут...

Яго перабіла некалькі галасоў.

Усе яны былі заглушаны басам Чобата.

— Факт! Гэта па маему—калі біць, дык да непрытомнасці. Пагонім панкоў к вакзалу!

Усе ўставалі. Раеўскі аддаваў апошнія загады.

— Фурманкі з вінтоўкамі прыгнаць сюды. Хто з арыштаваных

хоча, няхай узбройваецца... Вы, таварыш Цыбуля, бярыце на заводзе каня і скачыце ў Сасноўку. Шчабель недзе захрас там... А вашы хлопцы няхай астаюцца і дапамогуць нам. Ім зараз дадуць зброю. Чобат, бярыце пяцьдзесят чалавек і наступайце ад рынка да ракі. Цісніце іх к вакзалу! А мы атакуем управу... Трымайце сувязь. Запомніце пароль. Не забудзьцеся—рэўком змяшчаецца на заводзе.

Усе рушылі да дзвярэй. Пшыгодскі падышоў да Раеўскага.

— А куды мне, таварыш... Хмуры?

Увесь яго твар быў у цёмных плямах.

— Гэта тут?—каротка запытаўся Раеўскі, паказваючы на сінякі.

— Так, — панура адказаў Пшыгодскі.—Дазволіце пры вас быць?

— Добра.

— А, можа, мы, таварыш камісар, ударым па маёнтку? Там увесь вывадак накрыем. Калі мы іх у выдатак пусцім, дык справа весялей пойдзе,—сказаў ён глуха.

Раеўскі адчуў, якая неутаймоўная нянавісць штурхае Пшыгодскага на гэту прапанову.

— Не, нельга. Возьмем горад, тады толькі...

Пшыгодскі моўчкі ўзяў вінтоўку і люта сцягнуў рамень з патранташам.

У калідоры Раеўскага чакаў Цыбуля.

— Вы, відаць, тут за старшага?—запытаўся ён.

— Так, падобна на гэтае,—усміхнуўся Раеўскі.

— Так што я не паеду ў Сасноўку. Яшчэ пападзешся ім ноччу ў лапы... Тут мы вам дапаможам, а досвіткам я рушу. Тады відней будзе, куды яно пойдзе.

„Асцярожны мужык“,—падумаў Раеўскі.

— Вашых сялян, якія сядзелі ў турме, тут дзесяткі два набярэцца, ну і камандуйце імі...

Зарэмба люта круціў тэлефонную ручку.

— Ало! Ало!—крычаў ён, прыкрываючы трубку рукою.

Страляніна набліжалася.

— Ало! Маёнтак? Маўчаць, пся іх маць. Паехалі сабе, а ты тут за ўсіх аддувайся... Ало! Маёнтак! Ні гуку...—Зарэмба пахабна вылаяўся.

У дзвярах з'явіўся Врона з парабелумам у руках.

— Ды кіньце вы трубку, паручык! Яны-ж перарэзалі правады Хадзема хутчэй.

Са звонам пасыпаліся шыбы.

— Вось бачыце, управу давядзецца здаць. А то перадушаць тут як у пастцы. Адступаем к вакзалу. Гэтыя чэрці абыходзяць з боку рынка. Возьмуць у абцугі, тады не ўцячэм... А Могельніцкі таксама добры,—узяў за звычай ездзіць дахаты. І палавіну атрада пры сваёй асобе трымае,—шалеў Зарэмба, збягаючы па лесвіцы.

— Свая сарочка бліжэй да цела,—адказаў Врона.

На вуліцы Зарэмба спыніўся.

— Ну, падумайце, капітан, з кім ваяваць? Вось з гэтымі саплякамі? Таксама салдаты, пся крэў!—злосна плюнуў ён.

— Што дзярмо, то верна, паручык. Каб у мяне была рота баварцаў, я гэтую свалату хутка ўціхамірыў бы.

Зарэмба схапіў яго за рукаў.

— Чакайце, а што, калі і сапраўды папрасіць немцаў дапамагчы?

Страляніна ўзмацнілася.

— Не пойдуць. Хіба толькі справакаваць...

Да іх падбегла некалькі легіянераў.

— Яны ўжо на Прырэчні, пане паручык,—задыхаючыся паведаміў адзін.

— Маўчаць!—накінуўся на яго Зарэмба.—Эй, вы! Куды ўцякаеце, пся ваша...

Зусім блізка, глушачы ўсё, затрашчаў кулямёт. Зверху над галовамі зашыпелі кулі.

Цяпер ужо і Зарэмба і Врона пабеглі.

Наперадзе іх тлумным натоўпам беглі легіянеры. А ззаду, усё набліжаючыся, рваліся стрэлы.

На прывакзальным пляцы Зарэмба і Врона спыніліся.

— Трэба затрымаць гэтых трусоў!—крыкнуў Врона.

— Сюды, ка мне! Ка мне!—зароў Зарэмба і злосна ўдарыў рэвальверам першага, хто яму трапіўся пад руку.—Ты куды? Стой, кажу табе! Я табе пабягу, пся твая маць!

Той, каго ён ударыў, завішчэў:

— Не біце,—гэта я, пане паручык!

Зарэмба вылаяўся.

— Падпаручык Зайончкоўскі! Дзе вашы салдаты, а? Дзе салдаты, пытаю? Вы—смарчок, а не афіцэр... Марш наперад!

Непадалёк Врона таксама лавіў уцякачоў. Паступова яны навялі такі-сякі парадак, занялі вакзал і адтуль пачалі адстрэльвацца.

## *Раздзел дзевяты*

У сталовай Могельніцкіх вячэралі.

Эдвард, які толькі што прыехаў, расказваў аб падзеі ў горадзе. Прысутнасць прыслугі стрымлівала яго. За тое Уладыслаў балбатаў са звычайным апломбам:

— Ім на цэлы год хопіць! Так, мы добра папрацавалі...

Людвіга сядзела маўклівая і амаль нічога не ела.

Баранкевіч, рассыпаючы грэцкую кашу, якой было напхана парася, скардзіўся старому графу:

— Што мне рабіць з буракамі—не ведаю. А цукар... Дзе падзець цукар? Ага!—раптам ён успомніў штосьці непрыемнае і нават папярхнуўся.—Вы ведаеце,—павярнуўся ён да Эдварда,—сёння мне прынеслі запіску, у якой нейкі каптэнармус з нямецкага эшалона загадвае неадкладна адгрузіць шэсць вагонаў цукру і падаць іх да нямецкага эшалона... Як вам гэта падабаецца—шэсць вагонаў цукру! Ну, ведаеце, гэта верх нахабства!

Эдвард нахмурыўся.

— І што-ж пан Баранкевіч думае рабіць?—лісліва запытаў а. Іеронім.

Гэтае запытанне абурыла цукразаводчыка.

— Як, што рабіць? Я не дам і кавалка цукру, а не то што шэсць вагонаў.

— Тады яны возьмуць яго самі,—са скрухай адказаў а. Іеронім, акуратна адразаючы кавалак парасяці.

— Я спадзяюся, што пан Эдвард не дазволіць гэтае зрабіць!

Эдвард не адказаў.

— Шэсць вагонаў—гэта яшчэ нічога. Вось у нас забралі ўсё, і мы самі ледзьве выратаваліся,—уедліва загаварыў стары Зайончкоўскі.—Я спадзяюся, што пан Эдвард перш за ўсё пашле свой атрад у наш маёнтак. Я прашу гэта зрабіць заўтра-ж, пакуль сяляне яшчэ не паспелі схаваць награбленае.

Баранкевіч нават перастаў жаваць.

— Дык вы думаеце, што шэсць вагонаў цукру—пусцяк? Гэта шэсць тысяч пудоў! Шэсць тысяч пудоў,—прахрыпеў ён, трасучы відэльцам.—Гэта дваццаць восем тысяч восемсот рублёў на золата...

— Так, але гэта толькі нязначная частка вашага багацця, а ў нас усё забралі,—не сцярпела пані Зайончкоўская.

Баранкевіч рэзка павярнуўся ў яе бок:

— Прашу прабачэння. Гэ... умм... так! Але пані, відаць, лепш за мяне ведае маё багацце...

Прыкрую сцэну перарвала з'яўленне Юзэфа.

— Пані маёр і пан обер-лейтэнант просяць дазволу ўвайсці. Яны ад'язджаюць на вакзал і хочуць развітацца,—панура прагаварыў стары.

Могельніцкія пераглянуліся.

— Прасі,—каротка адказаў Эдвард.

Немцаў запрасілі да стала. Гаворка не клеілася.

— Прабачце, панове, вам невядома прозвішча камандзіра эшалона, які прыбыў сёння?—раптам запытаўся Эдвард у афіцэраў.

— Палкоўнік Пфляўмэр,—стрымана адказаў маёр.

— Эшалон адыходзіць сення?—у надзеі запытаўся Баранкевіч.

Зоненбург паспрабаваў усміхнуцца:

— Пра гэта звычайна не гавораць...

— Прабачце, я проста пацікавіўся,—пакрыўдзіўся Баранкевіч.

Зноў з'явіўся Юзэф.

— Прашу прабачэння,—каля варот стаяць нейкія коннікі. Начальнік караула просіць вас, яснавяльможны пане, выйсці для перагавораў,—сказаў ён да Уладыслава.

Уладыслаў таропка выйшаў.

— Дык вы прадасце нам эскадронных коней?—ціха запытаў стары граф, нахіляючыся да лейтэнанта.

Зоненбург сядзеў далёка ад іх.

— Як вам сказаць... Гэта не зусім зручна. Пан маёр супроць...

— Але вы можаце зрабіць і без яго. Бо вы-ж ад'язджаеце.

Палова салдат дэзертыравала, астатнія спяшаюць да хаты. На што вам цягнуць з сабою коней? Вы-ж ездзеце поездам.

— Я разумею, пане граф, але справа...

— У аплаце,—падказаў яму граф.

— Так, бадай, і ў гэтым. Я сказаў вам суму—сорак тысяч марак. Але марка падае. Я баюся, што прыехаўшы ў Берлін я змагу купіць за іх толькі бутэрброд. Памяркуйце самі, што гэта вельмі танна за дзевяноста добрых коней.

Казімір Могельніцкі сярдзіта закашляўся.

— Але-ж вы ўсёроўна іх з сабою не возьмеце! Дапусцім, вы сёння ноччу паедзеце, дык коні дастануцца нам дармова...

Захопленыя агульнай гутаркай, госці не звярталі на іх увагі.

Шмультке моцна вылаяўся сам сабе, але стрымліваючыся, адказаў:

— Вядома, не возьмем. Праўда, я мог-бы астацца тут на некалькі дзён. Следам за эшалонам паходным парадкам рушыць наш франкфуртскі полк, у якім, як мне вядома, служыць ваш сын. Калі іх не затрымаюць, яны будуць тут праз некалькі дзён.

Стары граф занепакоіўся. Эдвард даручыў яму купіць коней у немцаў, чаго-б гэта не каштавала.

— Ну, добра, я згодзен даць пяцьдзесят тысяч, так, у парадку паслугі. Бо мы з вамі добрыя знаёмыя.

— Прабачце, граф, пан маёр падае мне знак,—нам час ісці... Ведаеце, я таксама хачу зрабіць для вас паслугу. Гэта няскромнасць, але я вам скажу нешта: пан маёр загадаў мне пастраляць усіх коней... Але калі ў вас ёсць тысяча рублёў золатам,—менавіта золатам!—дык я не выканаю гэтага загаду і ваш сын атрымае патрэбных для яго коней! Мяркуйце!

Дзверы адчыніліся. Убег Уладыслаў.

— Прыемныя госці, Эдвард! Там граф Раман Патоцкі з сваімі спадарожнікамі.

Эдвард шпарка ўстаў.

Госці пачалі шаптацца. Прыезд магутнага магната ўсхваляваў усіх.

— Прасі! Чаго-ж ты?—загадаў Юзэфу стары граф.

У пакой увайшло некалькі вайскоўцаў. Наперадзе — высокі Раман Патоцкі, апрануты ў шэры афіцэрскі мундыр без пагонаў і сінія рэйтузы. На нагах—высокія боты з глухімі шпорамі. Шаблю і рэвальвер ён пакінуў у вестыбюлі.

Патоцкі абвёў прысутных шпаркім позіркам. Ганарыстыя шэрыя вочы на момант затрымаліся на Людвізе, потым спыніліся на немцах. Губы сціснуліся.

Эдвард ужо падыходзіў да яго.

— Вельмі рад бачыць вас у нашым доме.

Патоцкі і яго спадарожнікі былі пазнаёмлены з усімі.

— Ну, як здароўе пана Юзэфа?

— Дзякую, бацька здароў,—адказаў Патоцкі.

Зоненбург устаў з-за стала.

— Усяго добрага! Мы ад'язджаем,—сказаў Шмультке старому графу, падаючы руку.

— Ах, так!—заспяшаўся Могельніцкі.—Я прашу вас затрымацца на некалькі хвілін. Я пагавару з сынам.

— Добра, пакуль мы апранёмся...

Немцы, зрабіўшы адзін да ўсіх паклон, вышлі.

Прыбыўшыя ўсаджваліся за сталом. Эдвард растлумачыў Патоцкаму:

— Яны жылі ў нашым доме. Цяпер выязджаюць на вакзал—там іх эшалон...

Патоцкі блага зірнуў на дзверы, за якімі схаваліся немцы.

— Ведаю. Праз іх нам давялося ехаць трыццаць вёрст на конях. Атрад пілсудчыкаў загарадзіў ім пуць, узарваўшы мосцік. А вы з імі, як відаць, не сварыцеся?—дадаў ён з лёгкай іроніяй.

Эдвард падлавіў гэтую іронію.

— Для сваркі патрэбна сіла, а ў мяне яе няма. Потым, апрача іх, тут і так ёсць з кім цягацца.

У гаворку ўмяшаўся стары граф.

— Прабач, Эдзі, што я перабіваю, але лейтэнант патрабуе за коней тысячу рублёў золатам. Інакш...

Эдварду было непрыемна, што бацька пры Патоцкім гаворыць гэта, і ён не даў яму скончыць:

— Рабі, што трэба.

Стары, крэкчучы, прыўзняўся, Юзэф ад дзвярэй ужо спяшаў яму на дапамогу.

— Раскажыце-ж нам, граф, што новага ў Варшаве?—запытаў Эдвард.

— Што нова ў Варшаве? я, напраўду, затрудняюся адказаць на гэта пытанне. Навін шмат!—прагаварыў Патоцкі і ціха сказаў Эдварду:—Мне трэба будзе пагаварыць з вамі сам-на-сам.

— Добра,—гэтак-жа ціха адказаў Эдвард.

У габінеце Эдварда сабраліся адны мужчыны. Апрача Баранкевіча, а. Іероніма, Зайончкоўскага, тут было некалькі, памешчыкаў, якія ўцяклі з Шэпетоўкі, Стара-Канстанцінава і Антаніі.

Патоцкі хадзіў па габінету, усунуўшы рукі ў кішэні рэйтузаў і, ні на каго не пазіраючы, звяртаючыся ўвесь час толькі да Эдварда, гаварыў:

— Вы пытаецеся, што такое Пілсудскі? Я гутарыў з ім перад ад'ездам. Гэта моцная асоба.—Ён затрымаўся каля стала, разглядаючы мініятурны партрэт Людвігі ў адмысловай рамцы з слановай косці.—Так, асоба моцная і з ім даводзіцца лічыцца...

Баранкевіч са звычайнай грубасцю перабіў яго.

— Але, кажуць, ён соцыяліст?

Патоцкі слізгануў па ім нязначным позіркам і засмяяўся.

— Пілсудскі—соцыяліст? Хто вас гэтым напалохаў?

— А хіба ён не блытаўся з пэпээс у мінулыя гады?—пакрыўдзіўшыся за Баранкевіча, запытаў Зайончкоўскі.

Патоцкі асцярожна паставіў партрэт Людвігі на стол.

— Я не ведаю, што ён там рабіў раней. Ці мала якога глупства можа натварыць чалавек? Я ведаю толькі адно—і гэта не

толькі мая думка,—што Пілсудскі перш за ўсё—польскі патрыёт, а гэтае важней за ўсё. І ўжо для нас, вядома, лягчэй, калі „начальнікам дзяржавы“ будзе ён, а не князь Сапега, скажам, хоць гэта было-б больш прыямней...

А. Іеронім, які, як і заўсёды, сядзеў у кутку, асцярожна запытаўся:

— Прабачце, вяльможны пан, а ці няма небяспекі ў тым, што апроч яго жадання генерал Пілсудскі стане цацкай у руках сваёй партыі, гэтых дэмагогаў, як Дашынскі і падобных да яго?

Патоцкі некалькі секунд выпрабавальна глядзеў на айца Іероніма:

— Ага, айцец духоўны таксама займаецца палітыкай...

Эдварду не падабаўся гэты самаўпэўнены тон магната.

— Айцец Іеронім падаў вельмі цікавае пытанне,—сказаў ён суха.

— У вас няправільнае ўяўленне і пра Юзэфа Пілсудскага і пра пэпээс! На маю думку, ён значна бліжэй да нас. А пэпэзс цалкам у яго ў руках, гэта сродак для стварэння яму арэола ў масах. Усё гэта для чэрні! І для нас-жа лепш, калі чэрнь паверыць у яго. Нажаль, даводзіцца манеўраваць... Яго апора гэта ваенная арганізацыя, так званыя „пілсудчыкі“. Сярод іх, праўда, не мала пэпээсаўцаў, але гэта, ведаеце, такія соцыялісты... Калі Пілсудскі з кім-небудзь лічыцца, дык гэта з намі, таму што ў нас ёсць сіла і золата! Каб вы мелі ўяўленне аб ім, я раскажу, як быў створан урад.

— О, калі ласка! Тут, у гэтай праклятай глушы нічога не ўведаеш...—выказаў агульнае жаданне Баранкевіч.

— Вядома, як заўсёды, пачалася бойка за партфелі. Князь Сапега расказваў, што прэтэндэнты ледзьве не пабілі адзін аднаму фізіяноміі,—усё гэтыя нацыянал-дэмакраты, людоўцы і іншыя. Тады Пілсудскі выклікаў да сябе капітана другой брыгады легіянераў Морачэўскага, старога пэпэзсаўца і пілсудчыка, і сказаў: „Вы прызначаны мною за прэм'ер-міністра! Стаць ва фронт“. Морачэўскі узяў пад казырок. „Можаце ісці!“ Прэм'ер-міністр крутнуўся на каблуках і вышаў... Будзьце ўпэўнены, што гэты самы Морачэўскі, на якога некаторыя з гэтых паноў дэмакратаў глядзяць як на свайго, не адважыцца і пікнуць, калі Пілсудскі яму гэтага не загадае!..

Эдвард патушыў папяросу.

— А якія яго планы? Як ён глядзіць на нашы дзеянні?

Патоцкі спыніўся супроць Эдварда.

— За гэта вы можаце быць спакойны, граф. Кажуць,—і гэта, вядома, факт!—што Пілсудскі, прымаючы на сябе чын „начальніка дзяржавы“, сказаў: „Я не зніму гэтага чына да таго часу, пакуль польскі меч не начэрціць мяжу Польшчы ад Балтыйскага да Чорнага мора!“ І ён гэта зробіць, калі мы здолеем справіцца са ўзбунтаваўшай чэрню!—Патоцкі спыніўся каля акна і, нахмурыўшыся, доўга пазіраў у цемру начы.

— А што, хіба наша становішча такое благое?—з незахаваным страхам запытаў Казімір Могельніцкі і затросся ад здушлівага кашлю.

Патоцкі чакаў, калі ён адолее кашаль. Але прыступ усё нарастаў. Стары хапаўся рукою за горла. Эдвард, які панура сядзеў у крэсле, устрывожана павярнуўся да яго.

Патоцкі з халоднай брыдлівасцю назіраў за дрыглівым старым. Нарэшце Могельніцкі перастаў хрыпець.

— Вы пытаецеся, граф, якое наша становішча,—пачаў Патоцкі ўзрушана і ў вачах яго зырнула ярасць.—Я думаю, вы таксама адчуваеце, як пад нашымі нагамі ўздрыгвае зямля. Гэта—землятрасенне, панове! Самае страшнае, бадай, у тым, што гэта не толькі ў нас. Калі раней можна было куды-небудзь уцячы, дык цяпер гэта амаль немагчыма. І нам застаецца адно—заняцца ўціхамірваннем ашалелага стада!—Патоцкі парыўчата ступіў да стала.—У Варшаве ёсць такія паны, якія ўжо спакавалі свае куфры і купілі білеты...—ён зласліва засмяяўся.—Толькі невядома, куды яны збіраюцца ўцякаць? Мне невядома, якія тут у вас настроі, але я ведаю, што мы, Патоцкія, а разам з намі Сангушкі, Радзівілы, Замойскія, Тышкевічы, Браніцкія,—усе, хто багаты і знатны ў Польшчы, і чые маёнткі знаходзяцца тут, на Украіне,—мы не пакладзем зброі, пакуль не знішчым усіх, хто працягнуў сваю хамскую руку да нашага дабра! Так, мы адсячэм гэтую руку разам з галавою!

Эдвард скоса зірнуў на Патоцкага.

„Так, гэтаму ёсць што губляць! Дзесяткі цукраварных заводаў, сотні тысяч дзесяцін зямлі, поўмільярда багацця,—гэты, вядома, будзе змагацца! Калі я з-за няшчасных пяці мільёнаў рызыкую тут галавою, то ўжо яму і сам бог загадаў“,—падумаў ён.

— Гэ... умм... так! Гэта добра сказана. Менавіта руку з галавою, хо-хо-хо! Але для гэтага патрэбна, каб у Варшаве не пускалі гэтых мазурыкаў-соцыялістаў да ўлады. Я, ведаеце, калі дазнаўся, што Пілсудскі прызначыў Ігнація Дашынскага за міністра, дык у мяне ўвесь дзень жывот балеў,—як заўсёды груба і празмерна гучна загаварыў Баранкевіч.—Ну, думаю, калі яго міністрам зрабілі, дык дабра не будзе! Гэты д'ябал у сябе ў Любліне і так напаскудзіў удосталь... Гэ... умм... так! Васьмігадзінны ра-бо-чы дзень! Як вам гэта падабаецца? Я з дванаццацігадзінным прагараю. А яны...

Патоцкі перапыніў яго ўладным гэстам.

— Я бачу, пан усё спрашчае. Дашынскі, гэты што палохае вас, правадыр партыі польскіх соцыялістаў, па сваему вельмі карысны чалавек. У гэтым шалёным віры, што ахапіў Польшчу, толькі такія людзі, як ён, могуць выратаваць нас з вамі. А вы яго лаеце к слову і не к слову. Калі-б Ігнаці Дашынскі сапраўды быў небяспечным чалавекам, то, запэўняю вас, Пілсудскі не прызначыў-бы яго за міністра,—пачынаючы ўжо злаваць, сказаў ён.

— Гэ... умм... так! Але!..

Патоцкі не даў Баранкевічу выказацца.

— Пан вельмі падобны на тэлеграфны слуп. Прашу прабачэння, я напраўду не хацеў вас пакрыўдзіць. Цвёрдасць перакананняў карысна, але не ў такой меры,—здзекліва засмяяўся Патоцкі:—Да рэчы, пан можа супакоіцца: васемнаццатага лістапада Дашынскі падаў у адстаўку.

— Чаму?—зацікавіўся а. Іеронім.

— Відаць, яму цяпер невыгодна быць міністрам. Вы разумееце усё-ткі ён „прадстаўнік народу“, а пэпэс мімаволі павінна іграць у апазіцыю. Не ўсім, напрыклад, падабаецца наша законнае імкненне

пачаць неадкладную вайну з украінцамі, беларусамі і літоўцамі. Чэрнь, бачыце, не хоча больш ваяваць. Ды што чэрнь! Нават той-сёй з буржуа і памешчыкаў, маёнткі якіх пакуль што ў поўнай бяспецы, лічаць нашы планы занадта рызыкоўнымі. Але такіх курэй, на шчасце, не вельмі шмат. У кожным выпадку мы прымусім іх раскашэліцца. Калі яны мяркуюць, што толькі мы будзем ствараць на свае сродкі цэлыя палкі і абараняць іх куфры, дык яны вельмі памыляюцца.

Баранкевіч успрыняў намёк на сваю асобу.

— Гэ... умм... так! Але не ва ўсіх-жа аднолькавае багацце..

Адчуваючы, што Баранкевіч можа зараз сказаць Патоцкаму што-небудзь дзёрзкае, Эдвард умяшаўся ў гаворку:

— Скажыце, граф, калі гэта не сакрэт, куды вы думаеце накіравацца адсюль?

— Вам я магу адкрыць свой маршрут. Я еду ў Здалбунова. Там фарміруецца мой полк, якім я буду камандаваць. Дарэчы, вы яшчэ не паслалі „начальніку дзяржавы" свой рапарт і просьбу зацвердзіць прызначэнне афіцэрамі камандыраў вашага атрада?— сказаў Патоцкі.

— Не,—адказаў Эдвард.—А хіба Пілсудскі абавязкова павінен гэта зацвярджаць?

— Так, але гэта не павінна вас непакоіць. Ён гэта робіць без размоў. Зараз такі час, што не да фармальнасцей. Вы таксама думаеце фарміраваць полк? Ну, вось! Чын палкоўніка польскай арміі вам забяспечан.

Эдвард успыхнуў.

— Я, граф, пяць ужо год нашу чын палкоўніка гвардыі, у сучасны момант—палкоўніка французскай службы. І не збіраюся пытацца ў гэтага новаспечанага генерала, захоча ён мне яго даць або не захоча.

Патоцкі прыкусіў губу.

— Ваша справа, граф. Але для прыстойнасці гэта можна зрабіць. Гэта ўзмацняе аўтарытэт арміі. Пілсудскі для мяне таксама не бог. Але я прыняў чын палкоўніка, мае браты—таксама. І не бачу ў гэтым нічога брыдкага,—сказаў ён суха.

Ён шчоўкнуў абцасамі.

— Дазвольце, граф, пакінуць вас. Я і мае спадарожнікі павінны адпачыць, бо досвіткам мы рушым у дарогу.

Эдвард асабіста праводзіў Патоцкага ў адведзены для яго пакой. Калі яны засталіся сам-на-сам, Патоцкі сказаў:

— Пры гэтых панах я не палічыў магчымым расказваць усё. Языкі ў іх прычэплены не так ужо моцна, таму я змаўчаў пра самае галоўнае. Вы будзеце так ласкавы затрымацца ў мяне?

— Калі ласка, я вас слухаю, граф.

Яны селі ля стала.

— Вы ведаеце, што Пілсудскі загадаў абязброіць немцаў на ўсёй тэрыторыі Польшчы?—запытаў Патоцкі.

— Так. Але гэта незаўсёды магчыма... Напрыклад, у мяне няма патрэбных сіл.

Патоцкі недаверліва зірнуў на Эдварда.

— Хутка падыйдзе князь Радзівіл. Потым цэлы рад дробных легіянерскіх атрадаў таксама накіроўваецца сюды. Калі вам удасца затрымаць эшалон на два-тры дні, дык іх можна абязброіць. Нам-жа патрэбны гарматы, боепрылады.

— Вядома, калі мне дапамогуць, дык я іх абязброю. Але ўлічыце—вакол па вёсках пачынаецца паўстанчы рух. Напрыклад, за дваццаць вёрст ёсць вялікае сяло Сасноўка; там маёнтак пана Зайончкоўскага. Досыць было Зайончкоўскаму адабраць у сялян спрэчнае сена і жыта, каб хлопы ўхапіліся за вілы. У яго было ўсяго дзесятак легіянераў. Вядома, яны не маглі справіцца. У выніку сяляне абязброілі і збілі легіянераў. А Зайончкоўскія ледзьве выратаваліся. У сяле Халмянцы—тое-ж самае. А ў Паўлодзі сапраўднае паўстанне: там забілі памешчыка, пастралялі ўсіх легіянераў.

Патоцкі слухаў яго, моцна сцяўшы губы.

— Усё гэта дробныя прыкрасці... Але я хачу расказаць вам пра украінскія справы,—сказаў Патоцкі.

— Я слухаю.

— Вы, напэўна, ведаеце, што першага лістапада галічане абвясцілі стварэнне Заходняй Украінскай Рэспублікі.

— Мне казаў пра гэта а. Іеронім.

— Так, дарэчы—што гэта за манах?

— Гэта—іезуіт... Яму давярае кардынал. Ён не благі інфарматар.

— А-а! Я так і думаў. Ён, вядома разумнейшы за гэтага тлустага заводчыка... Але я адхіліўся! У Варшаве лічаць, што Галіцыя павінна быць занята намі ў першую чаргу—там нафта, жалеза... Мы спярша супярэчылі гэтаму плану—большасць-жа нашых маёнткаў на Валыні, у Падоліі, а не ў Галіцыі. Але пілсудчыкі нас запэўнілі, што пасля Галіцыі зараз-жа возьмуцца за Украіну. Мы абмеркавалі гэта з многімі зацікаўленымі магнатамі і прышлі да вываду, што заняцце Галіцыі нікольві не парушыць нашыя планы, а наадварот, мы будзем мець забяспечаны тыл. Мы згадзіліся пры ўмове, што на Галіцыю Пілсудскі рушыць свае рэзервы і атрады галіцыйскіх памешчыкаў, а мы свае сілы накіруем на Валынь і Падолію.

Эдвард ухвальна кіўнуў галавою.

— Гэта справядліва. Кожны будзе ваяваць за свае маёнткі са значна большым запалам, чым толькі за адцягненае разуменне „Вялікадзяржаўная Польшча“.

Патоцкі ўсміхнуўся.

— А як справа з Масквою?—запытаў Эдвард.

Усмешка знікла з губ Патоцкага.

— З Масквою будзе вялікая вайна. Пілсудскі спіць і бачыць напалеонаўскую дарогу... Ну, калі і не да Масквы, дык хоць-бы да Смаленска.

Гэтым разам усміхнуўся Эдвард.

— Ці не лічыце вы, што гэта небяспечнае гістарычнае параўнанне?

— Не! Тады была іншая сітуацыя. Паверце, што ў Варшаве не такія ўжо дурні. Маскву заціскаюць у жалезнае кальцо, і Пілсудскі досыць хітры чалавек, каб скарыстаць гэтае і выкраіць для

Польшчы салідны кавалак рускага мяса. Бяда толькі, што ў нас няма пораху для вялікай вайны... А тут яшчэ гэта Украіна.

— Так, граф, вы абяцалі мяне інфарміраваць...

— Вось бачыце—закранеш адно, аглядвайся на другое. Так, што вы ведаеце пра Сімона Пятлюру?

— Амаль нічога, апрача того, што гэты суб'ект зараз верхаводзіць у так званай Украінскай дырэкторыі,—адказаў Эдвард. Патоцкі штосьці шукаў у кішэнях.

— Пра гэтага чалавека трэба вам расказаць. Бо вам з ім давядзецца мець справу. Зараз яго банды запрудзілі амаль усю Валынь і Падолію. Чырвоныя раскіданы там групамі ў розных мясцох.

— Вось яно!—ён выняў з партманэ згорнуты ў чатыры столкі ліст.—Кароткая характарыстыка, якую князь Сапега прасіў перадаць вам, копія данясення кіеўскай агентуры.

Эдвард узяў лісток.

— Мне пра яго гаварылі яшчэ ў Парыжы, у ваенным міністэрстве. Гэты авантурыст падвёў генерала Табуі ў мінулым годзе, калі ў Кіеве яшчэ была так званая цэнтральная Рада.

— Зусім верна. Вось вы пачытайце, там досыць трапна напісан яго партрэт.

Эдвард напоўголаса чытаў:

„Яго авальны твар з правільнымі рысамі нічым не звяртае на сябе ўвагі. Яго шэрыя глыбока пасаджаныя вочы хаваюцца, унікаючы позірку. Масіўныя сківіцы, чуллівы рот са зморана апушчанай ніжняй губою, заплыўшы падбародак, вялікія, крыху адтапыраныя вушы—ніштo не выяўляе энергіі, смеласці, сілы волі, якія характарызуюць правадыра. Уладаючы не вельмі вялікім розумам, схільны хутчэй да інтрыг, чым да шырокіх палітычных камбінацый, Пятлюра асаблівы майстра ў падрыхтоўцы маленькіх падпольных „падзей“, у адначасовым правядзенні двух супроцілеглых ліній дзеяння, у шпаркасці пачынанняў неспадзеўных не толькі для яго праціўнікаў, але і для сяброў. Эгаіст і ганарлівец, ён заўсёды ставіць свае асабістыя інтарэсы вышэй за абавязак службы. Атрымаўшы не вельмі вялікую адукацыю, ён так і астаўся заўрадным чалавекам у благім, вузкім сэнсе гэтага слова“.

Эдвард многазначна зірнуў на Патоцкага, потым пачаў чытаць далей.

„Пятлюра нарадзіўся ў Палтаве ў 1877 годзе, у заможнай казачай сям'і і выхоўваўся ў адной з тых семінарыяў, дзе падрыхтоўваўся нацыянальны украінскі рух. Рэволюцыя 1905 года застала яго правым соцыял-дэмакратам. Гэта—публіцыст невялікага калібра, нават на фоне тагочаснай, беднай сіламі украінскай інтэлігенцыі, як дазваляюць меркаваць яго артыкулы, што вышлі пазней асобнай кнігай. Ён рэдагуе ў Кіеве штотыднёвік „Слово“, потым у Маскве—часопіс „Украинская жизнь“, які змяшчаў у пачатку вайны вернападданіцкія адозвы. Таму-та Пятлюра і не ўбачыў фронта. Яго мабілізавалі для адміністрацыйнай работы ў глыбокім тылу, дзе ён спакойна чакаў сканчэння ваенных дзеянняў. У чэрвені 1917 г. ён займаў пасаду генеральнага сакратара па ваенных

справах ва ўрадзе цэнтральнай Рады. Ён пачаў пераймаць ад Керэнскага, запазычаючы ад яго ўсё, нават гэсты і позы. Пятлюра робіць прамовы на салдацкіх мітынгах, пераймаючы следам за Керанскім, традыцыйную напалеонаўскую позу. Пасля таго, як цэнтральная Рада была выгната з Кіева паўстаўшымі рабочымі і салдатамі, Пятлюра робіцца адным з актыўнейшых прыхільнікаў бязлітаснай барацьбы з большэвікамі, узначальваючы крайняе правае крыло ў цэнтральнай Радзе. У пачатку 1918 года Пятлюра адразу змяніў французскую арыентацыю на нямецкую і вярнуўся ў Кіеў у абозе нямецкіх акупацыйных войск. Тут ён не дрэнна прыстроіўся пры гетмане Скарападскім, але хутка паскандаліў з ім, за што быў часова пасаджаны пад арышт. Ён гэтае ўдала скарыстаў пазней, выдаючы сябе за „барацьбіта“ супроць немцаў і гетмана, якім яшчэ ўчора лізаў пяткі. У Дырэкторыі ён самы правы і фактычна кіруе ўсім не Вінічэнка, а ён, ды і наогул, уход Вінічэнка—справа вырашаная, і тады Пятлюра безумоўна зойме яго месца. Зараз гэты дэмагог і авантурыст выкарыстоўвае паўстанчы рух супроць немцаў і памешчыкаў для сваіх кар‘ерысцкіх мэт. Ён не пагарджае нічым, шпурляючыся лозунгамі „За самастойную Украіну“, „Далоў польскіх паноў“, а па другі бок—„Далоў маскалёў“ і г. д. Наша агентура пры штабе Дзянікіна паведамляе, што Пятлюра прыслаў да генерала Дзянікіна свайго эмісара з прапановай паслуг. Але, як кажуць, Дзянікін не захацеў мець з ім справу Мы думаем, што Пятлюру можна купіць за адпаведную маральную і матэрыяльную ўзнагароду, і ён будзе служыць царству польскаму, калі, вядома, за ім добра наглядаць, маючы на ўвазе, што гэты чалавек можа прадаць кожнага гаспадара ў кожную хвіліну, калі для яго гэта будзе выгадна.

Просім улічыць гэтае ў Варшаве. Паўтараем, Пятлюра можа служыць Польшчы, калі яго належна апрацаваць. Хоць яго войскі, якія складаюцца пагалоўна з сялян, настроены супроць нас, але „галоўны атаман“ ужо не аднойчы давёў сваю здольнасць ставіць сваю палітыку дагары нагамі. Адзіна, з кім Пятлюра будзе сапраўды змагацца, гэта з большэвікамі, якіх ён ненавідзіць і якіх знішчае з ухвальным стараннем. Мы лічым, што зараз самы зручны час для захопу хоць-бы Валынскай і Падольскай губерняў. Трэба карыстацца тым, што Расія напружвае ўсе свае сілы на іншых франтах. Напамінаем, што гэтае цяжэй будзе зрабіць, калі чырвоныя партызанскія палкі злучацца ў адну армію. Гэта трэба рабіць неўзаметкі, адціскаючы пятлюраўскія атрады на поўдзень, і пакуль пятлюраўцы займаюцца тут разбоем і яўрэйскімі пагромамі, можна будзе ачысціць паўночную частку Валыні ад яго банд і ўстанавіць уладу Жэчы Паспалітай“.

Эдвард паклаў пісьмо на стол.

— Што-ж, гэта нас зусім устрайвае,—сказаў ён падумаўшы.

— Значыць, вы таксама згодны з намі?—ажывіўся Патоцкі.

— Так!

— Цяпер вы разумееце, якая павінна быць наша палітыка: пакуль сілы ў нас мала, дзейнічаць паціху, адбіваючы павет за паветам ад Расіі і Украіны. У іх у Беларусі амаль зусім няма войска.

Вайны Расіі мы пакуль што абвяшчаць не будзем, а карыстаючыся кожным зручным выпадкам будзем выпіхаць чырвоныя часці з Беларусі і Літвы. Для гэтага новы міністр замежных спраў пан Васілеўскі ўжо ўзняў у друку кампанію супроць совецкага ўрада. Якраз для гэтага і зачэпка ёсць!

— Якая?—запытаў Эдвард.

— Яны ў Маскве пазбавілі дыпламатычных прывілеяў пана Жарноўскага, якога пасланнік Рэгенцыённай Рады Лядніцкі пакінуў сваім намеснікам у Маскве. Васілеўскі ўзняў ужо крык, абвінавачваючы большэвікоў у парушэнні міжнароднага права і паслаў два ультыматумы, патрабуючы неадкладна аднавіць у правах Жарноўскага і звярнуць архівы пасольства.

Эдвард здзіўлена зірнуў на яго.

— Дазвольце, я вас не зразумеў. Жарноўскі-ж быў прадстаўніком не Польшчы, а нямецкіх акупантаў? Наш-жа урад абвясціў Рэгенцыённую Раду па-за законам!

Патоцкі засмяяўся.

— Для нас гэта зразумела. Гэта так. Хто ў Польшчы не ведае, што Рэгенцыённая Рада складалася з нямецкіх лакеяў, якія прадавалі Польшчу немцам, „у розніцу і на вываз". Праўда і тое, што яны абвешчаны па-за законам, але для дыпламатаў той факт, што ў Маскве, выходзячы з гэтага рашэння, адхілілі Жарноўскага, як абвешчанага па-за законам, ад пасольскіх паўнамоцтваў, дастатковы, каб закрычаць аб парушэнні міжнародных правоў, хоць для здаровага сэнсу гэта незразумела. Але справа ў тым, каб знайсці зачэпку: нашы газеты ўжо крычаць, што большэвікі зневажаюць гонар Польшчы, арыштоўваюць паслоў, ну і ўсё ў тым-жа духу... Гэта падагрэе грамадскую думку, дасць такое-сякое апраўданне для нашага наступу на беларускім фронце.

Эдвард шавяльнуўся, каб сесці больш ямчэй.

— Вядома, калі-б гэтае тычылася другой дзяржавы, дык-бы выглядала бязглузда. Але ў барацьбе з большэвікамі ўсе сродкі добрыя!—Ён зірнуў на гадзіннік.

— Да рэчы, я загадаў начальніку жандармерыі расстраляць сёння дзевятнаццаць чырвоных, якія сядзяць у мяне пад замком. Дазвольце, я пазваню ў штаб.

Патоцкі ўстаў.

— Мы яшчэ ўбачымся з вамі заўтра перад ад'ездам?—запытаў Эдвард.

— Бадай што не. Мы выязджаем досвіткам. Я прашу вас трымаць са мною цесную сувязь.

— Абяцаю. Асцерагайцеся ў дарозе!

Людвіга прыслухалася да бою гадзінніка.

„Езус Марыя! Якая жахлівая ноч",—прашаптала яна.

Сон збягаў ад яе. Усе гэтыя ночы Эдвард спаў у сваім габінеце. Цяпер там размясціліся афіцэры Патоцкага. Эдвард напэўна прыдзе сюды. Яна не хацела гэтага спаткання. Пра што яны могуць гаварыць зараз? І вось цяпер ён прыдзе, як муж. Гэта выкліча но-

вую сутычку... Яна захуталася ў коўдру, калі пачула грукат адчыняемых дзвярэй. У Эдварда быў свой ключ ад спальні.

Раней гэта былі жаданыя спатканні. Зараз гэта напамінала ёй аб тым, што яна, на самай справе, рабыня гэтага чалавека. Толькі рабыня, апранутая ў шоўк, якая мае права загадваць слугам, насіць тытул, уяўляць сябе маленькай царыцай для таго, каб гэта падпарадкавалася толькі яго волі...

Як гэта было прыемна раней і як цяжка зараз!..

Эдвард увайшоў у спальню.

— Я астануся тут,—сказаў ён, упэўнены, што яна не спіць.

Людвіга маўчала. Ён раздзяваўся. Па тым, як рэзка ён расшпіляў рамень, яна адчула—злуецца.

Ён падышоў да ложка і, адхінаючы коўдру, сказаў, стрымліваючы сябе.

— Сёння я хочу быць з табою...

Людвіга спрабавала нацягнуць коўдру на аголенае плячо, але яго рука скінула коўдру на падлогу.

— Што гэта такое, Эдзі? Я не хачу, каб ты аставаўся тут!..—зневажаная, крыкнула Людвіга.

— А я хачу!

Ён прысеў на ложак і паклаў руку на яе грудзі.

— Выйдзі, Эдзі! Я не магу цябе бачыць... Выйдзі!—абаранялася яна.

— Паслухай, Людвісь, мне ўсё гэта абрыдзела. Няўжо ты думаеш, што я і далей буду спаць на канапах, чакаючы, калі ты зменіш гнеў на міласць? Гэта спаборніцтва не ў маім духу... Давай лепш памірымся!—ён нахіліўся над ёю. Яна адпіхала яго.

— Пакінь мяне!..

Але блізкасць яе напоўадкрытага цела ап'яніла ўжо яго. Ён лёгка адвёў яе рукі і сілай авалодаў ёю... Павярнуўшыся да яе спіною, ён адразу-ж заснуў.

Зневажаная, яна плакала. Самае гаркотнае было ў тым, што яна адчувала сябе бязвольнай, здольнай адказаць на гэты грубы гвалт толькі слязмі.

Эдвард быў для яе брыдлівы. Як ён можа спаць, зневажаўшы яе жаночую гордасць! І як ягоную душу не трывожыць тое, што па яго загаду ў гэтую ноч растраляюць людзей. Яна з агідай адсунулася на край ложка і асцярожна, асцерагаючыся, што ён прачнецца, устала і пайшла ў свой пакой. І там, забіўшыся ў куток канапы, доўга, нячутна плакала.

Адам, які толькі што прыйшоў з караула, піў халодны чай. Жэня і Хэля ўжо спалі. У флігелі зноў было поўна чужых:—тут спалі дваццаць тры чалавекі з канвоя графа Патоцкага.

Ён панура жаваў скібку хлеба і ўзіраўся нябачным позіркам перад сабою.

У акно пастукалі. Адам неахвотна ўстаў, пашоў адчыніць дзверы.

На парозе стаяла Францыска. Яна толькі што вярнулася з горада.

Ён моўчкі прапусціў яе ў пакой, зачыніў дзверы і глуха запытаў:

— Ну, што?

Францыска парыўчата зняла з плеч мокрую хустку.

— Нічога!—адказала яна аслаблым голасам.—Я яго не бачыла.— Не пусцілі...

Адам панура стаяў перад ёю, сціснуўшы ў руцэ недаедзены кавалак хлеба.

— Тут па цябе прыходзілі...

— На вошта?—з нянавісцю запыталася Францыска.

Адам шавяльнуў жаўлакамі і, адвёўшы позірк у бок, адказаў:

— Бацька клікаў рыхтаваць для Патоцкага пасцель...

Францыска глыбока ўздыхнула, быццам ёй цяжка было дыхаць.

— Пасцель слаць?—ёй сціснула горла. Яна пагардліва зірнула на Адама.—І што ты сказаў?

— Што прыдзеш, калі вернешся.

Вялікія шэрыя вочы Францыскі пазелянелі. Штосьці дзікае, нестрымнае ўспыхнула ў іх.

— Сволачы вы ўсе!—шаптала яна ў нянавісці.—Чуеш? І ты і твой бацька... Няхай ён будзе проклят, стары сабака!..

Адам адхіснуўся ад яе.

— Чаму ты Хэлю не паслаў?

— Яна не здолее...—разгублена мармытаў ён.

— Здолее! Гэты кныр Уладыслаў навучыў ужо... Вы-ж нас усіх прадалі тут... Тваё шчасце, што Барбара з твару не ўдалася, а то і з ёю спалі-б усе, хто хацеў...

— Што ты кажаш?

— Ты ў Хэлі запытай—яна раскажа... І якая няшчасная доля мяне сюды прыгнала!

Адам злосна ўтаропіўся ў яе.

— Чаго глядзіш? Брата, можа, вешаюць зараз, а ты як сабака ахоўваеш іх, каб хто часамі не ўсадзіў нож у графскія кішкі... Халуй пракляты!—яна адштурхнула яго і выбегла ў сенцы.

Адам, як атручаны словамі Францыскі, груба будзіў дачку.

## *Раздзел дзесяты*

Трое на вадакачцы, хвалюючыся і ўздрыгваючы, слухалі, як пачашчалася страляніна. Вось ужо забурліла каля вакзала. У гэтай нарастаючай буры гукаў адчувалася жорсткасць барацьбы. Андрый замёр, прыціснуўшы рукі да грудзей.

— Чаму яны пакінулі нас тут? Дзе гэта відана, каб я стаяў і чакаў, чый будзе верх? Яны думаюць, што я ні да чога няздольны?— сказаў ён з гаркотай.

Ядвіга, якая стаяла побач, прыцягнула яго да сябе і супакойвала, як маці.

— Што-ж рабіць? Нам загадалі аставацца тут.

Олеся маўчала. На двары пачуліся галасы і, як здалося Андрыю, захроп конь. Олеся схапіла Птаху за плячо.

— Андрый, што гэта?

Птаху стала холадна. А што, калі гэта ляхі? Тады ўсё загінула, адчуваючы як сціснулася яго сэрца, думаў ён.

У дзверы пастукалі.

Андрый, чапляючыся за табурэты, рушыў да дзвярэй. Тут на падлозе ляжаў тапор.

— Грыгорый Міхайлавіч! Гэта я, Шчабель. Адчыняй!

— А, Шчабель!—узрадавана крыкнула Олеся і таксама кінулася да дзвярэй.

— Хто гэта?—спыніў яе Андрый.

— Гэта нашы... Я зараз адчыню.—І яна ўжо знімала крукі.

— Ну вось і я,—сказаў нехта высокі, нябачны.

— А нашы пашлі ўжо,—папракнула Олеся.

— Чуем! Спазніліся мы. З Халмянскімі ўсё важдаліся. Яны да Могельніцкага хацелі хадакоў пасылаць. Моў, не чапай нас, дык і мы цябе чапаць не будзем. Пакуль мы іх угаварылі, час прайшоў... Пасвяці, ці што, Олеся,—і Шчабель запаліў запалку.

На момант ён зглядзеў Андрыя.

— Гэта хто?—недаверліва запытаўся ён.

— Гэта Андрый,—чамусьці засаромілася Олеся.—Яго пакінуў тут бацька.

Следам за Шчабелем у пакой увайшоў прысадзісты, шыракаплечы селянін.

— Добры вечар, гаспадары!

Шчабель пацісвуў руку Ядвігі.

— Гэта Еўціх Сачок з Сасноўкі,—сказаў ён, паказаўшы на селяніна.

Олеся паставіла запаленую лямпу на стол і шпарка падышла да акна, каб завесіць яго.

— З намі чалавек пяцьдзесят сасноўскіх і каля трыццаці чалавек халмянскіх. Ім зараз трэба даць вінтоўкі,—сказаў Шчабель.

Ядвіга адвяла яго ў бок.

— Таварыш Раеўскі сказаў, што для вас патроны скінуць на хаду каля рэчкі. Ён даручыў перадаць вам, каб вы павялі свой атрад у маёнтак Могельніцкіх. Гэтым будзе затрымана частка легіянераў, пакуль нашы не захопяць горада. А вы паспрабуйце заняць, перш за ўсё, фальварак. Там стаяць нямецкія коні...

Шчабель шпарка павярнуўся да Сачка.

— Зараз возьмем вінтоўкі і рушым на фальварак. Скажы сваім хлопцам, што там дабудзем добрых коней...

— Гэта справа!—ўзрадаваўся Сачок.—А то нешта пачалі кульгаць у мяне коні, і парка мне якраз...

— Ну, добра, добра! Пашлі. Чуеш, як шпараць у горадзе? Рассусольваць тут няма калі...

Яны вышлі на двор, дзе іх чакалі сяляне. Птаха рашуча сказаў Ядвізе:

— Я пайду з імі!

— Як вы пойдзеце? А вашы рукі?—разгубілася Ядвіга.

— А мы адны астанемся? Добры-ж абаронца! Тады я таксама пайду. Я адна нізашто тут не буду!—успыхнула Олеся.

— Тады і мне трэба ісці,—ціха сказала Ядвіга.

— Вось і пойдзем усе разам. Аставацца я не хочу, мне страшна тут,—Олеся была ўпартая.

— Куды-ж ты пойдзеш? Там-жа вайна,—сказаў Андрый збянтэжана.

— Ну дык што! Возьмем з Ядвігай Багданаўнай тую сумку з бінтамі і будзем ратаваць, калі каго пакалечаць.

Андрый не ведаў, што адказаць.

— А што мне Грыгорый Міхайлавіч скажа?

— Чаму табе? Я сама яму адкажу! Хадземце, Ядвіга Багданаўна.

Раеўская ўжо адзявала паліто.

— Олеся, развяжы мне правую руку,—папрасіў Андрэй.

— Як развяжы? Яна-ж апараная ўся...

— Ты мне вось гэтыя два пальцы разматай, каб я мог затворам торгаць.

— Не буду я размотваць—тут адно жывое мяса...

Андрый ступіў да Ядвігі.

— Прашу вас, развяжыце! А не то я зубамі парву.

Ядвіга некаторы момант пазірала на яго і моўчкі пачала развязваць бінты.

— Я крышку пакіну, вось тут...

Увайшоў Шчабель.

— Усё ў парадку—патро́ны, вінтоўкі ёсць! Зараз рушым... Дождж спыняецца...

— І мы з вамі,—сказала Ядвіга.

Птаха выбег на двор і вярнуўся з вінтоўкай. Кішэні яго пінжака былі напханы патронамі.

— А мне ты прынёс?—запытала Олеся.

Упершыню за ўвесь гэты час іх позіркі спаткаліся.

— Табе?—перапытаў ён здзіўлена і ўсміхнуўся.

Ён перадаў ёй сваю вінтоўку і пачаў торапка саваць у кішэні яе жакета абоймы з патронамі.

— Зараз я навучу цябе, як зараджаць. Вось бярэш за гэту штучку—раз! Потым да сябе... Бачыш, патрон выскачыў. Раз—загнаў у рулю .. Зноў сюды! Цяпер цягнеш за спуск—і адным гадам менш на свеце... Прыклад моцна прыціскай да пляча. Бяры, я сабе зараз дастану.

Ужо выходзячы, Андрый схамянуўся:

— А Васілёк?.. Куды дзець хло́пчыка?—Ён пабег у кухню.— Васька, уставай жывей! Ды прачніся ты, санлівец! Мы ідзем. Чуеш? Ідзем! Ты зачыні дзверы і спі сабе. Мы хутка вернемся...

Сонны Васілёк нічога не разумеў. Андрый ужо штурхаў яго да дзвярэй.

— Зачыняй на крук і кладзіся спаць...

Васілёк міргаў спрасоння і штосьці мармытаў сам сабе, але ўрэшце зразумеў, што трэба замкнуць дзверы і ісці спаць. Ён так і зрабіў.

Шчабель узяў фальварак без адзінага стрэлу. Іх напад быў як снег на галаву. У маёнтку Эдвард узяў усіх, хто толькі мог насіць зброю, і рушыў у горад... У палацы астаўся толькі граф Патоцкі з канвоем. Пачуўшы пачатую каля маёнтка страляніну, Эдвард павярнуў свой атрад назад.

„Што гэта?—думаў ён—У горадзе бой? Чорт яго ведае, хто з кім змагаецца. Няўжо немцы сталі нахабнымі? Ну, а ў фальварку хто?“—Ён загадаў абкружыць маёнтак.

У варотах яго спаткаў Патоцкі. Ён быў на кані.

— Што гэта, па вашаму, граф?

— Не ведаю. Сувязі з горадам няма.

Ад фальварку чуліся рэдкія стрэлы. Могельніцкі не адважваўся рушыць туды ноччу. Ён рашыў пачакаць да раніцы, не адыходзячы ад маёнтка ні на крок.

А ў фальварку ў гэты час адбывалася нядобрае. Захапіўшы фальварак, халмянцы распачалі сварку з сасноўскімі, пачаўшы неадкладна дзяліць коней.

— Мы першыя ўварваліся ў двор, коні нашы!—крычаў высокі халмянец, ужо седзячы на асядланым нямецкім кані і трымаючы за павады яшчэ тройку.

Да яго падскочыў Сачок.

— Аддай, кажу табе! Падзякуй, што аднаго атрымаў. А ты усё заграбсці хочаш! У мяне вунь усе коні з ног пападалі, а ты хватаеш...

Спрэчкі за коней пачыналіся па ўсім фальварку. Шчабель, знаходзячыся ў ланцугу, адкуль абстрэльвалі маёнтак, па рэдкіх стрэлах зразумеў, што частка сялян некуды збегла. Ён кінуўся да варот.

— Гэй, мужыкі! Што-ж гэта вы?

Але яго ніхто не слухаў. Дзе-ні-дзе ўжо надаралі прыкладамі адзін аднаго. Высокі халмянец падбухторваў сваіх.

— Забірай коняй і ўцякайма да хаты! Няхай яны самі спраўляюцца... Чаго нам лезці ў прорву? А хто пушчаць не будзе, дык бі яго з вінта!

Шчабель позна зразумеў пра небяспеку.

— Куды вы, хлопцы? Што-ж гэта—здраджваеце, значыць? — крычаў ён.

— Сыходзь з дарогі!—гаркнуў на яго высокі халмянец.

— Няхай сасноўскія аддаюць коней, тады астанемся... А ў нас Могельніцкі ўсё забраў, дык мы хоць гэта скарыстаем...

— Чаго там з ім тарабарыць? Гайда, хлопцы, да хаты! А то яшчэ абкружаць тут, дык і без галавы астанешся...

Шчабеля адпіхнулі ў бок.

Птаха ледзьве паспеў выратаваць Олесю ад конскіх капытоў. Халмянцы, сцябаючы коней, налятаючы адзін на аднаго, мацюгаючыся, праімчаліся паўз іх. Праз хвіліну іх ужо не было чуваць.

Ад першых стрэлаў немцы заварушыліся. Уздоўж эшалона забегалі фельдфебелі. Чуліся кароткія словы каманды. Калі страляніна разгарэлася вельмі моцна і пачала набліжацца да вакзала, каля штабнага класнага вагона зайграў трывогу гарніст.

— Пане палкоўнік, вас хоча пабачыць нейкі ваенны, які называе сябе польскім афіцэрам.

— Вядзіце,—сказаў палкоўнік Пфляўмер.

— Маю гонар прадставіцца—капітан Врона.

— Чым вытлумачыць гэту страляніну?—пагрозна запытаў палкоўнік.

— Справа ў тым, пане палкоўнік, што ў горадзе разгарэлася большэвіцкае паўстанне. Нам быў пададзен ультыматум няўмяшання ў іх справы. Яны хочуць абязброіць ваш эшалон, а афіцэраў растраляць. Мы ўсю ноч вялі бой, але зараз вымушаны прасіць вашай дапамогі... Мы зробім усё, каб не было гэтага бунту. Але ў нас ужо няма сілы і мы вымушаны пакінуць горад...

Грукат пальбы каля вакзала як-бы сцвярджаў яго словы. Вакол палкоўніка стаяла група нямецкіх афіцэраў у стальных шлёмах.

Густыя ланцугі немцаў заляглі ўздоўж парапета таварнай станцыі, другая частка салдат корпалася на платформах з броне-аўтамабілем і каля гармат.

— Та-ак,—працадзіў праз зубы Пфляўмер і выплюнуў рэштку сігары.—Яны хочуць разброіць нас? Ну, гэта мы яшчэ пабачым...

— Вядома, пане палкоўнік, калі вы ўмяшаецеся, дык ад гэтай поскудзі не застанецца і следу.

Врона ўгледзеў сярод афіцэраў Шмультке.

Лейтэнант нешта ціха гаварыў палкоўніку.

— Прабачце, як вас?..

— Капітан Врона,—падказаў Шмультке.

— Ага! Дык мы ўмяшаемся абавязкова. Будзьце ласкавы, адвядзіце сваіх салдат вунь туды!—махнуў ён рукою ўлева.—Мы зараз пачнем аперацыю. Зняць гармату! Звезці бронеаўтамабіль на зямлю! Пане старшыня палкавога совета, растлумачце салдатам прычыну бою.

Да досвітку горад быў заняты рабочымі. Шчабель моцна засеў у фальварку, прыкаваўшы Могельніцкага да маёнтка.

Але калі поўная перамога была ўжо блізкай, на вакзале загрымелі магутныя залпы. Адтуль на горад пырснулі агнём і сталлю. Забрахалі адразу паўтары дзесятка кулямётаў. Немцы рушылі на горад.

Цэлую гадзіну ўпарта супраціўляўся Раеўскі, затрымліваючыся на кожным рагу. Але па вуліцах гайсаў неўразлівы бронеаўтамабіль, накіроўваючы агонь сваіх кулямётаў у завулкі і двары.

— Эх, бомбы няма!—шалеў Чобат.

Паўстаўшыя адыходзілі, пакідаючы адну вуліцу за другою. А шэра-зялёныя ланцугі немцаў метадычна, нястрымана пасоўваліся наперад. Таксама бесперастання грукаталі на станцыі чатыры гарматы, шпурляючы ў горад цяжкія знарады.

— Што-ж, Зыгмунд, выходзіць—прайгралі?—сказаў Кавала, шпарка ідучы побач Раеўскага.

— Так, гэтага я больш за ўсё баяўся. Тут без правакацыі не абыйшлося... Мяцельскі ўчора хацеў пагаварыць з палкавым сове-

там, але старшыня, прадажная душа, пагражаў арыштаваць яго. Цяпер трэба захаваць людзей. Будзем адыходзіць на Сасноўку. З гораду трэба выбрацца як мага хутчэй, да відна, а то тут абкружаць...

У ранішняй імгле хутаўся горад. Апошнія ланцугі рабочых пакідалі прыгарад.

Шчабель прыслухаўся.

— Гэта-ж нашы выходзяць з горада... Чуеш, пальба ў прыгарадзе? Відаць, немцы палезлі ў бойку. Што-ж тады і нам адыходзіць трэба, пакуль не развіднела... Каб былі тут халмянцы, можна-б было на маёнтак націснуць, а так рабіць няма чаго. Перадай, каб адыходзілі!—сказаў ён Сачку.

— Фальварак падпаліць?—запытаў той.

— Не трэба. Усёроўна нашым будзе,—забараніў Шчабель.— Няхай сядаюць на коней.

— А баб куды?—нездаволена буркнуў Сачок.

— Іх таксама на коней пасадзім.

— Тут я фурманку нарыхтаваў з барахлішкам, адну пасадзіць можна!..

Шчабель дапамог Олесі сесці ў сядло.

— Не звалішся?—сказаў ён, падаючы ёй павады.

— Не, я дома ў вёсцы ездзіла.

— Ну, а стрэльбу перакінь цераз плячо. Эх, і ваяка-ж з цябе ўдалы!—пажартаваў ён, але зараз-жа спахмурнеў...

Птаха імчаўся побач Олесі. Яму ўсё здавалася, што дзяўчына можа зваліцца...

Праз поўгадзіны яны далучыліся да адыходзячых з горада.

Эдвард Могельніцкі прыехаў на вакзал, каб асабіста падзякаваць палкоўніку Пфляўмеру за аказаную дапамогу.

— Чым магу быць карысны! Скажыце і ўсё, што ад мяне залежыць, зараз-жа будзе зроблена.

Палкоўнік Пфляўмер адмовіўся ад паслуг.

— Дзякую. У нас ёсць усё, што неабходна. Але следам за намі ідзе пяхотны франкфуртскі полк. Пан Шмультке кажа, што ў ім служыць ваш брат. Як мне вядома, яны адчуваюць патрэбу ў харчах і цёплым адзенні. Пачынаюцца халады. Вось калі вы ім дапаможаце, гэта будзе вельмі добра.

— Вядома, вядома,—запэўніў яго Эдвард.—Можа, пан палкоўнік дазволіць мне ўзнагародзіць яго гераічных салдат? Я хачу выдаць ім па сто марак...

— Гэта можна. Я перадам пра вашу ласку палкавому совету. Дарэчы мы тут мяркуем затрымацца да прыходу франкфуртцаў і просім не перашкаджаць нам атрымліваць хлеб з пякарні.

Могельніцкі прылажыў руку да казырка.

— Я неадклэдна загадаю дастаўляць вам хлеб сюды, на вакзал. Цяпер дазвольце ад імя нашых дам і ўсёй сям'і запрасіць вас і паноў афіцэраў на вечар, які мы наладжваем у ваш гонар у нашым родавым маёнтку. Па вас будуць прысланы экіпажы.

— Дзякую! Я перадам афіцэрам. Калі ўсё будзе спакойна, мы прыедзем.

Могельніцкі са сваім штабам паехаў.

— Трэба спяшаць, а то мы не справімся тады з імі,—сказаў Могельніцкі Вроне, калі яны варочаліся ў горад.—Пашліце двух кур'ераў да Замойскага. Няхай ён зніме свой атрад з-пад Паўлодзі і рушыць сюды. Няхай яму скажуць ад майго імя, што як толькі мы справімся з немцамі, я памагу яму разграміць паўлодзінцаў. А вы падрыхтуйце на вакзале ўсё, што трэба. Калі наш план праваліцца, дык давядзецца эвакуіраваць горад і адкрыць немцам дарогу... Не выпускайце з-пад увагі халмянцаў, калі яны з'явяцца. Рабіце энергічна!

Патоцкі не паехаў, як меркаваў, у той дзень. Паўстанне ў горадзе затрымала яго. Калі становішча было адноўлена, у габінеце Эдварда быў распрацаваны прапанаваны Патоцкім план разбраення немцаў. Порсткі Патоцкі абараняў яго так горача, што Эдвард не мог пярэчыць, асцерагаючыся каб яго не абвінавацілі ў баязлівасці.

— Вы кажаце—рызыка, але дзе яе няма? Я сам буду памагаць вам і я ўпэўнены, што мы разброім немцаў,—вельмі ўпэўнена гаварыў Патоцкі.

У часе іх гутаркі а. Іеронім паведаміў, што прыехала дэлегацыя ад халмянцаў. Эдвард загадаў арыштаваць яе.

— Я іх павешу. Яны разграмілі наш фальварак у Халмянцы, а тут забралі коней, якія я купіў,—крыкнуў ён.

Але тут раптоўна ўмяшаўся Патоцкі.

— Павесіць можна заўсёды. Ці не можна іх скарыстаць для нашых замыслаў?

Эдвард здзіўлена паглядзеў на яго.

— Вы думаеце? Гэта-ж зброд!..

— Нічога, нічога! Няхай айцец Іеронім з імі пагутарыць. Скажыце ім, што калі яны прышлюць да вечара пяцьдзесят чалавек да вакзала і дапамогуць нам адабраць у немцаў зброю, дык атрымаюць частку здабычы, грошай і графскае дараванне,—звяртаючыся да айца Іероніма, загадаў Патоцкі.—Ну, вы самі ведаеце, як гэта ўладзіць...

А. Іеронім пайшоў, але хутка вярнуўся.

— Яны просяць, каб сам вяльможны пан сказаў ім гэта.

Эдвард зірнуў на Патоцкага.

— Нічога, ідзіце. Гэта-ж ні да чога не абавязвае.

Эдвард устаў.

Вечарам, калі ў маёнтку Могельніцкіх сабраліся амаль усе нямецкія афіцэры, Эдвард і Патоцкі, акружаныя канвоем, паехалі на вакзал.

Спехам сабраныя на вечар паненкі старанна забаўлялі гасцей. Павесялеўшы Юзэф не шкадаваў віна.

Немцы па-троху асвойваліся.

Шмультке і Зоненбург не адыходзілі ад Стэфаніі. А шустрая полька надарала немцаў хітрымі позіркамі, смяялася. І ніхто не мог падумаць, што робіцца гэтым часам на вакзале.

Даўганогі нямецкі салдат бегаў ад вагона да вагона і ўзрадавана крычаў у адчыненыя дзверы:

— Спяшайце атрымаць па сотні марак! А то, ліха на яго, не хопіць, тады застаніцеся з носам. Грошы раздаюць у першым класе вакзала...

Вагоны апусцелі. Густы натоўп салдат запоўніў залы першага і другога класа. Фельдфебель выклікаў па прозвішчу, а тры служачых управы выдавалі кожнаму па сто марак папяровых грошай. Каля сталоў—штурханіна, крык, сварка. Нехта атрымаў ужо ў другі раз, яго падлавілі...

А гэтым часам Дзёбек, ад якога яшчэ патыхала гідкім смуродам, не гледзячы на тое, што ён тройчы мыўся ў лазні, куды раз-па-разу ганяў яго Врона, вёў з некалькімі жандармамі Варабейку да паравоза.

— Садзіся і руш да эшалона. Падыйдзеш і адразу-ж націскай на ўсе колы, каб эшалон у момант быў вывезен за станцыю.—Адвязеш вярсты за чатыры і спыніся. Глядзі—калі што не так...— і ён паказаў памочніку машыніста на рэвальвер.

— Але яны заб'юць мяне за гэта!

— Ні чорта табе не будзе. Садзіся і руш. А будзеш размаўляць, тут табе і амба!

Варабейка, клянучы сябе за тое, што астаўся на станцыі, палез на паравоз.

Па станцыі зашугалі дзікія воклічы. Грукочучы на стрэлках, усё больш паскараючы ход, састаў шпарка праімчаўся паўз вакзал і знік за дэпо.

Некаторыя салдаты паспрабавалі дагнаць, але, хутка ўбачыўшы, што гэта бескарысна, спыняліся.

У большасці салдаты былі без зброі. Толькі унтэр-афіцэры мелі рэвальверы і некаторыя салдаты—цесакі.

— Здрада! Нам здрадзілі!—ляцелі з усіх бакоў воклічы абурэння.

Узлаваныя салдаты збілі ні ў чым не вінаватых служачых управы, абярнулі стол з грашыма.

Белабрысы лейтэнант у пэнснэ, адзін з афіцэраў, якія засталіся на вакзале, паспрабаваў навесці парадак.

— У каго ёсць зброя, да мяне!

Але было позна. Вакзал быў абкружаны атрадам Могельніцкага і людзьмі Патоцкага. А дарогу на поўнач перагараджалі халмянцы. Імі камандаваў высокі селянін, які падпарадкаваўся парадам Зарэмбы. Зарэмба з двума дзесяткамі легіянераў таксама быў паміж халмянцаў.

Некалькі залпаў прымусілі нямецкіх салдат па адным выйсці з будынку, як ім было загадана.

Праз паўтары гадзіны, немцы, абкружаныя з трох бакоў палякамі, былі выведзены за станцыю. Яны былі без шынеляў, якія з іх пазнімалі, а некаторыя і разутыя.

— Увага!—зароў Зарэмба.—Вам загадана рушыць напера

спыняючыся ні на адну хвіліну. Дойдзеце да фатэрланда і пешкам, нічога!

Панурая маўклівасць была яму заместа адказу.

Некалькі сот чалавек моўчкі ступалі па гразі, панура апусціўшы галовы і затаіўшы лютую нянавісць да людзей, якія іх ашукалі...

— Ну, а што я вам казаў?—у захапленні гукнуў Патоцкі, падгоцваючыся на неспакойным кані.—Цяпер паедзем да паноў афіцэраў. З імі мы будзем больш ветлівымі. Трэба ўсё-ж памятаць, што яны трымаліся сёння прыстойна. Я напішу князю Замойскаму каб ён прапусціў іх без эксцэсаў.

— Так, вядома,—даў згоду Эдвард.

Эшалон мінуў пусты раз'езд і ўляцеў на суседнюю станцыю. Варабейка спыніў паравоз і саскочыў са ступенек.

З усіх бакоў да эшалона беглі ўзброеныя людзі.

— Гэй, хлопцы, што гэта такое? Адкуль састаў? Бач, вунь і немцы два! Во, яшчэ адзін...

Варабейку акружылі. Дужы, з шырокай барадою, дзядзька, перакрыжаваны кулямётнымі істужкамі, з наганам і бомбай за поясам, запытаўся:

— Хто ты такі? Адказвай! Я—атаман Беразня.

— Паўстанцы, значыць?—узрадаваўся Варабейка.—А я думаў ці не да паноў я гэта ў рукі трапіў? Выходзіць, да сваіх...—ён радасна ўсміхаўся.—А я вам, таварышы, броневік прывёз і чатыры гарматы. Будзе чым прыпаркі панам рабіць... У нас не вышла. Узняліся мы, значыць, сваіх з турмы вызвалілі, расчыхвосцілі легіянераў, дык на табе—немцы ўмяшаліся ў гэту справу! Цэлы полк! Вядома, разбілі нас. Нашы пад Сасноўку адышлі, а ў немцаў з ляхамі тузаніна пачалася. Узялі мяне ляхі за жабры, каб я нямецкі эшалон са станцыі вывез. Ну, дык я і дапёр сюды. Вось як яно вышла, таварышы.

Людзі, якія яго акружалі, слухалі гэта моўчкі.

— А ты, часамі, не з большэвікоў будзеш?—запытаў у яго барадаты, які назваў сябе Беразнёю.

— Фактычна з'яўляюся парцейным комуністам,—з гордасцю адказаў Варабейка.

— А-а-а, комуністам!—і барадаты брыдка вылаяўся.—Дык мы вашага брата да ногця ціснем. Бярыце яго, хлопцы!

Варабейка разгублена азіраўся.

— А хто-ж вы такія?

— Мы—пятлюраўцы. Не чуў пра такіх, а? Жыдоўскі прыхвасцень!—жорстка выскаліў зубы барадаты.

— Значыць, вы—контра?—раптоўна аслаблым голасам праказаў Варабейка.

— Разумей, як хочаш. Завядзіце яго за пераезд і пусціце да іх бога,—махнуў рукою барадаты.

Некалькі чалавек схапілі Варабейку і павялі яго ў бок.

У эшалоне ўжо адбываўся грабеж.

— Тут ці што канчаць будзем? Навошта яго цягнуць далёка?—сказаў адзін пятлюравец.

Варабейка тужліва азірнуўся вакол.

За пераездам пачыналася поле. Дзьмуў халодны вецер. Варабейка ўздрыгануўся ад жаху, што вось зараз яго заб'юць і ніхто нават не ўведае пра гэта. І ўсё гэта так проста...

— Ты праваслаўны? Дык перахрысціся, а то зараз прыкончым,— спакойна праказаў адзін пятлюравец.

— За што?—неўцямна запытаў Варабейка.

— Сказаў атаман—пусціць у расход, дык значыць, заслужыў...

— Што-ж я вам такое зрабіў? Эшалон з дабром прыгнаў. Хіба вам не брыдка забіваць рабочага чалавека ні за што, ні праз што?

— Дык ты-ж комуніст?

Варабейка баяўся, што яму стрэляць у спіну і паварачваўся то да аднаго, то да другога.

— Мы-ж, рабочыя, усе большэвікі! Што-ж тут такое? Мой бацька праз усё жыццё батрачыў. За што-ж забіваць?

Адзін з пятлюраўцаў сказаў раздумліва:

— Можа, мы яго сапраўды пусцім? На што ён нам?

Другі нерашуча дадаў:

— Чорт з ім—няхай ідзе!

Трэці, які ўжо зняў вінтоўку, зноў закінуў яе за спіну.

— Каціся, ды глядзі, не трапляйся атаману на вочы. А з камуніі вылазь, дурань!

— А вы мне ў спіну не жыганіце?—адкрыта запытаўся Варабейка.—Калі так, дык лепш бі цяпер у сэрца, каб не пакутаваць. Усёроўна—адзін канец...

— Валяй, валяй!

Першыя дзесяць крокаў Варабейка азіраўся, чакаючы стрэлу. Потым рынуўся ў поле.

Пад раніцу ўдарыў мароз. Лужы і балоты замерзлі. У хаце Цыбулі ў Сасноўцы, сабраўся штаб. Было вырашана: члены Рэўкома варочаюцца ў горад для работы. Тыя рабочыя, якія спадзяваліся, што іх не выкрыюць, таксама вернуцца ў горад. Частка застанецца ў атрадзе Цыбулі. Астатнія рушаць у Паўлодзь. Пад канец паседжання прыімчаўся з Халмянкі конна селянін з страшнай весткай: Могельніцкі загадаў павесіць у горадзе, супроць управы, адзінаццацёх халмянцаў. Астатнім-жа далі па пяцьдзесят шампалоў і, адабраўшы коней, пусцілі дахаты.

Патлай, Шчабель, Чобат і частка рабочых, пагрузіўшы на фурманку кулямёты, рушылі ў Паўлодзь. Стэповы не хацеў варочацца ў горад і адправіўся разам з імі.

З шасцідзесяці адабраных у фальварку коней. Шчабелю ўдалося выпрасіць у сасноўцаў толькі дзесяць.

Калі фурманкі, нагружаныя скрынкамі з вінтоўкамі і патронамі, якія вывезлі з горада, выехалі з вёскі, Шчабель з дзесяткам конных таксама рушыў у дарогу.

— А вы, дзяўчаты, па нас не плачце! Хутка вернемся, пачнем жыць шчасліва і хораша,—жартаваў ён, развітваючыся з Олесей і Сарай, якія аставаліся ў Сасноўцы.

Адзін за адным у горад вярнуліся—Кавала, Мяцельскі, Ядвіга і Раеўскі.

Кавала вельмі здзівіўся, калі ўбачыў на ганку вадакачкі незнаёмую жанчыну, якая старалася каля самавара.

„Гэта яшчэ што такое?“—падумаў ён.

Убачыўшы яго, жанчына ўсміхнулася.

— Відаць, гаспадар прыйшоў? А то няёмка ў чужым доме гаспадарыць. Я—Андрыйкава маці, Марыя Птаха

— Дзень добры! Вось як давялося пазнаёміцца.—Кавала па дружацку паціснуў ёй руку.

Маці Андрыя—высокая, дужая і, што здзівіла Кавалу,—маладая.

Калі Раеўскі, які ішоў адзаду, ступіў у двор, ён заспеў іх у часе ажыўленай гутаркі.

— Дык вось-жа я ім і кажу: „А чорт яго ведае, дзе яго носіць! Хіба я яму—нянька? Дзякаваць богу, семнаццаць год! Я за яго не адказчыца. Як зловіце—дык хоць скуру з яго злупіце“! А ў самой сэрца баліць. Толькі, думаю, не зловяць яны яго, бо мой Андрыйка не з такіх, каб ім у рукі даўся. Ох, і гора мне з хлопцамі! Які адзін, такі і другі... Меньшага хоць адлупцаваць магу, а таму што зробіш?

Убачыўшы Раеўскага, яна змоўкла.

Мінуў тыдзень. Зіма настала адразу. Ядвіга кватаравала ў старой сястры. Марцэліна служыла прадаўшчыцай у польскім кааператыве. Набожная, маўклівая, яна ніколі не была адкрытай з сястрою. Як усе старыя дзеўкі, мела свае дзівоты: у яе пакоі было сем кошак. Яна надала ім самыя адмысловыя імёны і забаўлялася з імі ўвесь вольны час. Кожнае нядзелі акуратна наведвала касцёл і ў ксяндза лічылася за добрую парафіянку. Часам яна хадзіла ў госці да ксяндзовай экމномкі, адзінай яе сяброўкі.

Сёння вечарам, прыйшоўшы да яе, Марцэліна не застала яе дома. Дзверы адчыніў сам ксёндз, дабрадушны таўсцяк з шырокай лысінай.

— Уваходзьце, панна Марцэліна, пані Ванда зараз вернецца,—запрасіў ён.—Ну, што ў вас добрае, панна?—запытаў ён, калі яна ціхмана села ў куце гасцінай.

— Нічога, дзякую. Жывем цяпер з сястрою.

— Ах, вось як!—праказаў ён, каб што-небудзь гаварыць.—Скажыце, чаму я не памятаю вашу сястру?

Марцэліна патупіла вочы.

— Яна не ходзіць у касцёл, пане ксёнджэ.

— Ах, вось як! Яна, здаецца, удава? Прыпамінаю, што вы прасілі мяне ўвосень памаліцца за яе мужа.

— Дзякаваць богу, ён жывы, пане ксёнджэ. Ен нядаўна вярнуўся.

— Вось як

Ксёндз хадзіў дробненькімі крокамі ў пакоі, спачувальна выпытваў, шкадаваў, быў такі ласкавы, што расчуленая Марцэліна ахвотна расказала яму ўсё, пра што ён пытаўся.

— Так, так... Нічога, мая родная, не бядуйце. Сумна, вядома, вельмі сумна, што ўсе яны адступіліся ад бога. Але святы айцец усемагутны. Яны вернуцца да яго... —задуменна праказаў ксёндз.

— Добры вечар, айцец Іеронім. Вось і зіма. І снег ідзе. Ну, хадземце да мяне...

— Вам не здаецца, айцец Іеронім, усё гэта крыху дзіўным?

— Так, вядома. Асабліва цяпер. Вы кажаце, што яе прозвішча Раеўская?

Два дні, апрануты ў штацкае, Дзёбек сачыў за Ядвігай. Ноччу яго змяняў Кабыльскі. Дзёбеку два разы пашэнціла ўбачыць яе ў твар. Ён добра запомніў рысы гэтай поўнай, прыгожай жанчыны ў белай вязанай шапачцы, яе ладную пэходку, мяккі, прыемны голас. Ён мог пазнаць яе здалёку. Па выгляду ён даў ёй спярша трыццаць год. Але, спаткаўшы ў другі раз і згледзеўшы ў пасме валасоў здрадніцкую сівую палоску, дадаў яшчэ пяць.

Нічога падазронага гэта жанчына не рабіла. Да вечара яна працавала ў майстэрні. Варочаючыся дахаты, зайшла ў краму. Потым гадзін у дзевяць пашла к доктару, пану Мяцельскаму, і пасля— дахаты. Ноччу нікуды не хадзіла.

Пад вечар другога дня Дзёбеку абрыдзела бескарысная хадня. Ён даручыў сачыць аднаму з сваіх агентаў, а сам заняўся падрабязнай разведкай.

Неўзабаве ён ужо ведаў, што Раеўская раней кватаравала на другой вуліцы, і не адна, а з сынам. Пад выглядам папраўкі камашаў ён заходзіў да шаўца Міхельсона. Клубок пачынаў паступова разблытвацца. Ад Шпільмана капітан Врона выведаў пра Сару.

— А дачкі шаўца няма! І сына гэтай Раеўскай таксама няма... Тут, пане начальнік, не чыста!

Калі Баранкевіч расказаў усё пра Раймонда Раеўскага, Врона сам узяўся за следства.

На трэці дзень яшчэ ўранні Ядвіга зайшла да жонкі Патлая.

— Ёсць!—узрадаваўся Дзёбек.

Гэта быў першы цяжкі доказ. Жонку Патлая пасля паўстання, у часе якога яна была вызвалена, рашылі пакуль што пакінуць у спакоі. Але за домам наглядалі.

— Будзьце асцярожны, а то сарвяце ўсю справу!—запыніў Врона балбатлівага Дзёбека, калі той дакладваў пра свае поспехі.— Пакуль што вы нічога не ведаеце.

Раніцою наступнага дня Вроне пазванілі ўраз і з заводу і з вакзальнага жандармскага ўпраўлення.

— Сёння ноччу зноў былі расклеены адозвы Рэўкома з некалькіх слоў:

„Таварышы рабочыя! Мы не разбіты. Мы толькі часова адступілі. Чакайце—мы хутка вернемся. Няхай вораг гэтае ведае. Няхай жыве ўлада рабочых і сялян! Старшыня Рэволюцыйнага камітэта Хмуры“.

Врона паклаў тэлефонную трубку і задумаўся.

Пасля дастаў маленькі бляшаны карабочак, узяў з яго крышку белага парашку і з асалодай уцягнуў яго ў нос.

Раеўскі спыніўся на рагу каля магазіна, чакаючы Ядвігі. Яна павінна была прайсці тут пасля работы. Яму трэба было пагаварыць з ёю. Да гэтага часу яны сустракаліся толькі ў Мяцельскага. Прыёмная доктара была самым зручным для гэтага месцам.

Побач яго стаяў нізенькі чалавек у цёплым кажушку. Па даўняй прывычцы не зварачваць увагі сваей нерухомасцю, Раеўскі павярнуўся спіною да ветру і закурыў. Вецер гнаў па вуліцы лёгкі сняжок.

— Дазвольце прыпаліць,—папрасіў чалавек у кажушку і дастаў азяблымі пальцамі пачак дрэнных папярос.

— Калі ласка.

Па вымаўленню Раеўскі пазнаў, што ён паляк. Па тратуару ішлі людзі. Холад падганяў іх. У шкле вітрыны Раеўскі згледзеў праходзіўшую Ядвігу. Яна не заўважыла яго. Чалавек у кажушку заспяшаўся. Ён так і не прыпаліў.

Раеўскі паглядзеў яму ўслед і, пыхкаючы папяросай, спакойна пайшоў за ім. Ён бачыў,—Ядвіга ўвайшла ў хлебную краму. Чалавек у кажушку запыніўся. Раеўскі затрымаўся каля афішы. Калі Ядвіга вышла, чалавек у кажушку рушыў за ёю. Раеўскі прайшоў паўз дом, дзе жыла Ядвіга, другім бокам вуліцы, нават не зірнуўшы туды.

Чалавек у кажушку вяла дамаўляўся ў завулку з рамізнікам.

Раеўскі ішоў і думаў. Адчуўшы гаркоту ў роце, ён выняў папяроску. Яна была дакурана,—гарэў мундштук.

Востры позірк знайшоў лішняга чалавека каля дома Мяцельскага.

На кватэры доктара стаяў шапіграф.

„Кавала цяпер у Мяцельскага. А, вось і яшчэ адзін! Ну, гэты пэўны дурань! Яшчэ не паспелі пададбраць спрактыкаваных“.

Раеўскі прайшоў лішнія два кварталы, звярнуў у завулак. Пераканаўся,—за ім нікога няма.

„Ядвіга, Кавала, Мяцельскі,—хто быў неасцярожны? Нікога з іх ужо нельга папярэдзіць. Ясна—Ядвізе не трэба было варочацца ў горад“... Сэрца раптам сціснулася цяжка і балюча. „Ядвіга!“ Ён ударыўся плячом аб ліхтарны слуп і адразу апамятаўся. Шпарка пайшоў да пасёлка. Трэба папярэдзіць астатніх...

Гнат Вярба абышоў усіх, параіўшы выбірацца з горада, як мага хутчэй.

Потым Раеўскі паслаў яго ў горад. Праз гадзіну ён вярнуўся з сумнай весткай.

Як толькі сцямнела, Раеўскі і Вярба вышлі з горада. У дарозе яны размінуліся са Шчабелем. Той, пакінуўшы ў суседняй вёсцы каня, прабіраўся ў горад пешкам.

Ноччу ў пасёлку пачаліся павальныя арышты.

## *Раздзел адзінаццаты*

Люта выла пурга... Яна кідалася ў вокны ляснога млына ахлап'ем снегу. Гайдаліся стагоднія дубы... Лес устрывожана гудзеў...

Холадна рабілася ў Андрыя на сэрцы. Ён прытуліўся спіною да дуба, сціскаючы ў руках карабін, і да болю ўзіраючыся ў начную цемру. Кожны трэск паламанай галінкі чуўся як чалавечыя крокі. Калі ён стамляўся ад нервовага напружання, то абыходзіў дуб і ў спачыне пазіраў на агні, якія струменіліся з акон старога млына.

Агні сведчылі аб жыцці, аб людзях, якія схаваліся ад лютай завеі ў цёплых млынаровых пакоях...

„Пшанічак, напэўна, зноў што-небудзь пра мяне брэша... Олеся смяецца напэўна. Што-ж, няхай смяецца".

Андрый бязвольна ўсміхнуўся. Цёплая хваля агарнула сэрца, як было заўсёды, калі ён думаў пра Олесю. Людзі завуць гэтае каханнем. Што-ж, няхай гэта будзе каханне!

Задумаўся Андрый, замроіў...—А што калі ён зробіцца славутным байцом? Пра яго будуць хадзіць легенды па хутарах і сёлах, страшным стане яго імя для ворагаў, а ён, адважны, малады, будзе імчацца наперадзе сваіх эскадронаў, ачышчаючы родную зямлю ад шляхты.

І пан Баранкевіч, ратуючыся ад яго, будзе гаварыць сваёй тонкашыяй жонцы, гэтай здохлай кошцы:

— Гэта-ж той самы Птаха, пся яго маць, той самы качагар з кацельнай нашага завода.

Олеся будзе сачыць за яго перамогамі і ў душы, напэўна, будзе ганарыцца, што вось гэты самы хлопец, пра якога ўсе гавораць, цалаваў яе калені і гаварыў палкія словы... І ўжо не будзе жартаваць з яго, і ў вачах яе ён ужо не ўбачыць дрэнна захаванай насмешкі.

Гляне Олеся на яго, пакрытага славай, і ўпершыню ўбачыць ён у яе позірку захапленне і любоў...

Ледзьве не побач затрашчала сухое лам'е. Рукі самі па сабе рванулі карабін да пляча. Рэзкі вокліч вырваўся з грудзей.

— Стой! Хто ідзе? Страляю!

Нешта цёмнае, высокае, шавяльнулася наперадзе і прастужаны голас адказаў:

— Эй! Хто там ля млына? Я—Шчабель!

Андрый апусціў карабін. Ён пазнаў голас.

— Гэта я, Птаха!—крыкнуў ён.
Вось галава каня побач, а коннік у кажуху і кучомцы ўжо нахіліўся да Андрыя, узіраючыся.
— Куды каня паставіць? Хто там у хаце? Цыбуля тут?—хрыпеў Шчабель.
— Усе там!—крычаў Птаха.—А што ў Паўлодзі?
— Я з горада. Там магіла. Рэўком забралі...
Птаха жахнуўся.
— Ды што-ж гэта?

Гарачыя спрэчкі цягнуліся да позняй ночы. Вестка пра тое, што Рэўком арыштаваны, прыціснула ўсіх.
Распранаючы кажух, Шчабель кінуў два словы:
— Нехта прадаў! Усіх забралі...
Шчабель не ведаў, што Раеўскаму пашчасціла выехаць у Паўлодзь.
Доўга, вельмі доўга цягнулася ў пакоі цяжкое маўчанне. Шэра-бледным стаў твар Раймонда. Вялізны Цыбуля панура церабіў сваю шырокую бараду. Ён утаропіўся ў кут, нібы ў цемры, пад лаўкай было штосьці, што прыцягала яго позірк.
Схіліўшы галаву да каленяў, каб захаваць слёзы роспачы, зашылася ў куток каля печы Олеся. Яшчэ нядаўна звонкі смех весяліў усіх. Шырока адкрытымі вачыма, у якіх быў жах і сум, пазірала на вялікага Цыбулю Сара, дарэмна намагаючыся адшукаць у яго паводзінах хоць іскру надзеі. Але змрочны быў цяпер сасноўскі паўстанец.
Птаха, якога толькі што змяніў на варце Пшанічак, раптам усхапіўся з лаўкі і ў лютай злосці кінуў на стол сваю несамавітую шапчушку:
— Чаго-ж вы сядзіце, дзяды? Ратаваць рэўком трэба! Ударым усім атрадам на горад і душа з іх вон! Пасячэм паноў і сваіх вызвалім!
Цыбуля павольна павярнуў да яго сваю цяжкую галаву.
— А чым ударыш, сысунок? Сядзеў-бы ціхам, разумнейшы быў-бы!
Андрыя нібы апякло:
— Як, чым ударыць? Я-ж кажу, усім атрадам! Падняць мужыкоў у вёсках! А ты мяне сысунком не тыкай, а то я не пагляджу, што у цябе барада да пояса, а як садану...
— Андрый...—ціха сказала Сара.
Птаха апамятаўся. Сачок злосна хмыкнуў.
— Ты не разыходзься, хлапчанё! За такія словы можам бізуноў усыпаць. Хоць тут не царская армія, але камандзір і ў нас ёсць камандзір і калі ён гаворыць, то павінен слухаць і разумець. А вось як падрасцеш, цябе за камандзіра абярэм і будзеш свой розум даказваць.
— Пра бізуны ты, гэта, дарэмна!—хмурна азваўся Пшыгодскі.— Гэта ў цябе яшчэ фельдфебельская замашка засталася.
Павольна вымаўляючы украінскія словы, Раймонд запытаў:

— Таварыш Цыбуля, вы не хочаце рабіць напад на горад, хоць-бы і на турму? Або, кажучы проста, вы не рушыце свой атрад для выратавання?

Цыбуля цяжка налёгся ўсім цяжарам свайго цела на стол і збянтэжана кашлянуў.

— Хіба я казаў, што адмаўляюся? Але як яго рушыць? Самі, нябось, ведаеце,—пяцьдзесят мужыкоў на конях, у дваццацёх стрэльбы казённыя, у астатніх—паляўнічыя бярданкі. Ну, яшчэ чалавак дваццаць пяць на санях пасадзім. Я за сасноўскіх гавару, за сваіх. У другія сёлы не вельмі совайся. Там самі сабе гаспадары. Скажам, каб на іх націскалі карнікі, то, вядома, агрызацца будуць. А гарадскіх выручаць, дык мусіць не пойдуць. У горадзе войскаў больш як у нас. Каму ахвота пад кулямёт лезці?

— Дык ты спалохаўся?—недружалюбна запытаў Шчабель.

Цыбуля пацямнеў.

— Гарачы вы народ, гарадскія! Вам вынь ды пакладзі... Я, скажам, пайду з вамі, не адмаўляюся, я старую дабросць заўсёды памятаю. Я яшчэ не забыўся, хто мяне ад растрэлу панскага выратаваў, але-ж мужыкам якая да гэтага справа? Ды і сказаць праўду, пераб'юць нас як гусей да аднаго, нікога мы не выручым і свае галовы загубім, а я, як камандзір, за ўсё павінен адказваць.

Шчабель рэзка пераняў яго:

— Кінь, Цыбуля, гэтыя байкі пра белага бычка! Скажы адкрыта,—слабая ў вас, у партызан, гайка. Далей за сваю хату ваяваць не ходзіце. Усё стараецеся каля баб сваіх быць бліжэй, а на рэвалюцыю вам напляваць! Эх! Дробная буржуазія ў вас сядзіць, будзь яна тройчы праклята!

— Гэта мы буржуі?—здзівіўся Сачок.

— А што-ж ты такое?—крыкнуў яму Птаха.—Калі мы вашых з турмы выручалі, на смерць ішлі. А цяпер, калі Рэўкому паны шыбеніцу майструюць, дык у вас „мая хата ад краю, я нічога не знаю“.

— Андрый, не трэба сварыцца. Бо таварыш Цыбуля не сказаў гэтак. Праўда, Емельян Захаравіч?—умяшалася Сара, падыходзячы да паўстанца.

Цыбуля цяжка заварочаўся на лаўцы і, зноў бяручыся за сваю бараду, прамармытаў:

— Калі я буржуазея, дык няма чаго таройкаць, а калі да мяне па-таварыску, дык я-ж не адмаўляюся падмагнуць, але на горад не пайду. Пераб'юць...—цвёрда адкроіў ён апошняе слова.

— Тады нашым, выходзіць, магіла?—глуха праказаў Шчабель.

— Ну, не! Гэтага не будзе, пакуль мы жывы!—вырвалася ў Раймонда.

— Раймонд, калі яны не хочуць, дык мы самі пойдзем,—разгневана сказала Олеся.—Я таксама пайду!

— І я...—ціха прагаварыла Сара.

— І табе, Цыбуля, не сорамна дзяцей на смерць пускаць?—не сцярпеў Пшыгодскі.

— Сказаў, на горад не пайду. А каму ахвота, няхай ідзе. Япічэ сямёх убяруць у рукі.

— Ну, і чорт з вамі!—крыкнуў Птаха.—Збірайся, братва! Нам тут няма чаго рабіць. Няхай мяне пасякуць як капусту, але каб я тут сядзеў і чакаў, калі нашых перавешаюць, дык лепш мне не жыць на свеце!

І Шчабель і Пшыгодскі разумелі безвыходнасць становішча. Было ясна, што без дапамогі партызан усялякая спроба вызваліць Рэўком—асуджана на няўдачу. Пшыгодскі ведаў, які ўпарты Цыбуля. Зламаць яго было нельга, і ён шукаў іншых спосабаў. І раптам не хто іншы, як Птаха, падказаў яму гэтыя спосабы.

— Як ты думаеш, Шчабель, іх будуць судзіць ці так?...—запытаў Пшыгодскі.

— Які там суд! А можа, для блізіру ваеннапалявы. Усёроўна адзін канец. Калі заўтра нічога не зробім, дык, бадай, будзе позна.

— Як позна?—прашаптала Олеся, нямеючы.

Маўчанне. Яно рабілася пакутным.

— Ну, калі нашы загінуць, тады канец,—нікому літасці не дам! Год буду збіраць народ, а збяру, і тады будзе расплата. Будзь я тройчы пракляты, калі я не перарэжу ўсіх гэтых Могельніцкіх. Уварвуся ў маёнтак і ўсіх да аднаго пад корань. Кроў за кроў!— у запале крычаў Андрый.

— Чакай, хлопча, а гэта сапраўды ладна!—радасна крыкнуў Пшыгодскі.

— Што ладна? Могельніцкіх рэзаць? Блізка локаць, але не ўкусіш!—з пагардлівым неразуменнем усміхнуўся Цыбуля.

Але Пшыгодскі, ужо не слухаючы яго, абвёў усіх узрадаваным позіркам.

— Вось паслухайце, як дзельна выходзіць,—пачаў ён.—Як усё гэта панства і афіцар'ё з намі робіць? Па звярынаму! Калі ім у лапы трапіў—развітвайся з жыццём. Не хочаш у ярме хадзіць— куля ў лоб. Дык мы хіба святыя, ці што? Змяю, калі яна кусаецца, голымі рукамі не ловяць...

— Ты гэта да чаго?—перабіў яго Сачок.

— А да таго, што наляцім мы сёння перад досвіткам, скажам не на горад, а на графскі маёнтак.

— Што-ж хіба з бабамі ваяваць будзеш? Бо граф у горадзе, да яго не дастанеш?

— Ты памаўчы, Сачок.

— Наляцім, значыць, на маёнтак. Заставу іх у малой Халмянцы абыйдзем кругом. У абход вёрст дванаццаць будзе. У такую пагоду сам чорт не ўгледзіць. Ну, дык вось... Змяцем мы там іх ахову. Могельніцкаму і ў галаву не прыдзе трымаць у сваім тылу вялікую часць. Ён-жа ведае партызанскую звычку—з сваёй бярлогі не выходзіць.

— Ну, ну,чулі, што далей?—агрызнуўся Сачок.

— А далей—забярэм жонак іх, старога гада ў прыдачу. А то і сам Могельніцкі ў рукі трапіць. Ездзіць ён туды з горада часцяком. Я там усе хады ведаю, забярэм усіх, у іх-жа сані пасадзім

і айда! Шукай ветра ў полі. Схаваем іх далей у зручнае месца, а яму па тэлефону, калі сам не пападзецца, скажам: калі хоць аднаго з нашых пальцам кранеш, дык мы тваіх мілаваць ужо не будзем. А?

— Малайчына, Пшыгодскі, вось гэта па маему! І як проста, чорт вазьмі!—у захапленні гукнуў Птаха.

Усе пазіралі на Цыбулю, чакаючы, што ён скажа.

Вялікан пачаў не адразу. Ён заўсёды цяжка думаў, ніколі не спяшаўся. Але ўжо адна яго маўклівасць надавала надзею.

— Так, гэта больш падыходзіць. Тут можна і памеркаваць. Гэта разумней, чым на горад перціся. Толькі баюся я, наляцім мы на маёнтак, а там нікога і няма і выйдзе гэта ў нас упустую...—усё яшчэ хістаўся Цыбуля.

— Значыць, рэшана?—падганяў яго Шчабель.

— Ты як, Сачок, на гэта?

— Я, Емельян Захаравіч, як і вы... А так думка не благая. Можа, там з барахла мужыкам сёе-тое перападзе...

— Ну, гэтае вы кіньце!—спыніў яго Раймонд ціха, але так рашуча, што Сачок збянтэжана заміргаў.

— А што я? У нас-жа яно і награблена.

— Нам рэўком выручаць трэба, а ты...—абурыўся Шчабель.

— Добра, так і быць, я згодзен,—заканчваў Цыбуля ў голас сваю думку. І спакойным тонам начальніка загадаў.

— Едзь, Сачок, у вёску, каб праз гадзіну хлопцы былі на конях. Возьмеш, каторыя на конях, пешыя няхай астаюцца. Для такой справы хопіць. Каб праз гадзіну...

Людвіга стаяла каля вялізнага акна бібліятэкі.

Начная мяцеліца сціхала. Адзінокія сняжынкі павольна ападалі на пушысты снегавы дыван.

Ён паехаў учора позна вечарам, нават не развітаўшыся. Што здарылася? Чаму ёй стала так няўтульна і самотна ў гэтым вялізным доме?

Шмат што было для яе няўцямным. У шмат чым яна безнадзейна заблытвалася. Усе яны—і Эдвард, і Патоцкі, і айцец Іеронім гавораць пра барацьбу за незалежную Польшчу, але замест гераізма, шляхетнасці, самаахвярнасці—здрадніцтва, збіванні, шыбеніца. Гэта палітыка. А яе асабістае жыццё? Яна тут чужая.

Праўда, і раней яна ў гэтым доме не была блізкай. Яе кахаў і саграваў толькі ён адзін.

Хіба быў для яе блізкім калі-небудзь гэты агідны стары, бяззубы распуснік, пра подласць якога яна нават і не ўяўляла, пакуль гісторыя з Францыскай не адкрыла ёй вочы?

Гэты Уладэк?

Або Стэфанія... Але Эдзі, яе Эдзі?

— Няўжо,—думала Людвіга,—я не кахаю яго? І хто вінаваты ў гэтым? Ці сам або, можа, яна? Бо, як выявілася, яна не ведала свайго мужа! А калісьці ён здаваўся для яе героем, рыцарам без страху і заганы. Хіба магла яна калі-небудзь падумаць, што ён здольны на такую подласць? Яна ўздрыганулася, успомніўшы

шыбеніцы каля Управы... Гэта ён, Эдвард, загадаў павесіць здрадліва захвачаных ім людзей, якія паверылі ў яго ганаровае слова.

Хто штурхануў яго на гэта? Врона? Яна баіцца гэтага чалавека.

Людвіга адышла ад акна.

Высокія дубовыя шафы, запоўненыя кнігамі, стаялі ўздоўж сцен. Сюды, у бібліятэку, яна забіралася часта на цэлыя гадзіны і адыходзіла ў казачны свет прыгод, фантастыкі і рамантыкі.

Цяпер яе цягнула сюды жаданне забыцця.

Яна падышла да адчыненай шафы і абыякавым поглядам зірнула на залатыя літары кніг. „Пісьмы аб мінулым"—прачытала яна. Думка зноў скіравалася на Эдварда...

Яна ўспомніла пра знойдзенае днямі ў адным з тамоў старое, забытае пісьмо. У ім нябожчыца графіня, маці Эдварда, пісала свайму дамашняму доктару пра „юнацкія дураванні" свайго старэйшага сына, якія яе вельмі непакояць. Хлопчык-жа можа захварэць на благую хваробу. Старая графіня прасіла паважанага пана доктара агледзець пакаёўку Веру, якой будзе даручан „сталы нагляд" у пакоях маладога графа.

Сорам і зневажаная гордасць, рэўнасць і гнеў—усё ўспыхнула зноў, і Людвіга зарыдала. Але слёз хутка ўжо не было. Плакаць аб гэтым цяпер, калі ўсё развальваецца, пасля таго, як ён толькі пагардліва ўсміхнуўся, прачытаўшы гэта пісьмо!

Трэба ехаць да маткі. І там, далёка ад яго, падумаць аб усім і тады рашыць...

На двары грымнуў стрэл. Людвіга падбегла да акна і застыла. Па двары лётаў коннік у кажушку. Ён трымаў у адной руцэ кароткі карабін, з якога, відаць, толькі што стрэліў. Па алеі к сядзібе імчалася яшчэ некалькі коннікаў. З парка проста да пад'езда падляцелі двое і, саскочыўшы з коней, пабеглі к палацу.

За некалькі хвілін двор напоўніўся ўзброенымі коннікамі. Імі камандаваў барадаты вялікан. Ён махнуў рукою і яны рассыпаліся ў розныя бакі, акружаючы дом. Да Людвігі дайшоўся яго голас. Ужо ў доме яшчэ два разы грымнула.

Сумнення быць не магло. Людзі, якія ўварваліся ў маёнтак, былі партызаны.

Няўжо гэта смерць? Вось зараз яны ўварвуцца сюды. Адзін з іх стрэліць у яе. І ўсё... Прасіць літасці, пасля шыбеніц, пасля растрэлаў і падману? Зрабіцца расплатай за жорсткасць Эдзі! На момант страх скаваў яе ўсю, потым інстынкт самаабароны штурхануў яе да дзвярэй, каб замкнуць іх на ключ. Але ступіўшы некалькі крокаў, яна спынілася. Гордасць і ўсведамленне безвыходнасці стрымалі яе. Яна стаяла пасярэдзіне пакою, у трывозе і страху чакаючы, калі адчыняцца дзверы. І яны адчыніліся ад моцнага ўдару нейчай нагі. У бібліятэку ўварваўся высокі хлапец у кажушку і несамавітай шапчушцы, ссунутай на бок. Ён мятнуўся позіркам па пакою.

Заўважыўшы Людвігу, ускінуў карабін да пляча.

— Рукі ўгару! А, чорт, зноў баба!

Ён ураз апусціў карабін і, ледзьве дыхаючы ад бегу, крыкнуў:

— Кажы, дзе мужыкі вашы хаваюцца? Давай іх сюды, усёроўна знойдзем.

І зараз-жа, зглядзеўшы бледны твар Людвігі, больш мякка сказаў:

— Мы чырвоныя партызаны, зразумела? Так што не пужайцеся. Вашых мужыкоў, афіцар'ёў шукаем, а з бабамі мы не ваюем. А вас я павінен забраць на абмен, хадзем!

Людвіга спаткалася позіркам з шэрымі адважнымі вачыма хлапца.

— А вы, можа, не з буржуеў?

— Я графіня Могельніцкая.

— А-а-а! Тады хадзем!—Ён паказаў на дзверы.

Па калідоры бегалі ўзброеныя людзі, абыскваючы ўсе пакоі. Тут Людвіга спаткалася з айцом Іеронімам. Яго вялі двое партызан.

— А, Птаха! Злавіў пташку?—крыкнуў адзін з іх.

— А нам гэты гусь папаў! Мы яго каля тэлефона захапілі,—званіў у штаб,—сказаў другі, трымаючы айца Іероніма за сутану.

Пшанічак, які прабягаў міма і пачуў апошнія словы, крыкнуў, смяючыся:

— Мы, святы айцец, не такія дурні, мы праваду раней парэзалі! Так што ты дарэмна, татуля, стараўся. Калі да нас у рукі трапіў, дык і святы дух табе не дапаможа!

На лесвіцы стаяў высокі малады чалавек, у кароткім ватным пінжаку, падпераханым раменем, на якім вісела шабля.

Рука яго трымалася за рэвальвер, засунуты за пояс. Твар гэты быў знаёмы Людвізе, але ўспомніць, дзе яго бачыла, яна не магла.

Унізе, у вестыбюлі, Людвіга ўбачыла апранутую ўжо ў шубу Стэфанію і разгубленую прыслугу. З вышэйшага паверху, грымаючы прыкладам вінтоўкі, скаціўся Пшыгодскі. Ён люта накінуўся на лакеяў.

— Эй, вы, сабачае племя, чаго раты паразяўлялі? Цягні для паноў шубы, шпа-а-арка! А то...—І ён у злосці кальнуў позіркам старога Юзэфа.

— Скажы, дзе схаваўся гэты мярзотнік Уладыслаў? Я ведаю, што ён тут, у доме. Кажы, дзе ён дзеўся! Бо ты ведаеш, дзе гэтая скаціна хаваецца!—крыкнуў Пшыгодскі да бацькі.

Твар старога Юзэфа пакарэжыўся.

— Я нічога не ведаю. Пан Уладыслаў, напэўна, паехаў. А на табе, відаць, вяроўка плача,—ціха дадаў ён.

— Ладна, рук аб цябе пэцкаць не хочу,—адказаў яму сын.— А шкада,—калі ён тут, і я яго не знайшоў. Эй, хлопцы, цягніце сюды старызну!—крычаў ён наверх.

Некалькі партызан нясл на руках захутанага ў футры старога графа, які анямеў ад перапуду. Высокія дзверы вестыбюля, якія вялі ў двор да пад'езда, былі адчынены. Прама на кані ў прыхожую ўехаў Цыбуля. Яго голас разлёгся на ўвесь дом:

— Жыва, хлопцы, жыва ўпраўляйцеся! шпарка шавяліся! Жыва, кажу вам!

Пшыгодскі кінуўся яшчэ раз агледзець пакой. Наверсе, у габінеце Эдварда Шчабель і Сачок складалі ў графскі чамадан знойдзеныя ў габінеце паперы, Раймонд канчаў пісьмо да палкоўніка.

Праз некалькі хвілін двое саней, укрытых мядзведзевымі скурамі, выязджалі з варот маёнтка. У першых сядзелі: Людвіга, Стэфанія і Францыска, якую Пшыгодскі прымусіў суправаджаць графіню. У другія былі пасаджаны стары граф і ксёндз.

Уз'ехаўшы на шырокую дарогу, тройкі паімчаліся шпарка, акружаныя коннікамі.

Каля пад'езда засталося толькі трох: Раймонд, Птаха і Пшанічак. Праз дваццаць хвілін і яны пакінулі маёнтак.

---

Партызаны парашылі схаваць Могельніцкіх у старым паляўнічым дамку, які належаў памешчыку Манежкевічу.

Дамок стаяў у лясным гушчары. На некалькі кілометраў наўкола расцягнуўся сасновы бор. Бліжэйшая вёска „Гнілыя воды" была за сем кілометраў.

— Тут ціхія мéсцы. Могельніцкаму і ў галаву не прыдзе шукаць тут, у сябе пад носам, ён на Сасноўку націскаць будзе,— настаяў асцярожны Цыбуля.

Олеся і Сара, якія прыехалі сюды яшчэ раніцою, пачалі з таго, што заперлі ў каморку старога вартаўніка і яго жонку, сказаўшы ім, што гэты міжвольны арышт працягнецца не доўга.

Кульгавы на правую ногу партызан, якому вясковыя хлапчукі далі мянушку „Руб дваццаць", дапамагаў ім. Паставіўшы коней і сані ў канюшню, ён увайшоў у дом, зняў шапку, перахрысціўся на распяцце, якое вісела ў куце сталовай, і паволі сцягнуў з плеч вінтоўку.

— Што, хіба веруеш, дзядзька?—поўжартам запытала ў яго Олеся.

— Так, але не тое ўжо, што верую, ці не верую, а звычай ужо такі хрысціянскі,—адказаў „Руб дваццаць".—Ды і святыя ў іх падобны да нашых, хоць вераў іх і польская.

Яны падпалілі ў вялікай печы і каміне. Апрача сталовай у доме было яшчэ тры пакоі і кухня. На сценах у сталовай віселі звярыныя галовы. Даўнейшы пыл і павучынне паказвалі на тое, што ў пакоі даўно не жылі.

Маёнтак Манежкевіча быў за трынаццаць кілометраў адсюль. У дамку жыў толькі лясны вартаўнік.

Калі „Руб дваццаць" вышаў на двор, Олеся ціха сказала да Сары:

— Што там цяпер робіцца? Як ты думаеш, Сарачка?

Сара моўчкі села на край дубовай лаўкі. Олеся трывожна хадзіла па пакоі, на момант затрымлівалася каля акна, паглядаючы, ці не відаць каго на лясным прагалку. Яна не знімала белага дубленага кажушка, які падарыла ёй жонка Цыбулі. На галаве была абыяк завязаная пуховая хустка. Яна ступала ў сваіх валёнках, як медзвядзёнак.

— Калі-б ты ведала, Сарачка, як цяжка на сэрцы! Я ўсё-б аддала, каб даведацца, што з бацькам!—гаварыла яна, сядаючы побач з сяброўкай.—Чаму ты маўчыш, Сара? Няўжо іх заб'юць?

Яна змоўкла, ахапіўшы рукамі калені. Надзея то варочалася, то зноў збягала ад яе. І дзяўчына стамілася ад невядомасці і чакання, Сара моўчкі пацягнула яе да сябе, і Олеся слухмяна прытулілася да яе пляча.

— Не трэба так, Олеся? Ты то верыш, то цябе апаноўвае роспач. Ты-б адно што-небудзь, а то, гледзячы на цябе, я таксама губляюся.

Суха трашчалі ў каміне палаючыя паленні.

Ціха ў дамку. Толькі ў далёкай каморцы шэпчуцца перапалоханыя стары : старая.

— Ага! Здаровенькі былі, прымайце гасцей!—уляцеў у сталовую Птаха.

За адну хвіліну паляўнічы дамок напоўніўся людзьмі. Сюды прывезлі толькі Людвігу і Стэфанію. Старога графа і айца Іероніма з паўдарогі забраў з сабою ў Сасноўку Цыбуля.

— Так больш пэўна. Усё можа здарыцца. Мне з атрадам не варта хадзіць да Манежкевіча. Пакінем там пяцёх для аховы. Няхай вашы маладыя і сцерагуць, а мы ў Сасноўку. Могельніцкі туды націсне, як піць даць. Мы сваю справу зрабілі, а вёску без мужыкоў пакідаць нельга. Так, ці што?—сказаў Цыбуля, звяртаючыся да Шчабеля.

Той падумаў і даў згоду.

Людвіга і Стэфанія былі змешчаны ў суседнім са сталовай пакоі. Тут стаялі дзве шырокія скураныя канапы і піяніна. Сюды прывялі і Францыску.

Раймонд, Птаха, Пшанічак, Олеся, і Сара змясціліся ў сталовай. Разбітны Леон паспеў пазнаёміцца з вартаўніком і яго жонкай. Ён пачаў з імі дружацкую гамонку, як мог супакоіў і так спадабаўся ім, што старыя нават далі яму пад'есці з сваіх запасаў, якія, як хутка ён даведаўся, былі досыць ладныя.

Ён з'явіўся ў пакой, нясучы цудоўную шынку і, спатканы здзіўленымі воклічамі, смяючыся, сказаў, як заўсёды каверкаючы словы:

— А старэнькія гэтыя сімпатычныя, нават шынку падарылі. Ты, Андрый, чаго на мяне так пазіраеш? Думаеш, сцягнуў? Тады хадзем, запытаем. То-та-ж?!

У пакой увайшлі Пшыгодскі і Шчабель.

— Здаецца ўсё ў парадку,—адказаў Шчабель на дапытлівы позірк Раймонда.

— Сані і коні схаваны ў канюшні, вартавыя на месцы. Снег пайшоў густы, праз гадзіну ўсе сляды замяце. А Цыбуля наўмысля пройдзе каля Халмянкі. Там яго заўважаць, перакажуць, ад нас вочы адвядуць. Хітра прыдумаў гэты мядзведзь!..

— А як табе гэты манах падабаецца?—запытаў Раймонд.

У гаворку ўмяшаўся Птаха.

— Па вачах відаць, што сцерва: на чалавека не пазірае проста. Я кожнага наскрозь бачу...

— Ну, калі бачыш, то павінен ведаць, што я яшчэ ад раніцы нічога не еў і ў мяне пуста ў страўніку,—нецярпліва перапыніў яго Леон.

— Гэта ты не еў? Ну і бессаромны-ж ты, Лёнька! Сапраўды, што ні чэх—то хлус!—сярдіта сказаў Птаха.

— А я чуў, што чэхі ў хахлоў хлусіць вучыліся,—агрызнуўся Леон.

Калі ўсе ўселіся за сталом, запаслівы „Руб дваццаць“ выцягнуў з мяшка буханку хлеба і па братэрску раздзяліў яе на восем частак.

Сара наразала венгліну.

Пшыгодскі ўстаў з-за стала, падышоў да дзвярэй суседняга пакою, павольна прыадчыніў іх і адрывіста гукнуў:

— Францыска!

— Чаго табе?—яна азвалася не адразу.

— Хадзі сюды, з'ясі тут,—суха сказаў ён.

— Не пайду!

Тады Мечыслаў адчыніў дзверы шырэй, пераступіў парог і паўтарыў яшчэ больш суха.

— Можа, пойдзеш?

Людвіга і Стэфанія наглядалі гэтую сцэну. Яны сядзелі на канапе, не скідаючы футраў. Людвіга—сумная і абыякавая да ўсяго, Стэфанія—напалоханая і разгубленая.

Толькі адна Францыска зняла сваё паліто. У пакоі было цёпла. Яна сядзела каля невялікага століка, скрыжаваўшы на высокіх грудзях поўныя прыгожыя рукі.

—Еш сам, я сытая,—яшчэ раз упарта адмовілася яна.

Мечыславу было няёмка, што два варожыя да яго чалавекі бачаць як абыходзіцца з ім жонка. Ён ужо шкадаваў аб сваім, так нязграбна праяўленым парыве памірыцца з Францыскай. Але выйсці было цяжка.

Раптам з канапы ўстала Стэфанія. Яна шпарка падышла да іх.

— Скажыце, пане Пшыгодскі, што нас чакае?—хвалюючыся, ціха праказала яна.

— Я не пан, а конюх, графіня!—гэтак-жа ціха адказаў ёй Мечыслаў.

— Я не мела намеру зневажыць вас гэтым. Вы-ж паляк і разумееце, што гэты зварот агульнапрыняты ў нас. Ды я не аб гэтым хачу з вамі гаварыць. Я і графіня Людвіга хочам ведаць пра наш лёс,—яе голас задрыжэў, страх падказваў ёй пагрозу, як сродак абароны.—Паслухайце, пане, прабачце...—яна замялася.—Як-жа вас загадаеце называць?

— Мы завем адзін аднаго таварышамі,—стараючыся быць ветлівым, адказаў Мечыслаў.

Стэфанія пагардліва сцяла свае нафарбаваныя губы:

— Але вы самі разумееце, што я для вас не таварыш. Ну, пакінем гэта. Мы патрабуем, каб вы сказалі нам, што вы мяркуеце з намі рабіць. Не забывайцеся, Пшыгодскі, што за ўсё гэта вы будзеце жорстка пакараны.

— Добра, ужо як-небудзь разлічымся!—перапыніў яе Пшыгодскі.

— Вы-б успомнілі пра свайго бацьку і брата.

— Я пра іх не забываюся.

— І вам не сорамна? Ваша сям'я гэтулькі год аддана услугоўвала нам, а вы ганьбіце яе, зрабіўшыся разбойнікам!—не стрымалася Стэфанія.

— Стэфа!—спыніла яе Людвіга.

— Памятайце, Пшыгодскі, што калі вы зараз-жа не адпусціце нас, дык вам не мінуць шыбеніцы. Вы-ж самі разумееце, што граф не пакіне гэтае...

— Стэфа!—ужо гнеўна паклікала Людвіга.

Францыска ўстрывожана шавяльнулася. Па твары Мечыслава яна ўбачыла, што зараз ён здольны зрабіць штосьці жахлівае. Яна спешна падыйшла да мужа.

— Хадзем есці!

Дзверы за імі зачыніліся. Страх зноў апанаваў Стэфанію.

— Загінулі мы з табою, Людвісь! Гэтыя-ж разбойнікі ні перад чым не спыняцца! Свента Марыя!—зашаптала яна.

— Навошта ты іх раздражняеш такою гаворкаю?

— А ты хочаш, каб я плакала перад гэтым быдлам?

— Не трэба плакаць, але і грубіць не трэба.

— Грубіць? Дык гэта-ж хам! Як шкада, што Шмультке не павесіў яго тады! Як Эдвард правы—такую жывёлу толькі вешаць. Ты бачыла, як ён са мною гаварыў?—зашаптала Стэфанія, сеўшы каля Людвігі.

## *Раздзел дванаццаты*

Пад вечар паміж Сасноўкай і Малой Халмянкай пачаліся перагаворы. Пісьмы перавозілі сяляне, якія не ўдзельнічалі ў партызанскім руху. Першае пісьмо, якое атрымаў Цыбуля, было такога зместу:

„Вёска Сасноўка. Камандзіру партызанскага атрада Емельяну Цыбулі. Ваша пісьмо было дастаўлена мне сёння ў адзінаццаць гадзін раніцы. Прапаную выкуп за захопленых вамі ў суме пяці тысяч рублёў золатам. Разлік ў залатых царскіх пяцёрках. Грошы будуць уручаны неадкладна ў часе абмену. Спосаб абмену і атрымання грошай прапаную вызначыць вам самім. Выкуп неабходна вытварыць заўтра-ж. Папярэджваю вас і вашых суўдзельнікаў, што калі хоць адзін волас упадзе з галавы ў захопленых вамі жанчын, бацькі і царкоўнага службы, дык ніхто з вас не ўнікне жорсткай кары. Апрача таго, будуць растраляны ўсе арыштаваныя намі ў горадзе большэвікі, якіх мы да вашага нападу збіраліся судзіць, і якім, да вашага ведама, не пагражае смяротная кара нават у выпадку выкупу намі за грошы членаў маёй сям'і. Яны будуць толькі зняволены ў турме. Чакаю неадкладнага адказу. Абяцаю не весці ніякіх ваенных дзеянняў да сканчэння перагавораў. Палкоўнік Могельніцкі. 21 снежня 1918 года“.

Сачок прачытаў гэтае пісьмо Цыбулі ўголас. Яны сядзелі ўдвух у хаце Емельяна Захаравіча.

— Ну, што ты на гэта скажаш?—запытаўся Цыбуля ў свайго памочніка.

Сачок шпарка заміргаў рэдкімі расніцамі і, ухмыляючыся, адказаў:

— Калі націснуць на яго, дык ён і дзесяць дасць.—Цыбуля паглядзеў на яго ўважліва, нібы ўбачыў яго ўпяршыню.

— Дзесяць, кажаш?

— Напэўна, што дасць.

— А як-жа з гарадскімі?—запытаўся Цыбуля.

— Я-ж кажу, што калі націснуць, дык дзесяць тысяч золатам адсыпле. У яго, нябось, больш як у нас з табою. Бо колькі вякоў на нашым браце ездзілі,—торапка загаварыў Сачок, узрадаваны тым, што Цыбуля так спакойна прыняў яго намёк.—А гарадскія што? Сам піша—ну, у турму пасадзіць, там глядзі, якая перамена падыйдзе. Турма—гэта табе не растрэл. А то ў нас сілы прыбудзе. Нядаўна Беразня падсылаў сваіх ка мне наконт злучэння. Яны таксама супроць паноў. Толькі яны з большэвікамі не ладзяць. А нам што да гэтага?

— Так, так...—прабурчэў Цыбуля і ўзяўся за сваю бараду.— А мне здаецца, што брэша гэты палкоўнік адносна турмы. Ведаю я іх нораў. Халмянскія паверылі, дык ён іх за дзякуй павесіў.

Твар Цыбулі цямнеў і Сачок позна заўважыў свой промах.

— А ты, Сачок, сука. Мне пра цябе яшчэ раней хлопцы казалі, але я думаў дарэмна, аж бачу цяпер, што ты бацьку свайго можаш прадаць.

— Ды што вы, Емельян Захаравіч, я так, у прыклад сказаў. оля ваша, рабіце, як ведаеце.

— Так, бяры паперу і пішы: „За грошы не прадаем“. Напісаў? „Дастаўляйце ў Халмянку Раеўскага, яго жонку, Кавалу і Мяцельскага“. Напісаў? Так. „Тады абмяняем у чыстым полі, ды каб без падману. Калі што—пастраляю вашых. Мы не халмянскія“. Так і напішы ім. Ёсць? Прачытай. Так. Ну, дай падпішу.

Вечарам у паляўнічы дамок вярнуўся „Руб дваццаць“: ён прывёз абодвы пісьмы Могельніцкага. У другім палкоўнік адказваў Цыбулі коратка:

„Згодзен на абмен маёй сям'і на большэвікоў. Абмен зробім у такім парадку: у полі паміж Сасноўкай і Халмянкай на адлегласці вярсты спыняюцца невялікія атрады з абменьваемымі па дзесяць чалавек з вашага і нашага боку. Першай павінна быць абменена мая жонка—графіня Людвіга Могельніцкая. Вы адпушчаеце яе, яна ідзе цераз поле да нашага атрада; з нашага боку мы адпускаем аднаго з тых, каго вы патрабуеце вызваліць, і такім-жа парадкам астатніх“.

— Ура!—закрычаў Птаха і як шалёны, пачаў скакаць. Усіх апанавала радасць. Нават стрыманая Сара захлопала далонямі і кінулася абнімаць узрадаваную Олесю.

— Вот бачыш, Олеся, як добра, хутка ты абнімеш бацьку.

— Божа мой, няўжо праўда?—усміхаючыся, сказала Олеся.

Птаха кінуў скакаць.

— Слухай, Лёнька!—падскочыў ён да Пшанічака,—ці няма ў старэнькіх чаго-небудзь такога, ведаеш, ад чаго весялей жыць на свеце!—і Андрый падміргнуў Раймонду, які ўпяршыню ўсміхнуўся.

— Малачка ад шалёнай каровы?—адразу зразумеў яго Леон.

— Я думаю, што ў іх усё ёсць. Бо паны на паляванні, нябось грэюцца шпірытусам. Я ў адзін момант, толькі як начальства глядзіць. Можа гэта не падыходзіць пад праграму?—Леон затрымаўся напоўдарозе да дзвярэй.

— Я думаю, што гэтае не трэба...—сказаў Раймонд, мімаволі засароміўшыся ад таго, што запярэчыў першы і гэтым як бы ўскладае на сябе ролю начальніка.

— Не трэба, хлопцы, на што гэта нам?—падтрымала яго Сара.

— Не трэба, дык не трэба,—ураз асты́ў Птаха.

— Што ты яго ўгаварваеш, Сарачка? Калі ён нос рукавом выцірае, значыць, ён зразумеў,—звонка засмяялася Олеся.

— А! зазвінеў званочак!—усміхнуўся Шчабель.

Нават змрочны Пшыгодскі перастаў хмурыцца.

— Вясёлы народ гэтая наша моладзь, з імі і паміраць не сумна,—ціха сказаў ён Шчабелю.

Той нахіліўся да яго і гэтак-жа ціха запытаў:

— Як вы думаеце, таварыш Пшыгодскі, ці не з'ездзіць мне з вамі да Цыбулі? Моладзь тут пакінем, трох партызан з імі для змены на варце.—Чыталі? Могельніцкі ім грошы прапанаваў. Усялякае можа здарыцца. Паедзем, а?

Пшыгодскі, падумаўшы, згадзіўся.

— Вось што, хлопцы, мы зараз з таварышам Пшыгодскім паедзем у Сасноўку,—гучна сказаў Шчабель, устаючы з-за стала,—а вы тут будзьце на-спагатове. Раймонд, мы даручаем табе камандаваць вашым невялікім атрадам. Да раніцы мы вернемся і перавязем гэтых,—ён паказаў рукою на дзверы,—у Сасноўку.

Каля варот, ужо седзячы на кані, Шчабель даваў наказ Раймонду:

— Глядзі пільна. Вокны завесьце. Вартавых сам правярай. Калі што, каб коні з санямі былі на спагатове. Калі вартавыя заўважаць атрад іх або разведку, дык саджай графінь у сані, самі на коней і ганіце на ўвесь дух прагалкам у Сасноўку. Адным словам, мяркуй сам як лепей.

Гэтым часам у другім канцы двара Пшыгодскі развітваўся з Францыскай.

— Ты што, з імі паедзеш, калі абмяняюць?—глуха запытаў ён.

— Можа і паеду. Куды мне?

— Не едзь да іх. Едзь да бацькі ў Сасноўку.

— Ці не да цябе гэта? Каб зноў біў, так? Не, няма дурных. Не хачу я жыць з табою, разумееш? Не хачу.

— Францыска!

— Ты мне не пагражай! Я не для таго за цябе выходзіла, каб ты мяне кулакамі паласаваў.

Сцюдзёны вецер сцябануў па іх угрэтых тварах.

— Пшыгодскі,—паклікаў Шчабель.

— Біць не буду, едзь да бацькі. Там пагаворым. А туды не едзь, а то заб'ю.

Калі ўсе вокны ў дамку былі шчытна завешаны, Раймонд і Птаха яшчэ раз абыйшлі сядзібу наўкола. Снег перастаў. Ноч была ясная. Месяц украдліва сунуўся па вершалінах дрэў. Сосны адкідалі агромністыя цені.

У лесе цішыня. Ледзь чутна рыпіць пад нагамі падатны снег. Ён укрыў усё наўкола цёплай ватняй коўдрай, захутаў маленькі дамок і будынкі.

Чутно было, як у канюшні спакойна жавалі коні авёс.

— Сачыце, таварышы, уважліва,—гаварыў Раймонд траім партызанам.—Пад раніцу мы вас зменім. У выпадку, калі заўважыце, што, паведаміце. Разыходзьцеся па сваіх месцах.

Калі яны з Андрыем уваходзілі ў сталовую, Пшанічак, які толькі што вярнуўся з караула, ужо расказваў дзяўчатам штосьці смешнае.

— Што ён тут брэша?—запытаў, расшпіляючы рамень з патроннымі падсумкамі.

— Ён кажа, што ты за сваім ценем ганяўся, думаючы, што гэта легіянер. Праўда гэта?—смяялася Олеся.

Гэтым разам Птаха дабрадушна ўсміхнуўся і безнадзейна махнуў рукою.

— Што-ж, прафесія яго такая, млынар...

— Што-ж нам цяпер рабіць, Раймонд?—запытала Сара.

— Я думаю, што вы з Олесей можаце класціся спаць, а мы павінны падзяжурыць у гэтую ночку. Пасядзім, пагаворым пра тое-сёе.

— Я не хочу спаць,—адмовілася Сара.

— І я,—паўтарыла за ёю Олеся.

— Ну, тады трэба заняцца чым-небудзь, а то сумна сядзець так усю ноч, і Андрый зноў пачне да мяне чапіцца, а я не сцярплю і будзе скандал,—пачынаў Леон сваю гульню ў „кошкі-мышкі“.

— Ты не вельмі ўжо на „петуха изображайся“,—перадражніў яго Андрый.

— Што-ж, я па украінску хоць дрэнна, але гавару, а ты што разумееш па чэшску?

— Зноў пачалі? Абрыдзела!—узлавалася Олеся.

— Эх, каб мандаліну сюды! Я полечку ўшкварыў-бы, а вы паскакалі-б. Усёроўна адзін канец. Заўтра-ж у нас свята.

— То-та рады будзе Грыгорый Міхайлавіч, калі нас з табою убачыць, Олеся,—крыкнуў ён.

— Олеся, вядома, але ты якая для яго радасць?—запытаўся Леон.

Андрый некалькі секунд пазіраў на Леона моўчкі, а потым сказаў:

— А ў вас сапраўды не дрэнна справа пойдзе!

— Ты пра што?—асцярожна запытаўся Леон, адчуваючы нешта нядобрае.

— Я пра млынара. Татулька яе муку малоць будзе, а ты языком, а яна,—і ён зрабіў на слове яна націск,—пірагі пячы. Тут табе цэлая фабрыка.

— Навошта ты іх звёў, Раймонд? Пашлі аднаго ў караул і будзе ціха,—прапанавала Олеся.

— Не, мы ўжо сваё аддзяжурылі, а ты можаш пастаяць з вінтоўкай, калі ёсць ахвота,—запярэчыў Леон.

Сара сядзела за сталом, падпёршы галаву рукою.

Раймонд адпачываў у глыбокім крэсле каля каміна, не знімаючы шаблі і маўзера.

— Я бачыла ў шафе ў трэцім пакоі гітары і мандаліны,—сказала Сара.

— Чаго-ж ты маўчала?..—узрадавана падскочыў Птаха.

— Нам-жа было не да музыкі, ды і цяпер, бадай, рана яшчэ весяліцца,—адказала дзяўчына.

Слухаючы яе пявучую гаворку, Раймонд уявіў выраз яе твару, чорныя з халадком вялікія вочы і рашучыя, крыху ўпартыя губы. Дзіўна, але разам з тым і зразумела,—толькі яе аднае слухаецца беспярэчна Андрый. Раймонд не памятаў яшчэ выпадку, каб гэты неспакойны хлапец нагрубіў ёй.

— Лёнька, бяры лямпу, пойдзем струмент глядзець,—сказаў Птаха.

Дзверы ўсіх пакояў выходзілі ў агульны калідор. Леон ішоў з лямпай наперадзе. Птаха следам за ім. Каля каморкі Андрый прыпыніўся, прыслухоўваючыся. „Старэнькія спяць“.

У пакоі, дзе змяшчаліся Людвіга, Стэфанія і Францыска, чулася ціхая гаворка.

— А ключ тут дарэмна тырчыць,—сказаў Андрый і паклаў яго ў кішэню.

— Усёроўна ім можна ўцячы толькі праз наш пакой, ды і куды ўцякаць?—адказаў Леон, але ўсё-ж пасправаваў—ці замкнёны дзверы.

Праз хвіліну яны вярнуліся, нясучы ў руках тры гітары і мандаліну.

— Там на іх год дваццаць ніхто не іграў, з усіх гітар ледзь на адну збярэш струн. Зараз я змайструю,—сказаў Андрый і энергічна ўзяўся за работу.

— Сара, мы яшчэ не давалі вячэраць гэтым?—паказаў Раймонд рукою на дзверы.

— Не, гэта поўная адмовілася ўзяць абед,—адказала Олеся.

— Што-ж рабіць?—запытаўся Раймонд.

— Хіба я павінна была ўпрашваць яе? Яна на мяне так зірнула,—сказала Олеся.

— Нічога, захоча есці, сама папросіць,—супакоіў Андрый, спрытна накручваючы струны на колічкі.

Раймонд падышоў да стала, на якім стаяла талерка з вянглінай і хлебам, і дапытліва зірнуў на Сару. Тая задуменна пазірала на агні ў каміне, не звяртаючы на яго ўвагі.

— Усё-ж трэба перадаць ім гэта,—сказаў ён і ўзяў талерку.

Сара зірнула на яго з ледзь прыметнай іроніяй.

— Як ты думаеш, Раймонд, твайго бацьку таксама кормяць вянглінай? І ён таксама адмаўляецца?—запытала яна.

— Так, але ён у руках шляхты, якое-ж тут параўнанне з намі? Калі зноў адмовяцца, я пакіну ім і няхай як хочуць,—ён накіраваўся ў суседні пакой.

Дзверы адчыніла Францыска.

Людвіга, якая напоўляжала на канапе, узнялася і села. Стэфанія не шавяльнулася.

— Я прынёс вам вячэру. Чаму вы адмаўляецеся есці?—запытаўся ён у Людвігі, спыняючыся перад ёю.

— Дзякую, але мы не галодныя,—няўпэўнена адказала Людвіга. Яна хацела есці, але сароміласся Стэфаніі, якая зусім адмовілася браць што-небудзь ад „хамаў“.

Раймонд паставіў талерку з вянглінай і хлебам на стол.

— Магу паведаміць, што вы заўтра будзеце абменены на нашых таварышоў, якіх захвацілі жандармы.

— Нас абмяняюць? Вы гэта напраўду сказалі?—у момант „прачнулася“ Стэфанія, якая прыкідвалася, што спіць.

— Вы напэўна рэдка сустракаецеся з людзьмі, якім можна верыць,—суха адказаў Раймонд.

Цяпер, калі з яго галавы была знята заячая шапка, Стэфанія і Людвіга пазналі яго.

— Скажыце, гэты Пшыгодскі яшчэ тут? Я нешта не чую яго голасу,—з трывогай запытала Стэфанія.

— Не, ён паехаў падрыхтаваць абмен.

— Дзякаваць богу,—лёгка ўздыхнула Стэфанія і адразу-ж перайначылася. Яна яшчэ раз агледзела ад ног да галавы Раймонда і, стараючыся гаварыць як мага ласкава, запытала:

— Скажыце, як вы трапілі ў гэтую жахлівую кампанію?

Людвіга, асцерагаючыся, што Стэфанія скажа яшчэ што-небудзь недарэчнае, паставіла талерку з вянглінай сабе на калені.

— Мы будзем вячэраць,—усміхнулася яна.

Раймонд ступіў да дзвярэй. Стэфанія затрымала яго.

— Скажыце, чым вы пацвердзіце праўдзівасць вашых слоў?

Раймонд дастаў з кішэні пісьмы Могельніцкага.

— Я вам веру,—запярэчыла Людвіга, калі ён падаў ёй пісьмы.

Але Стэфанія ўзяла і прагна прачытала абодвы пісьмы.

— Матка боска Чэнстахоўска! Хоць-бы гэтая ноч хутчэй скончылася!—крыкнула яна і перадала пісьмы Людвізе.

— Вы адразу паставілі графу ўмову пра абмен на вашых таварышоў?—запытала тая.

— Так, я сам пісаў гэтае пісьмо.

— А можна запытаць, што вы адказалі яму на першую яго прапанову?

— Чаму-ж не? Сказалі, што на грошы не мяняем, нам-жа трэба выратаваць таварышоў...—Раймонд вышаў, пакінуўшы дзверы адчыненымі.

— Ёсць! настроіў!—крыкнуў Птаха і ўзяў першы акорд.

Праз хвіліну пальцы замітусіліся па грыфу і мандаліна заспявала ў яго руках.

— Бяры, Олеся, сыйграем нашы любімыя,—сказаў Птаха перапыняючы свой музычны ўступ.

Олеся ўзяла ў рукі гітару, лёганька кранула пальцамі басы і ёй успомнілася маленькая вадакачка каля ракі і вечары, якія яны

праводзілі ўтраіх.—„Як ён там зараз, бацька любы? Каб ён ведаў пра заўтрашняе спатканне...“

— Я чакаю, Олеся.

Палілася тужлівая песня. Яна то замірала дзесьці далёка за стэпавымі курганамі, то здавалася—вецер прыносіў, яе здалёку. У лірычную мелодыю раптам бурна ўварваліся радасныя гукі.

Урачыстым маршам ішла на зямлю вясна і каля ваколіц запявалі ў цёплыя вечары маладыя галасы:

— Ой там, ой там за Дунаем
— Та за тихим Ду-на-а-е-м...

Песню змяніла полька, задорная, какетлівая. Андрый забыўся на ўсё. Ён іграў з такім запалам, што прыгажосць яго ігры дайшла нават да Стэфаніі.

— А ён добра іграе...—заўважыла яна.

Людвіга любавалася майстэрскім выкананнем. Музыка абудзіла задраманы боль.

— Раймонд, для каго я іграю?—абурыўся Андрый.

Леон падляцеў да Сары.

— Задуменная жанчына... Дарагі таварыш!.. У лік заўтрашняга дазвольце патанцаваць.

Сара адмахнулася ад яго.

Андрый зноў крануў струны і загучэў вальс. Леон ласкава ўзяў Сару за руку.

— Але патанцаваць-жа можна? Чаго сумаваць?.. Можа не хочаце са мною?

Гітара Олесі ўлілася цудоўным сугуччам басоў.

Сара паднялася.

Леон асцярожна абняў яе за талію, дужаю рукою крутнуў вакол сябе.

Калі танцуюць двое маладых і прыгожых—хораша.

Раймонд з усмешкай паглядаў за іх лёгкімі, адмысловымі рухамі.

— Здорава скача, чортаў чэх,—пазайздросціў Птаха.

Францыска стаяла каля дзвярэй, пазіраючы за танцуючымі. Яна спаткалася позіркам з Раймондам і абое мімаволі ўсміхнуліся, як некалі ў часе першай сустрэчы.

Раймонд вагаўся хвіліну. „Але-ж Сара танцуе“... І ён рашуча адшпіліў пояс, паклаў шаблю і маўзер на стол і сарамліва чырванеючы, падышоў да Францыскі. Яна-ж не раздумваючы, паклала руку на яго плячо і ў пакоі закружылася новая пара.

— Ты чуеш, Людвіга, яны танцуюць! І Францыска таксама.—Праз расчыненыя дзверы Стэфанія бачыла ўвесь пакой.—Аказваецца, іграе не ён, ён танцуе з Францыскай, гэты хлапец, што прыходзіў.

Олеся ўжо даўно кінула гітару і валенкі і скакала ў мяккіх чуваках. Адзін Птаха мусіў іграць, каб не парушыць агульнай весялосці. Нарэшце яму абрыдзела.

— Што-ж, гэта я адзін павінен іграць? Гэта несправядліва,—сказаў ён.

— Што-ж рабіць, Андруша, мы-ж не ўмеем,—крыкнуў яму Леон.

— Ну, яшчэ крышку, Андрый, хутчэй ноч пройдзе!

Тады Андрый устаў і, дзівячы ўсіх, накіраваўся ў суседні пакой.

— Прашу прабачэння,—сказаў ён.—Я чуў, што ўсе адукаваныя на гэтай штукавіне іграюць,—паказаў ён пальцам на піяніна,—так што прашу, зрабіце ласку, калі можаце на гэтым струманце, полечку для нас, а то ўсе скачуць, а я адзін павінен іграць,—звярнуўся ён да Людвігі.

Яго прастадушша, прамата і дзіцячае жаданне танцаваць скарылі Людвігу. Усміхаючыся, яна падышла да піяніна і, успомніўшы першы, які трапіўся, матыў—„Італьянскую польку“ Рахманінава, дакранулася пальцамі да клавішаў. Птаха нечакана для самога сябе павярнуўся да Стэфаніі:

— Прашу прабачэння, не ў крыўду, а для вясёлага вечара і за заўтрашнюю раніцу... Так што прашу вас патанцаваць са мною.

Шэравокі, паблісквеючы асляпляюча белымі зубамі, ён, гэты хлапец з кучаравым чубам, стаяў перад ёю. Стэфанія вырашыла, што будзе выгадней для яе замыслаў, калі яна згодзіцца...

Андрый бачыў, што Олеся ўсердзілася. Сара таксама. Але гэта не затрымала яго...

Толькі позна ноччу ў паляўнічым дамку ўсё заціхла. Усе паснулі.

Спала Людвіга і ў сне ёй здавалася, што так і павінна быць: менавіта ў гэтым дамку, у гэтай незвычайнай абстаноўцы, яна і павінна была спаткацца з гэтымі людзьмі. Як добра, што яна не памылілася: гэтыя людзі, якіх яна абараняла, якім сімпатызавала, былі сапраўды цудоўныя людзі.

Моцна спалі заложнікі і іх вартавыя.

На шырокай лаве заснулі, абняўшыся, Сара і Олеся, якіх Андрый клапатліва накрыў кажушком.

Сам Андрый спаў на падлозе, падклаўшы руку пад галаву, Леон—на стале, Раймонд—на другой лаве.

Партызанам, што былі на двары, абрыдзела хадзіць паасобку вакол сядзібы: яны сыйшліся ўсе ўтрох у канюшні. Тут было цёпла. Двое з іх забраліся ў сані, а „Руб дваццаць“ паслалі вартаваць. Таму захацелася піць, ён увайшоў у дом, выпіў з бочкі, якая стаяла ў калідоры, добрую кварту вады і тут-жа прысеў пагрэцца каля печкі, ды і заснуў. Партызаны ў санях, спадзяючыся на яго, таксама неўзаметкі заснулі.

Ноччу Стэфанія ўстала, апранула шубу, футравую шапачку і вышла ў суседні пакой. Звычайна ў гэтых падарожжах у канец двара іх суправаджаў хто-небудзь з дзяўчат, цяпер-жа ўсе спалі. Стэфанія паціху адчыніла дзверы ў калідор,—там, развінуўшы рукі, соладка спаў каля печкі партызан, яго вінтоўка была прыстаўлена да сцяны.

Некалькі хвілін Стэфанія стаяла ў калідоры, потым ціха прыадчыніла дзверы. На двары нікога. З заміраючым сэрцам Стэфанія вышла на двор, пастаяла крыху і потым шпарка пашла да варот. „Калі спыняць, скажу, што мне трэба“,—думала яна, адчуваючы, як калоціцца яе сэрца.

Але яе ніхто не спыняў. Вось гэты прыгалак вядзе ў „Гнілыя воды“, яна неаднойчы заязджала сюды са Станіславам напіцца квасу, у часе паляўнічых прагулак мужа.

Чым больш яна аддалялася ад сядзібы, тым шпарчэй ішла і, нарэшце, пабегла, спатыкаючыся ў няёмкіх для хадні ботах. Але ўсё яшчэ не верыла, што вольная. Ужо кілометры за два ад дамка, яна адчула змору. Бегчы больш не магла. У сэрца калола. Яна скінула боты і, пакінуўшы іх на снягу, пашла ў адных высокіх чаравіках.

Нарэшце, яна пачула брэх сабак, а калі падышла да вёскі, была спынена крыкам на польскай мове.

— Стой! Хто ідзе?

З-за плятня выскачылі два ўзброеныя чалавекі. Гэта былі легіянеры з эскадрона Зарэмбы.

— Няхай вяльможная пані не хвалюецца. Мой сержант давязе вас да горада. Бо тут блізка. Дарога бяспечная, мы толькі што адтуль. Ну, паганяй,—махнуў Зарэмба рукою сержанту.

Той нацягнуў лейцы. Коні рушылі. Стэфанія заспакоена азірнулася. Эскадрон Зарэмбы трухам выходзіў з вёскі ў лес. Развіднівала.

Першым прачнуўся „Руб дваццаць", які спаў у калідоры. Яму стала холадна. Дзверы, якія расчыніла Стэфанія, астудзілі калідор. Яго спалоханы крык—„Хлопцы, ратуйся—ляхі!"—абудзіў усіх. Больш „Руб дваццаць" не сказаў ужо нічога,—Зарэмба стрэліў яму у галаву.

Раймонд рынуўся да зброі.

У калідор уварваліся легіянеры. Птаха, як кошка, ускочыў на ногі. Адным скокам ён апынуўся ў куце, дзе стаяў яго карабін. Леон, які саскочыў са стала, нічога не разумеў спрасонку.

У першы момант нічога не зразумелі і дзяўчаты. Андрый кінуўся да дзвярэй. Адчыніўшы іх, ён падаўся назад, зноў захлопнуўшы дзверы. У калідоры грымнула некалькі стрэлаў. Трэскі ляцелі ад прастрэленых у некалькіх месцах дзвярэй.

Сляпая ўдача выратавала Андрыя ад смерці.

Леон нарэшце зразумеў, што здарылася. Адным махам ён пераваліў стол і прыпёр яго да дзвярэй, а сам кінуўся да вінтоўкі. Андрый страляў праз дзверы з кутка пакою.

— Назад!—грымеў у калідоры Зарэмба.—Спыніць страляніну! Тут графіня, пся ваша маць! Назад!

Калідор апусцеў.

— Мы іх і так возьмем. Там трох хлапчукоў, а ў часе страляніны можна забіць графіню,—растлумачыў паручык салдатам пра сваё адступленне.

— Калі-б не гэты лайдак,—злосна піхнуў ён цела „Руб дваццаць",—мы-б іх сонных накрылі.

— Што здарылася, пане паручык? Чаму вы адступілі?—пад'ехаў Уладыслаў да Зарэмбы, бачачы, што салдаты адыходзяць у гушчар лесу.

— Іх трэба выманіць без бою. Паспелі прачнуцца,—злосна адказаў Зарэмба малодшаму Могельніцкаму.

— Але вы ўжо былі ў доме?—ускіпеў Уладыслаў.

Абражаны гэтым воклічам, Зарэмба не сцярпеў.

— Я-то быў у доме, падпаручык, але вас, здаецца, не было там. Прашу вас займацца сваім узводам і не рабіць старшым па чыну зневажлівых заўваг. Я ведаю, што я раблю.

Уладэк у шаленстве павярнуў каня і ад'ехаў.

— Закрывай вокны лаўкамі!—камандаваў Раймонд.

У пакоі забарыкадыраваліся.

Раймонд убег у пакой, дзе змяшчаліся палонніцы. Ён убачыў толькі бледную Людвігу і разгубленую Францыску.

— Дзеля бога, што здарылася? Дзе Стэфанія?—кінулася да яго перапалоханая Францыска.

Раймонд шпарка азірнуўся ў пакоі.

— Як дзе? Яна павінна быць тут!—крыкнуў ён.

— Вось яно што! Уцякла, гадзюка! Праспалі мы з табою, Раймонд, і гонар і славу!—сумна праказаў за яго спіною Птаха.

— Што-ж вы будзеце рабіць?—Людвіга схапіла яго за руку.

Птаха вырваў руку.

— Будзем адбівацца да апошняга... Лажыцеся на падлогу, я праз гэта акно буду страляць!—крыкнуў ён.—Усёроўна жывымі не здадзімся! Прападаць—дык не дарам!

Ён у лютай злосці рвануў цяжкую канапу да акна.

— А чаму вы засталіся?—запытаў Раймонд у Людвігі.

— Я нічога не ведала пра яе ўцёкі...—ледзь чутна адказала яна.

— Пане паручык, тут дваіх злавілі ў канюшні,—далажыў Зарэмбу капрал і паказаў пальцам на партызан.

Зарэмба красамоўна махнуў рукою.

У доміку пачулі кароткі залп. Леон і Птаха стаялі каля акна за сваім прыкрыццём, гатовыя ў кожны момант стрэліць у кожнага, хто трапіцца на мушку.

— Эй, там, у доме, не страляць! Пан паручык хоча з вамі гаварыць!—гукнуў нейчы моцны голас з двара.

У доме маўчалі...

— Слухайце, вы, якія там заселі! Я, паручык Зарэмба, пасланы сюды палкоўнікам Могельніцкім... Чуеце?—крычаў з двара Зарэмба.

— Чуем, дык што з таго?—закрычаў у адказ Пшанічак.

— Прапаную вам здацца.

У доміку маўчалі. Жанчыны сядзелі, як ім загадалі, на падлозе. Раймонд, выцягнуўшы наперад руку з маўзерам, сачыў за дзвярыма.

— Паўтараю. Я прапаную вам здацца. У выпадку, калі захваченая вамі графіня Могельніцкая жывая і няўшкоджаная,—абяцаю захаваць вам жыццё. Калі не здаецеся, дык перастраляю ўсіх да аднаго. Даю пяць хвілін падумаць.

У доміку маўчалі. Раймонд, Птаха і Пшанічак пераглянуліся. Людвіга па іх выгляду зразумела, што яны не здадуцца. На двары чакалі... Смерць хадзіла дзесьці блізка вакол дома, стараючыся знайсці шчыліну, каб увайсці сюды...

— Эй, там, у доме, здаецеся?

— Пашоў к чорту, гад! Будзем біцца да апошняга! Няхай жыве комуна!—крыкнуў Андрый.

*Канец першай кнігі.*

Пераклад **М. ПАСЛЯДОВІЧА**

Сочы-Масква
1934-1936 г.

# *Баранаў Васіль*

*(Паэма)*

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

1

Васіль пакідае заставу,
Знікае з сябрамі ўначы
Выконваць будзённую справу—
Радзіму сваю берагчы.
Валёнкі падбітыя скурай
І ціха і цёпла рыпяць...
Бацькі пад зімовай віхурай
Дзяцей закалыхваюць спаць.
Ён іхны наказ чалавечы
У сцюжу нясе, у зіму.
І цёплую шубу на плечы
Надзела радзіма яму.
Цяпер у яго за плячыма
Увесь яе скарб дарагі
Ад хваляў паўдзённага Крыма
Да нетраў паўночнай тайгі.
Той скарб—на халодным папасе
Рагаты якуцкі алень
І ў родным уральскім калгасе
Багаты на хлеб працадзень.

З маленства пакінуў ён вёску,
Дзе ў полі араў і трубіў.
Рабіў на заводзе ў Свярдлоўску,
Па коўкаму молатам біў.
У школе вучыўся. За партай,
За ўласным згінаўся сталом,
Жыў марай вясёлай і ўпартай
Быць граматным,
Быць кавалём...
А як прыязджаў ён дахаты,
Стаяў каля хуткай вады,

На прызьбе співалі дзяўчаты,
Цвілі маладыя сады.
На хвалях блакітных Урала
Удаль адплывала вясна
І сэрца тады ўсхвалявала,
Як кажуць—дзяўчына адна...
Калі-ж выбіраўся ён з дому
Здалася далёкай рака.
І знаў ён, што гэтай нікому
Зямлі не аддасць ні вяршка.
Садзіўся з дзяўчынай у лодку,
Плыў міма і красак і траў,
Лавіў там і язя і плотку,
Галоўнага-ж ёй не сказаў.
Чаму так? Ніхто не няволіў
Ні слоў, ні слухмянай ракі.
Характар відаць не дазволіў
Прызнанняў рашучых такіх.

Ён часта—у дні адпачынку,
Адзін, з невялікай тугі,
Патроны для стрэльбы начыніць
І выедзе ў нетры тайгі.
Снягоў не кранаюцца лыжы,
Высокія кроны шумяць,
Дзе вецер пуціны абліжа,
Дзе хвоямі грукне зіма.
А ўвечары гульбішча будзе...

За вокнамі стогнуць лясы,
Сядзяць пагранічныя людзі,
Жартуючы гладзяць вусы.
І хвалячы добрага зайца,
Не раз прыгадаюць сябры
Мінулую дружную працу
Пад сонцам таежнай зары.

2

Даўно напярэдадні дзікай,
Суровай таежнай вясны,
У лес на суботнік вялікі
Ў дзве змены хадзілі яны.
Ён помніць—спрачаліся пілы
І падалі ўніз галавой
Магутныя сосны і піхты
Усцяж пад марознай зарой.
І цэлымі суткамі ў лесе
Рабілі пад гоман галін;
Ішлі маладыя экспрэсы

Кідаючы дым на ўспамін.
Дыхнуўшы на іх, на заставы
Імчаўся назад паравоз—
Вялі яго розныя справы
Праз пушчы і хвой і бяроз.
Яны начавалі ў старожцы...

Накінуўшы цёплы кажух,
Ішоў ён па мяккай дарожцы
З галін атрасаючы пух.
У лес, пад кашлатыя хвоі,
Як добра ісці Васілю!
У мужным, у ціхім спакоі
Ён родную бачыць зямлю.
Усё нерухома і нема.
Ён свісне: прысядуць кусты...
І рэха расце, як паэма
Шчаслівай яго паўнаты.
Глядзелі тады ў захапленні
І ў дружным здзіўленні сябры
На поўныя шышак кішэні,
На шлем—у сасновай кары,
Калі ён прышоў у старожку,
Паслаў каля грубкі кажух,
Махоркі ў казіную ножку
Насыпаў і выдыхнуў:
— Ух...
Ён край свой любімы нядаўна
Адчуў за сябе і за ўсіх.
Пыталіся:
— Хараша?
— Слаўна!..
І шышак падкінуў сухіх—
Хай дровы ярчэй разгарацца!..
Хай добрыя рукі сяброў,
Грубыя ад сцюжы і працы,
Да полымя цягнуцца зноў.

3

Сягоння чакалі нападу...
Траім загадаў камандзір
З Баранавым выйсці ў засаду
І вынес гранаты:
— Вядзі!..
Ішлі ўжо ярамі сляпымі
І сіберны сек іх агонь,
Паўстала тады перад імі
Граніца закутая ў бронь.

Варожыя сцежкі і далі
За цёмнай схаваны тайгой.
Байцы нерухома стаялі
У час развітання свайго.
І думалі разам аб справе,
Аб тым, каму клятву далі,
Хто так, як яны, на заставе,
Начамі не спіць у Крэмлі.

Марозная ноч. У дазоры
Ў засадзе Баранаў Васіль.
Аслеплі манчжурскія зоры
І нанач зацмілася сінь.
Вісяць туманы над граніцай,
Скрозь шэрую гэту імглу
Да сыпкіх снягоў не прабіцца
Халоднага неба святлу.
Пад гэтым святлом пазаўчора
На ўзводзе трымаў ён курок...
І раненых кінуўшы вораг
Крывёй захлынуўся і ўцёк.
Сягоння-ж чакалі недарам
Няўдалых налётчыкаў зноў,
Адпомсціцца хітрым ударам
На досвітку вораг прышоў.
З драпежнаю мэтай і прагай,
Крадком перапоўзшы кардон,
З беспрыкладнай лезе адвагай
На сорак байцоў батальён.
Напад, калатнінай і тлумам
Ужо абудзіўшы шляхі,
Пяхотным змяняецца штурмам,
І лезуць штыхі на штыхі.
Агнём кулямётным укрыты
Ідзе за атрадам атрад.
Баранавым тройчы адбіты
Атакі з патайных засад.

Ён ранен. Апошняй гранатай
Чацвёрты адкінут напад,
Атакі чакаючы пятай
Баец азірнуўся назад.
Яго акружылі. Да хвоі
Спіной прысланіўся:
Канец...
І доўга ад вострае зброі
Штыхом адбіваўся баец.
Параненых сталлю халоднай,
— Забойцы! – ён ціха сказаў
І сэрцам пад хвояю роднай

Да цвёрдага грунту прыпаў.
Здалося:
Па хвоях скакалі
Ваверкі—малыя зьяркі,
Барадамі сумна хісталі
З уральскіх калгасаў дзядзькі.
Адгэтуль далёка да дому...
Там спіць пад ільдамі рака.
Ён іхняга шчасця нікому
Ні грама не даў, ні вяршка.

Ужо адкаціў куляметы
Да самай мяжы батальён,
Адходзяць манчжурскія роты
З ахвярай сваёй за кардон.
Суровыя выюць мяцелі,
Далёкая плача зямля,
Нясуць на японскай шынелі
К заставе чужой Васіля.

4

Панеслі ад роднай краіны,
Ад роднай заставы ў зіму,
Ён ведаў, што з гэтай хвіліны
Жыццё не патрэбна яму.
У светлых, натопленых хатах
Пралежыў з зары да зары,
Увечары ў белых халатах
Прышлі да яго дактары.
Хацелі абмыць яму раны.
Спакойна тады дактарам
І кпліва ўсміхнуўся Баранаў,
І вымавіў:
— Дзякую вам.
На отведы, на перавязкі
Не клікаў ён іх, не прасіў,
Без іхняй абыйдзецца ласкі...
І сам свае раны Васіль
Вадою абмыў. І падумаў:
Адразу яны-б зажылі
У крыках птушыных,
Ад шумаў
І подыхаў роднай зямлі...
І стомлена вочы зажмурыў,
І боль ён хацеў заглушыць.
Таежныя слухаў віхуры
У больнічнай, нуднай цішы.
За іхняю хваляю блізкай
Здалося—спявае сястра,

Скрозь ноч,
Над ліповай калыскай
Малога свайго змагара.
А маці малодшаму сыну
Дае сваю картачку ў шлях,
Каб добра бярог ён краіну
На цяжкім пасту Васіля.
Не чуў—ці баляць яго раны,
Ці ўдарыў гадзіннік з сцяны,
Віхураю закалыханы
Шчаслівыя сніў ужо сны...
Здаецца сябры па заставе
Прыехалі ў госці.
І ў сне
Ён з імі ляжыць на атаве,
На сене ў калгасным гумне.
І смажыць яешню ім маці,
На стол падае каравай,
Абходзяць яны сенажаці,
Увесь яго радасны край.
Наведацца кожнае хаты
Байцоў заклікаюць дзядзькі,
Скакаць запрашаюць дзяўчаты,
На рыбу завуць рыбакі.
Нарэшце ён бачыць на ганку
Дзяўчыну.
Чакае яна.
Ужо маладзік на гулянку
З-за цёмнага выплыў гумна.
З байцамі сядзяць на бярвенні
Дзяўчаты, хлапцы, хлапчукі.
І вось яны разам.
Два цені
Кранаюцца срэбнай ракі.
Другія таксама кахалі
І шлюб неадкладны ўзялі,
А вы-ж як?—выпытваюць хвалі,—
А ваша вяселле калі?

Мяцелі ўжо сціхлі. Дарогі
Ляжаць ад радзімы ў палон
І нізкага месяца рогі
Святлом абліваюць кардон.
Прачнуўся—і ўспомніў старожку:
Было гэта дужа даўно...
Прыўзняўся з салдацкага ложку
І доўга ўглядаўся ў акно.
Як блізка яму, як далёка
Да родных, знаёмых мясцін,
На сэрца так цяжка, так лёгка

Кладзецца і сон і ўспамін.
Накінуўшы ўтульныя хутры
Стаяць нерухома бары,
Ад ворагаў, гоман іх мудры,
Радзіму вартуюць сябры.
Спіць Ленін на плошчы далёкай,
Гадзіннік адлічвае пяць...
За белай сцяною Крэмлёўскай
Яго камандармы не спяць.

5

Хай сцены прысутныя ўспомняць!
Маўчаў ён. Пытаўся ў яго
З квантунскага штаба японец
І дробненька тупаў нагой.
А пан-перакладчык, з выдатных,
З наёмных сямёнаўскіх банд,
Такі-ж нецярпліва-дакладны
І злосны рабіў пераклад...
Пыталіся:
Дзе на граніцы,
Схаваныя ў сопках якіх,
Гарматы глядзяць у байніцы
На варце абшараў сваіх.
Схаваны ў якія зямлянкі,
Каб загадзя рушыцца ў бой,
Совецкія хуткія танкі,
Што ломяць гушчары сабой.
Схаваны ў якія ангары
І дружна, у час небяспек,
Ляцяць самалёты пад хмары,
Зніжаюцца смела да рэк.
Прыходзілі тройчы. Пыталі
Удвох, але ўсё пра адно.
У крэслах сядзелі.
Чакалі.
Ці так пазіралі ў акно.
Тады ён прыўзняўся. Дарога
Ішла за слупы, за мяжу.
Радзіма чакала...
— Нічога,
Нічога я вам не скажу!..
Квантунскі чыноўнік ласкава
Даводзіў яму і сцвярджаў,
Што іх дарагая дзяржава—
Мацнейшая ў свеце з дзяржаў.
Яна яму стане радзімай,
Найлепшай радзімай з радзім,
Дасць працу, адорыць грашыма
І памятаць будзе аб ім.

Зямлі ён купіць сабе зможа
І жыць каля цёплых марэй
З японскай дзяўчынай прыгожай,
Хай толькі раскажа хутчэй...
Жывуць-жа тут рускія людзі,
Ды як яшчэ, пане ты мой!
І ён перакладчыку ў грудзі
Пастукаў, як доктар:
— Герой!..

Героі аднак змізарнелі,
Бо ўсётакі, як не кажы,
Раней яны фабрыку мелі,
Па той бок манчжурскай мяжы.
Але адбыліся падзеі,
Змянілася ўлада
І ўрад,
І не засталося надзеі,
Хоць пеша—патрапіць назад.
Змяніўся і выгляд іх хлёсткі,
Слухмяна віляюць хвастом,
Японскай чакаючы косткі
Пад бедным манчжурскім сталом.

Так думаў Васіль.
І ад стравы
Адмовіўся з гэтай начы.
Далёка ад роднай заставы
Не еўшы ён сох, не сплючы.
Ні шчасця чужога, ні волі—
Чужую абраў ён турму.
Паны-перакладчыкі солі
Насыпалі ў раны яму.
Васіль не сказаў ім нічога.
Маўчаў ад зары да зары.
І розум да сэрца жывога
Упарта звяртаўся:
— Памры...
Яны яго білі за гэта
І ён не хацеў ім сказаць—
Узброена як і адзета
Яго пагранічная часць.
Стаяць у вадзе прымушалі.
Ён думаў:
Калісьці яны
Сібірскіх дзядоў катавалі
У дні грамадзянскай вайны.
Дзядоў тых смяротныя раны,
Адчуў ён:

Пад сэрцам гарэць.
Іх справе, іх клятве адданы
Баранаў пачаў паміраць.
. . . . . . . . . . . . . . .

6

Кароткі, халодны як жаба,
Сядзіць за зялёным сталом
Чыноўнік квантунскага штаба
І рыпае вечным пяром.
Вачэй яго позірк парожні—
Апухлі яны, заплылі...
Салдаты на допыт апошні
К яму Васіля прывялі.
Ён глянуў. З паперамі папку
У шафу замкнуў за сталом,
Напяў аблавухую шапку
І вышаў адтуль з Васілём.
Разутага, вывеў на ганак,
Каб родную ўбачыў зямлю.
Тайга заінела. Быў ранак...
— Ты вольны!..
Сказаў Васілю.

Радзіма!
Ён кінуўся босы
У нетры густыя, дзе век
Ні сані не йшлі, ні калёсы
І лыжы не гнаў чалавек.
Ляцеў па выбоінах колкіх
Аж снег пад нагамі гарэў,
У леташніх, хвойных іголках
Здранцвеўшыя пальцы ён грэў.
У радасным, стомленым звоне
Прасілася сэрца дамоў,
Свой край не прадаўшы ў палоне,
Не ўзяўшы цаны з ліхвяроў.
Ён бег ад варожых кайданаў
К граніцы ў світальнай красе.
Радзіма!
Не здрадзіў Баранаў—
Ён мужныя клятвы нясе.
Святлом сваіх цёплых усмешак
Ты шлях пракладаеш яму
І матчыны рукі да сцежак
Ты сыну прасцёрла свайму.
І хутка, як роднага прымуць
Яго на заставе байцы,
І вушы старожкія ўскінуць
На стрэл паляўнічы зайцы.

Упаў. Да заставы так блізка,
Халодна сінеюць снягі...
І вось нахіляецца нізка
Над ім чалавек дарагі.
Ішоў ён сюды праз мяцелі
Ад самай Масквы,
Ад Крэмля.
Марозна. Вусы заінелі...
Шынеллю акрыў Васіля.
Панёс на сабе праз гушчары
Да роднай зямлі, да жыцця,
Пад сэрца вялікага ўдары
Васіль засынаў, як дзіця.

. . . . . . . . . . . . . . .

Васіль не прачнуўся. Не лёгкі
І радасны здзейсніў намер,
З усмешкай шчаслівай,
Далёкі,
Ляжыць ён на ложку цяпер.
Стаяць санітары з трывогай,
Чужая за вокнамі сінь,
Хоць сумна,
Але з перамогай
Загінуў Баранаў Васіль.

Мы-ж памяць героя ўшануем
І справай, і песняй, сябры,
І помнік яму пабудуем
З гранітнай уральскай гары.

Менск, 15/23 студзеня 1937 г.

# *Навары́ў піва*

(*Камедыя ў адной дзеі*)

Ф. АЛЬШЭЎСКАЯ

АСОБЫ

КАДЗІЛКА—старшыня Сніткаўскага сельсовета.

ДЗЕД—вартаўнік таго-ж сельсовета.

ПАНАСЮК—сакратар таго-ж сельсовета.

БАРАБОШКА—брыгадзір калгаса.

КАНДРАТ, ТАРАТУТА, ТАДОРА, ЦІМКА — наведвальнікі сельсовета.

ЖАЎРУК—старшыня Дзягілёўскага сельсовета.

ВАЙСКОЎЦЫ.

НАСТАЎНІЦА.

ДЗЕД (*канчае падмятаць, збірае смецце*). А нашага Кадзілку, як падмяніў хто—зусім не той чалавек стаў. У разгаворы ідзе, аб усім рупіцца, такі ўважлівы, ласкавы. Хоць ты яго да раны. Два дні запар у сваім габінэце сядзеў. А дагэтуль заскочыць бывала ў сельсовет гады ў рады,—і то пападзешся яму на вочы—дык свету не рад будзеш. (*Прымае паставу Кадзілкі, перадражнівае*). Чаму мухі плакат загадзілі?—(*сваім голасам*). Пасправуйжа, забарані ім. (*Пад Кадзілку*): Чаму куры пад вокнамі скочуць? (*Сваім голасам*): Трэба-ж ім свае курыныя справы абгаварыць. (*Пад Кадзілку*): Чаму каты на гары гарцуюць? (*Сваім голасам*): Цьфу, згінь, прападзі. Не ведаючы, можна падумаць, што яго на кашачае шчасце завідкі бяруць. А гэта ўсё, каб паказаць, што ён распарадзіцель—старшыня, парадак наводзіць. А па мойму так: раз табе ўжо такое шчасце вышла—што і людзі не ўваходзяць і сакратар такі папаўся, што за цябе ўсю работу робіць—то будзь ты хаця чалавекам. А ён дзьмецца, як жаба на купіне. Нос паверх лесу, што і шастом не дастаць. А дагадзіць яму трудней, чымся кату старой паненкі. Гэрц надзіманы! (*Зірнуў у акно*). Вось і ён! Чаго-ж ён прыехаў у такую рань?

КАДЗІЛКА. Здароў, дзед, здароў! (*Дзед знімае шапку, Кадзілка падае яму руку, Дзед раззявіў рот ад здзіўлення, рукі не бярэ. Ён пазірае то на Кадзілку, то на яго працягнутую руку. У руках у дзеда венік. Кадзілка бярэ дзеда за руку, трасе*). Як сябе адчуваеш?

ДЗЕД. Адчуваю, адчуваю. Ужо і падмёў, і пыл пасціраў, і павучынне...

КАДЗІЛКА (*да сябе*). З яго пачну. Ен першы да народу мае дачыненне. І калі ён на маім баку будзе... (*Да дзеда*). Бачу, дзед, бачу тваю работу. Учора ўжо катоў цэлы дзень не чуваць было. Ну, але не доўга гэта.

ДЗЕД. Што не доўга?

КАДЗІЛКА. Ды гэта ўсё. Да перавыбараў толькі.

ДЗЕД. Да перавыбараў?

КАДЗІЛКА. Так... так, да перавыбараў.

ДЗЕД. А тады?

КАДЗІЛКА. Тады. (*Усміхаецца, хлопае дзеда па плячу*). Абы я толькі старшынёю прайшоў, пасаджу я цябе...

ДЗЕД. Куды пасадзіш?

КАДЗІЛКА. На пенсію, дзед! На пенсію...

ДЗЕД. Я-ж і цяпер...

КАДЗІЛКА. Цяпер табе за работу, а тады за выслугу гадоў будуць грошы ісці.

ДЗЕД. А пыл, павучынне, печка?

КАДЗІЛКА. Напрацаваўся ты, дзед. Хопіць з цябе. Няхай другія, маладзейшыя.

ДЗЕД. А я-ж як?

КАДЗІЛКА. Будзеш сабе гуляць і грошы...

ДЗЕД (*зразумеў урэшце—абурана*). Каб я ды на ласкавы хлеб! Не! Няма на гэта маёй згоды! Няма!

КАДЗІЛКА. Ты, дзед...

ДЗЕД (*перабівае*). Недачаканне тваё, каб ты мяне з работы! Ты не думай, што калі я табе дагэтуль маўчаў, то я нічога не разумею! Разумею! Усё разумею! І маўчаць больш не буду! Цяпер я кожнаму...

КАДЗІЛКА (*да сябе*). Вось і падладзься пад такога. Ды што ты, дзедка? Што ты?..

ДЗЕД. Ты думаеш, што і ўправы на цябе не будзе!.. Цяпер я ўсім...

КАДЗІЛКА (*да сябе*). Сам на сваю галаву наклікаў. (*Супакойвае яго*). Будзь сабе, дзедка, будзь. Я лепш табе хацеў. А калі ты... то і я...

ДЗЕД (*сядае*). У мяне-ж і печка і пыл. Адных венікаў на год назапасіў. (*Паказвае венік, што ў руках*). Сотня такіх на гары. У мяне кругом парадак.

КАДЗІЛКА. Добра, добра! Я ўсё бачу! Будзь сабе, будзь, вядзі свой парадак. Я табе зарплату прыбаўлю...

ДЗЕД. Во, гэта дык-бы не зле...

КАДЗІЛКА (*дае папяросы*). Куры, дзед. На многае не лічы, а так рублёў пятнаццаць у месяц я табе прыкіну.

ДЗЕД. Тады-ж мне—ого-го! Баба даўно ўжо галаву дурыць, каб ёй к Новаму году свінцер—на Тадоры нейкі там бачыла. Ды й сабе валёнкі. А гэта ты папраўдзе?

КАДЗІЛКА. Што за пытанне?.. Пройдуць перавыбары, я тады і ўнясу ў новы каштарыс. Калі сам прайду...

ДЗЕД. Яно то...

КАДЗІЛКА. Што? Што?

ДЗЕД. Бабка на двое варажыла.

КАДЗІЛКА. Ты-ж пэўне ўжо чуў, што людзі гавораць. Каго думаюць?

ДЗЕД. Я такі чалавек, што люблю праўду—так што ты не крыўдуй.

КАДЗІЛКА. Кажы, дзед, кажы!

ДЗЕД. Так што на Сымона прыкідваюць.

КАДЗІЛКА. Праўду кажучы, мне то ўсёроўна. Выбяруць мяне ці не. Служба цяжкая, кожнаму не дагодзіш. Пяць гадоў праслужыў і хопіць з мяне. Ды мне цябе, дзед, шкада. Прывык я да цябе...

ДЗЕД. Ды яно-ж але. Чалавек такая ўжо казюрка, што...

КАДЗІЛКА. Чалавек ты сумленны. Работа ў цябе ўся спраўная. Калі я на цябе часам... дык гэта ў мяне характар ужо такі паскудны... Пасля і сам не рад. А я даўно думаў—трэба дзеда... Ну, што-ж, расстанемся, дзед. Не памінай ліхам. Дабра я табе хацеў—а не давядзецца...

ДЗЕД (*расчулены*). А ты загадзя не прашчайся.

КАДЗІЛКА. Сам-жа кажаш.

ДЗЕД. А ці ты людзей не ведаеш. Сёння яны на цябе, а заўтра за цябе могуць.

КАДЗІЛКА. Ці-ж могуць?

ДЗЕД. Уга! Яшчэ і як могуць. Чалавек—мошка адходлівая. Прыхініся да яго, дык ён да цябе ў дзесяць столак. Усё даруе, усё забудзе. Я першы...

КАДЗІЛКА. Дзякуй, дзед, дзякуй. Ну, што-ж, паслухаю цябе. (*Адцягвае стол сакратара ў бок*).

ДЗЕД. Па другому хочаш?

КАДЗІЛКА. Не, я свой стол сюды выстаўлю—ды людзей прымаць буду. А то гэтыя дні ка мне ніхто, усё да Панасюка. Народ у нас яшчэ нясмелы—лішнія дзверы адчыніць баіцца. (*Надпіс „Сакратар“ знімае, вешае на дзверы, а „Старшыня“—вешае на сцяну*).

ДЗЕД. Ды не за гэтым. Па прывычцы людзі да Панасюка ходзяць. Сказаць папраўдзе, ты вялікую абмылку зрабіў, што ў канцылярыі не сядзеў.

КАДЗІЛКА. Да гэтага часу я ўсё па аператыўнай лініі.

ДЗЕД. Ага!

КАДЗІЛКА. А цяпер і ў канцылярыі засяду.

ДЗЕД. Во, гэта яно.

(КАДЗІЛКА пайшоў у свой габінет, ДЗЕД за ім. Выносяць стол).

КАДЗІЛКА (*бярэ стол сакратара, нясе ў пакоік. Дзед хоча памагчы*). Не трэба, не трэба, дзед, лёгкі.

ДЗЕД (*адзін*). Дарма яго бэсцілі. Ён, бачыш, які чалавек аказаўся. І пенсіі падбавіць хоча.

КАДЗІЛКА (*выносіць крэслы з свайго пакою. Мяккае ставіць для наведвальнікаў. Для сябе—звычайнае*). А цяпер, дзедка, скокні, папярос прымчы. (*Дае грошы. Да сябе*). Колькі-ж тут? Ну, 5 пачак „Дэлі“ і 5 „Спорт“. Што-ж яшчэ? Ага! Каробку лядзянцоў. І вазьмі рахунак.

ДЗЕД. А рахунак на каго?

КАДЗІЛКА (*задумаўся*). На каго? На каго? На культпатрэбы сельсовета.

ДЗЕД. Як, як?

КАДЗІЛКА (*спахваціўся*). Бяры без рахунку. Па рахунак я сам зайду. А ўбачыш каго, скажы, што сёння старшыня сам прымае. У каго што—няхай прыходзяць.

ДЗЕД. Ты не сумнявайся. Я пастараюся. (*Пайшоў*).

КАДЗІЛКА (*прыбірае на стале*). Так. Так. А цяпер трэба Канстытуцыю сюды. (*Прыбівае да сцяны*). Каб не гэты пункцік, то Канстытуцыя наша была-б усім канстытуцыям канстытуцыя. І як гэта не ўлічылі, што тайнае галасаванне будзе дэмаралізаваць савецкі апарат ад нізу да верху. Пры адкрытым галасаванні чалавек не паступаўся сваёй асобай, быў сам сабе. Вось хоць-бы і я. Двое перавыбараў прайшоў і не чхнуў. Аб'явяць, бывала: Кадзілка Алесь Калінікаў. А я як-бы і не ў тым. Стану толькі так, каб я ўсіх і мяне ўсе. І што там у каго на душы, а галасуюць як адзін. Бо ці-ж хопіць у чалавека сумлення не падняць рукі, калі ты глядзіш на яго? А цяпер стануць апаратчыкі дагаджаць людзям—прыдабрывацца. Стануць душою крывіць, ласкі запабягаць. Як і я сёння перад дзедам. І такі-ж выйшаў канфуз. І не было-б гэтак крыўдна, каб я, скажам, быў ці растратчык, ці хабарнік, ці п'яніца. А я толькі непрытворны шчыры чалавек. Я лічыў ніжэй сваёй чалавечай годнасці прыкідвацца, што мне цікава сядзець у канцылярыі і разбіраць розныя справы—калі маю шырокую натуру вабілі палі, калі душа мая рвалася да культуры—у горад, у тэатры, кіно. Закінеш дубальтоўку і гайда! з ветрам у перагонкі. Возьмеш білет і на цягнік! А цяпер за гэта. Эх!.. Сама-ж цяжэй тое, што я сам усяму вінаваты. Бо каб я тады, калі абгаварваўся праект, паслаў свае меркаванні—то гэтага пункту не прынялі-б. Факт—не прынялі-б. Ну, а цяпер, Алесь Калінікаў, старайся! Старайся дагадзіць і жуку, і жабе, і старай бабе. І дагаджу! Раз такі закон... Тут самая жорсткая барацьба за існаванне. Не ісці-ж мне ў пастухі. Ды й не прымуць—там кваліфікацыя патрэбна. А тут я пяць ужо гадоў! Прафесіянал! Не здамся!.. Захачу, то мне абы раз з чалавекам пагаварыць. Вось, як з дзедам. Напляваць на канфуз, а цяпер ён за мяне.

ПАНАСЮК. Здароў! Ты ўжо тут. (*Распранаецца*).

КАДЗІЛКА. Уга! Народу ўжо колькі прыняў.

ПАНАСЮК. А ты не дуры людзей. На прыём пара быць павінна. А дзе мой стол?

КАДЗІЛКА. Габінет я табе свой уступіў. Прывядзі ў парадак

справаводства. Ды каб табе не перашкаджалі. А людзей я тут прымаць буду.

ПАНАСЮК. Во, дзякуй! А то і праўда, паперы ў мяне не зусім у парадку, усё некалі было. Мне дзень—два хопіць (*пайшоў у пакоік. Варочаецца*). Дзе заява Нічыпаронка?

КАДЗІЛКА. Не ведаю.

ПАНАСЮК. Ён табе аддаў і некалькі ўжо разоў прыходзіў, каб назад забраць. Паперы ў яго там важныя. Сёння, казаў, зноў прыдзе. Так што ты пашукай. (*Пайшоў у пакоік. За акном прайшоў нехта*).

КАДЗІЛКА. Ідзе нехта. (*Садзіцца за стол. Да сябе*). Насілуй, Кадзілка, сваю асобу.

БАРАБОШКА (*гэта рухавы, вёрткі чалавек*). Дзень добры. Дзе-ж сакратар?

КАДЗІЛКА. На што-ж ён вам?

БАРАБОШКА. Справа ў мяне.

КАДЗІЛКА. Па справах прымаю я. (*Паказвае на крэсла перад сталом*). Садзецеся, расказвайце.

БАРАБОШКА. Прабачайце. А, вы хто будзеце?

КАДЗІЛКА. Я—старшыня.

БАРАБОШКА (*узрадавана*). А таварыш Кадзілка, значыць.

КАДЗІЛКА. Так! Так! Дык што-ж у вас за справа?

БАРАБОШКА. Справа ў мяне дужа сур'ёзная, а вы чалавек новы—так што я да сакратара.

КАДЗІЛКА. Я-ж у вас пяты год.

БАРАБОШКА. Ведаю, ведаю. Ды бачыць вас усё не даводзілася. Толькі тады, як галасавалі. А сакратар—ён усё да кропелькі ведае. (*Панасюк выходзіць з пакоіку ў шафу па паперы. Барабошка ўзрадавана*). Сымон Данілавіч, дык ты-ж тут! А я ўжо хацеў назад сыпаць.

ПАНАСЮК. Здароў, Пятро, здароў! Ну, як? Ужо ўсё ў парадку?

БАРАБОШКА. Ды дзе бачыў. (*Пашлі ў пакоік*).

ТАРАТУТА (*убягае. Яна бачыць Панасюка, які ўвайшоў у пакоік і зачыніўся*). Таварыш сакратар! І гэты ўжо, як Кадзілка, ад людзей хаваецца! (*Пабегла за ім. З пакоіку чуваць абрыўкі размовы*).

ГОЛАС ПАНАСЮКА (*сур'ёзна*). Грамадзянка, я...

ТАРАТУТА (*перабівае крыкліва*). Як жа-ж гэта! Што-ж гэта!.. Чаму-ж гэта! Калі я не магу...

БАРАБОШКА. Вось гэтак кожны дзень. Яна мне. (*Бурная размова, слоў не разабраць*).

КАДЗІЛКА. Вось і рабі людзям дабро. Я яму ўвесь сельсовет даверыў, думаю: няхай расце чалавек. Ды каб не гэты пункцік, то яно-б усё было ў парадку. Цяпер-жа другое. Калі ён будзе ў канцылярыі, то ка мне ніхто і не звернецца. І хітрасць, што габінет уступіў, не паможа. Ну, што-ж. Будзем хітрыць далей. Не здавацца-ж. Крыві, Кадзілка, душою! Што-ж бы тут? (*Задумаўся*). Ага! (*Піша, запячатвае ў канверт. У гэты час з пакоіку чуваць спрэчкі*). (*Кліча:*) Сымон Данілавіч. Таварыш Панасюк.

ПАНАСЮК (*прачыняе дзверы*). А што?

КАДЗІЛКА (*дае яму ліст*). На, брат, каці ў райвыканком. Перадасі старшыні. Што-ж ён дагэтуль культурніка нам не дае.

ПАНАСЮК. Старшыня казаў, што 15-га будзе.

КАДЗІЛКА. Ведаю я яго. Абы адгаварыцца. Калі не націснуць, дык не адно пятнаццатае пройдзе. Ды і к інструктару зайдзі. Працівагазаў у нас на ўвесь сельсовет усяго пяць.

ПАНАСЮК. Учора 90 прывезлі.

КАДЗІЛКА (*у бок*). А каб ты згарэла. Вось укляпаўся.

БАРАБОШКА. Не, Сымон. Канчай ты. Ты-ж усё ведаеш.

ТАРАТУТА (*запальчыва*). Давайце мне спраўку. Калі чалавек не можа—на гэта закон ёсць.

(Панасюк апранаецца. Барабошка і Таратута каля яго).

ПАНАСЮК (*ідучы да парога, сур'ёзна*). Грамадзянка, я вам раз сказаў.

ТАРАТУТА (*за дзвярыма*). Што-ж гэта за парадак. Дзе-ж гэта праўда?

ПАНАСЮК (*вярнуўся*). Ледзьве не забыўся. На пячатку (*дае*). Заяву Нічыпарэнкі не забудзь знайсці. Ды глядзі, не навары тут піва, прымаючы, бо...

КАДЗІЛКА (*усхваціўся, як апараны*). Ты што. Вучыць мяне. Нос вытры.

ПАНАСЮК. Ціха. Ціха. (*Пашоў*).

КАДЗІЛКА. Раз барацьба за існаванне—то ніякіх патуранняў. Я табе абламлю рогі. Ну, цяпер у мяне свабода дзеяння. Былі-б толькі наведвальнікі. А мне толькі раз з чалавекам пагаварыць.

ДЗЕД. Вось табе і папяросы і мадрын і здача. (*Кладзе ўсё на стол. Цукеркі ў каробцы*).

КАДЗІЛКА (*адчыніў каробку, частуе цукеркамі*). На, дзедка, бяры.

ДЗЕД (*закашляўся*). Вось кашаль мне грудзі адбівае.

КАДЗІЛКА. А гэта ад кашлю. Бяры. Бяры. (*Дзед бярэ*). Ды вось што, дзед. Табе задача—каб сёння ніхто не пашоў, са мною не пагаварыўшы.

ДЗЕД. Гэта чаму-ж так.

КАДЗІЛКА. Бачыш, дзедка... Бачыш... (*да сябе*). Як-бы яму тут. (*Прыдумвае, што сказаць*). Залажыліся мы з Сымонам. Ён кажа, што ніхто да нас не пойдзе. А я—што ў мяне з дзедам больш наведвальнікаў будзе, як у яго. Бяры, дзедка, бяры.

ДЗЕД. Ну, калі заклад, то не сумнявайся. Выйграеш. Запісвай толькі. Я табе за дзень за сотню наганю.

КАДЗІЛКА. Пастарайся, дзедка, а то Панасюк засмяе нас.

ДЗЕД. Не сумнявайся. Сяду на лаўцы перад сельсоветам. Нікога не прапушчу.

КАДЗІЛКА. На, дзедка, папярос. І сам куры, і людзей частуй. Ты, гледзячы па чалавеку—каму „Дэлі“, а каму „Спорт“.

ДЗЕД. Будзь спакойны. (*Пашоў*).

КАНДРАТ (*на дварэ*). Старшыня ёсць?

ДЗЕД. Ёсць. Ёсць. З самага рання прымае. (*Уваходзіць Кан-*

*драт. Дзед за ім, як тады, калі баяцца, каб чалавек не ўцёк Дзед упусціў і зачыняе дзверы).*

КАНДРАТ. Дзе мая заява?

КАДЗІЛКА. Сядайце, калі ласка. Сядайце. Якая заява?

КАНДРАТ. Як то якая!? Мая. Шосты тыдзень, як падаў; а цяпер сыскаць не магу.

КАДЗІЛКА. А, помню, помню. (*Дае папяросы*). Закурвайце. Вашу заяву я ў той-жа дзень сакратару перадаў для выканання.

КАНДРАТ. Няма ў сакратара. Я ў яго разоў дзесяць ужо быў.

КАДЗІЛКА. А, гэта вы—Нічыпаронак. Я вас з другім зблытаў. Вашу заяву разгледзім на бліжэйшым пленарным паседжанні сельсовета.

КАНДРАТ (*што раз, больш злосна*). Што там разглядаць? Справа ясная! (*Званок тэлефона*).

КАДЗІЛКА. Аллё. Аллё. Снішкаўскі сельсовет. Старшыня пры апараце. Тэлефонаграма. У мяне цяпер прыём. Пры-ём ідзе. Тэлефонаграмы ад 4-х да 5-ці. У мяне народ—жы-выя людзі, а вы з канцылярщчынай. (*Вешае трубку, да Кандрата соладка*). Не хвалюйцеся, пачакайце дзень-два.

КАНДРАТ (*перабівае*). Кепікі нада мною строіш. (*Стукае кулаком па стале*). Якое тут чаканне. Заўтра суд.

КАДЗІЛКА. Уласна кажучы, ваша справа гэта... гэта...

КАНДРАТ. За хуліганства.

КАДЗІЛКА. Нічога. Нічога. Не хвалюйцеся. З кім не здараецца. Пэўне падвыпіўшы.

КАНДРАТ (*яшчэ больш злосна*). Ды хуліганіў не я. Не я, а Панкрат Нічыпаронак. А міліцыя запісала—Кандрат Нічыпаронак.

КАДЗІЛКА. Добра. Добра. Я запішу сабе ў блок-нот.

КАНДРАТ. На чорта мне твая запісь, заяву давай.

КАДЗІЛКА. У сакратара ўсе паперы, а без яго я не магу.

КАНДРАТ. Няма ў яго?

КАДЗІЛКА. Згубіў, пэўне, і прызнацца не хоча.

КАНДРАТ (*да сябе*). Трэба з ім па другому. (*Ветла*). А пашукай ты ў сваім партфелі.

КАДЗІЛКА. (*Збянтэжаны*). Гэта чаму?

КАНДРАТ. Бо я аддаваў табе на вуліцы, і ты ў партфель сунуў.

КАДЗІЛКА (*прарвайся*). Што за нахабства. Як ты смееш. Ды я цябе... Ды я табе...

КАНДРАТ (*ласкава*). Таварыш старшыня. Таварыш Кадзілка, не гарачыся. Чаго з чалавекам не бывае.

КАДЗІЛКА. Ды я... Ды гэта... Чорт ведае што. (*Стукае кулаком*). Што я без галавы. Дурань. Балбес. Пяць тыдняў заяву тваю ў партфелі нашу. Ды я цябе пад суд за знявагу.

КАНДРАТ. Не дарма людзі кажуць, што старшыня для блізіру, а з справамі трэба да сакратара. Я не верыў і вось... згарэла-б яно.

КАДЗІЛКА (*адразу спускае тон*). Сакратар сакратаром, а гаспадар я. (*Званок тэлефона. Падбягае, бярэ трубку са злосцю*). Аллё. Сказаў тэлефонаграмы ад чатырох да пяці. У мяне прыём. Прашу не перашкаджаць.

КАНДРАТ. А зрабі ты ласку, зірні ў партфель. Тут-жа нічога такога. Чаго з чалавекам не бывае. Мая вунь, сказаць, да чаго памятлівая, і то... Даў ей працоўную кніжку ў схоў, а надаў мёд на працадні даюць. Я да яе:—„Дай кніжку“. А яна і забажылася, і зарачылася. Дух забівае:—„Не брала“. Хату ўсю перавярнулі шукаючы... Я і кажу:—„Зірні ты, Тадорка, у кішэні“. Яна—мац, а кніжка там. Так што гэта з кожным можа здарыцца. (*Звоніць тэлефон*).

КАДЗІЛКА (*падбягае*). Я. (*Злосна*). Колькі раз гаварыць вам буду: ад чатырох да пяці. Бюракратызм. Канцылярщчына. (*Вешае трубку. Да Кандрата*). Напішэце другую заяву. Вось вам папера.

КАНДРАТ. Ды мне не заява—а спраўка пры ёй важная. Паўла Некраш пры гэтым быў—дык ён там падпісаны.

КАДЗІЛКА. Ён яшчэ раз падпіша.

КАНДРАТ. Як-жа ён падпіша, калі ўжо трэць тыдзень, як на Далёкі Ўсход паехаў.

КАДЗІЛКА. Ну, каб вам не думалася. (*Адчыняе портфель. Пачынае перабіраць паперы. Да сябе*), Кандрат Нічыпаронак. (*Перакладае і чытае паперы*). Галавача Янкі заява (*кладзе ў бок*), Шабуні Язэпа (*адкладае*). Мароза, Шкіндзера, Гарэліка, Баравічыхі Сабіны.

КАНДРАТ (*зграбае паперы*). Во гэта, во. Мая. Мая. Ох-х. Дзякуй жа табе. Ты-ж мяне ад смерці адкупіў. Во яна, во, спраўка. А вось і подпіс Паўлы. А то мне толькі і аставалася, што выроўка. Бо хуліганства за дзяўчыну. Ды ў гэтай дзяўчыны ўжо наклёўваецца. А ў мяне—жонка, дзеці. Ах ты, чалавек дарагі. Дзякуй табе, дзякуй!

КАДЗІЛКА. Гэта затым... А паглядзеў—паперы важныя. А важных папераў, па праўдзе кажучы, не давяраю я сакратару. Давайце сюды, я вам заверу.

КАНДРАТ (*не выпускае паперы з рук*). Няхай сабе. Я прытрымаю, каб вам зручней. (*Аберуч трымае паперу. Кадзілка падпісвае і ставіць пячатку*).

КАДЗІЛКА. Ну, вось і гатова. А будзе ў вас справа якая, вы проста ка мне. Ды і так заходзьце. Прывыкайце да ўстановы. Няма таго благога, каб на добрае не выйшла. Я вас пазнаў, і бачу—чалавек вы талковы, уважлівы. А нам такія патрэбны. Так што я мяркую вас кандыдатам у часе перавыбараў выставіць—закурвайце.

КАНДРАТ. Ну, гэтага не варта. А з цябе, бачу я, чалавек можа быць. Дармо цябе... гэта... Порсткі ты, але адходлівы. Ды калі табе растлумачыць, дык і зразумееш і паслухаеш. А што заява. Ну, што-ж зробіш. Чаго з чалавекам не бывае. Будзь здаровенькі. (*Падае руку*).

КАДЗІЛКА. (*Дае папяросы*). Бярыце, бярыце. (*Адкладае яму некалькі*). Гэта вам на дарогу.

КАНДРАТ. Ды колькі тут той дарогі. Я-ж цераз вуліцу. (*Пашоў*).

КАДЗІЛКА. Ух. Каб цябе немач. (*Выцірае лоб, расшпільвае пінжак*). Ну, але нічога. Другі на маім месцы язык-бы праглынуў.

Дрэнна вось, што не сцярпеў. Ну, але я яго пасля ўлагодзіў. Чалавек адпусціўся. І ласкавы стаў. Гладка вышла. Мне толькі раз з чалавекам пагаварыць. І адкуль у мяне гэтулькі заяў чортавых набралася.

ТАРАТУТА. (*Ад парогу*). Дзень добры, таварышок. Я да вас.

КАДЗІЛКА. (*Да сябе*). Ох! Будзе перапалка, ды яшчэ баба. З ёю і чорт не справіцца. (*Да Таратуты, як можна ветліва, салодкім голасам*). Дзень добры. Дзень добры. (*Падае руку. Трымаецца так, як той, хто баіцца, каб яму не далі ў шыю зянацку*).

ТАРАТУТА. А ручка ў вас, таварышок, мякенькая, беленькая, далікатненькая. (*Іграе вачыма*).

КАДЗІЛКА (*разгублена, апраўдваючыся: Думае, што яна з гэтага пачынае*). Гэта ў мяне так... Прырода. Сядайце. (*Падае папяросы, закурвае сам*). Калі ласка.

ТАРАТУТА. Я... (*ківае галавою, што не курыць. Іграе вачыма*).

КАДЗІЛКА. Ну то гэтых (*адкрывае цукеркі, падае*).

ТАРАТУТА. За што-ж вы мяне, таварышок?

КАДЗІЛКА. Я гэтак усіх. Звычай у мяне такі. Для мяне наведвальнік—што госць дарагі (*звоніць тэлефон. Кадзілка бяжыць*). Так, я. Да чатырох ніякіх тэлефанаграм. (*Садзіцца. Да Таратуты*). Я вас слухаю.

ТАРАТУТА. Я, таварышок, Таратута. Пэўне чулі. Мяне ўсе ведаюць.

КАДЗІЛКА (*усё яшчэ баючыся*). Таратута... Так, так. У чым справа, грамадзянка Таратута?

ТАРАТУТА. Дайце, таварышок, звальненне ад работы.

КАДЗІЛКА. Ад работы?

ТАРАТУТА. Ад работы, таварышок. Паперку напішэце ў калгас, што грамадзянка Таратута хворая і падлягае поўнаму аслабаненню ад працы. Каб па чыстай.

КАДЗІЛКА. Калі чалавек хворы. Ясна. У нас-жа і закон на гэта ёсць. (*Піша і гаворыць*): Грамадзянка...

ТАРАТУТА (*падказвае*). Таратута Саклета.

КАДЗІЛКА (*піша*). Таратута Саклета хворая і як такая, падлягае...

ТАРАТУТА (*падказвае*). Поўнаму звальненню.

КАДЗІЛКА. Поўнаму звальненню ад працы.

ТАРАТУТА. Вы-ж, таварышок, і пячаць.

КАДЗІЛКА. І подпіс і пячаць—усё па форме. Калі ласка!

ТАРАТУТА. Во, што значыць чалавек. А сакратар ваш, бюракрат нейкі. Ногі адбіла ходзячы. Цяпер я, калі ў мяне што, толькі да вас.

КАДЗІЛКА. Наш абавязак.

ТАРАТУТА. Я, таварышок, усім раскажу, што старшыня наш— золата, а не чалавек. А вы, таварышок, ка мне заходзьце. У мяне і балалайка, і мандаліна, і гітара. Я дужа песні—музыку люблю. Заходзьце (*іграе вачыма*).

КАДЗІЛКА. Добра. Добра. Пастараюся. А дзе-ж вы жывяцё?

ТАРАТУТА. За Анціпам на водшыбе—памятайце, дзе Тара-

тута—і вам такі (*паказвае рукой на малога*) пакажа. Я вам і напяю і найграю. Да пабачэння. (*Ідзе і напявае*):

Як я была мала,
Цалавала мяне мама.
Як стала падрастаць,
Сталі хлопцы цалаваць.

КАДЗІЛКА. Во гэта жанчына. Аказваецца, што працаваць у канцылярыі не так ужо трудна. Нават цікава (*запісвае ў блакнот*). Саклета Таратута. Абавязкова зайду. Сёння вечарам. Сакавітая жанчына. Пышная, здобная. Не папытаў—удава ці так. Ну, гэта ўсёроўна. Але пэўне ўдава. (*Напявае*):

Ой, за лесам ціхі вецер вее,
Там удоўка пшанічаньку сее.
Там удоўка пшанічаньку сее.

(За дзвярамі валтузня).

ТАДОРА. Чаго ты ка мне? Пусці! пусці, а то ўпаду. Чорт стары,

ДЗЕД. А ты—не разыходзься надта, бо... Я пры выкананні службовых абавязкаў. А за гэта ведаеш? Ідзі, ідзі да старшыні.

ТАДОРА. Рыгорка—Рыгор. А жыцця-б ты не ведаў. Я-ж цябе як чалавека спытала, ці не бачыў...

ДЗЕД. Усе даведкі дае старшыня. А ў мяне на тое ўлады няма. (*Адчыняючы дзверы. Дзед, згробшы бабу, папіхае яе перад сабою*).

ТАДОРА. Ці не звар'яцеў ты?

(Р ы г о р, калі ўвапхнуў Т а д о р у, выпусціў яе. Яна адскочыла ад яго і пазірае на Р ы г о р а, як на звар'яцелага. Яна вельмі перапалохана. Д з е д выцірае твар, ён стаміўся. Міргануў К а д з і л к у і вышаў, грукнуўшы дзвярыма).

КАДЗІЛКА. Супакойцеся, супакойцеся, цётачка. Садзецеся (*усаджвае яе ў крэсла, налівае вады*). Вось вам вада, папеце.

ТАДОРА. Я... Я...

КАДЗІЛКА. Пеце. Пеце.

ТАДОРА (*не ведае, што рабіць ад страху. Яна думае, што трэба слухаць. П'е, ляскаючы зубамі*).

КАДЗІЛКА. Пеце. Пеце. Смела.

ТАДОРА. Больш... не магу.

КАДЗІЛКА. Стаўце на стол. Ну, расказвайце, што ў вас за справа.

ТАДОРА. Не справа ў мяне, а курка...

КАДЗІЛКА. Для вас курка, а для нас справа... Расказвайце, што ў вас з куркай.

ТАДОРА. Курка мая рабенькая, з чубком, ножкі кашлаценькія. Ці-ж вы яе не ведаеце? Яна часта з вашымі курамі хадзіла.

КАДЗІЛКА (*закурвае, падае Тадоры*). Калі ласка—бярэце.

ТАДОРА. Як-жа-ж гэта? Чаму? За што-ж мяне?

КАДЗІЛКА. Не адмаўляйцеся. Не адмаўляйцеся. І сароміцца няма чаго.

ТАДОРА (*перапалоханая бярэ папяросу, круціць у пальцах. Звоніць тэлефон*).

КАДЗІЛКА (*бяжыць*). Чатырох яшчэ няма. Што вы мне сёння працаваць перашкаджаеце. (*Да Тадоры. Запальвае запалку*). Што-ж вы папяросу ў руках куцаеце? Прыпальвайце. (*Тадора прыпальвае*). Курка рабенькая, з чубком?

ТАДОРА. Во. Во. Яна самая. (*Закашлялася ад дыму. Шпурляе папяросу*). Згарыць яна няхай! Век не курыла, а ён мяне на старасці прымусіў.

КАДЗІЛКА. Чаму-ж вы не сказалі? Для некурашчых у мяне другое (*падае цукеркі*). Калі ласка! Гэта і ад кашлю. Бярэце! Бярэце!

ТАДОРА. Кісленькія. Пад мой густ.

КАДЗІЛКА. Калі ласка! А папяросу дарма вы кінулі. (*Падымае*). Гэта-ж „Дэлі“—вышэйшы сорт. Чалавек скурыць і дзякуй скажа.

ЦІМКА (*убягае. ад парогу*). Таварыш Кадзілка! Таварыш старшыня.

КАДЗІЛКА. Што ў вас там?

ЦІМКА. Дровы...

КАДЗІЛКА. Дровы не ўцякуць. Бачыце—народ прымаю.

ЦІМКА. Гэта-ж Тадора—а там дровы. Для школы дровы, настаўніца просіць. (*Тадора асмялела. Села ў крэсла глыбей. Ей падабаецца што мякка, яна смокча цукеркі. Калі гаворыць—то з цукеркамі ў роце*).

КАДЗІЛКА. Добра! Добра! Скажы настаўніцы, што пра дровы я помню. Вось у мяне і ў плане. Апал для школы. Во. Толькі па плану заўтра.

ЦІМКА. Таварыш старшыня. Таварыш Кадзілка. У гэты момант—цяпер, а то...

КАДЗІЛКА. Раз сказаў. У мяне прыём. Не перашкаджайце.

ЦІМКА. Ах ты... А там можа ўжо Ой, ой! Што рабіць? Таварыш Кадзілка! Ды вы паслухайце—тут на цэлы год дровы. Ды такія дровы!

КАДЗІЛКА. Прашу пакінуць установу.

ЦІМКА. Што рабіць? Што рабіць? Няхай настаўніца сама. *Пс бег*).

КАДЗІЛКА (*да сябе*). Хоць разарвіся.

ДЗЕД (*убягае*). Таварыш старшыня?

КАДЗІЛКА. Што там яшчэ?

ДЗЕД. На дарозе пад лесам рух нейкі.

КАДЗІЛКА. І ўсё?

ДЗЕД. Фурманкі—людзі. Людзі—фурманкі.

КАДЗІЛКА. На тое і дарога.

ДЗЕД. Ды там нешта такое, не так як заўсёды.

КАДЗІЛКА. Што за дзень? Як згаварыліся ўсе. Тут тэлефон. Тут Цімка, яшчэ і ты. Зусім нельга працаваць.

ДЗЕД. Калі-ж там нешта дзіўнае.

КАДЗІЛКА. Не перашкаджай, дзед. (*Да Тадоры*). Ножкі калашмаценькія?

ТАДОРА. Але-ж, але. Яна самая. (*Тэлефон*).

КАДЗІЛКА (*знімае трубку. Ні да кога*). Цяпер няхай звоняць. (*Да Тадоры*). Я вас слухаю.

ТАДОРА. А нясушчая-ж. Дзень у дзень з яечкам.

ЦІМКА (*убягае*). Таварыш Кадзілка! Таварыш Кадзілка! Ды вы хутчэй, а то не заспеем.

КАДЗІЛКА. Што там ізноў?

ЦІМКА. Дровы. Ды гэткія-ж сухія. Ды пад бокам.

КАДЗІЛКА. Я вам раз сказаў.

ЦІМКА. Дык-жа забяруць. Ды гэткія-ж дровы! Таварыш Кадзілка!

КАДЗІЛКА. Нашых ніхто не забярэ. А вы не перашкаджайце, бо аштрафую.

ЦІМКА. Ой. Не чалавек, а даўбешка. Ой, дровы! Ой на вазы ўжо пачалі класці!

КАДЗІЛКА (*падыходзячы да яго*). Доўга вы мне будзеце?

ЦІМКА. Прапалі дровы! Прапалі! (*Пабег*).

КАДЗІЛКА (*да Тадоры*). Ну, я вас слухаю... І што сталася з вашаю куркай.

ТАДОРА. Сёння ўранні зляцела з кросання. Пашчупала я, а яна, галубка, з яечкам. Пусціла я яе. Думаю, няхай яшчэ паходзіць, шкарлупка на яечку мацнейшая будзе, а сама сачу. Яна-ж у мяне даўно ў чужым гняздзе нясецца.

КАДЗІЛКА. Так, так.

ТАДОРА. Сачу, сачу—да задрамала на сонейку. Прахвацілася, а маёй чубаткі і следу няма. Я і кінулася.

ЖАЎРУК. Здароў, Кадзілка!

КАДЗІЛКА. Старшыні Дзягілёнскага сельсовета маё шанаванне.

ЖАЎРУК. Працуеш?

КАДЗІЛКА. І не пытай! Сёння ў мяне з самага рання такі лапатлівы дзень. Якім-жа чынам ты ка мне заблудзіў?

ЖАЎРУК. Я да цябе з падзякаю.

КАДЗІЛКА. За што?

ЖАЎРУК. Дык ты яшчэ не ведаеш? Ты-ж мне так удружыў! Так удружыў, што не ведаю, як табе дзякаваць.

КАДЗІЛКА. Кажы ўжо, кажы.

ЖАЎРУК. Дровы я ў тваім лесакамбінаце купіў.

КАДЗІЛКА. Ты сам?

ЖАЎРУК. Я сам. Ды такія дровы! Адходы. Сухія. На ўвесь год абедзве школы забяспечыў. Любата!

НАСТАЎНІЦА. Таварыш Кадзілка! Дроў у школе ні палена. Дзеці не распранаюцца. А яны ў нас з-пад носа. Што-ж вы зрабілі?

КАДЗІЛКА. У мяне прыём. Народ (*абводзіць рукою*). Жывыя людзі. А там дровы. Не мог кінуць.

ТАДОРА. Ды што там людзі, калі такая справа.

ЖАЎРУК. А я ўжо быў і струсіў. Марыя Мітрафанаўна прыегла (*паказвае на настаўніцу*), запрэт дае. Па цябе паслала. Ды пашанцавала. Дырэктару камбіната трэба было сёння пляц ачысціць. я з падводамі.

ДЗЕД (*уводзіць вайсковага*). Вось наш старшыня.

ВАЙСКОВЫ. Я па справах авіядэсанта.

КАДЗІЛКА. Які авіядэсант?

ВАЙСКОВЫ. На тэрыторыі вашага сельсовета гадзіну таму высадзіўся авіядэсант.

УСЕ.
Авіядэсант.
Парашутысты.
Дзе яны.
Пакарміць трэба.
Можа падводы.
(*Бягуць.*)

ТАДОРА. А я тут. Я ім, галубкам, хоць канхветаў гэтых (*забірае каробку*).

ПАНАСЮК (*на парозе*). Куды? Пажар?

УСЕ:

— Авіядэсант.

— Парашутысты ў нас.

ПАНАСЮК. Усё ў парадку. Авіядэсант—ужо на станцыі.

ВАЙСКОВЫ. Адкуль вы ведаеце?

ПАНАСЮК. Ішоў я па дарозе, бачу, апускаюцца на белых парасонах. Я туды. Арганізаваў спатканне і дастаўку на вакзал. (*Вайсковаму рапартуючы*). Усе цэлы—прызямліліся люба-дорага. Шэсць жанчын і чатырнаццаць мужчын. (*Усе акружылі Панасюка, слухаюць.*)

ГАЛАСЫ: Як-жа гэта.

— У нас авіядэсант!

— Чаму нам не сказалі?

— Чаму нас не паведамілі?

— Авіядэсант—а мы не ведаем.

ВАЙСКОВЫ. За гэта падзякуйце свайму старшыні. Ён не прыняў тэлефонаграму.

ЛЮДЗІ (*падступаюць да Кадзілкі*).

— Ты гэта што?

— Ты гэта як?

— Ты гэта чаму?

КАДЗІЛКА (*мармыча нешта неразборліва*).

ТАРАТУТА (*убягае. Да Кадзілкі*). Што ты мне даў? Твая паперка не мае сілы.

УСЕ. Ціха, ты, ціха. (*Паказваюць на вайсковага*).

ТАРАТУТА. Што мне ціха. Ён думае, ласку зрабіў, што на паперцы ад працы звольніў. Ды я без яго паперкі—не пашла на работу і ўсё. А раз ты прызнаў, што я хворая, то павінен даць, каб мне, як хворай, працадні налічвалі. (*Да вайсковага*). Таварыш камісар, правільна я совецкі закон разумею?

ВАЙСКОВЫ. Верна. Калі чалавек хворы.

ТАРАТУТА. Ну вось. А ён...

БАРАБОШКА (*убег—да Кадзілкі*). Што гэта такое? Ты чаму Таратуту ад працы вызваліў? Які гэта доктар прызнаў, што яна хворая? Ды яна здаравей усіх нашых калгасніц.

ТАДОРА (*яна зноў села ў крэсла, каробку з цукеркамі па-*

*ставіла сабе на калені. Смокчучы цукеркі*). Таратута! Лайнік гэты! Якая-ж яна хворая? Гультай. Рабіць не хоча.

БАРАБОШКА (*да Кадзілкі*). Ты-ж мне работу зрываеш. Я табе гэтага не дарую. Ды я пракурору.

КАНДРАТ (*убягае засопшыся. З роспаччу*). Ой, што-ж мне рабіць? Таварыш Кадзілка—прымі меры. Збяры людзей—няхай шукаюць. Ой, не жыць мне на свеце.

УСЕ. Што? Што сталася?

КАНДРАТ. Тадора мая прапала. Людзі чулі, як крычала, а пасля ўжо ніхто яе не бачыў. (*Убачыў Тадору—мяняе тон, злосна*). Вось яна дзе. А я без душы. Вёску ўсю перабег. І каля рэчкі і студню перабаўтаў...

ТАДОРА. Кандратка, я...

КАНДРАТ. Чаго-ж бягу я! Я ногі збіў, шукаючы, а яна куды, на пагулянкі—раскапусцілася. А бо, дык яна-ж з цукеркамі. (*Наступае на Тадору*). Ы-ыхх, ты!

ТАДОРА. Кандратка! Кандратка! Я курачкі шукала. А мяне сілаю...

КАНДРАТ. Хто?

ТАДОРА (*паказвае на Кадзілку і дзеда*). Яны! Яны! (*На дзеда*). Гэты злавіў, а гэты...

КАНДРАТ (*да Кадзілкі*). Дык ты гэтак! Дык я-ж цябе сваім судом. (*Кадзілка ўцякае. Людзі стрымліваюць Кандрата*). Пусцеце, пусцеце! Я яму. Людзі добрыя! Што-ж гэта ў нас такое? Ну, баба ў мяне на курах крыху (*паказвае на лоб*). Дый наогул на галаву не зусім моцная. Дык ці-ж разумны чалавек смяяцца будзе? А ён, зладзюга, ціятры з гэтага.

ТАДОРА. Ціятры, Кандратка, ды яшчэ якія ціятры. Ваду піць загадаў. Курыць прымусіў. А пад канец цукеркі есці казаў.

ЖАЎРУК. Кадзілка! Што ў цябе тут?

КАДЗІЛКА. Я...я...я... (*Мармыча.*

КАНДРАТ. Ды пусцеце вы мяне!) Ды я яму!

(За акном закохкала курыца)

ТАДОРА (*зірнула ў акно*). Вось і калашматачка мая. Знеслася ўжо. (*Падскаквае да Кадзілкі, тармосіць яго*). Гэта ты знарок мне зубы загаварваў, каб мая курка ды ў тваім гняздзе знеслася. Ах ты рыштант! Кандратка, дай яму. (*Яна пабегла клічучы*): Ціп-ціп-ціп-ціп. Ціпанька мая, ціпанька.

КАДЗІЛКА (*стаіць як ёлуп. Усе наўкола яго*).

ПАНАСЮК. Навары́ў ты, Кадзілка, піва...

(Заслона)

# *Радаслоўная*

АНДРЭЙ УШАКОЎ

Прасачы ад малпы ці Адама
Продкаў паважаных развіццё.
Быццам за замкамі, за гадамі
Захавана іхняе жыццё.
Рослы селянін з-пад Магілёва,
Жыў мой прадзед у глухім сяле,
Жыў на месцы ўсё жыццё, як дрэва
Ў цемры, як кажан жыве ў дупле.
Свет не бачачы далей мястэчка,
Працаваў з-зары і да зары,
Спіну гнуў ў абшарніцкім двары
І сатлеў пакорна ціхай свечкай.
На паглум аддай жыццё ў салдаты!
Дзед хоць быў і смелы чалавек,—
Каб не скласці косці на Карпатах
Палец на руцэ сабе адсек.
Сорак сутак насустрэчу сонцу,
Бацька ехаў у чужую даль,
Шапкамі перамагаць японца
І прывёз кастыль, а не медаль.
На нямецкім фронце, брату газы
Далі тры шагі чужой зямлі.
І нарэшце, камбайнер калгаса,—
Я,—апошні нашчадак сям'і.
На мяне глядзіць у строгай раме
Маршал Варашылаў са сцяны.
Я стаю, прад ім і дактарамі,
Чалавек з узростам прызыўным.
Грудзі—звон, высокі, станам статны,
Будуць рады дзядзькі і дзяды,
Не падвёў здароўем, а астатнім,
Самі знаюць—хлопец хоць куды.
Мне над грэбнем хваль, пад золкім ветрам
Несці вахту ў форме марака.
З хлебам-соллю, з шчырым словам, ветла

Ў армію праводзяць земляка.
Аднакашнікі! Вадзіў комбайны
Колькі летаў разам з імі я.
Так радзіма ўся рукамі дбайных
Працавала, як адна сям'я.
Над зямлёю сталінскія справы
Зацвітаюць, як сады вясной.
Ганаруся я пачэсным правам,
Што даручан мне граніц спакой.
Адчыняю чорных год заслону,
Бачу продкаў невясёлы век...
Я з свае вялікай радаслоўнай
Самы найшчаслівы чалавек!

936 г.

## *Асенні дзень...*

АЛЕСЬ ГУРЛО

Асенні дзень хмурнее і яснее
І ліст кляновы сыплецца на дол.
Мой верны друг жыццця—мая надзея—
Яго збірае радасна ў прыпол.

Ўжо спраўлен баль зажынак і дажынак
І выпіта ўмалотнае віно,
Ужо з млыноў пузатыя асміны
Ідуць у хаты новай навіной.

І рошчына ў дзяжы падходзіць і бялее,
І боханы растуць нібы у дождж грыбы.
Жанцы і сейбіты шчасліваю алеяй
Ідуць тварыць жыццё і дабрабыт.

Сягоння мне відны усе прасторы,
Сягоння міл ў радзіме кожны кут!
І вёска мілая і родны горад
Любоўна мне працягваюць руку.

Я ім працягваю абедзве рукі,
Я сэрца жар любоўна аддаю,
Уплятаю ў творчыя іх шум і грукат
Я радасць песнятворчую сваю.

9/X-36 г.

## *Наша касьба*

**АЛЕСЬ ГУРЛО**

Брыніць вада на рэчцы сіняй...
А скрозь зялёныя лугі.
У даль бруяцца спешна плыні
І ў высь узносяцца стагі.

Кіпіць руплівая работа
І звон чуцён сталёвых кос,
Ўгару ляціць імклівым ўзлётам,
Як вал марскі, цяжкі пракос.

Спяваюць хлопцы і дзяўчаты,
Каб з песняй радасць больш адчуць.
Пра час наш шчасны і багаты
Старыя гутарку вядуць.

І я вось тут, на гэтым улонні,
Дзе колісь чуўся стогн і крык,
Працую і спяваю сёння,
Як грамадзянін—не мужык!

6/IX-36 г.

# *Беларусі Совецкай*

АЛЕСЬ ГУРЛО

Беларусь, ты ў мінулым—жабрачка,
Парабчанка палаца, двара,—
А сягоння—працоўных зямлячка,
А сягоння—працоўных сястра!

Ты ішла па балотах, каменнях,
Як ішлі мае прадзед і дзед,
І пясок—твой сваяк несумленны—
Замятаў за табой босы след.

Твае ворагі, ворагі нашы,
Распіналі цябе на крыжы,
А мы славай жывых і паўшых
Заклікалі цябе жыць і жыць!

Ты між роўнымі—роўная стала,
Між сваячак—ты стала свая.
Цаліну векавую ўзарала
На бяспраўных былых палях.

Ўзбагаціла балоты і нетры,
Ажывіла лясы і лугі,
І шумяць пад павевамі ветру
Большэвіцкія чырвань—сцягі.

А навокал ракочуць крыніцы
Жыватворчай халоднай вады,
І расце на балотах пшаніца
І цвітуць на пустэчах сады.

Даў Кастрычнік пачэснае месца,
Насадзіў ён садоў і прысад,
Як дачку сваю і як нявесту,
Цябе ўзвёў на совецкі пасад.

Дык жыві ты шчаслівa, краіна,
Між краінамі і людзьмі!
Ад мяне, ад свабоднага сына,
Ты гарачы прывет прымі!

23/X-36 г.

# *Ноч*

## АЛЕСЬ ЖАЎРУК

Над травой, над вохкім вербалозам,
Над пясчанай відмаю гусінай,
Над маўклівымі барадачамі,
Што старанна ладзяць нераты,
О, знаёмы з ранняга маленства
Пах кастроў начных і свежай рыбы,
Я цябе здалёку без памылкі
Пазнаю, як матчыну страху!

На дымок кастра іду асокай
Да рыбалак. Словы прывітання.
— Чалавека трэба перавезці,—
Узнімае вочы барадач
На хлапца—
Ён трэці. Ён падмайстра
У старых, каторыя да звання
Ведаюць малой і буйнай рыбы
Норавы і тонкія павадкі,
Як Багрыцкага радкі, да слова
Ведаюць мае таварышы.

Босы, з падкасанаю штанінай,
З русым чубам, стромкі і шчарбаты
Прада мной тады ўстае прыгожы
Хлопец. Ён амаль равеснік мне.
Папляваўшы спакваля на рукі,
Ён бярэ вясло.
І праз хвіліну
Човен лёгка рассякае хвалі
Пругкія, як гэта ноч сама.

Мы даўно ужо адзін другога
Прыгадалі, я і перавозчык:
Два гады назад, ці два з паловай,
Прыязджаў я ў гэты бок.
І мы

З ім тады папрацавалі добра.
Толькі, памятаю, ў іхняй школе
Стромкая такая, з залатымі
Косамі настаўніца была.

І нібы два сонцы там свяцілі—
Як дзве цені мы за ёй блукалі,
І халоднымі, чужымі, раптам
Сталі поціскі сяброўскіх рук.
Толькі з сэрцам маладым дзявочым
Што паробіш?!—сэрца пакахала
Трэцяга. Тут быў меліяратар—
З ім на Ўсход паехала яна...

Мы сядзелі ночы над сталамі
Ў цеснай канцылярыі праўлення,
Планы абмяркоўвалі,
І часам
Горача спрачаліся.
Тады
Дакурыўшы толькі што цыгарку,
Людзі зараз новую круцілі,
Кожны браў разоў па дзесяць слова,
Піў ваду і зноў курыў.
Было
Шмат турбот. Брыгады канчаткова
Замацоўваліся. Гаспадыняй дбайнай
Без спазненняў на сваіх маршрутах
Паспявала ранняя вясна...

... Я гляджу на хлопца, і без слова
Мы адзін другога разумеем.
Мы той час гарачы ўспамінаем,
Як сябры старыя.
І яшчэ,
Як матыў любімай даўняй песні,
Мы дзяўчыну нашу ўспамінаем.
І прыемным нейкім, ціхім сумам,
Быццам хмелем лёгкім першых красак,
Ахінаюць лятуценні нас.

А пасля на беразе высокім
Мы аб справах сёнешніх гаворым,
Заўтра сход збярэцца комсамольскі
Разам з моладдзю ўсёй вёскі—
Заўтра МЮД.
Паціскаем моцна рукі.
Сцежкай
Я праходжу ля млыноў знаёмых.
Над Рачэнню поўны жоўты месяц,
Што карась у завадзях, стаіць.

.... А на Ўсходзе дзесьці гэтым часам
Вогненнае сонца выплывае
І глядзіць, і дзівіцца,
як за ноч
Падраслі краіны рыштаванні,
Наліліся росамі сады.
І адзін прамень трапляе сціпла
У калыску. Ён дзіцёнка будзіць.
Той мурчыць.
Жанчына узнімае
Над падушкай галаву
І доўга,
Шчасная, ружовая, глядзіць.
Дзве касы яе пад колер сонца
Падаюць, як залатыя змеі
Ёй на плечы цёплыя
і потым
На кашулю тонкую жанчыны...

—

**Светлы я пад зорамі іду.**

# *Асноўная ідэя*

## ЭДУАРД САМУЙЛЁНАК

— З гораду прыедзе чалавек трыццаць...—гаварыў загадчык гаспадаркі.—З калгасаў запрошана чалавек пяцьдзесят. Значыцца,— восемдзесят гасцей ужо ёсць. На круг будзем лічыць сто, бо факт, што падбягуць добраахвотнікі. Значыцца, сто... А нашых? Адных нашых... О-ё ё-ёй!

Загадчык гаспадаркі ўздыхнуў. Дырэктар моўчкі выпісваў лічбы ў блакноце і выкрэсліваў іх.

— Наводзіць эканомію,—падумаў загадчык і ўсміхнуўся. Дырэктар не заўважыў ехіднай загадчыкавай усмешкі.

— Цяпер, Іван Захаравіч, значыцца, мясная праблема...—пачаў загадчык.—Курэй ты сказаў скараціць. Я скараціў некалькі штук, а на ферме пра твой загад пранюхалі і не хочуць даваць ніводнай: усе, кажуць,—прадукцыйныя... Гэты Сенька гатовы з-за курыцы павесіцца. Ну, па курах тых, чорт, плакаў... Неяк мы іх адрэгуліруем. Галоўная праблема, Іван Захаравіч, наконт крывога бычка. Проста сэрца ірвецца, бычок сыты, спаслы, але раз што крывы, па другое, рог збіў. Ніякага ён выгляду не мае. Інвалід трэцяй катэгорыі. У нас і так чатыры бykі ў стадзе... Прыдзецца, мусіць, прыстукнуць.

Дырэктар зноў паглыбіўся ў вылічэнні.

— Дык як будзе з бычком, Іван Захаравіч? А?

— На кірмаш не паедзем, мяса купляць,—сказаў дырэктар, не адрываючыся ад лічбаў.—Прыстукнем бычка.

Загадчык гаспадаркі зноў уздыхнуў.

— Як падумаеш, то і шкада,—пачакаўшы сказаў ён.—Добрай пароды бычок, за лета вунь як выгуляецца. Толькі я, Іван Захаравіч, сумняваюся, ці будзе ён здатны да кароў, калі на трох нагах. Можа, Іван Захаравіч, з авечак возьмем каторых? У стадзе пятнаццаць ялавак. Архіп стары хрэн, праспаў у шапку... А? Іван Захаравіч!

— З авечкамі пачакаем. Авечкі воўны дадуць, а ўвосені мы іх на загатоўкі.

— Так... Значыцца, бычка?

— Бычка...

За вокнамі была светлая, маладая зеляніна старых ліпавых прысад. Адхінаючы фіранкі, часам прылятаў лёгкі цёплы вецер.

Тагды на дырэктарскім стале варушыліся паперы, узмацняўся далёкі гул трактароў за паркам, даносіліся адрыўкі слоў, сказаных недзе далёка, нечакана прарэзлівы крык пеўня прылятаў у маленькі габінет, і, потым вецер сціхаў, ападалі паперы на стале і адыходзілі, аддаляліся гукі, што запаўнялі звонкі веснавы дзень. Толькі ў майстэрнях поблізу, аднастайна і гулка біў молат і шумеў горн.

— На хэ-тэ-зэ, на семнаццатым нумары, выплавіліся падшыпнікі...—сказаў загадчык гаспадаркі.—Бабіт увесь выдалі на ўчасткі, а самі і селі макам. Паслаў на заготзярноўскі млын, мо' пазычаць... Ну, а калі не пазычаць, то лепш хай не спрабуюць да мяне паткнуцца! Заўсёды, як што здарыцца, туды-сюды і да нас... „Спірыдон Пятровіч, можа ў вас шасцёрні ёсць запасныя?!. Спірыдон Пятровіч, можа грузавік падкінулі-б?..“ Падкінулі-б! Як падкінуў ім у восені рулон ліставога жалеза дык па гэты дзень... І хвастом накрыліся. А ў іх калі што ўзяць то не вельмі, каб... Ну, хай толькі прыедзе хлапец з пустымі рукамі. Тагды яны ў мяне паскачуць! Каменя галавы прабіць не дам!

Дырэктар усё яшчэ вылічваў. Загадчыку надакучыла сядзець, ён пазяхнуў і ўстаў. Па стале прабіралася муха. Перад гэтым яна пабывала ў атраманце і паўзучы пакідала след. Загадчык скінуў яе пазногцем і падышоў да акна.

— Пра што гэта я забыўся?—думаў загадчык.—Пасуда?. Ёсць, у поўным парадку. Сталоў хапае. Ракеты Сцёпка прывез... Ілюмінацыю манцёры накручваюць. Ага, трэба паглядзець пасцелі для шэфаў... Але, пра гэта ўжо запісана. Памяць стала...

Загадчык выглянуў за акно і адразу прыпомніў, на што ён забыўся. На ганку сядзеў малады чалавек, у шэрым плашчы. Ён трымаў на каленях пузаты партфель і глядзеў некуды ў парк. Ён чакаў, калі яго правядуць да дырэктара. Гэты хлапец нядаўна прышоў са станцыі. Ён сустрэў загадчыка, калі той ішоў да дырэктара, сказаў хто ён такі і навошта прыехаў, і накіраваўся ў адну дарогу. Але на ганку загадчык папрасіў гасця пачакаць. У дырэктара важная нарада, трэба спачатку далажыць аб прыездзе і тагды той пастараецца хутчэй скончыць свае справы. Хлапец згадзіўся пачакаць. Зрабіў гэта загадчык таму, каб хутчэй вырашыць пытанне наконт бычка. Але тут, слова за словам, як на грэх і забыўся... Добрых поўгадзіны чакае чалавек...

— Іван Захаравіч!—сказаў загадчык.—А Іван Захаравіч... Тут да нас прыехаў з гораду карэспандэнт. З газеты.

Дырэктар паклаў аловак.

— Дзе ён?—У гасцініцы?

— Не, тут, на ганку...—Загадчык вінавата ўсміхнуўся.—Мы тут пра бычка, пра тое-сёе, а ён і сядзіць на ганку.

— Спірыдон!—сурова сказаў дырэктар.—Ідзі зараз-жа ў цырульню... Трэці дзень цябе прашу! Ты загадчык гаспадаркі, усім справам кіраўнік, а на цябе сорам глянуць! поп, не поп,—чорт ведама што...

— Калі-ж тое-сёе...

— Ідзі ў цырульню, кажу! Тое-сёе!.. І пакінь гэтую моду лю-

дзей на ганку трымаць. Крывы бычок, падумаеш, сакрэт! Вунь, штаніну разарваў, да самай халявы. Ох, Спірыдон!..

— У майстэрні... значыцца...—прабурчэў загадчык, знікаючы ў сенях.

Карэспандэнт увайшоў зараз-жа. Гэта быў зусім яшчэ малады чалавек. Ён яшчэ ад парогу працягнуў руку Івану Захаравічу і яму давялося так, з працягнутай рукой, прайсці аж да стала. Гэта выйшла няёмка і юнак пачырванеў.

— Кіслоўскі,—сказаў ён, паціскаючы руку Івану Захаравічу.—Журналіст.

І пачырванеў яшчэ больш. Слова „журналіст" выйшла неяк гучна. Іван Захаравіч папрасіў гасця сесці.

— Мяне прыслала рэдакцыя ў сувязі з пятнаццацігоддзем вашага соўгаса,—афіцыйным тонам сказаў Кіслоўскі.—Мая задача—даць нарысы аб вашым соўгасе і аб яго знатных людзях.

Ён выняў партсігар, адкрыў і падаў яго праз стол Івану Захаравічу. Дырэктар адмовіўся: ён не курыць. Аказалася, што і журналіст не вельмі спрытна ўпраўляецца з папяросай.

— Не варта курыць...—сказаў Іван Захаравіч, убачыўшы, што ў Кіслоўскага ад дыму заслязіліся вочы.—Я некалі курыў, ды кінуў. Дрэнная прывычка.

Кіслоўскі адразу загасіў папяросу.

— Я так... Зрэдку, бяру іх у дарогу. Больш другіх частую, неяк не магу прывыкнуць.

— І не варта...—сказаў Іван Захаравіч.—Не трэба здароўя псаваць...

Яны паступова сыйшлі з афіцыйнага тону, які няўдала быў узяў Кіслоўскі. Праз пару хвілін яны ўжо гутарылі як даўнія знаёмыя. Іван Захаравіч распытваў пра гарадскія навіны, Кіслоўскі расказаў аб сваіх справах: нядаўна скончыў газетны тэхнікум і яго як лепшага студэнта, паслалі ў сталічную газету. Калі не лічыць некалькіх карэспандэнцый, гэта будзе першая яго сур'ёзная работа.

— Свята ў нас праз тры дні,—сказаў Іван Захаравіч.—Часу хопіць. Ідзіце ў гасцініцу, адпачывайце з дарогі. Потым вам пакажуць гаспадарку, пазнаёміцеся з людзьмі, у нас ёсць цікавыя людзі... Ну, а далей—ваша справа.

Але Кіслоўскі прагнуў хутчэй пачаць работу і ў гасцініцу не пайшоў. Ён накіраваўся галоўнай вуліцай соўгаснага пасёлку. У палісадніках ужо з'явіліся першыя парасткі будучых кветак. Развіваліся завязі бэзу, квітнела чаромха... Усюды была чыстая, маладая зеляніна, народжаная цёплымі дажджамі вясны.

А дырэктару неўзабаве пазванілі з гаража і далажылі, што гаручае не прыйшло і калі не прыдзе з начным цягнікам,—будзе прастой трактароў. Дырэктара агарнулі клопаты.

* * *

Пад вечар Кіслоўскі прыйшоў у стары парк. Тут была засень і цішыня. Магутныя дубы, стогадовыя ліпы, аброслыя мохам клёны, ясені і стройныя грабы ўзнімалі высока свае раскідзістыя вершаліны, засцячы неба. Яны стаялі шарэнгамі прысад, маўклівыя

сведкі мінулых гадоў. Іх вузлаватыя карэнні выпіналіся з зямлі. На сваім каржакаватым галлі, яны беражліва трымалі кволае, маладое лісце.

Кіслоўскі павольна ішоў нешырокай сцяжынай, што ўзнімалася на ўзгор'е. Яна скончылася на паляне, на крутым узбярэжжы ракі. Тут Кіслоўскі спыніўся. Бераг строма падаў уніз. Аголеныя карэнні дрэў, скарэжаныя і скурчаныя, вялізнымі спляценнямі навісалі над абрывам, чапляючыся за пясок у апошнім намаганні жыць. А пясок струменнямі сцякаў уніз у густыя зараслі альхі, крушыны і чаромхі, дзе панаваў дзікі хмель, высока вырастала крапіва і была вільгаць і засень. Скурчаныя змяртвелыя карэнні віселі ў паветры пэўна не першы год.

Ля абрыву рака цякла спакойна. Тут быў вір. Цёмная вада ішла кругаваротам, у хворасце пад карчамі збівалася жоўтая пена, калыхалася пад берагам абшарпанае сасновае бервяно, паўтараючы марудны ход плыні, кружыліся трэскі.

Ад абрыву, на раку падала засень. Гэта было змрочнае, глухое месца. У такіх цёмных вірах жыруюць і адкормліваюцца самы, адзінокія, невясёлыя і ненажэрныя рыбы.

Далей за прырэчнымі хмызнякамі пачыналася роўнае, шырокае поле. Там было весялей, адтуль плыў незмаўкаемы гул трактароў, там пераклікаліся людзі. Кіслоўскі са свайго ўзвышша бачыў, як трактары павольна ішлі, па ўскраі поля, падобныя да вялікіх жукоў. Сонца ўсцілала праменнямі ільсняную, вільготную раллю. Вецер прыносіў з поля моцны і свежы пах зямлі.

Калі Кіслоўскі перайшоў паляну і апынуўся на другім баку ўзгор'я—перад ім развінулася панарама соўгаса. Нядаўна ён быў там. За палову дню ён абыйшоў усю гэтую вялізную гаспадарку. Яго здзівіў яе размах, яе вялікая вытворчая сіла. Цяпер ён абдумваў падыход да тэмы. Перад яго вачыма была закончаная, пятнаццацігадовая праца тысяч людзей. Белы гарадок ляжаў у нізіне, атулены зялянінай сваіх маладых садоў. Пятнаццаць гадоў таму назад там было звычайнае поле, дзе на прымежжах рос блёкат і гібелі пахілыя бярозкі...

Кіслоўскі, задуманы і заклапочаны, прысеў на пень. Яго задача ўскладнялася. Ён разлічваў на выключныя здарэнні, на захапляючыя падзеі, якія адбываліся ў мінулым соўгаса, у гады яго будаўніцтва і патрабавалі ад будаўнікоў геройства і самаадданасці. Барацьба са стыхіяй, сутычкі з ворагам, Кіслоўскі не мог уявіць сабе, што будаўніцтва такой велізарнай гаспадаркі пачалося і закончылася без якіх нібы значных ускладненняў. Ён не сумняваўся, што яму раскажуць аб пажарах, пасля якіх знаходзілі бутэлькі з-пад газы і шматкі паклі, аб забойствах з-за вугла, нарэшце аб паводках, калі ўначы хтосьці разбурай грэблі і шмат чаго яшчэ, што было магчыма і папросту павінна быць у гісторыі соўгаса. Гэта дало-б Кіслоўскаму магчымасць пабудаваць захапляючы сюжэт, цікава паказаць вобразы людзей.

Аказалася, што за пятнаццаць год былі ўсяго два пажары. У першы раз згарэла павець і тры капы жэрдак, у другі раз—саломенная будка для яблык. Садоўнік толькі што закончыў гэтую па-

будову і пайшоў дахаты, як неўзабаве ў садзе з'явілася полымя. Ліквідаваўшы пажар, усе вырашылі, што прычыны яго крыліся ў садоўнікавай люльцы. Першы пажар адбыўся год з дзесяць таму назад, другі—у мінулую восень. Прычыны абодвых неасцярожнасць.

Быў і кулацкі тэрор. Гэта было ў першыя гады будаўніцтва, калі на месцы белага гарадка стаялі яшчэ зямлянкі, падобныя да бульбяных капцоў. Дырэктара соўгаса, уначы, на дарозе са станцыі пераняли двое незнаёмых. Адзін з іх стрэліў у дырэктара і прамахнуўся. У наступную хвіліну стрэліў дырэктар і бандыт застагнаў і сеў у канаву. Другі кінуўся бегчы, але дырэктар дагнаў яго і абяззброіў—у бандыта быў аўстрыйскі штык. Абодвух незнаёмых дырэктар прывёў у соўгас, дзе іх апазналі. Гэта былі кулакі з блізкіх хутароў. Пасля гэтага напады больш ніколі не паўтараліся.

Такім чынам, Кіслоўскі зразумеў, што аб падзеях выключнага трагізму і нябачанай героікі яму пісаць не давядзецца. Гэтага не было ў гісторыі соўгаса, не было нічога незвычайнага і ў ва ўсім астатнім, што датычылася сёнешняга дню. Ураджай палёў, агародаў і садоў—быў самым вышэйшым у гэтай мясцовасці. Прырост пагалоўя на фермах быў па-за канкурэнцыяй каго-б там не было. Але ўсе гэта лічылі звычайным і ніхто ні ў чым асаблівых сваіх заслуг не прызнаваў.

Старшы конюх Лук'ян паказаў Кіслоўскаму лепшага вытворцу соўгаса. Гэта быў рэкардзіст-рысак, магутны жарабец чыстай арлоўскай пароды. Характэрны конь раздзімаў ноздры, грыз цуглі, кідаючы белую пену, па яго ільснянай скуры хвалямі хадзілі дрыжыкі. Налітыя крывёю злыя вочы ўвесь час з ускосу сачылі за незнаёмым. Кіслоўскі асцярагаўся блізка падыходзіць да стойла.

— Як вам удалося выгадаваць такога каня?—здалёку спытаў ён.

— Чаму-ж не ўдасца...—адказаў Лук'ян, расчэсваючы драўляным грэбнем даўгую грыву жарабка.—Раз што ён з добрых коней, па другое—дужанькі быў. Ну, калі было яно малое, то канешне, каля маткі аціралася... А потым як падрасло—наша справа дагледзіць. У каня тры бяды: першая бяда—гэта ад сваей натуры, другая ад звера, а трэцяя—ад злога чалавека. Калі ад усяго ўберагчы, то факт—што жывёліна будзе ў поўнай форме. Цяпер хоць самому маршалу Сымон Міхайлавіч Будзённаму пад сядло...

З гэтым Лук'ян выйшаў са стойла і размова скончылася. Кіслоўскі паклаў блакнот у кішэню, не зрабіўшы ніводнага запісу. Тое самае амаль учуў ён і ад іншых, з кім давялося сустрэцца. Кожны стаяў на сваім месцы, добра ведаў сваю справу і выконваў яе ў поўнай меры сваіх сіл. І расказваючы аб сваіх справах, людзі не стараліся падкрэсліваць значнасць сваіх учынкаў, сваёй ініцыятывы і энергіі. Гэта вынікала як-бы само сабой.

Кіслоўскі пераканаўся, што пятнаццацігадовая гісторыя соўгаса—гэта будні ўпартай працы. Будні, якія ствараюць гарады. У гэтым не менш гераізма, чым у самых высокіх праявах чалавечага духу.

Ён выражаны не ў парыве хвіліны, а непрыметнай ніццю праходзіць праз дні і справы людзей на працягу многіх год. У гэтым— ўпэўненасць у дасягненні мэты, нязломная энергія і воля, арганізаванасць і дысцыпліна. Гэта ўсё патрэбна зразумець і адчуць. Толькі тады вобразы людзей будуць праўдзівымі і жывымі. Гэта— задача мастака. Кіслоўскі мастаком не быў. Ён нават не надта давяраў сваім здольнасцям, іх не давялося яшчэ як след выпрабаваць. Ён спадзяваўся на выключнасць матэрыялу, на рамантыку, на героіку і сустрэўся з рэчаіснасцю, напоўненай спакоем сілы і творчасці.

— Факты патрэбны...—думаў Кіслоўскі.—Як мага больш цікавага, характэрнага... Эх, здаецца, уз'ехаў ты, Сцёпка, на пень!

Ён сыйшоў з узгор'я ў парк. Цяпер ён ішоў у другім кірунку. Сцежка вяла ў лагчыну, дрэвы тут раслі рэдка і Кіслоўскі здалёку яшчэ ўбачыў сажалку. Яна была пэўна вялікая, бо скрозь і злева і справа між дрэваў цмяна блішчэла спакойная паверхня вады. Сцяжына выйшла на пяшчаную дарожку і тут Кіслоўскі спыніўся перад старым, пахіленым дрэвам. Гэта была велізарная ліпа з рашчэпленай, зламанай вяршалінай. Дрэва, некалі пашкоджанае маланкай, павольна гінула; толькі з аднаго боку, каржакаватае галлё было аздоблена маладым лісцем. На ўзроўні чалавечага росту на старой, гузаватай кары, былі выразаны літары і лічба. Кара была прарэзана глыбока, да самай драўніны, і літары не зараслі, хаця з таго часу прайшло мусіць багата гадоў.

Кіслоўскі перапісаў надпіс: Ім. Л. Ш. 5—і крыху супакоіўся. Яму здавалася, што ён разгадвае сэнс гэтых літар. Ён тлумачыў іх так: імяніны Ліды альбо Лены Ш. (Патрэбна даведацца аб прозвішчы памешчыка). Лічба, відаць, адносілася да часу ўрачыстасці: тысяча дзевяцьсот пяты год, альбо восемсот дзевяноста пяты. Гэта можна выкарыстаць як дэталь. Нават з гэтага можна пачаць першы нарыс: дрэвы, пасаджаныя рукамі прыгонных сялян, гамоняць пад вятрамі нашай вясны. Адно з іх гіне, параненае сіламі стыхіі, на ім стары надпіс, абыякавая дата нейкай падзеі з далёкага чужога нам жыцця. Дрэва павольна гіне, і з цягам часу знікне апошні напамінак аб жыцці людзей з пароды паразітаў. Стары парк аздабляе белы горад, які пабудавалі інакшыя людзі. Пад маладымі вятрамі новых дзён шумяць стогадовыя дрэвы...

Кіслоўскаму стала лягчэй. Адгэтуль можна пачынаць. Ён прадаўжаў думаць, ідучы сцяжынай да саджалкі. Тут ён знайшоў нізенькага старога. Той стаяў на памосце і пільна ўглядаўся ў ваду. Ён не чуў як падышоў Кіслоўскі і спужана азірнуўся, калі той загаварыў.

— Добры вечар!—сказаў Кіслоўскі.—Што вы там убачылі?

— Ага, знацца, вартаўнік! —недарэчы адказаў стары і Кіслоўскі здагадаўся, што стары гэты парадкам такі глухаваты.—Вартаўнік я... Да рыбы прыстаўлены!.. Падшывальцы, сукіны сыны, з-за кустоў вуды выкідваюць, а карпа, яна рыба прагная... Вунь там, ці не паплавок боўтаецца?! Мусіць вялікі зачапіўся, а ў яго, падзямельніка, вуда не датрымала!!! Бяда мне з імі, не ўпільнаваць! Паглядзі, галубок, што там такое боўтаецца... Паплавок?!.

Стары гаварыў вельмі голасна, амаль што крычаў. Кіслоўскі убачыў: на цёмнай спакойнай вадзе нерухома ляжаў корак.

— Паплавок!—адказаў Кіслоўскі.

— Што?—перапытаў стары, падстаўляючы зарослае сівізнай вуха.

— Паплавок!!!—гучна паўтарыў Кіслоўскі.

— Каб вы нагамі панакрываліся!—закрычаў стары і саскочыў з памосту. У першы момант здалося, што ён кінуўся ў ваду. Але каля памосту аказаўся човен. Спрытна працуючы вяслом і галёкаючы на ўвесь парк, стары дабраўся да паплаўка. Ён суняўся адразу, як толькі ўбачыў, што ніякай рыбы няма. Па вадзе плаваў прывязаны да ніткі корак. Стары моўчкі пад'ехаў да памосту, нагой падпіхнуў пад яго човен, а сам як раней, вельмі спрытна, ускочыў на памост.

— У нас тут, рыба, во!—закрычаў ён, падыходзячы да Кіслоўскага.—Першая марка! Я тут з маленства жыву, яшчэ сажалку пры мне капалі... Дык пан, чорта яму нанач, гэткай рыбы і з роду не бачыў... Шкляная карпа!.. Пры пану, хай ён галавой наложыць, тут толькі жабы сквярліся! Вялікія пуды было жаб у гэтай сажалцы! Цяпер я іхняга брата, што да штукі звёў. Яна рыбу непакоіць, гэтая нечысць... Можа ў вас, малады чалавек, закурыць ёсць?

Кіслоўскі даў старому папяросу, услужліва запаліў запалку і калі той прыкурваў, спытаў, нахіліўшыся да самага яго вуха.

— А як памешчыка прозвішча было?

— Шадурскі!—крыкнуў стары праз дым.

Кіслоўскі, здаволены, выняў блакнот. Яго здагадка апраўдалася. На старой ліпе была дата колішняга памешчыцкага святкавання.

— А сам адкуль?!—аглушальна крыкнуў стары Кіслоўскаму.

— З гораду,—адказаў Кіслоўскі.

— Што?

— З гораду. З газеты.

Стары адступіў на крок і недаверліва глядзеў на Кіслоўскага. Яго худы аброслы сівізной скамячаны тварык, выдаваўся злым.

— Адкуль, кажаш?

Кіслоўскі паўтарыў, але стары яўна не дачуў, бо ў гэты момант адступіў яшчэ на крок.

— Пакажы дакумент, адкуль ты ёсць чалавек!—раптам патрабаваў ён.

Усміхаючыся, Кіслоўскі выняў сваю карэспандэнцкую кніжку і падаў старому. Той уважліва агледзеў яе, разгарнуў і зноў недаверліва глянуў на юнака. Ён напэўна не ўмеў чытаць, але мусіць вясёлая ўсмешка Кіслоўскага крыху супакоіла яго.

— То і добра!—крыкнуў ён, падаючы кніжку.—А то гляджу, хлапец малады, гладкі, пра паноў пытаецца. На ліха, думаю, яму паны?.. Дай, пачытаю, думаю сабе, дакумент... Можа які паніч тут яшчэ бадзяецца!!!

— Вы ведаеце ліпу, там пры дарозе?—спытаў Кіслоўскі.—Там яшчэ літары выразаны...

— Што?

— Я кажу, пры дарозе ліпа! На ёй літары выразаны. Гэта даўно?

Але стары не хацеў чуць больш ні слова. Ен усё-такі не давяраў Кісλоўскаму. З гэтым і давялося пайсці. Кісλоўскі пайшоў нацянькі, туды, дзе было святлей і хутка выйшаў у маλады сад. Пасля засені парку яго асляпіла сонца, якое нізка ішло над лесам.

Толькі цяпер пасля гэтай смешнай размовы з глухім старым, які так нечакана праявіў пільнасць, Кісλоўскі зразумеў, што ўсё бачанае тут, усё, што ён чуў у размовах з Лук'янам, з гэтым старым ля сажалкі, з Наташай, загадчыцай малочнай фермы—там ён упяршыню ўбачыў электрадойку—усё гэта ёсць жывая тканіна яго будучай работы, іменна тыя факты, якія ён прагнуў знайсці. Цяпер ён адчуваў патрэбнасць у ідэі, якая-б абагульняла гэтыя разрозненыя факты. Так малады журналіст упяршыню і самастойна адшукаў падыход да свае тэмы. Гэта была перамога.

Сонца схілялася над лесам. Звонка спявалі птушкі. Узмацніўся, як бы наблізіўся гул трактароў з поля. Прыходзіў ясны веснавы вечар.

* * *

Гасцей сустракалі раніцай. Яшчэ загадзя, да прыходу цягніка, Спірыдон Пятровіч выстраіў на пероне ў шарэнгу і па ранжыру ўсіх, хто належыў да дэлегацыі для сустрэчы шэфаў. Дрэнна было толькі, што піонераў, якіх па росту патрэбна было ставіць на левы фланг, давялося перавесці па загаду Івана Захаравіча на правы. Яны павінны былі перадаць гасцям кветкі і іх паставілі побач з аркестрам. Гэта папсавала ўвесь фронт і Спірыдон Пятровіч вельмі нерваваўся. Ён бегаў паўз шарэнгу з флангу на фланг і час-ад-часу крычаў:

— Мішка! Падайся назад! Яшчэ раз! На поўнаска... Вось так! Цяпер ты, Вася.. Во-во! Добра!

Перад шарэнгай стаялі побач Лук'ян і Наташа. У абодвух былі вялікія букеты фіялак. Лук'ян, прыкрыўшы барадой свой букет, панура глядзеў проста перад сабой, у адну кропку. Ён нават не адказваў на зачэпкі жартаўнікоў, якія выскаляліся наконт таго, што Лук'ян і Наташа, такі нішто сабе пара.

— Іван Захаравіч! — зашаптаў Лук'ян, калі дырэктар праходзіў міма. — Іван Захаравіч, ну куды мне з гэтым венцем... Ён проста не да твару мне... Вызвалі! А?

— Паслужы, паслужы Лук'ян, Фаміч, — сказаў дырэктар.— Некаму-ж трэба гасцей сустрэць! А ты ў нас самы знатны чалавек.

Лук'ян уздыхнуў і нічога больш не сказаў. Ён сам захацеў ехаць з дэлегацыяй і нават узяўся перадаць кветкі, а цяпер яму стала неяк няёмка. Прыгнятала параднасць і ў апошнюю хвіліну дзед канчаткова здрэйфіў. Пасля з гэтага выйшаў канфуз.

Нарэшце, у лесе за станцыяй усплыла белае воблачка. Зараз-жа недзе поблізу заспяваў ражок стрэлачніка. Здалёк прыляцеў музычны крык гудка. На платформу выйшаў дзяжурны ў чырвонай

шапцы. Барабаншчык бухнуў сваёй калатоўкай, спрабуючы, ці добра нацягнута скура. Прыглушана ўскрыкнуў карнет і гукнуў бас. Музыканты падрыхтаваліся. Лук'ян паглядзеў на свой букет і абтрос яго як венік.

— Паволі, паволі, Лук'ян Фаміч!—крыкнуў здалёку дырэктар. Ён разам з парторгам стаяў каля сцягу. Спірыдон Пятровіч, загадчык гаспадаркі, прабег, ступаючы на наскі, уздоўж фронту.

У гэтую хвіліну на станцыю ўляцеў цягнік. Велізарны паравоз, змяншваючы ход, прамчаў міма. Дружна грымнуў аркестр. Цягнік спыніўся. З вагонаў пачалі выходзіць людзі. Лук'ян азірнуўся, пераступіў з нагі на нагу і пайшоў да вагона.

— Дзядуля!—зашаптала Наташа.—Не туды, не той вагон... Хадзі назад... Лук'ян!

Лук'ян падышоў да пажылай жанчыны з чамаданам і спыніўся.

— Гэтае...—сказаў ён, заікаючыся.—Так сказаць кветкі... Ад усіх нас... Вось на добрую памяць... Так сказаць...

Ён сунуў жанчыне букет, тая разгублена азіралася і адступала ад дзеда. Лук'яна ўзяло на пот. Ён паклаў букет на чамадан і пакланіўся.

— Так сказаць, просім да нас у госці...

— Я прыехала да сястры...—сказала жанчына.—Вы хіба ад яе з падводай?

У гэты момант на выручку дзеду падаспеў Спірыдон Пятровіч. Ён яшчэ здалёку зразумеў у чым справа і таму, без лішніх слоў, аднэй рукой схапіў букет, другой узяў Лук'яна за рукаў і моўчкі павёў за сабой, пакідаючы разгубленую і здзіўленую жанчыну.

— Глузды табе адняло, Лук'ян Фаміч, ёрш тваю палку! — з дакорам сказаў Спірыдон Пятровіч.

Лук'ян убачыў натоўп, у канцы цягніка. Там блішчэлі крыклівыя трубы, хістаўся сцяг і ўсё гэта рухалася насустрач. Лук'ян стаў як укапаны.

— Што ты мяне водзіш як казу па лёдзе! — сказаў ён Спірыдону Пятровічу.—Вельмі я там умею з гэтымі пукетамі! Казаў, што не мая гэта справа!.. Вось і ўлез у дурні. Пусці!

Ён сілком вызваліўся з рук Спірыдона Пятровіча і пайшоў да куба з гатаванай вадой. Выпіўшы са дзве кварты вады, Лук'ян паціху падаўся за станцыю. Спірыдону Пятровічу не было часу таксама. Ён перадаў кветкі першаму са сваіх, хто папаўся па дарозе, і пабег распараджацца пасадкай на грузавікі.

У кабінцы пярэдняй машыны важна сядзеў Яша, загадчык аўтапарку. Працавітыя соўгасныя грузавікі былі ўпрыгожаны чырвонымі палотнішчамі і мелі святочны выгляд.

— Таварышы!—крычаў Спірыдон Пятровіч, бегаючы ля машын.—Не апірайцеся на барты, на хаду, а то значыцца... Пятро! Ты куды лезеш! Пачакай, хай госці сядуць... Пасля паспееш! Яша, паехалі!

Шасэ імчала насустрач, узнімаючыся на ўзгор'і і падаючы ў нізіны, вецер хадзіў па палях, пад ветрам срэбнай здавалася буйная азіміна. Жаўранкі віселі ў паветры. Іх не было чуваць. Ехалі з уласнымі песнямі.

Кіслоўскі таксама быў тут. За гэтыя дні ён перазнаёміўся амаль з усімі ў соўгасе і яго лічылі ўжо за свайго. Блакнот быў цалкам запоўнены запісамі і пра некаторых рабочых соўгаса Кіслоўскі ведаў не менш чым людзі, якія жылі з імі разам шмат гадоў. Матэрыял быў сабраны багаты, не ставала толькі аднаго— асноўнай ідэі, якая павінна была абагульніць факты, надаць ім агульны сэнс і палітычную афарбоўку. Кіслоўскі прадчуваў цяжкасці, але стараўся быць вясёлым, тым больш, што на грузавіку, дзе ён быў, знаходзілася настаўніца, з якой у яго з першага знаёмства атрымалася нешта накшталт дружбы.

Хутка на завароце шасэ паказаліся першыя будынкі соўгаснага гарадка.

* * *

Пасля ўрачыстага схода госці аглядалі гаспадарку. Яны наведалі фермы, майстэрні і электрастанцыю, парніковую гаспадарку, аранжэрэі, малады сад. Лук'ян яшчэ больш пануры пасля канфузу, вывеў свайго жарабка і пасля гэтага поўгадзіны яму давялося гутарыць з капітанам-кавалерыстам, які, убачыўшы „Казбека“, не мог сыйсці з месца. Наташа паказала сваіх рэкардыстак, потым госці доўга стаялі ля загону, дзе бегаў вясёлы статак цялят. У аранжэрэях млелі пышныя кветкі, ў адкрытых парніках буяла ранняя гародніна, у садзе красавалі яблыні, атрасаючы на зелень траў беласнежныя пялёсткі квітнення.

Глухаваты Архіп, з якім потым падружыў Кіслоўскі, доўга вадзіў гасцей ля сажалкі, растлумачваючы ім усю важнасць рыбнай гаспадаркі і шкоднасць жаб, якіх было раней вялікія пуды. Гасцей захапляла ўсё: і чыстата у соўгасным гарадку, дзе пачынаючы ад катэджаў на цэнтральнай вуліцы і канчаючы сілоснымі вежамі на дальніх агародах,—усё было пафарбавана на белае, і прыгажосць мясцовасці, і багацце гэтай велізарнай гаспадаркі. Госці цешыліся гэтым багаццем, як-бы яны самі стварылі яго і множылі з году ў год у вялізных аборах ферм, у жытніцах свірнаў, у садах і на неабсяжных, ураджайных палёх.

Увечары Яшу, загадчыка аўтапарку—чакалі непрыемнасці. На неба выйшаў поўны месяц. У парку было светла і першая ракета, якую выпусціў Яша, не дала ніякага эфекту. Яна правяла цьмяны след у зялёвай вышыні і, рассыпаючы халодныя іскры, загасла. Іван Захаравіч паслаў сказаць Яшу, каб дарэмна не траціў ракет. Грандыёзны фейерверк, які абяцаў Яша, не адбыўся па тэхнічных прычынах. З гэтых-жа прычын не паказала сябе і ілюмінацыя. Каляровыя ліхтарыкі цьмяна блішчэлі між дрэў. Усё залівала раскошнае святло месяцу. Але гэта якраз не псавала настрою людзям. На пляцы іграў аркестр, там былі танцы, у сталовай да цямна не закончыўся яшчэ абед. Усюды быў ажыўлёны гоман і песні. Свята запоўніла ўсе куткі белага гарадка.

Іван Захаравіч павольна ішоў цяністай сцяжынай парку. Ён быў усхваляваны, яму хацелася адпачыць і супакоіцца. Гэты дзень быў поўны для яго вялікай, хвалюючай значнасці. Ён завяршаў пят-

наццаць год вялікай яго работы, ён выходзіў наперад з шэрагу іншых дзён і заставаўся знаменальнай вехай на шляху пераж ытага.

Іван Захаравіч, задуманы, павольна ішоў прысадамі. Раптам поблізу загаварылі. Іван Захаравіч спыніўся. Насустрач ішоў Кіслоўскі з маладой настаўніцай. Івану Захаравічу хацелася застацца аднаму. Ён сыйшоў са сцежкі і стаў пад дрэва, у засень, чакаючы, калі яны пройдуць.

— Да Лук'яна я падышоў хітра!—гаварыў Кіслоўскі.— Я расхваліў ягоную ферму, сфатаграфаваў „Казбека" і стары расказаў мне та-кія гісто-рыі!.. Ён-жа адзін са старэйшых партызанаў, у яго грамата ЦВК! Ад яго белапалякі бегалі, як зайцы...

— Гэта цікава...—падумаў Іван Захаравіч.—Я думаў шуры-муры, а тут вось яно што... Паслухаем!

І ён пацiху пайшоў за імі, трымаючыся воддалі.

— Альбо, скажам, Яша...—гаварыў далей Кіслоўскі.—Ён быў раней беспрытульным, цяпер спецыяліст, механік. У яго ў руках увесь аўтапарк. Ён можа, заплюшчыўшы вочы, сабраць і разабраць матор. А ў якім парадку ў яго парк! Вось, цікавы факт: у мінулую вясну прыязджалі аднекуль інспектары. Аглядалі ўсё вельмі дбайна. Адзін з іх нават хустачкай абцёр нейкую там частку матору і хустачка засталася чыстай. Толькі жоўтыя плямы ад масла. Ён хацеў пакласці ўжо хустачку ў кішэню, але Яша кажа яму: „не хавайце хустку, у вас тут вось нешта..." І паказвае дзе. Аказалася, што ў інспектара нос запэцканы ў сажу. Недзе каля машын ходзячы запэцкаўся. Ну і выйшла, што ў Яшыных маторах чысцей, чым у інспектара пад носам...

— Правільна!— адзначыў пра сябе Іван Захаравіч.—А ў гэтага нос не інспектарскі! Іш ты, усё вынюхаў!

—... І толькі бяда мне з адным дырэктарам. Ён аб сабе нічога не гаворыць. Пытаюся, за што ён атрымаў баявы ордэн Чырвонага Сцягу.—За баявыя заслугі,—кажа. Будучы камандзірам бронецягніка ў вельмі цяжкіх умовах разграміў варожы штаб і прымусіў адступіць цэлую дывізію. Другі ордэн—за гаспадарчыя заслугі. Соўгас. Пятнаццаць гадоў работы. І больш нічога... І ніякіх дэталей. А без гэтага нельга стварыць вобраз. Вось з-за гэтых не дапрацаванасцей я не магу знайсці асноўнай ідэі... Вы ведаеце, Аня, што такое асноўная ідэя?..

— Не!—шчыра прызналася настаўніца.

— Вось, напрыклад, я так пачну першы нарыс. Там, крыху бліжэй да сажалкі, стаіць старая ліпа. На ёй выразаны надпіс. Вы бачылі?

— Бачыла...

— А што ён азначае, не ведаеце?

— Адкуль-жа мне ведаць!

Кіслоўскі здаволены засмяяўся.

— А я ведаю. Я разгадаў, у чым справа. Гэта дата імянін некага з сям'і памешчыка, былога ўласніка маёнтку. Азначае прыкладна: імяніны Ліды, Ліны ці Леаніда Шадурскіх. У нашай рабоце, Аня, у першую чаргу патрэбна вострае вока, смелая здагадка... Дык вось і ідэя. Тут стары парк, ён насаджаны рукамі прыгоннікаў,

цяпер ён красуе і жыве для нас. Але рука аднаго з паразітаў пакінула на дрэве след аб сваім жыцці...

— Пачакайце, пачакайце!—сказаў Іван Захаравіч. — Зусім не паразіта...

Кіслоўскі адразу спыніўся. Настаўніца, убачыўшы дырэктара, адсунулася ад Кіслоўскага. Абодвы былі збянтэжаны.

— Нічога, нічога...—сказаў Іван Захаравіч.—Выпадкам давялося падслухаць вашы размовы, выбачайце, маладыя людзі. Пойдзем, пасядзімо... Трэба ўнесці, як гэта кажуць, яснасць...

Ён узяў абодвых пад рукі і павёў да лаўкі пад дрэвам. Яны паслухмяна селі. Іван Захаравіч заняў месца між імі.

— Вось у чым справа, таварыш Кіслоўскі,—сказаў ён.—Гэты надпіс на ліпе зрабіў я сам.

— Што?—шэптам спытаў Кіслоўскі.

— Э! Нічога! Вы крыху памыліліся, вось і усё. Вельмі даверыліся сваёй здагадлівасці...

Кіслоўскі маўчаў.

— Я чуў, вам не хапае нейкіх там дэталей, ці асноўнай ідэі, — гаварыў далей Іван Захаравіч.—То я вам раскажу ўсё поўнасцю, можа што ніба для сябе карыснае і знойдзеце.

І гэты спакойны, пажылы чалавек расказаў двaім прыціхшым маладым людзям наступнае:

... У цёмную асеннюю ноч бронецягнік ціха падыходзіў да паўстанку. Ноч уздрыгалася ад глухіх, цяжкіх удараў і зарніцы ўспыхвалі недзе далёка. Направа ад сябе камандзір бронецягніка бачыў скрозь прарэз байніцы крывавыя заравы, што ахіналі ноч. Камандзір ведаў: гарэла мястэчка і навакольныя вёскі. Па ўсім фронце ішоў бой. Па загаду начальніка баявога участку, бронецягнік прарваўся праз заставы ворага і цяпер заходзіў яму ў фланг.

Размерана пастуквалі цяжкія колы на стыках рэек. У глухую цемру насцярожана глядзелі жэралы гатовых да бою гармат. Там, недзе за лесам, у пяці кілометрах ад палатна чыгункі быў маёнтак. У маёнтку быў штаб—мозаг ворага, чуткімі нэрвамі правадоў звязаны з акопамі першай лініі. Па загаду з штаба ўзмацняўся артылерыйскі агонь, кідаліся ў атаку батальёны пяхоты і гарэлі вёскі, вогненыя смерчы ірвалі зямлю. Бронецягнік падкрадаўся да штаба. Ён быў ужо ў варожым акружэнні. Назад трэба было ісці з боем.

На спаленым паўстанку не было нікога. Бронецягнік спыніўся ля руін, дзе яшчэ тлелі і дыміліся галавешкі. Ствалы гармат павярнуліся ўправа.

— Нумары па месцах!

Голас камандзіра рэзаніраваў у трубцы для перамоў.

— Узровень О... прыцэл.. трубка... запальваючымі!—І нарэшце.

— Першае, агонь!

Змрок разарваў асляпляючы бляск. Уздрыгнула цемра. Недзе далёка ўспыхнула і загасла і гул разрыву не быў чуцён у браніраваных сценах цягніка. Камандзір вызначыў: пералёт. І зноў удар, і далёкая зарніца ў цемры. І на трэцім стрэле артылерысты ўчулі.

—Першы ўзвод... прыцэл... трубка... другі узвод... батарэя, агонь!

Цяпер там успыхнула ясна і не паспела загаснуць.

— Пяць патронаў беглым... Батарэя, агонь!

І хутка пачаўся пажар. Полымя ўзнялося ўгору, ускалыхнулася новае зарава і камандзір убачыў: плывуць багравыя, падфарбаваныя агнём воблакі і знікаюць у грознай цемры. Почвар, кідаючы агонь у ноч, цяжка грукаючы на стрэлках, выйшаў з паўстанку.

— Пяць патронаў беглым!—грымела трубка.—Батарэя, агонь!

І раптам камандзір учуў:

— Нам у хвост пусцілі паравоз... Таварыш камандзір, нам са станцыі пусцілі паравоз... Ідзе поўным ходам... Сыпле іскры... Блізка... насцігае...

Камандзір зразумеў:

„Некалькі секунд... Паравоз без людзей. Сляпая машына..“

— Поўны ход!..—спакойна сказала трубка,—простай наводкай... Беглым па паравозу... Агонь!.. Не спяшацца! Агонь!

... Іван Захаравіч задуманы, пазіраў у залітую святлом месяцу, зялёную глыбіню парка. Там і тут гаманілі. Недзе звінела мандаліна.

— Ну, мы ўзарвалі паравоз. Штаб, безумоўна, разнеслі ў пыл. Белапалякаў ахапіла паніка, нас яны не паспелі пераняць, мы з боем прарваліся назад, да сваіх, ну а астатняе скончылі без нас... За гэта я быў узнагароджаны ордэнам і акрамя мяне, шмат яшчэ хто. Атрымаў ордэн і мой прыяцель і друг, артылерыст Алёша, камандзір першага ўзвода на маім цягніку. Толькі яго неўзабаве забілі... хутка скончылася вайна і мяне паслалі на гаспадарчую работу...

Іван Захаравіч змоўк.

— Усё?—у адзін голас спыталі Кіслоўскі з настаўніцай.

— Не... Яшчэ не ўсё. Прызначылі мяне дырэктарам соўгаса. Прыязджаю я, вылез на паўстанку і дзіўна неяк: месца як-бы знаёмае. Пытаюся, колькі трэба ісці да былога маёнтку. Які там, кажуць мне, маёнтак! Вугалі адны... Прыйшоў я сюды, пяць вёрст ішоў, шасе тады не было, гразі па калена... Прыйшоў і гляджу: сапраўды адны вугалі, галавешкі і руіны. І здагадваюся раптам: гэта-ж наша з Алёшай работа, прыцэл 122, трубка 120! Тут-жа штаб белапалякаў быў!

— Сур'ёзна?—усхваляваны, спытаў Кіслоўскі.

— Сур'ёзна! Пахадзіў я па вугальках і падаўся назад у горад. Узняў шум у партыйным камітэце. Там, кажу, мне рабіць няма чаго. Там няма як работу пачынаць. Голае, так сказаць, месца. І расказваю ўсю гісторыю. Таварышы, кажу я, мы ў адну кропку запальваючымі снарадамі садзілі цэлыя поўгадзіны. Там нічога няма і быць не магло... Смяюцца з мяне! Сам, кажуць, разбураў, сам і будуй! Асвайвай другую спецыяльнасць... Ну, што-ж! Прышлося і асвоіў. Цяпер у мяне дзве спецыяльнасці...

— А пра ліпу?—спытала настаўніца.

— Ага... пра ліпу...—падтрымаў Кіслоўскі. Яму зноў стала няёмка, калі ўспомнілі пра ліпу.

— А пра ліпу—зусім простая гісторыя. Надпіс выразаў я сам, дапамагаў мне Спірыдон Пятровіч, што цяпер загадчыкам гаспа-

даркі. Ён таксама з майго бронецягніка. Дазнаўся, дзе я працую, прыехаў да мяне і застаўся тут. Надпіс мы выразалі ў дзень трэцяй гадавіны смерці Аляксея, вельмі мы тужылі па ім, ды і да мірнай абстаноўкі яшчэ не прывыклі як след. Надпіс азначае: імя лейтэнанта Шмідта, нумар 5. Так называўся наш бронецягнік. Выразалі яго на ліпе таму, што ў яе вершаліна нашым снарадам знесена. Мусіць першы прыстрэлачны. Направа лёг з пералётам... Ну, зрабілі мы такім чынам помнік для Алёшы... Так... Ну, я пайшоў адпачыць... Гуляйце сабе весела.

Іван Захаравіч неяк хутка ўстаў і спяшаючыся пайшоў прэч. Яго постаць са два разы мільгнула за дрэвамі і знікла. Стала ціха. Зялёны змрок плыў у старых прысадах.

— Вось яна, асноўная ідэя...—сказаў Кіслоўскі,—ён разбураў, каб прагнаць ворага, і пабудаваў, каб не пусціць. Вось яна, ідэя... Усё-такі, Аня, далёка нам яшчэ да старыкоў... І мне было сорам, аж гарэлі вушы...

— Нічога,—сказала Аня.—Бываюць памылкі... Можа пойдзем, паглядзім ліпу?

Яны пайшлі сцежкай да сажалкі. Воддалі разлёгся стрэл. Гэта Яша, выкарыстаўшы воблачка, якое на момант зацямніла месяц, самавольна выпусціў ракету.

* * *

Праз некалькі дзён Кіслоўскі напісаў нарыс, асноўнай ідэяй якога было: мы разбуралі, каб прагнаць ворага, мы будуем, каб ворага не пусціць. Акрамя гэтага, ён напісаў яшчэ ліст. Нарыс ён занёс у рэдакцыю, ліст на пошту. Што было ў лісце, нас не датычыцца.

2. III—37 г.

# *Думы дзяўчыны*

МІКОЛА ЖУК

Палымнее твар малінай,
Ціха крочыш ты ў журбе—
Поглядам казак акінуў
Між усіх адну цябе.

Ты запомніла, як стройна
Ён трымаўся на кані,
Твар суровы і спакойны,
Погляд дзіўнай глыбіні.

Узнялі ў душы каханне
Вочы чорныя, як ноч.
Ён паехаў. Не прыстане
Да паходаў конь ахвоч.

Эскадрон прамчаўся бурай,
За кварталам хутка знік.
Паглядзела ты пахмура
На зіянне вострых пік.

І пайшла па Набярэжнай
У цень пахілае вярбы,
Захапленняў яркіх, свежых
Не магла ніяк забыць.

Ўстала цяжкая трывога
Дзе-ж яе цяпер падзець?
Каб яшчэ на маладога
Казака мне паглядзець.

Каб прайсці з ім аж за горад,
Любага яго абняць,
Калі вечарам прасторы
Спавівае цішыня.

А ля рэчкі, у далінах,
Устае густы туман,
І нясецца спеў дзяўчыны
Ад нявыжатых палян.

Думы толькі. Ён далёка
І не вернецца ка мне.
Яго іншая у змроку
К грудзям ціха прыхіне.

У станіцах, у зялёных
Дні ідуць сваёй чаргой.
Пэўна там, за ціхім Донам,
Ёсць каханка у яго.

Едзь-жа, сокал, дужы, строгі,
Край шчаслівы барані.
Хай дзявочаю трывогай
Спавіліся мае дні.

Я люблю цябе без меры
Цёплы блеск тваіх вачэй...
Буду помніць, буду верыць
Што сустрэнемся яшчэ.

Менск, 1936 г.

# А. М. Горкі аб М. Ю. Лермантаве*

... Мы дастаткова гаварылі аб агульным ходзе рускага жыцця ў 40-х гадах, аб цяжкім становішчы культурнага рускага двараніна пад прыгнётам Нікалая I, цяпер паглядзім, як ён адносіўся да самога сябе, наколькі глыбокай была дваранская самакрытыка і якім чынам дзеці прыгоннікаў дайшлі да пакланення нявольнікам бацькоў сваіх і сваім: адным словам, паглядзім, як пан паказваў сам сябе ў літаратуры.

Пачнём з двараніна Еўгенія Онегіна, паказанага дваранінам Пушкіным:

Мы все учились понемногу,
Чему-нибудь и как-нибудь,
Так воспитаньем, слава богу,
У нас немудрено блеснуть.
Онегин был, по мненью многих
(Судей решительных и строгих),
Ученый малый, но педант:
Имел он счастливый талант
Без принужденья в разговоре
Коснуться до всего слегка,
С ученым видом знатока
Хранить молчанье в важном споре,
И возбуждать улыбку дам
Огнем нежданных эпиграм.
(І наступныя строфы VI і VII)

Але ў той час—Онегін чалавек прыкметны, ён ужо зусім складзены грамадскі тып. ён брат Пушкіна па духу, на што паказвае супаданне іх думкі. Пушкін кажа:

Кто жил и мыслил—тот не может
В душе не презирать людей...

---

* Заметкі А. М. Горкага аб Лермантаве ўзяты з невыдадзенай яго працы—курса лекцый па гісторыі рускай літаратуры, які прачытаны ім у 1909 г. у капрыйскай партыйнай школе для рабочых. Рукапіс гэтых лекцый—чарнавы; з мноствам паправак і ўставак. У рукапісу прыведзены толькі немногія цытаты з твораў паэта—для іншых указаны тамы і старонкі выдання: на гэтых глухіх паказаннях і адноўлены тэксты адпаведных цытат.

Аб „сумуючым Лермантаве", аб вялікім абагульняючым значэнні вобраза Печорына Горкі гаварыў неаднаразова ў сваіх крытычных артыкулах. Вобразы паэзіі Лермантава Горкі выкарыстоўваў у сваіх мастацкіх творах.

У пісьмах да пачынаючых пісьменнікаў Горкі часта рэкамендаваў уважліва азнаёміцца з паэзіяй Лермантава.

С. Балухаты.

У дзённіку Онегіна запісана:

Конечно, презирать не трудно
Отдельно каждого глупца;
Сердиться так же безрассудно
И на отдельного срамца;
Но чудно!
Всех вместе презирать их трудно.

Онегін піша:

Меня не любят и клевещут,
В кругу мужчин несносен я.
Девчонки предо мной трепещут,
Косятся дамы на меня.
За что?—за то, что разговоры
Принять мы рады за дела,
Что вздорным людям важны вздоры,
Что Глупость ветрена и зла,
Что пылких душ неосторожность
Самолюбивую ничтожность
Иль оскорбляет, иль смешит,
Что ум, любя простор, теснит.

Гэта—жыццё самога Пушкіна, яго думкі, якія паўтараліся ім шмат разоў.

Далей Пушкін піша:

В пустыне, где один Евгений
Мог оценить его дары,
Господ соседственных селений
Ему не нравились пиры;
Бежал он их беседы шумной.
Их разговор благоразумный
О сенокосе, о вине,
О псарне, о своей родне,
Конечно, не блистал ни чувством,
Ни поэтическим огнем,
Ни остротою, ни умом,
Ни общежития искусством;
Но разговор их милых жен
Гораздо меньше был умен.

Гэта ў роўнай меры ўласціва было яму і яго герою, і ўсім маладым людзям таго часу.

Возьмем Лермантава і Печорына, яго героя:

—„Якая мне справа да радасці і бядот чалавечых, мне, вандруючаму афіцэру?“—пытае Печорын.

Ён кажа (у „Герое нашего времени“):

„Што да мяне датычыць, дык я пераконан толькі ў адным...“ сказаў доктар.

— У чым гэта?—запытаў я, жадаючы ўведаць думкі чалавека, які да гэтага часу маўчаў.

„У тым,—адказаў ён,—што рана, ці позна, у адно прыгожае ранне, я памру“.

— Я багацейшы за вас,—сказаў я,—у мяне акрамя гэтага, ёсць яшчэ пераконанне,—іменна тое, што я ў адзін агідны вечар меў няшчасце нарадзіцца...

— Заўважце, любы доктар,—сказаў я,—што без дурняў было-б на свеце вельмі сумна... Паглядзеце, вось нас двое разумных людзей;

мы ведаем раней, што аб усім можна спрачацца бясконца, таму і не спрачаемся. Мы ведаем амаль усе патайныя мыслі адзін другога; адно слова—для нас цэлая гісторыя; бачым зерне кожнага нашага пачуцця скрозь таемную абалонку. Сумнае нас смяшыць, а смешнае агортвае ў сум, а наогул, па праўдзе, мы да ўсяго досыць раўнадушны, акрамя саміх сябе. І так абмену пачуццяў і думак паміж намі не можа быць: мы ведаем адзін аб другім усё, што хочам ведаць і ведаць больш не хочам...“

Лермантаў піша:

И скучно, и грустно, и некому руку подать
В минуту душевной невзгоды...
Желанья!.. что пользы напрасно и вечно желать?
А годы проходят—все лучшие годы!
Любить... но кого же?.. на время—не стоит труда,
А вечно любить невозможно.
В себя ли заглянешь?—там прошлого нет и следа:
И радость, и муки, и все там ничтожно...
Что страсти?—ведь рано иль поздно их сладкий недуг.
Исчезнет при слове рассудка;
И жизнь, как посмотришь с холодным вниманьем вокруг
Такая пустая и глупая шутка...

І зноў мы бачым поўнае супаданне пачуццяў і думкі аўтара з пачуццямі і думкамі яго героя. Нам важна ведаць, што Онегін—партрэт Пушкіна, а Печорын—Лермантава, важна і тое, што нацыяналізм Чацкага быў рысаю не толькі аднаго Грыбаедава, але наогул моладзі таго часу.

Усе трое—Онегін, Чацкі, Печорын—досыць раўнадушны да спраў свае радзімы, яны амаль нідзе не гавораць аб ёй, аб яе жыцці, народзе—нацыяналізм Чацкага мае падкладку не соцыяльную, а саслоўную: гэта нацыяналізм рускага двараніна, якому іншакраец перабівае дарогу ў жыцці, а не натуральнае пачуццё абурэння рускага чалавека, адданага пад каманду жандарма з немцаў Бенкендорфа і пад нагляданне даношчыка з палякаў—Булгарына.

Печорыну і Онегіну чужыя былі так-званыя соцыяльныя пытанні, яны жывуць вузка асабістым жыццём, яны абодвы моцныя, вельмі здольныя людзі і таму не знаходзяць сабе месца ў грамадстве.

Але—ужо ў вершах Лермантава пачынаюць выразна гучаць ноты, амаль непрыкметныя ў Пушкіна—гэта прагнае жаданне справы, актыўнага ўмяшання ў жыццё. Прага да справы, сум моцнага чалавека, які не знаходзіць глебы для прыкладання сваіх сіл,—была наогул уласціва людзям тых гадоў, здавальнялася гэтае імкненне паездкамі на Каўказ, удзелам у бойках з черкесамі, куцяжамі і скандаламі, за якія часам людзі плацілі усім жыццём. У Лермантава гэты сум набывае асабліва рэзкія контуры, напрыклад:

Поверь, ничтожество есть благо в здешнем свете.—
К чему глубокие познания, жажда славы,
Талант и пылкая любовь свободы,
Когда мы их употребить не можем.
Мы, дети севера, как здешние растенья
Цветем недолго, быстро увядаем...

Как солнце зимнее на сером небосклоне,
Так пасмурна жизнь наша. Так недолго
Ее однообразное теченье...
И душно кажется на родине,
И сердцу тяжко, и душа тоскует...
Не зная ни любви, ни дружбы сладкой.
Средь бурь пустых томится юность наша,
И быстро злобы яд её мрачит,
И нам горька остылой жизни чаша,
И уж ничто души не веселит.

(„Монолог“)

Не обвиняй меня, всесильный,
И не карай меня, молю,
За то, что мрак земли могильный
С ее страстями я люблю;
За то, что редко в душу входит
Живых речей твоих струя,
За то, что в заблужденьи бродит
Мой ум далеко от тебя;
За то, что лава вдохновенья
Клокочет на груди моей;
За то, что дикие волненья
Мрачат стекло моих очей;
За то, что мир земной мне тесен,
К тебе ж проникнуть я боюсь
И часто звуком грешных песен
Я, боже, не тебе молюсь.
Но угаси сей чудный пламень,
Всесожигающий костер,
Преобрати мне сердце в камень,
Останови голодный взор;
От страшной жажды песнопенья
Пускай, творец, освобожусь,
Тогда на тесный путь спасенья
К тебе я снова обращусь.

(„Молитва“)

Зачем я не птица, не ворон степной,
Пролетевший сейчас надо мной?
Зачем не могу в небесах я парить
И одну лишь свободу любить?
. . . . . . . . . . .
Но тщетны мечты, бесполезны мольбы
Против строгих законов судьбы.
Меж мной и холмами отчизны моей
Расстилаются волны морей.
Последний потомок отважных бойцов
Увядает средь чуждых снегов:
Я здесь был рожден, но нездешний душой...
О! зачем я не ворон степной?..

(„Желание“)

Ён правільна адчуў ворага і, юнаком яшчэ, у 30-м годзе пісаў:

Настанет год, России черный год,
Когда царей корона упадет,
Забудет чернь к ним прежнюю любовь,
И пища многих будет смерть и кровь...

Ён пісаў Пушкіну ў 1830 годзе, калі той прысвяціў Нікалаю вядомы верш „Друзьям“.

Лермантаў адказаў яму:

О, полно извинять разврат!
Ужель злодеям щит порфира?
Пусть их глупцы боготворят,
Пусть им звучит другая лира;
Но ты остановись, певец,
Златой венец не твой венец.
Изгнаньем из страны родной
Хвались повсюду как свободой;
Высокой мыслью и душой
Ты рано одарен природой;
Ты видел зло и перед злом
Ты гордым не поник челом.
Ты пел о вольности, когда
Тиран гремел, грозили казни;
Боясь лишь вечного суда
И чуждый на земле боязни,
Ты пел, и в этом есть краю
Один, кто понял песнь твою.

Лермантаў сапраўды зразумеў песню Пушкіна, зразумеў яго значэнне і адзін ён праводзіў труну паэта крыкам злосці, суму і помсты: вершы „На смерць поэта“, справядліва лічацца аднымі з мацнейшых вершаў у рускай паэзіі.

Прачытаем гэтыя вершы:

Погиб поэт—невольник чести—
Пал, оклеветанный молвой,
С свинцом в груди и жаждой мести,
Поникнув гордой головой!..

(І далей)

Урад пачуў гэты заклік да помсты, зразумеў яго грамадскае значэнне і выслаў паэта прапаршчыкам на Каўказ.

Седзячы пад арыштам, ён пры дапамозе запалкі, печнае сажы і сліны напісаў на абвёртачнай паперы, у якой яму прыносілі хлеб, чатыры вершы. У 1839 г. ён быў звернуты у сталіцу, а ў 1841 г. зноў за дуэль высланы на Каўказ. Ад'язджаючы, ён развітаўся з радзімаю такімі словамі:

Прощай, немытая Россия,
Страна рабов, страна господ,
И вы, мундиры голубые,
И ты, послушный им народ.

У 1841 г. 15 чэрвеня, ён быў забіты. Нікалай, даведаўшыся аб гэтым, сказаў:—„Туды яму і дарога!“

Мы ўхіліліся некалькі ў бок, вернемся да Печорына, героя таго часу; між ім і яго аўтарам няма ўжо таго поўнага зліцця ў адну асобу, якое мы знаходзім паміж Пушкіным і Онегіным. Чым гэта тлумачыцца? Раней за ўсё тым, што Лермантаў—сам недапетая песня і не паспеў увесь выказацца. Печорын быў для яго вельмі вузкім, следуючы праўдзе жыцця паэта не мог надаць свайму герою ўсяго таго, што насіў у сваёй душы, а калі-б ён зрабіў гэта—Печорын быў бы няпраўдзівым. Інакш кажучы—Лермантаў быў і шырэй і глыбей за свайго героя. Пушкін яшчэ любуецца Онегіным,

Лермантаў ужо адносіцца да свайго героя амаль роўнадушна. Пячорын блізкі яму, паколькі ў Лермантаве ёсць рысы песімізма, але песімізм у Лермантаве—сапраўднае пачуццё, у гэтым песімізме ясна гучыць нянавісць да сучаснасці, адмаўленне яе, прага барацьбы, і сум, і адчай ад свядомасці адзіноцтва, ад свядомасці бяссілля. Яго песімізм увесь накіраван на свецкае грамадства.

„Песнь о купце Калашникове“ дае нам права думаць, што Лермантаў—жыві ён далей—знайшоў-бы свой шлях, што ён, варты праемнік Пушкіна, які ўладаў велізарным талентам, мог-бы, з цягам часу, развіцца ў першакласнага народнага паэта.

# *Пушкін і совецкая паэзія* *

Н. ТІХАНАЎ

Уся краіна зараз успамінае нанава Пушкіна. Краіна ў гэтыя гады—нібы семінар па творчасці паэта.

Асобае значэнне для нас, паэтаў, мае прыклад яго жыцця. Ён не ўнізіў век здрадай беззаконнай, ні гордага сумлення, ні ліры непрыклоннай.

Яго паводзіны, успрыняцце рэчаіснасці, задачы, якія ён ставіць сабе, сам ён, як паэт рэалістычны народны повен для нас авучальнага сэнсу, таксама як многія прынцыповыя бакі яго творчасці, як многія асаблівасці яго стыля.

Пушкін не падзяляў жыццё на чорную і белую палавіну. Пушкін зрабіў вершы з'явай свайго жыцця. Ён не адлучаў верш ад жыцця. Тут была заканамернасць і заканамернасць смяротная, таму што гэта вяло на непазбежную апошнюю сутычку з акаляючым.

Ён пісаў: „Паэзія бывае выключным палам нямногіх, якія нарадзіліся паэтамі. Яна ахапляе і паглынае ўсе наглядання, усе патугі, усе ўражанні іх жыцця", а не ўражанні ад жыцця.

Апрача таго, у яго была яшчэ адна сіла, якой не валодаюць звычайна паэты, якую-б я назваў сілаю штодзённасці. Гэтая сіла штодзённасці цікава аднэй абставінай. Для яе няма ў жыцці невартых дробязей. Журналісту—„шуту" адказваюць эпіграмай, каб ён па кіпцях у хвіліну пазнаў паэта.

Красуні пішуць вершы замест любоўнага пісьма. Вершы пераходзяць у дакумант.

У паэме шукаюць стварэння характара.

У драме—новага віда, змены сістэмы драматургічнай.

У чужой стыхіі вершаванай—магчымасць абагачэння рускай паэзіі.

Шуканне формы і зместу ідуць не за кошт падначалення адзін другому.

У гэтую паэзію ўваходзіць усё жыццё—ад самага дробнага ўчынка (картачны пройгрыш) да гістарычнай ідэі, у якой адлюстраваны лёс дзяржавы,—вось размах ахопу.

Так з'яўляецца і рамантычная паэма, і раман у вершах, і песні народныя, і раманы, і эпіграмы, сатыры, і пераклады, і наследванне, і лірыка, і драма.

---

* Даклад на IV Усесаюзным пленуме ССП.

Вобразы рэвалюцыйнай барацьбы яго часу (усе віды іх—і карбанарыі і грэчаскія фалангісты, і іспанскія рэвалюцыянеры)—і такія гістарычныя гіганты, як Напалеон і Пётр, і такія народныя героі, як Сценька Разін і Пугачоў і прыгоннае права, і дзекабрысты, і рускі прыгонны, і рускі раб-прыгоннік, усе эпохі адзначаны і ўзяты ў паэзіі, як быццам аднаму вялікану за ўсіх даручылі быць паэтам, і празаікам, і драматургам, і гісторыкам, і крытыкам—смяшыць, і устрашыць, і захапляць чалавецтва і ўсё гэта з велізарнай верай чалавека. „Не даром темною стезей я проходил пустыню мира“.

Усе віды творчасці неабходны, абсалютна неабходны ў зусім новых жанрах, якія мы па сваёй ляноце, і па сваёй нецікаўнасці не падымаем. Калі-небудзь літаратура нашага перыяду адкажа за гэта перад патомствам. Хіба наш час не павінен гэтага мець? Хіба наш час, які мае такіх герояў, як Ленін, Сталін, Орджанікідзе, Кіраў, Варашылаў, не патрабуе, каб мастацтва верша спрабавала падняць на свае плечы новую эпоху?

Хіба тое, што рабілася ў старой Расіі, што даводзілася разгадваць у цемры, не можа быць зроблена ў нас у святле нашага будаўніцтва? У нас новыя людзі, надзвычайныя квітнеючыя краіны, былыя ўскраіны, якія калісьці былі только пустэльнямі, аб якіх пісаў Пушкін у сваёй уяўляемай размове з Александрам I.

Хіба маштабы барацьбы за перадавое чалавецтва не змяніліся? Хіба маштабы варожай злосці не змяніліся? Нядаўна ў гэтым-жа самым доме ішоў працэс трацкістаў тэрарыстаў. Хіба гэта не былі асобыя маштабы подласці і зверства, і здрады? Хіба гэты змрок не пранізваецца аграмаднай магутнасцю пражэктароў нашай волі, нашай свядомасці?

А нашы перамогі? Хіба дзівосныя маштабы казкі не сталі сапраўднасцю? Гэта сіла верша прымушае нас шукаць усё новай і новай формы. Бо на кожным кроку змяняецца не толькі прырода рэчаў, але ўся прырода чалавека. Хіба гэта не патрабуе новай уважлівасці?

Вось чаму мы павінны звярнуцца да Пушкіна і ўспомніць яго match разнастайнасць.

Амаль праз сто год пасля смерці Пушкіна, магутны паэт рэволюцыі Владзімір Маякоўскі сказаў Пушкіну: можа, я адзін сапраўды шкадую, што сёння няма вас жывога...

Так, яны падружыліся-б і дамовіліся-б. Калі Маякоўскі быў упэўнены, што для лепшага выканання соцыяльнага заказа трэба быць перадавым свайго класа, трэба разам з класам весці барацьбу на ўсіх франтах, трэба разбіць у дрэбезгі казку аб апалітычным мастацтве,—Пушкін як рэволюцыйны паэт, перадавы паэт чалавецтва ў сваю эпоху, не баяўся ўступіць у самую бойку з самаўладствам і вёў гэтую бойку да апошняй хвіліны.

Іх збліжае многае ў разуменні і вырашэнні паэтычных задач. Нездарма пасля Пушкіна, Лермантава, Некрасава мы ставім імя Маякоўскага.

Маякоўскі, як і Пушкін, жыў увесь час, змагаючыся за сапраўдную форму верша. Адмаўляў ён захапленне да застылых форм,

як самую пагубную для верша справу. Працуючы няспынна, абагачаў ён не толькі паэтычную мову, але і жывую гутарку.

Як у Пушкіна кіпеў гнеў супроць прыгнечання чалавека, ці будзе гэта ў рускай вёсцы, у Іспаніі, ці ў Грэцыі, так з першых вершаў сваіх, у адзнаку ад усіх астатніх паэтаў передваеннага перыяду, Маякоўскі адчуваў сябе грамадзянінам сусвету не ў высакапарным значэнні гэтых слоў.

Сіла і магутнасць пролетарскай рэволюцыі, справядлівасць новага небывалага на зямлі ладу, барацьба з усімі перажыткамі старога, абсалютная шчырасць паэта, першыя навальніцы сусветнай рэволюцыі, дабрата новага чалавека, які любіць жыццё,— нецярпімасць у бойцы з усякай фальш'ю, складалі галоўны змест паэзіі Маякоўскага.

У чым-жа заключалася народнасць Маякоўскага?

„Народнасць у пісьменніку ёсць вартасць, якая зусім можа быць ацэнена аднымі адназемцамі".

Гэтая вартасць у Маякоўскага заключалася ў тым, што, перамогшы ў барацьбе за станаўленне паэтычнай асобы ўсе складанасці футурыстычнай школы, усе спакусы жыць спрытным, адасобленым ад шырокага жыцця вершам, ён вышаў на дарогу такой паэзіі, якая жыве, адгукаючыся самым шчырым, самым майстэрскім, самым высокім голасам на жыццё ўсяго народу, на падзеі велізарнейшай важнасці.

Ён не лавіраваў, а спрабаваў знайсці законы такога мастацтва, якое стане народным, масавым без падробкі і без скідкі.

І калі Пушкін заклікаў вучыцца ў класікаў сусветных і сам у іх вучыўся—і ў Байрана, і ў Шэкспіра, і ў старажытных, дык Маякоўскі не адмаўляў класікаў у спелую пару сваёй работы.

Быў яшчэ адзін паэт, голас якога таксама гучэў высока.

І вось мы чуем маладую і ясную песню, якую слухаем з задавальненнем. Голас то ласкавы, то гнеўны, але чысты і моцны:

Так бейся по жилам,
Кидайся в края,
Бездомная молодость,
Ярость моя...

Гэта як быццам па-новаму гучлівы гімн:

Силы четыре,
Соединяясь,
Мир образуют,
Жизнь создают.

Гэта і ёсць новая маладосць. Гэта Эдуард Багрыцкі. Гэта ён сустрэў Пушкіна ў першыя гады рэволюцыі:

Свершается победа трудовая,
Взгляните: от песчаных берегов
К нам тень идет, крылаткой колыхая,
Приветствовать приход большевиков.
Она идет с под'ятой головою,
Туда, где свист шрапнелей и гранат,
Одна рука на сердце, а другою
Она стихов отмеривает лад.

І пушкінскае веданне жыло ў спакойнай свядомасці таго, што хацеў і што рабіў Багрыцкі. Бязмернай была яго любоў да верша. Скрабін казаў, што сілаю музыкі можна выклікаць навальніцу. Магічнае значэнне верша ў яго бытавых магчымасцях, вядома, жыло ў Багрыцкім. Па пушкінску гучала:

Пора, пора, уже нам в лица дует
Воспоминаний слабый ветерок.

Як Пушкін ён жывапісаў прыроду і разумеў яе як адпачынак чалавека, як сад загубленых, небывалых для чалавека радасцей. І дасканалы верш, дасканалы, як спевы птушак, любіў ён. Як быццам звычайныя вершы пісаў, глядзіш—вартасці ў іх зусім незвычайныя. Тая-ж гісторыя з сэнсавым вершам, поўным чалавечай цяплыні.

Парадняе яго з Пушкіным яго аптымізм, яго спакойнасць. Стварыў ён „Думу пра Апанаса“. думу крывавую, цяжкую, а пяецца яна лёгка, амаль радасна. Вучыўся ён многа. Пушкін іншых іназемцаў асвойваў своеасабліва, але асабліва любіў ён англічан. Багрыцкі перакладаў Бен Джонсона, Томаса Гуда, Р. Бернса, В. Скотта.

Гэта вельмі важная работа, якою павінны былі-б займацца мы ўсе.

У гэтым мы невукі. Пушкін браў на паверку ўсё сусветнае мастацтва. Ён рабіў гэта зусім смела. Мы-ж бярэм вельмі мала. Мы не ведаем сучаснай заходняй паэзіі, мы не правяраем яе, мы не змагаемся з ёю.

Пушкін у адзін надзвычайны дзень перакуліў увесь лад пануючай літаратурнай традыцыі, але сам, дамацоўваючы сваю лінію, не акамянеў у сваёй перамозе. Ён шукаў усё новыя і новыя вершаваныя галіны, ён пашыраў тэмы, уключыўшы ў сваю работу ўсю шматвобразнасць свету вонкавага і ўнутранага. Сучаснікі называлі яго за гэтую здольнасць Пратэем, яго дараванне—д'ябальскім дараваннем.

У запісках яго знаходзім мы многа меркаванняў аб вершах, якія тлумачаць ці ўдасканальваюць яго погляды на прыроду паэзіі.

Там запісана, што смеласць паэта не выяўляецца ў тым, што ён увёў у абыход адно ці два словы, не прынятыя раней у вершаванай традыцыі.

— „Сумны ўдзел паэтаў,—піша Пушкін,—калі яны прымушаны славіцца падобнымі перамогамі над забабонамі густу“.

„Ёсць вышэйшая смеласць, смеласць вынаходніцтва, стварэння, дзе велізарны план абыймаецца творчай думкай; такая смеласць гэта Гётэ ў „Фаусце“, Мальера ў „Тарцюфе“ Шэкспіра, Дантэ, Мільтона...“

Гэта найбольшы попыт паэзіі. Ёсць тлумачэнне і таму, які верш павінен суправаджаць гэтую вышэйшую смеласць плана.

„У спелай славеснасці прыходзіць час, калі розумы, наскучыўшы аднастайнымі творамі мастацтва, абмежаваным колам мовы,

умоўленага выбранага, звяртаюцца да свежых вымыслаў народнага і дзіўнага прастамоўя, з пачатку зненавіджанага...“ І далей:

„Цудоўнасць голай прастаты так яшчэ для нас не зразумела, што нават і ў прозе мы ганяемся за ўстарэлымі ўпрыгожаннямі, паэзію-ж, вызваленую ад умоўных упрыгожанняў вершатворства, мы яшчэ не разумеем“.

Мы знойдзем у гэтых запісках радкі, што геній звычайна прастадушны, вялікі характар заўсёды шчыры.

Уступіўшы ў велізарную дзяржаву пушкінскай паэзіі, знойдзем, што вершаў дрэнна апрацаваных у яго не бывае. Нават у адносінах да такога невялікага і хуткага роду як эпіграмы, нам давядзецца сказаць пра эпіграму тое-ж, што і Пушкін сказаў аб эпіграме Баратынскага: усміхнуўшыся ёй як востраму слову, мы з асалодай перачытваем яе як твор мастацтва.

Пошукі новага ішлі непарыўна, складаючы аснову пушкінскай творчасці. Ён піша аб Палтаве: „у ёй, у паэме, усё амаль арыгінальна, а мы з-за гэтага толькі б‘емся“.

„Поспех ці не поспех маёй трагедыі—піша ён аб „Барысе Гадунове“,—будзе мець уплыў на пераўтварэнне драматычнай нашай сістэмы“.

Мы заўсёды будзем здзіўляцца яго вершаванаму здароўю, яго тэматычнай шырыні, яго ўпартасці, жыццёвасці і народнасці. Таго, што ён напісаў за два болдзінскія месяцы, хапіла-б другому пісьменніку на ўсё жыццё.

Як ён мог працаваць у любых умовах, бачучы адпачынак сабе толькі ў пераходах ад аднэй працы да другой, якое велізарнае фізічнае напружанне патрабавалася ў гэтым.

Пушкінскі-ж голас ніколі не здраджвае ў сіле і ніколі не фальшывіць, ніколі не гучыць надорвана. Ён заўсёды ў меру гнуткі і гучны. У яго найглыбейшае дыханне, якога яму хапае далей за чатыры радкі.

Вось у вершы „Была пора“ (з вершаў да гадавіны ліцэя)—якая жорсткая інтанацыя ў гэтым вершы, як яна непарыўна, як яна нясе голас да самай выказанасці верша:

Припомните, о други, с той поры,
Когда наш круг судьбы соединили,
Чему, чему свидетели мы были!
Игралища таинственной игры—
Металися смущенные народы;
И высились и падали цари;
И кровь людей то славы, то свободы,
То гордости багрила алтари.

Гэта падводзіцца не ітог страфы, гэта страфа падводзіць ітог эпохі. Гэтыя вершы нісаліся не для гучнага слаўца, іх трэба было з дрыжыкамі сказаць сябрам, тым, хто, як ён, Пушкін, перажылі ўсё толькі што названае занава, каб яны аглянуліся і ўбачылі, што кроў людзей пралілася, не пераўтварыўшы свету...

Але як можа прасцейшы верш перайсці пры сваёй малой вобразнасці і страшнай эканоміі руху ва ўражаючую дзею?

Гэта вы знойдзеце ў простанароднай мове казак.

Сын на ножки поднялся,
В дно головкой уперся—
Поднатужился немножко:
„Как бы здесь на двор окошко
Нам проделать?“—молвил он,
Вышиб дно и вышел вон.

Гэта і ёсць разумная кароткасць, яна-ж у „Доне“:

Отдохнув от злой погони,
Чуя родину свою,
Пьют уже донские кони
Арпачайскую струю.

Сказаць лепш і прасцей —немагчыма.
А маланкавая размова Мефістофеля з Фаустам.

—Что там белеет—говори...
Мефистофель:
Корабль испанский, трехмачтовый,
Пристать в Голландию готовый,
На нем мерзавцев сотни три,
Две обезьяны, бочки злата,
Да груз богатый шоколада,
Да модная болезнь—она
Недавно вам подарена.
Фауст:
Всё утопить.
Мефистофель:
Сейчас.

Будзем на секунду ўважлівы як слухачы. Тут нянавісць Мефістофеля дасканальна абумоўлена выбарам слоў, у якіх ідуць глухія „з“: „мерзавцы, обезьяны, злато, груз, болезнь“. А якая моцная валявая інтанацыя! Вось з-за гэтай быстрыні і дасканаласці акторы не могуць прыстасавацца да пушкінскага верша на сцэне, ён не дае ім ніякай скідкі на час, прапусціўшы радок— загубіш сэнс і ўжо яго не знойдзеш. Тут усё вельмі скупа і дасканальна.

Мова пушкінскай паэзіі не паміраё, ён захаваў усю прыгажосць сваю і праз сто год мы дыхаем яго харастом і сілаю.

Пушкінскі свет не быў бедны ўражаннямі, але, вядома, параўноўваць яго з нашым светам проста немагчыма. Цэлымі месяцамі аваленая снегам вёска трымала, як у палоне, нашага паэта, але, з'явіўшыся ў сталіцу, ён здзіўляў усіх сваімі глыбокімі рознастайнымі ведамі.

„Слухаючы яго разважанні аб замежнай палітыцы,—піша, напрыклад, аб ім Міцкевіч,—альбо аб палітыцы сваёй краіны, можна было прыняць яго за мужа, пастарэўшага ў грамадскіх справах і штодзённа чытаючага спрэчкі ўсіх парламентаў“.

Пачуццё часу і пачуццё прасторы—вымернікі, асоба вызначаючыя памеры таленту, заўсёды існавалі для яго ў прапорцыях незвычайных. Мноства краін і часоў, і народаў увайшлі ў яго вершы. Яго раман у вершах уяўляе сабою энцыклапедыю рускага жыцця.

Ці валодаем мы мастацтвам сінтэза, ці умеем мы высоўваць вершаваную формулу, у якую ўсё заключана як стройная сістэма? На вялікі жаль не! У нас ёсць яшчэ паэты, да якіх можна і зараз звярнуцца з гэтымі радкамі Пушкіна:

О вы, которые, почувствовав отвагу,
Хватаете перо, мараете бумагу,
Тисненью предавать труды свои спеша,—
Постойте, наперед узнайте, чем душа
У вас наполнена—прямым ли вдохновеньем
Иль необузданным одним пополэновеньем.
И чешется у вас рука по пустякам,
Иль вам не верят в долг, а деньги нужны вам?
Не лучше ль вам с надеждою смиренной
Заняться службою гражданской иль военной?

Вазьміце, колькі ў нас ворагаў, і якіх ворагаў. Ці ўмеем мы пісаць адказ на варожыя пагрозы? Ці ўмеем мы адказваць так, як пісаў гэты чалавек:

Иль мало нас? или от Перми до Тавриды,
От финских хладных скал до пламенной Колхиды,
От потрясенного Кремля
До стен недвижного Китая,
Стальной щетиною сверкая,
Не встанет русская земля?

Што датычыцца працаздольнасці, дык я прачытаю, як запісана са слоў сучасніка, які бачыў, як працаваў Пушкін над „Палтавай“.

„Пісаў ён цэлы дзень, вершы яму нават мроіліся і сплючы, так што ён ноччу ўсхопліваўся з пасцелі і запісваў іх у цемры. Калі голад яго праймаў, дык ён бег у бліжэйшы тракцір, вершы праследвалі яго і там. Ён еў спехам што папала, і зноў бег дамоў, каб запісаць тое, што набралася ў яго, бягучы і за абедам. Іншы раз мыслі, якія не ўкладваліся ім у вершы, запісваліся прозаю. А потым пачыналася іх апрацоўка, пры якой з накідаў не аставалася і чацвертая частка“.

Гэтае ўменне працаваць мае велізарнае значэнне. „Палтава“ напісана за два тыдні, а колькі напісана ў Болдзіне.

Гэта—уменне працаваць, якім мы не валодаем.

Праўда, махіна нашай паэзіі, хоць і з затрымкай і са скрыпам, але пачынае паварачвацца па іншаму. Знікае з паэзіі цмянасць, „прыгожасць“, хлуслівая заблытанасць, фальшывасць, шаманства, лішняя складанасць, неахайнасць і спрабуе паэзія загаварыць на ўвесь чалавечы голас. І тут, аказваецца, што пушкінскія дарогі яшчэ далёка не гістарычны тупік, а хадзіць па іх можна, і вывесці да людзей яны могуць, да самага шырокага савецкага народу.

Асееў—не спакойны паэт. Ён ведае, што паэзія, небяспечнае рамяство, таму, што яна, як выбуховая матэрыя, патрабуе разумнага абыходжання, інакш яна разнясе таго на кавалкі, хто няправільна з ёю абыходзіцца. Я не хочу зараз гаварыць ні аб „лирическом отступлении“, ні аб „Семене Просакове“ альбо аб іншых паэмах Асеева. Побач з паэмамі і лірыкай у Пушкіна ёсць мноства паэтычных рэчаў такіх, якія былі-б тады падыходзячыя, газеты ахвотна

друкавалі-б іх. Гэта вершы на выпадак, вершы іранічныя, палітычныя, па апрацоўцы сваёй не ўступаючыя звычайнай лірыцы.

Такі пушкінскі ўчастак ёсць і ў Асеева. Многія з гэтых вершаў па-сапраўднаму добрыя, і гэта баявыя песні і вершы.

Так-званыя газетныя вершы Асеева зараз забыты. Несправядліва, што яны забыты, таксама як і яго сказ аб Будзённым, напрыклад. А між тым, калі казаць аб пошуках народнасці, дык нельга не прыпамятаць гэты сказ аб Будзённым, адкуль нарадзіўся будзёнаўскі марш, які стаў усенароднай песняй.

Не будзем забывацца і пра тое, што ў яго лірыцы заключана вельмі многа вартасцей, але Асееву зараз не хапае таго, чаго не хапае многім з нас: абсалютнага адчування свайго права, сваёй сілы, сваёй неабходнасці.

Нельга пісаць так, як Асееў аднойчы пісаў:

У Пушкина чаши,
У Гаршина вздохи,
Отметят сейчас же
Дыханье эпохи.
А чем мы отметим,
И что мы оставим
На нынешнем свете,
На нашей заставе...

Асееў пакіне многа. Ім напісаны і балады і паэмы, і зараз ён пачаў раман у вершах.

Дзем'ян Бедны не адмовіцца прызнаць пушкінскія казкі і народныя песні яго за сваіх літаратурных продкаў. Сярод поўных цёплай іроніі радкоў Светлова ёсць радкі з сапраўдным пушкінскім інтэрнацыяналізмам, сусветнай прачуласцю напісаная „Гранада“, ясны свежы верш.

Але чаму зараз Светлоў маўчыць? Гэта вельмі важнае пытанне. Калі ён наследуе Пушкіну, дык толькі ў адным—Пушкін выдумаў небывалага янычарскага паэта—Аміна Оглы, які пісаў нядрэнныя рускія вершы, і гэта зразумела, але я не разумею, чаму Святлоў свае ўласныя вершы піша пад імем выдуманага небывалага армянскага паэта, альбо правільней, я разумею, таму, што ён у іх не ўпэўнены, ён як-бы за іх не адказвае. Гэта няправільна. Мы павінны адказваць за свае вершы, таму што ў гэтым і ёсць галоўны сэнс нашага існавання.

Маленькія драмы Пушкіна мелі несумненны ўплыў і на такога добрага паэта, як Антакольскі.

Два радкі:

Под небом Африки моей
Вздыхать о сумрачной России

нарадзілі ў Барыса Карнілава вялікую паэму аб негры, які змагаецца за свабоду пролетарыята ў дні кастрычніцкай рэволюцыі. Напісаная ім-жа паэма аб маладым Пушкіне—„Пушкін у Кішыневе“, значна вышэй многіх твораў, якія напісаны паэтамі да стагоддзя з дня пагібелі Пушкіна.

Да пушкінскай яснасці і дасканаласці імкнецца зараз паэт Забалоцкі ў сваіх апошніх вершах, з якіх сапраўды вылучаюцца

многімі паэтычнымі вартасцямі: „Горийская симфония“, „Север“, і „На смерть С. М. Кирова“.

Ёсць у „Дангаре“ і ў паэме „Жизнь“ Владзіміра Лугаўскога ў просталінейнасці белых вершаў чоткасць старых непаміраючых радкоў.

Уж десять лет ушло с тех пор, и много
Переменилось в жизни для меня.
И сам, покорный общему закону,
Переменился я,—но здесь опять
Минувшее меня об'емлет живо,
И кажется, вечор еще бродил
Я в этих рощах...

Так адбываецца пераклічка вялікага паэта з паэтамі нашага часу, у жывой дружбе людзей совецкай зямлі, інакш быць не можа. Пушкін—наш! Як сказаў совецкі паэт:

...Он наш целиком! Ни Элладе,
Ни Италии не отдадим,
Мы и в ярости, мы и в разладе
Мы и в хаосе дышим им...

Так, ён быў удзельнікам грамадзянскай вайны. Багрыцкі пісаў аб гэтым:

Я мстил за Пушкина под Перекопом,
Я Пушкина через Урал пронес,
Я с Пушкиным шатался по окопам,
Покрытый вшами, голоден и бос...

І нават, калі ў „Оде Революции“ ў Маякоўскага:

Слава
хрипит в предсмертном рейсе,
визг сирен придушенно тонок,
Ты шлешь моряков
на тонущий крейсер,
где забытый мяукал котёнок.
А после
  пьяной толпой орала
Ус залихватский закручен в форсе,
Прикладами гонишь седых адмиралов
вниз головой
  с моста в Гельсингфорсе.

Кацянё і адмірал! Гэта-ж кошка і прыказныя з „Дуброўскага“, гэта пераклічка каваля і сялян пушкінскага часу і матросаў 17 года.

Ва ўсіх паэтаў Саюза знойдуцца ў той ці іншай меры ўплывы Пушкіна. У адных больш прыкметныя, у другіх больш схаваныя. Але гэта ёсць, за рэдкім выключэннем, ва ўсіх.

Нам ніколі не трэба забывацца пра такога вялікага спадарожніка і друга. Ён паклаў аснову нашай вершаванай мовы па-сапраўднаму, ён паказаў, што можна зрабіць у галіне рускай славеснасці, калі добра папрацаваць.

І зараз, як-быццам у нашай паэзіі намячаецца імкненне да пушкінскай прастаты. У пошуках разняволення рытма, рыфм і метафары, ад чаго так залежала развіццё верша, пасля многіх боек, пошукаў і блуканняў, перамога як быццам пачынае схіляцца да верша, у якім сэнс пераважае над заумью, а думка над метафарай.

Выцертыя дэкларацыі, размалёваныя алегорыі здымаюцца жыццём з паэтычных арэн.

„Формы і абрады, ці павінны занявольваць літаратурнае сумленне?“ Мы адказваем сваёй работай, даказваючы, што навізна заключаецца зусім не ў тых жанглёрскіх практыкаваннях, да якіх так падкі былі старажытныя і новыя трубадуры і ад чаго, як піша Пушкін, „адбыліся неабходная нацяжка выразу, нейкае жэманства... дробнае астраумие замяніла пачуццё, якое не можа выказвацца ў трыалетах, які розум не можа задаволіцца „аднымі цацкамі гармоніі““.

Паэт, які звязан з усім жыццём народа, разнастайны і ўважлівы да перажыванняў часу, паэт мыслі і хвалявання, заўсёды будзе звяртацца да спадчыны Пушкіна і вучыцца ў яго мастацтву верша і мастацтву праўды. Пушкін быў зусім зямны паэт, і паэту нашага часу давядзецца апісваць рэчы вельмі звычайныя.

„Чым прадмет больш звычайны, тым вышэй трэба быць паэту, каб узяць з яго незвычайнае і каб гэтае незвычайнае было між іншым—сапраўды ісціна“.

Сапраўды ісціна нашага часу—гэта звычайны, штодзённы гераізм незвычайных для чалавецтва нашых сучаснікаў, савецкіх людзей і нашых сяброў ва ўсім свеце, у эпоху, праслаўленую найвялікшым героем новых часоў—Іосіфам Сталіным.

# *Проза Пушкіна**

Ю. Н. ТЫНЯНАЎ

Дзве рысы спыняюць увагу кожнага з нас у жыцці і творчасці Пушкіна.

Па-першае, хуткі, няспынны рост яго творчасці. У чэрвені 1820 г. напісан эпілог да „Руслана і Людмілы", а 28 мая 1823 г. пачат „Еўгеній Онегін". У канцы-ж 1824 г. „Барыс Гадуноў".

Я тут знарок не ўспамінаю пра „Каўказскага нявольніка", пра „Братоў разбойнікаў", пра „Бахчысарайскі фантан", пра „Цыганы", каб стаў яснейшым для нас амаль неверагодны факт: ад юнацкага маладога „Руслана" да „Барыса Гадунова"—тэрмін 3-4 гады.

Па-другое, адначасовая работа над буйнейшымі рэчамі, разам з тым узнікненне і запісы новых планаў. І тыя, хто спрабуе вывучаць літаратурнае жыццё Пушкіна, павінны перш за ўсё не забываць, што перад намі найвялікшы прафесіянальны пісьменнік, літаратар, які пісаў амаль кожны дзень усё жыццё.

Яшчэ адна асаблівасць: ён пісаў ва ўсіх жанрах. Ён быў свядомым працаўнікам „аднастайнасці ў пісьменніку".

„Аднастайнасць у пісьменніку даказвае аднабаковасць розуму, хоць, можа, і глыбокадумнага"—пісаў ён.

Больш таго, для яго не існавала бездані між усімі відамі літаратуры. Дастаткова параўнаць мову яго „Падарожжа ў Арзрум" з мовай яго аповесцей; яго артыкулы па мове нічым не адрозніваюцца ад „Гісторыі сяла Гарухіна".

Мова Пушкіна—сціслая і дакладная і ніколі не парывае сувязі з жывой мовай. Яна як-бы прыстасавана да таго, каб перадаць змест ва ўсіх адценнях. Пушкін усё жыццё супярэчыў супроць мовы тагочаснай прозы, мовы няпростай, поўнай іншасказаў, залішне падрабязна апісальнай.

Усю такую прозу, уключаючы навуковую і дзелавую, ён яшчэ ў маладосці, у 1822 г., у 23 гады, адмаўляе з пункту гледжання прастаты. Але як Пушкін дасягае гэтай прастаты і дакладнасці мовы? Успомнім, што яшчэ ў ліцэі ён быў вучнем Галіча, які вучыў, што прадмет паэзіі—ісціна, а літаратурны густ—гэта розум.

Жывое ўспрыманне ўражанняў, сапраўднасць—вось самае важнае для Пушкіна ў мастацтве. Вельмі рана, акрамя праграмы

*) Даклад на чацвертым пленуме ССП СССР, прысвечаным памяці А. С. Пушкіна.

вершаў, Пушкін прывучаецца сцісла і дакладна запісваць падзеі, думкі, расказы. Гэты рэалістычны метад яго работы з цягам жыцця ўсё пашыраецца. Гэтыя кароткія, дакладныя запісы таксама навучаюць яго мове прозы, як і праграмы вершаў.

Вышэйшаю меркаю, задоўга да Льва Талстога, становіцца для яго народная мова, простанародная, якая ў яго час калі і ўжывалася ў паэзіі, дык галоўным чынам як экзатычная прыправа.

Барацьба за простанароднасць мовы ў паэзіі была не новай для Пушкіна. Ён вытрымаў жорсткі бой з крытыкай пры з'яўленні першай сваёй паэмы. Качэноўскі ў „Вестнике Европы“ выступіў з адкрытым пратэстам супроць простанароднасці ў „Руслане і Людміле“. У другім выданні сваёй паэмы Пушкін перадрукаваў яго погляд без усякіх пярэчанняў. Ён не палічыў вартым яму пярэчыць. Пушкін ішоў сваім шляхам. І выклікаў разам са славай, лаянку. Але не лічыўся з ёю. Ён вельмі добра ведаў, на што ідзе, уводзячы ў паэму мову простанародную. Пасылаючы Бестужэву „Братоў разбойнікаў“ для друкавання, ён піша:

„Калі гукі бацькаўшчыны: „харчевня“, кнут“, „острог“ не спужаюць кволых вушэй чытачак „Полярной звезды“, дык надрукуй...“

Прастата мовы была не толькі схільнасцю або патрабаваннем густа паэта. Ужо ў пятнаццатым годзе, яшчэ шаснаццацігадовым хлапчуком, спрабуючы лёгкі, жартаўлівы эпас, лёгкую жартаўлівую паэму, адкідаючы паэмы грамоздкія і не зразумелыя, ён піша пра прычыны гэтага, пра прычыны зусім не вузкалітаратурныя, ён хоча, каб яго „зразумелі ўсе“.

У літаратуры панаваў густ, галоўным чынам густ адмоўны, які абмяжоўваў мову забараняльнымі эстэтычнымі правіламі. Гэтыя правілы павінны былі ахаваць літаратуру ад „натуры“, слова, якое ў нашым сэнсе ўжываў ужо Грыбаедаў у 1816 г. Ён пісаў:

„Бог з імі, з лятуценнікамі. Цяпер у якую кніжку ні заглянеш, што ні прачытаеш, песню ці пасланне, усюды лятуценні, а *натуры* ні на волас“.

Пушкін стаяў за густ. Ён пісаў: „Сапраўдны густ не ў беспрычынным адмаўленні такога-та слова, а ў суразмернасці і суадпаведнасці.“ Народная мова і песні, якія ён збіраў і наглядаў і апісваў, былі яму патрэбны і цікавы зусім не як нізкі элемент, які павінен быў уносіць разнастайнасць у высокія словы, а патрэбны былі іменна па сваей суразмернасці і суадпаведнасці. Ён цаніў самую будову народнай мовы і лічыў яе за ўзор для мовы паэтычнай, літаратурнай.

Як адбыўся пераход да прозы?

Лета к суровой прозе клонят,
Лета шалунью рифму гонят.

Пад гэтай страфой чытаем дату: дзесятага жнівеня 1827 г.

Сярод урыўкаў першай главы „Арапа Пятра Вялікага“ чытаем дату: трыццаць першае ліпеня 1827 г.

У мастацкай прозе ў Пушкіна не было ліцэйскага падрыхтоўчага перыяда. У яго быў вялікі паэтычны вопыт, а ў прозе—

вопыт літаратурна-крытычных і гістарычных нататкаў, а галоўнае—аўтабіяграфічныя запісы.

Першую аповесць ад першай паэмы аддзяляюць сем гадоў. Ён зусім падрыхтаваны да суровай прозы, суровай па выразнасці і шырыні пытанняў. Яму 28 гадоў.

„Арап Пятра Вялікага"—гістарычны раман, напісаны за два гады да выдатнага рамана „Юры Міласлаўскі". У ім, як ва ўсёй наступнай прозе, дзве рысы.

Раман цікавы Пушкіну аўтабіяграфічна, мае адносіны непасрэдна да пытанняў, асабіста хвалюючых яго ў гэты час. І разам з тым гэты асабісты момант перарастае ў яго ў шырокае гістарычнае пытанне. Выбар героя-продка быў зроблены Пушкіным у „Барысе Гадунове". Там на баку самазванца ёсць Грыгорый Пушкін. Тут-жа цэнтральны герой аповесці—яго продак Ганібал.

У нікалаеўскія часы зацікаўленасць Пушкіна да продкаў і радаслоўнай выклікалася барацьбой і пратэстам супроць кіруючай улады, дзяржаўнай алігархіі. Разам з тым па глыбіні і размаху думак і мастацкаму замыслу Пушкіна ў сувязі з работай над радаслоўнай гэта вядзе яго да шырокага мастацкага пастраення, да агульных пытанняў рускай гісторыі. Гэтыя шырокія інтарэсы пераважваюць, адсоўваюць на задні план сэнс дваранскай радаслоўнай. Аннібал не падыходзіў ні пад разрад старой знаці, ні пад разрад новай. Пафас гэтай рэчы—новы чалавек, саратнік Пятра ў справе пераўтварэння, які мае новую высокую культуру.

Далейшым працягам нясконча́нага рамана павінна была быць сутычка арапа са старой патрыярхальнай знаццю. Так вырашалася пытанне вялікай асабістай важнасці для Пушкіна—пра месца Аннібала ў яго радаслоўнай.

Разам з гэтым раман высвятляе да канца складаныя пазіцыі Пушкіна ў барацьбе з новай знаццю. У гэтай барацьбе Пушкін апіраўся на тое, што ён „родов униженных обломок". Ён казаў пра сваё 600-гадовае дваранства. А ў рамане „Арап Пятра Вялікага" Пушкін цалкам на баку новага чалавека, які цураецца старой патрыярхальнай знаці. Пушкін змагаецца не са старой, патрыярхальнай, аджываючай арыстакратыяй, а супроць новай кіруючай алігархіі.

Такі ўвесь яго спіс новай знаці ў яго „Радаслоўнай".

Не торговал мой дед блинами,
В князья не прыгал из хохлов...

Тут не столькі пятроўскі Меньшыкаў, колькі фаварыт, „Беспощадный и пустой", у другім радку не столькі екацерынінскі Безбародко, колькі яго пляменнік, нікчэмны Качубей, у трэцім радку не елізавецінскі Разумоўскі, а нікалаеўскі.

Раман быў пачаты ў Міхайлаўскім. Месцы з іх гістарычнай памяццю жыва ўспрымаліся Пушкіным і былі штуршком для яго творчасці. Яго творчасць звязана са ўсёй картай Расіі, якую ён вывучаў не толькі з навукі і літаратуры, але і ў час яго падарожжаў.

Ён індывідуалізуе пейзаж таксама як і герояў, і таксама як радаслоўная герояў, яго цікавіць мінулае, радаслоўныя мясцін яго радзімы.

Асабістая, аўтабіяграфічная, хатняя цікавасць да гісторыі— характэрная рыса Пушкіна-раманіста. Тыя-ж асабістыя аўтабіяграфічныя рысы відны ў „Дуброўскім", сюжэтам якога з'яўляецца бунт сялян супроць памешчыцкай знаці.

Больш за ўсё аўтабіяграфічнасць сказваецца ў партрэце Дуброўскага. Да гэтага часу дэталь гэта нікім не адцэнена.

У гутарцы Траекурава з Аннай Савішнай яна апісвае прыметы Дуброўскага:

„Уваходзіць да мяне чалавек год пад 35, смуглявы, чорнавалосы, з вусамі, з барадой,—сапраўдны партрэт Кульнева".

Трэба ўпамянуць, што вядомы партрэт Кульнева з бакенбардамі—бакі называліся тады таксама барадой,—мае рысы несумненнага падабенства з некаторымі партрэтамі Пушкіна.

Але Кірыла Пятровіч не згодзен з гэтымі прыметамі Дуброўскага, Кірыла Пятровіч гаворыць Анне Савішне:

„— Я памятаю яго з дзіцячых год. Не ведаю, ці пачарнелі ў яго валасы, а тады ён быў кудравы, бялявенькі хлопчык".

Наступнае апісанне прымет іспраўнікам — гэта пародыя на тыповыя паліцэйскія прыметы, і ўся сцэна дужа напамінае апісанне са сцэны ў карчме ў „Барысе Гадунове".

Але, вядома, „кудравенькі, бялявы хлопчык", які ператвараецц у смуглявага, зарослага барадой Кульнева, гэта рээка індывідуальны аўтабіяграфічны партрэт.

Далей,—у главе першай, дзе гаворыцца пра тое, што стар Дуброўскі і Траекураў былі таварышамі па службе, замест слоў „акалічнасці разлучылі іх надоўга", у рукапісе было закрэслена: „славуты 1762-й год разлучыў іх надоўга. Траекураў сваяк княгіні Дашковай, пашоў угару, Дуброўскі з пахіснутым маемасным становішчам вымушан быў выйсці ў адстаўку і пасяліцца на вёсцы".

Што такое 1762 год? У гэты год скінулі Пятра III і вацарылася Екацярына II, гэта год падзення Пушкіных і ўзвышэння новай знаці. „Попали в честь тогда Орловы, дед мой—в крепость, в карантин, и присмирел наш род суровый, а я родился—мещанин".

Траекураў не належыць да кіруючай алігархіі, але ён—прадстаўнік багатай і буйнай новай памешчыцкай знаці.

У Дуброўскім, які бунтуе супроць знаці, Пушкін бачыў сябе.

Вывучэнне народу, цікавасць да яго ў Пушкіна пачынаецца вельмі рана. Адзін з нямногіх, ён выразна разумеў галоўную асноўную сілу, якая перамагла Напалеона ў 1812 г. „Хто нам дапамог? Асцервянелы народ, Барклай, зіма!"

Першай сілай быў не палкаводзец, не кліматычныя ўмовы кампаніі 1812 г., а гнеў, асцервяненне народу.

Тут вельмі рана мог выявіцца ўплыў першага ліцэйскага дырэктара Маліноўскага, які да гэтага часу не вывучылі і на які нават не зазначалі; дырэктара, які шмат гаварыў у сваіх запісках пра дараванні народныя. Здзіўляючая рыса дарэвалюцыйнай

гісторыяграфіі Пушкіна, дырэктар Маліноўскі, які дырэктарстваваў першыя два з паловай гады і зрабіў вялікае ўражанне і ўплыў на ўвесь ліцэй, на ўсіх таварышоў Пушкіна і на яго самога,—як скрозь зямлю праваліўся. Вестак пра яго няма, не гледзячы на тое, што яго запіскі апублікаваны, не гледзячы на тое, што гэты чалавек, шмат у чым выдатны, рысуецца як народалюбец, як чалавек, які патрабуе склікання расійскіх генеральных штатаў.

Яго месца заступіў у афіцыяльнай пушкінскай гісторыяграфіі Энгельгард, які дырэктарстваваў апошнія паўтары гады прабывання Пушкіна ў ліцэі, калі Пушкін ужо зусім не падпарадкоўваўся ўплывам дырэктара і быў ворагам Энгельгарда, ворагам актыўным, які перацягнуў на свой бок і Кюхельбекера, і іншых таварышоў. А Энгельгард быў стаўленнікам Аракчэева.

Характэрна, што бунт супроць прыказных падымае ў „Дуброўскім“ першым іменна Архіп—каваль, а Дуброўскі толькі да яго далучаецца.

У „Капітанскай дачцы“—апошняй, выдатнай і самай поўнай рэчы Пушкіна—ён ад карцін частковага, неарганізаванага і малога па памерах руху пераходзіць да тэмы гісторыі сялянскага паўстання Пугачова. Па вывучэнню матэрыялу, па натуральнасці развіцця сюжэта, перадачы розных тыпаў мовы, народнай мовы, па абрысоўцы характару дзеючых асоб, у асаблівасці другарадных, гэты гістарычны раман, або як Пушкін яго называе—аповесць, далёка пакідае за сабой не толькі яго папярэднікаў і сучаснікаў, але і шмат якія прызнаныя ўзоры тагочаснага заходнееўрапейскага гістарычнага рамана.

Змест пазбаўлен усякіх экзатычных прыкрас, нешматслоўная народная мова дасягае высокай выразлівасці. Ва умоўнай гутарцы Пугачова з гаспадаром пастаялага двара відаць глыбокае разуменне Пушкіным народнай паэзіі.

Сюжэт і стыль рамана рэзка адрозніваюцца ад сучаснай Пушкіну дваранскай літаратуры—хадульнага тону ў адносінах да ўсёй сялянскай рэвалюцыі і яе правадыра Пугачова. Смелы нават сам выбар героя, хоць і не здраджваючага свайму класу, але стаячага ў сяброўскіх адносінах з паўстаўшымі. Смела напісан і Швабрын. Смелая і новая шырокая абрысоўка характару Пугачова, у якой месцамі відаць аўтарскае мастацкае любаванне ім. Трэба ўспомніць пры гэтым афіцыйную характарыстыку Пугачова ў тагочаснай літаратуры.

Адна рыса спыняе кожнага ў прозе Пушкіна: ён не церпіць непатрэбных падрабязнасцей і таму заўсёды абмяжоўваецца выбарам некалькіх рыс, некалькіх слоў, характарызуючых героя. Напрыклад, любімая прыказка Архіпа-каваля: „як не так?“

Тут вучань яго—Леў Талстой.

Разам з тым Пушкін не церпіць такой апрацоўкі прозы, пры якой яна траціць сляды непасрэднасці. У яго не заўсёды ясна грань у рабоце між планам і праграмай, праграмай і самім творам. Такава, напрыклад, сцэнарная сцісласць, дакладнасць цудоўнай аповесці „Кірджалі“, напісанай паводле праграмы, якая была праграмай паэмы. Але гэта не толькі сцісласць і дакладнасць.

Асаблівасць пушкінскага апавядання ў тым, што перад намі не маналог, які вядзе аўтар, а як-бы палова дыялага, у якім прысутнічае маўклівы субяседнік-чытач. Аповесць канчаецца фразай—„каков Кирджали?“ Гэта просты зварот да субяседніка-чытача, які надае непасрэднасць прозе.

У „Аповесцях Белкіна“ адсутнасць заграмоджанасці дэталямі і падрабязнасцямі не толькі робіць ясным ход дзеі, развіццё падзей, але захоўвае ў сябе ўсе рысы непасрэднасці праграмы, запісаў, назіранняў, робіць само апавяданне не толькі праўдападобным, але і канкрэтна судакранаючымся з яе сапраўднасцю.

Творы Пушкіна адкрыты для чытацкай творчасці. Ён адмоўна ставіцца да заходніх гістарычных раманаў, заграмаджаючых непатрэбнымі дробязямі дзею. „Колькі несуадпаведных, непатрэбных дробязей, важных упушчэнняў. Колькі розных тонкасцей і звыш таго—як мала жыцця“.

Ён супярэчыць супроць аднастайнасці характараў, супроць абыгрывання адной якой-небудзь рысы. Свабодна адкрытыя для сюжэтных змен характары, якія натуральна развіваюцца, былі для Пушкіна адным з галоўных прынцыпаў аповесці і гістарычнага рамана. „Аповесці Белкіна“, напісаныя менш як за паўтара месяца (ад 9-IX да 20-X 1830 г.), сталі школай рускай прозы.

Калі ў „Стрэле“ і ў „Мяцеліцы“ знайшла сваё вышэйшае кароткае выражэнне рамантычная проза—„Стрэл“-жа ужо прадказаў „Пікавую даму“, дык у „Гробовщику“ і ў „Станцыённым смятрыцелю“ вызначан коратка шлях, якім пайшоў рускі рэалізм.

На „Стрэле“ вучыўся Лермантаў. На „Гробовщику“ Гогаль, і навелістычнаму майстэрству—Тургенеў.

Зусім асаблівае значэнне мае для нас аповесць „Кірджалі“, якую вы сталі-б зусім дарэмна шукаць сярод мастацкіх твораў Пушкіна ва усіх дарэволюцыйных выданнях, не гледзячы на тое, што ў першадрукаваным тэксце твор мае пушкінскі падзагаловак „Аповесці“.

Замысел твору—між паэмай у вершах і прозай. Першапачатковая дума належыць да 1823 года, да года грэчаскага паўстання, а закончана апавяданне ў 1834 г. Пушкін настойліва варочаецца да гэтай тэмы. Аповесць пра грэчаскае паўстанне павінна была быць першай мастацкай прозай у Пушкіна. Ён пісаў пра яе у 1824 годзе.

„З прозай—бяда! Хачу паспрабаваць гэты першы вопыт і неаднаразова за яго бяруся“.

Нязменным аставаўся галоўны герой—напоўлегендарны разбойнік, чалавек з народу, які змагаецца ў шэрагах грэчаскіх паўстанцаў. Тое, што Пушкін з намерам выбраў такога героя, падкрэслена ў Пушкіна крытыкай вярхушкі грэчаскага паўстання, а галоўнае, шырокім развіццём народных характараў з любімымі Пушкіным рысамі—і важнейшай з іх—вялікай адвагай,—якія сцісла паказаны у індывідуальных рысах дзеючых асоб.

Не гледзячы на дакументальную сцісласць, дзякуючы ўсім гэтым рысам гэты нарыс робіцца поўнапраўнай аповесцю Пушкіна, хай без любоўнай інтрыгі, без паступовага развіцця падзей, без награмаджэння падрабязнасцей. Гэта дакументальна дакладная апо-

весць пра сучасныя аўтару палітычныя падзеі і пра сапраўдную жывую гістарычную асобу.

Палітычная і соцыяльная сатыра Пушкіна—„Гісторыя сяла Гарухіна“—стаіць побач з яго сатырычнымі творамі і памфлетамі.

У „Гісторыі сяла Гарухіна“ даецца вострая палітычная сатыра, якая асмейвае памешчыцкую ўладу. Пра сцісласць і сілу сатыры можна меркаваць хаця-б паводле загалоўкаў, у якіх заключаецца спіс крыніц і падаецца змест летапісу прадзеда. Яны адрозніваюцца яснасцю і сцісласцю мовы. Напрыклад:

„4 мая. Снег. Трышка за грубасць біты“.

„7 мая. Карова бурая пала. Сенька за п‘янства біты“.

„8-га. Надвор‘е яснае“.

„9-га. Дождж і снег. Трышка біты па надвор‘ю“. (Смех).

Трэба параўнаць і ўспомніць таксама месца пра земскага, які ўмеў пісаць не толькі правай, але і левай рукой. Неаднаразова пацярпеўшы за сваё мастацтва, паслужлівасць і удзел у розных выдатных падзеях, ён памёр ужо ў глыбокай старасці, у той самы час, як вучыўся пісаць правай нагой, бо почарк абодвух рук яго быў ужо вядомы.

Тут у „Гісторыі сяла Гарухіна“ прадказана ўжо „Гісторыя горада Глупава“ Салтыкова. Тут лепш за усё відаць як шмат чаму навучыўся Салтыкоў у Пушкіна.

Мастацтва Пушкіна не толькі ўплывоўвае, яно і заражае. „Кніга Пушкіна ляжала на стале, адкрытая на той старонцы, дзе пачынаецца апавяданне „Урывак“. У гэты час увайшоў у пакой Леў Нікалаевіч. Убачыўшы кнігу, ён узяў яе і прачытаў пачатак „Урыўка“. „Госці з‘яджаліся на дачу“. „Вось як трэба пачынаць“,—сказаў уголас Леў Нікалаевіч,—„Пушкін—наш настаўнік; гэта адразу ўводзіць чытача ў цікавасць да самога дзеяння. Другі стаў-бы апісваць гасцей, пакой, а Пушкін проста прыступіў да справы“.

Нехта з прысутных жартуючы прапанаваў Льву Нікалаевічу скарыстаць гэты пачатак і напісаць раман. Леў Нікалаевіч пайшоў у свой пакой і тут-жа накідаў пачатак рамана „Анна Карэніна“, які ў першым варыянце пачынаўся так: „Усё змяшалася ў доме Аблонскіх“.

Пасля ўжо Леў Нікалаевіч прыставіў сапраўдны пачатак рамана—сказ, які выражае падмечаны ім псіхалагічны закон: „Усе шчаслівыя сем‘і падобны адна на адну, кожная нешчаслівая па свойму“.

Гэта адбылося ў сакавіку 1873 г.

Так піша Бірукоў. Аказваецца „Анна Карэніна“ пачыналася такім сказам: „Госці пасля оперы з‘язджаліся да маладой княгіні“. Цяпер гэта адпавядае шостай главе другой часткі „Анны Карэнінай“. Леў Нікалаевіч пачаў „Анну Карэніну“ не нейкім асобным перайманнем, а проста сказам Пушкіна, і гэта не было шчаслівай выпадковасцю падобна да яблыка Ньютона.

Сказ Талстога: „Пушкін—наш настаўнік“—зусім канкрэтны, Талстой сапраўды вучыўся ў Пушкіна. Напрыклад, батальныя сцэны „Вайны і міра“, напісаныя з штацкага па метаду апісання

пункту гледжання зусім супадаюць з батальнымі сцэнамі „Падарожжа ў Арзрум“, дзе ўсе заўвагі аўтара-падарожніка сугуба штацкія.

Просты прыступ да справы, пра які гаворыць Талстой,—адна з істотных і свядомых з‘яў пушкінскай прозы. Сам сказ, з якога пачынаецца пушкінскі „Урывак“ быў для сучаснай Пушкіну прозы зусім нечуванай з‘явай. Талстой працуючы над „Аннай Карэнінай“ працягваў вучыцца ў Пушкіна.

Непасрэдны прыступ да справы, адсутнасць зацямняючых ход дзеяння падрабязнасцей і апісанняў, правільнасць размеркавання рэчаў пры сцісканні, згушчэнні таго, што адбываецца і актыўна штурхаючая да творчасці да работы проза пісьменніка—такія па Талстому асаблівасці прозы Пушкіна.

Пушкін любіў пачынаць рэчы іншых. Так ён пачаў „Канёк Гарбунок“ Ершова. Як настаўнік, ён пачаў „Анну Карэніну“, „Гісторыю горада Глупава“.

Творчасць Пушкіна заражае. Амаль усе рэчы кампазітараў нашых напісаны на яго паэмы. Руская літаратура і культура, якія далі найвялікшых празаікаў свету, без Пушкіна нямысліма. Гэта магло здарыцца толькі таму, што ён быў адкрыты для усіх уражанняў роднай краіны, што ён прагна жадаў знаёмства і блізкасці з народам—яго моваю, песнямі, гісторыяй, блізкасці з усімі народамі і мовамі яго радзімы. У яго паэтычным запавеце „Помнік“ ён упамінае пра тунгуса. У 1836 г. напісан „Помнік“, а пра тунгусаў ён даведаўся падрабязна толькі за некалькі месяцаў да гэтага з пісьма свайго ссыльнага сябра Кюхельбекера за студзень 1836 г.

Такое было у яго ўспрыйманне уражанняў. Ён быў адкрыты для пытання пра будучыню свайго народу, пра будучыню ўсяго свету. Ён не задавальняўся лёгкімі павярхоўнымі вырашэннямі пытанняў. Яго жорсткая крытыка соцыяльнай двудушнасці, ганарыстай ложнай дэмакратыі не страціла сваёй горычы і зараз, дапасавальна да капіталістычнага свету. Вось што ён піша:

„... Рабства неграў сярод адукаванасці і свабоды; радаслоўныя ганенні ў народзе, не маючым дваранства... Багач, які апранае абшарпаны кафтан, каб на вуліцы не зняважыць ганарыстага жабрацтва, якім ён употай пагарджае“...

Перад совецкай прозай стаяць вялікія задачы. Змяніўся твар нашай краіны, выраслі людзі. Сусветнае значэнне нашага Совецкага Саюза, які стаіць наперадзе ўсяго жывога чалавецтва, нікім не можа аспрэчвацца.

Сусветныя задачы стаяць перад намі. Блізкія сусветныя бойкі. У гэтай барацьбе Пушкін, пачынальнік і настаўнік геніяльнай літаратуры, літаратуры Гогаля, Лермантава, Тургенева, Талстога, Салтыкова, Чэхава, Горкага, Маякоўскага—тут з сваім народам, з намі.

У справе літаратуры патрэбен зараз настаўнік і настаўнікам гэтым зноў робіцца ў нашыя дні Пушкін.

Пушкін адкідвае мастацтва пасіўнае, заграмоджанае падрабязнасцямі, нерухомае, закрытае для сваёй краіны і будучага, прыклад якога мы маем у Марселя Пруста, адкідвае мастацтва расфарбоўвання, абыйгрывання дэталяў.

Ён вучыць мастацтву адкрытаму для ўсіх новых уражанняў, для ўсіх назіранняў, вучыць назіранням, якія ператвараюцца ў мастацкі твор. Ён вучыць таму, як шырокая палітычная тэма робіцца ў мастацтве асабістай, а асабістая тэма—шырокай палітычнай. Пушкін—гэты стары настаўнік Талстога і Салтыкова—вельмі малады.

# *Вялікі паэт рускага народу*

Я. БРАНШТЭЙН

I

Стэндаль—сучаснік Пушкіна, выдатны майстар французскай прозы, з горыччу казаў: „Мой чытач прыдзе праз сто год".

Лепшыя майстры мастацкага слова ўсё сваё жыццё страсна цягнуліся да гэтага далёкага запаветнага свайго чытача—сапраўднага чытача, чытача з народу. Ні адно з існаваўшых да нашага часу эксплаататарскіх грамадстваў не магло рэалізаваць гэтую мару майстра. Народ, прыдушаны эксплаатацыяй, пазбаўлены элементарных чалавечых правоў, быў адгароджаны нібы кітайскай сцяной ад майстра, якога ён, народ-жа, жывіў сокамі сваёй творчасці.

Як сапраўдны майстар чалавечай культуры і Пушкін усё сваё жыццё цягнуўся да гэтага запаветнага, чаканага свайго чытача, сапраўднага чытача, чытача з народу. І Пушкін з горыччу казаў у адным з сваіх артыкулаў: „У нас літаратура не ёсць патрэба народная, пісьменнік атрымлівае вядомасць пабочнымі акалічнасцямі".

У глухія гады царска-прыгонніцкай рэакцыі Пушкін марыў:

Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык,
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
Тунгуз, и друг степей калмык.

Вось чаму такія цудоўныя, такія незабыўныя сустрэчы вольнага соцыялістычнага народу з Пушкіным.

Пра такую сустрэчу совецкага чытача з Пушкіным расказаў нядаўна на старонках „Правды" былы чырвонасібірскі партызан Пятроў. Ён расказаў цікавае апавяданне пра тое, як сібірскія партызаны ў 1918 г., у разгары баёў з белагвардзейцамі, чыталі Пушкіна.

У глухой сібірскай тайзе сабраліся партызаны, мужныя, суровыя сыны нашага совецкага народу. Яшчэ не астылі ад баявога агню ствалы іхных вінтовак, яшчэ не сышоў з суровых, мужных твараў парахавы дым, але прадстаяла некалькі гадзін адпачынку, і партызаны разгуляліся. Ударыў гармонік. Партызаны пусціліся ў скокі. Пасля з круга вышаў партызан Рагозін, выцягнуў з кішэні невялікі пашарпаны томік вершаў Пушкіна і пачаў чытаць. Ён чытаў

„Палтаву“, ён чытаў раздзелы „Еўгенія Онегіна“, „Пасланне ў Сібір“ і інш. вершы.

Гэта была сапраўды надзвычайная чытка!

Суровыя байцы—піша Пятроў—сядзелі расчуленыя, з усмешкамі на тварах, уздыхалі, глядзелі на чытчыка з раскрытымі ратамі.

Чаго шукалі гэтыя суровыя, мужныя людзі совецкай краіны ў далёкіх, здавалася-б, вершах далёкага і чужога, здавалася-бы, па свайму соцыяльнаму становішчу, па свайму выхаванню—Пушкіна? Што іх захапляла ў вершах Пушкіна?

Для таго, каб адказаць на гэтае пытанне трэба вырашыць асноўную праблему творчасці Пушкіна—праблему яго народнасці.

Владзімір Ільіч Ленін пісаў у артыкуле пра Талстога: „І калі перад намі сапраўды вялікі мастак, то некаторыя хаця-бы з істотных бакоў рэволюцыі ён павінен быў адлюстраваць у сваіх творах“.

Так, сапраўды вялікі майстар чалавечай культуры павінен адлюстраваць у сваіх творах некаторыя хаця-бы з істотных бакоў рэволюцыі. Але адлюстраваць гэта ў творах мастацтва—значыць у першую чаргу адлюстраваць адзіную творчую сілу гісторыі—адлюстраваць народ, яго думы і спадзяванні.

Як сапраўды вялікі мастак, Пушкін усё сваё жыццё цягнуўся да народу. Ён уважліва з пакутлівай цікавасцю прыглядаўся да далёкага яму жыцця простага народу, людзей працы. Гэта быў складаны, поўны супярэчнасцей, часам пакутлівы шлях—шлях да народу. Тут менш за ўсё дапушчальны прасталінейныя схемы.

5-га ліпеня 1836 г. ужо на парозе сваёй трагічнай гібелі Пушкін піша верш „З Піндэмонтэ“:

Зависеть от властей, зависеть от народа—
Не все ли нам равно? Бог с ними. Никому
Отчета не давать, себе лишь самому
Служить и угождать, для власти, для ливреи
Не гнуть ни совести, ни помыслов, ни шеи,
По прихоти своей скитаться здесь и там,
Дивясь божественным природы красотам
И пред созданьями искусств и вдохновенья
Трепеща радостно в восторгах умиленья.
Вот счастье! Вот права...

Здавалася-бы, перад намі радкі рэзка-індывідуалістычны шуканняў паэта. Але таго-ж 5-га ліпеня 1836 г. з-пад пяра Пушкіна выходзіць верш „Мірская ўлада“, у якім Пушкін, нападаючы на саюз самадзяржаўя з царквою, накіраваны супроць народу, піша сапраўды народныя некрасаўскія радкі:

Но у подножия теперь креста честного,
Как будто у крыльца правителя градского,
Мы зрим—поставлено на место жен святых
С ружьем и в кивере два грозных часовых.
К чему, скажите мне, хранительная стража?
Или распятие—казенная поклажа
И вы боитеся воров, или мышей?..
. . . . . . . . . . . . . . . .
Иль опасаетесь, чтоб чернь не оскорбила
Того, чья казнь весь род Адамов искупила
И, чтоб не потеснить гуляющих господ
Пускать не велено сюда простой народ?

Дзе-ж тут выпадковае і часовае ў жыцці і творчасці Пушкіна і дзе яго асноўная творчая магістраль?

На гэта пытанне даў геніяльны, па сваёй глыбіні, адказ другі тытан рускага народу і перадавой культуры чалавецтва А. М. Горкі.

У артыкуле, напісаным яшчэ ў 1907 г., але апублікаваным толькі нядаўна ў нашым друку, Горкі пісаў: „Мы павінны умець вылучыць у яго тое, што ў ім выпадковае, тое, што тлумачыцца ўмовамі часу і асабістымі, атрыманымі ў спадчыну якасцямі... Але іменна тады, калі мы адкінем усё гэта ў бок,—іменна тады перад намі паўстане вялікі рускі народны паэт. Гэты вялікі рускі народны паэт,—прадаўжае далей Горкі—бессумненна дваранін“. Бессумненна, што Пушкін—дваранін, ён сам аднаго часу ганарыўся гэтым,—але нам важна ведаць, што ўжо ў юнацтве сваім ён адчуваў цеснату і духату дваранскіх традыцый, зразумеў інтэлектуальнае жабрацтва свайго класа, яго культурную слабасць і адлюстраваў усё гэта—усё жыццё дваранства, усе яго парокі і слабасці—з надзвычайнай праўдзівасцю“.

Так ужо ў юнацкія гады гэты малады кучаравы „чарцёнак“, як празвалі яго ў коле таварышоў, малады Пушкін ірваўся з духоўнага жабрацтва, цесняты і змроку царска-прыгонніцкай Расіі. Хіба раннія вакхічныя песні і мары пра свабоду юнага Пушкіна не з'яўляліся выражэннем барацьбы паэта з цеснатой і духатой дваранскіх традыцый? Пятнаццацігадовым юнаком Пушкін пісаў у сваім вершы „Гарадок“:

Я нанял светлый дом
С диваном, с камельком;
Три комнатки простые—
В них злата, бронзы нет,
А ткани выписные
Не кроют их паркет.
Окошки в сад веселый,
Где липы престарелы
С черемухой цветут.

У гэтых ранніх, здавалася-б, наіўных спробах маладога паэта ўцячы ад духаты і цесняты дваранскіх традыцый, далей ад „злата, бронзы и тканей выписных“—мы ўжо прадчуваем будучае смелае і прыгожае ў сваім трагізме адзінаборства паэта з бяздушнымі саноўнымі халопамі, з усёй мішурой „жестокосердной суеты“.

Пушкін ужо ў гэтыя раннія гады шукае выйсця ў сапраўднае і незалежнае жыццё. У вершы „Таварышам“, напісаным у 1817 г., Пушкін сярод сваіх сяброў, якія скончылі ліцэй, адзін не марыць пра службу, пра чыны:

Равны мне писаря, уланы
Равны законы, кивера
Не рвусь я грудью в капитаны,
И не ползу в асессора.

Друзья, немного снисхожденья,—
Оставьте красный мне колпак,
Пока его за прегрешенья
Не променял я на шишак.

Пушкін, здавалася-б, спрабуе замкнуцца ў невялікім гуртку мудрых, свабодалюбівых і жыццерадасных юнакоў, нібы ўваскрашаючы цудоўнейшы залаты век Элады. Але Пушкін быў чалавекам выключнага, геніяльнага *рэалістычнага чуцця*. Ён ужо юнаком адчуваў ілюзорнасць гэтай штучнай абстаноўкі весялосці, радасці, мудрасці і сапраўднага чалавечага шчасця ў акіяне царскага прыгонніцтва і духоўнага рабства. Пушкін мог бы гэтым вакхічным ілюзіям даць тую-ж цвярозую ацэнку, якую ён даў вершам свайго друга Дэльвіга: „Ідыліі Дэльвіга здзіўляючыя. Якую трэба мець сілу выбражэння, каб з Расіі так перасяліцца ў Грэцыю, з XIX ст. у залаты век“.

Так, трэба было мець велізарную сілу выабражэння і вялікую мужнасць, каб у эпоху царскай прыгонніцкай рэакцыі гаварыць пра розум, пра светлае радаснае жыццё, пра сапраўднае вакхічнае юнацтва.

Гэта было цяжка...

Юнак Пушкін ледзь стрымліваў той велізарны боль, які накапляўся ў ім, калі ён бачыў пануючае вакол жабрацтва, прыгоннае рабства, самавольства цара. Пра гэта добра напісаў Луначарскі: „Боль, які Пушкін стрымліваў, тым не менш крывавымі жылкамі прайшоў па таму бакалу залатой і шыпучай паэзіі, які ён працягнуў вякам“.

Юнацкія вершы Пушкіна—гэта сапраўды бакал шыпучай маладой паэзіі, па якому аднак прайшоў крывавымі жылкамі цяжкі чалавечы боль. Пушкін не забываў ні на хвіліну, што ўся Расія па сутнасці з'яўляецца вязнем самадзяржаўя. Пра гэта Пушкін напісаў у сваім вершы „Вязень“.

Сижу за решеткой в темнице сырой,
Вскормленный в неволе орел молодой.
Мой грустный товарищ, махая крылом,
Кровавую пищу клюет под окном.

Клюет и бросает, и смотрит в окно,
Как будто со мною задумал одно;
Зовет меня взглядом и криком своим
И вымолвить хочет: „давай, улетим!

Мы вольные птицы; пора, брат, пора!
Туда, где за тучей белеет гора,
Туда, где синеют морские края,
Туда, где гуляет лишь ветер... да я!..“

Радкі гэтага верша напісаў 23-х гадовы юнак.

Вось чаму з такім хваляваннем чытаеш вакхічныя гімны маладога Пушкіна, які наўпярок усяму ўслаўляў маладосць, радасць і розум.

Подымем стаканы, содвинем их разом!
Да здравствуют музы, да здравствует разум!
Ты солнце святое, гори!
Как эта лампада бледнеет
Пред ясным восходом зари,
Так ложная мудрость мерцает и тлеет
Пред солнцем бессмертным ума.
Да здравствует солнце, да скроется тьма!

(„Вакхічная песня“).

II

„Ён шмат пакутаваў,—піша Луначарскі,—таму, што яго цудоўны, пламенны, водарны геній расцвіў у суровай, амаль зімняй, амаль начной яшчэ Расіі, але затое меў „фору“ перад усімі іншымі рускімі пісьменнікамі, ён першы прышоў і па праву першага захопу авалодаў самымі вялікімі скарбамі“.

Пушкін першы прышоў і па праву першага захопу сказаў першае слова ў рускай літаратуры, стаў родапачынальнікам сучаснай рускай літаратуры, стаў родапачынальнікам сучаснай літаратурнай рускай мовы.

Белінскі піша, што з'яўленне першай вялікай паэтычнай рэчы Пушкіна, паэмы „Руслан і Людміла“ — зрабіла вялікае ўражанне. Вакол „Руслана і Людмілы“ пайшла жорсткая літаратурная, а значыць і палітычная барацьба. Гэтую барацьбу нельга тлумачыць толькі тым, што паэма „Руслан і Людміла“ была накіравана супроць напышлівага рамантызма Жукоўскага і адначасова супроць хадульных канонаў ложнага класіцызма. Тыя, хто выступаў супроць „Руслана і Людмілы“, добра ведалі чаму яны апалчыліся супроць геніяльнага сына вялікага рускага народу. Досыць успомніць рэцэнзію пра „Руслана і Людмілу“, якая была надрукавана ў „Вестнике Европы“. Рэцэнзент пісаў: „Каб у маскоўскае благароднае сабранне як-небудзь уцерся (мяркую немагчымае магчымым) госць з барадою, у армяку, у лапцях і закрычаў-бы зычным голасам: здарова, рэбяты,—няўжо-б сталі такім свавольнікам любавацца?“

З'яўленне Пушкіна ў літаратуры прагучала выклікам усёй рэакцыйнай, тупой арыстакратычнай літаратурнай чэрні. Пушкін загаварыў зычнаю моваю народу. Ён сапраўды ўвайшоў у літаратуру, як чалавек з народу, ён загаварыў паэтычнаю моваю народу, народнымі вобразамі. Пушкін адразу выступае, як нацыянальны паэт. „Не вырашу,—піша ён,—якой славеснасці аддаць перавагу, але ёсць у нас свая мова; смялей! Звычаі, гісторыя, песні, казкі і інш.“

Ён выступае як рэфарматар літаратуры і мовы. Досыць пазнаёміцца з некаторымі пунктамі палемікі Пушкіна з яго папярэднікамі для таго, каб зразумець сутнасць гэтай палемікі. Пушкін пісаў пра сваіх літаратурных супраціўнікаў: „Гэтыя людзі ніколі не скажуць „дружба“, але дададуць „сіе свяшчэннае пачуццё, якога благародны пламень і інш.“. Пушкін смела загаварыў простаю, яркай, вобразнай мовай народу. Ён раіў маладым пісьменнікам: „Услухоўвайцеся ў простанародныя гаворкі, маладыя пісьменнікі, вы ў іх можаце навучыцца шмат чаму, чаго не знойдзеце ў нашых часопісах“. Пушкін у прадмове да „Еўгенія Онегіна“ піша, што гэта „собрание пестрых глав, полусмешных, полупечальных, *простонародных*, идеальных“. Пушкін піша рад артыкулаў, прысвечаных праблеме народнасці і ў гэтых артыкулах ён адначасова выступае і супроць тых, якія навадняюць рускую мову надуманымі, штучна-створанымі літаратурнымі зваротамі і супроць тых, якія „бачаць народнасць у словах“.

Пушкін ставіць проблему народнасці глыбей. Ён яе ставіць, як праблему „уласнай фізіяноміі“, якая уласціва кожнаму народу: „Клімат, лад праўлення, вера,—кажа Пушкін,—даюць кожнаму народу ўласную фізіяномію, якая больш або менш адлюстроўваецца ў люстры паэзіі“. Рэзка адмяжоўваючыся ад усякай напышлівасці мовы, ад штучнасці яе, змагаючыся за літаратурную мову, родную мове народу,—Пушкін адначасова далёкі ад вульгарызатарскага атоесамлення мастацкай мовы і звычайнай размоўнай мовы.

У сваёй барацьбе за народнасць у літаратуры Пушкін, як вялікі майстар, ніколі не ўпадаў у нацыяльную абмяжаванасць. Пра гэта сведчаць хоць-бы казкі Пушкіна. У гэтых казках, якія сапраўды „Руссю пахнуць“, Пушкін аднак даў найярчэйшыя ўзоры той сапраўднай роднасці, якая існуе паміж творчасцю розных народаў. Працуючы над казкамі, Пушкін убіраў у сябе багацце сусветнага фальклора. Пушкін імкнуўся ў нацыянальнай форме даць агульнаеўрапейскі змест.

У народнай творчасці, жывой мове народу, у яго звычаях, думах і спадзяваннях Пушкін шукаў тое, што ён называў народнасцю ў літаратуры. Пушкін першы ў рускай літаратуры ўбачыў у народнай творчасці пачатак усякага мастацтва. Таму ён так настойліва і ўмела збіраў народныя песні, народныя казкі, народныя пагаворкі. Таму ён з такім гонарам расказваў пра тое, што ён вучыўся рускай мове „у купчых, у просвірняў“, а абаяльнасць народнай творчасці ён адчуў у казках сваёй няні Арыны Радзіонаўны.

Таму ён запісаў у сваім дзённіку, што „Сцяпан Разін—адзіная паэтычная фігура ў Расіі“ і клапатліва збіраў разінскі песенны фальклор, апрацоўваў яго, друкаваў яго. Таму ён у часе сваёй ссылкі на поўдзень і ў сяле Міхайлаўскім любіў перапранацца ў сялянскую і мяшчанскую вопратку, хадзіць па рынках, каля цэркваў, прыслухоўвацца да мовы народу, да яго сказанняў, прыглядацца да народу, удумвацца ў яго жыццё.

Зварот Пушкіна да руху дзекабрыстаў, бессумненна, таксама з'яўляецца этапам у пошуках паэта шляхоў да народу.

У шэрагу артыкулаў Ленін падкрэсліваў, што дзекабрысты стаяць у пачатку таго вялікага гераічнага маршрута рускай рэвалюцыі, які пачынаецца з эпохі дзекабрыстаў, праходзіць праз Герцэна, а пасля—праз разначынцаў-рэвалюцыянераў і знаходзіць сваё гераічнае завяршэнне ў рускім рабочым руху ў бальшэвіцкай партыі. Ленін падкрэсліваў, што дзекабрысты былі далёкія ад народу, аднак: „Лепшыя людзі з дваран дапамаглі абудзіць народ“. Да гэтых лепшых людзей належаў таксама і Пушкін. Ён таксама быў па свайму паходжанню далёкі ад народу, ён таксама атрымаў палітычнае выхаванне ў вузкім коле рэвалюцыйнага дваранства. Гэта наклала адзнаку супярэчлівасці, палавінчатасці на шэраг яго палітычных поглядаў.

Аднак, ён, падобна да лепшых рэвалюцыйных дваран, усё жыццё сваё страсна цягнуўся да народу. Няхай часам цмяна і бессвядома,—ён у народзе адчуваў адзіную творчую сілу гісторыі.

У лепшых яго творах, там дзе вялікі талент рэаліста *узнімае яго над класавай абмяжаванасцю* яго дваранскага асяроддзя,—там ярка вырастае суровы вобраз народу. Гэта заметна ўжо ў яго трагедыі „Барыс Гадуноў“, якая напісана ў 1825 г.

Як, вядома, гэта трагедыя была тым творам, якім Пушкін нібы спрабаваў „прымірыцца“ з Нікалаем. Нікалай, як вядома, быў асабістым цэнзарам гэтай трагедыі. Аднак, невыпадкова трагедыя „Барыс Гадуноў“ доўгія гады праляжала ў архівах нікалаеўскай ахранкі. Граф Бенкендорф—начальнік III аддзялення не мог не заўважыць „крамольных ідэй“, якіх не мала ў гэтым творы. Сам Пушкін пісаў у пісьме да Вяземскага: „Жукоўскі кажа, што цар мне даруе за трагедыю. Наўрад, мой мілы. Хоць яна і ў харошым духу напісана, але ніяк не мог схаваць усіх маіх вушэй пад калпак юрадзівага—тырчаць“.

Пушкін ніяк не мог схаваць народнасці сваёй трагедыі „Барыс Гадуноў“. Вобраз народу патэнцыяльна з'яўляецца цэнтральным вобразам гэтай трагедыі. Праўда, народ яшчэ пакуль што маўчыць, пра яго гаворыць Барыс Гадуноў, Лжэдзімітрый, баяры. „Народ маўчыць“—так канчаецца трагедыя „Барыс Гадуноў“. Аднак, ужо Белінскі ў сваіх артыкулах пра Пушкіна добра зазначыў, што велізарная выбуховая сіла заключана ў вобразе народу, дадзеным ў трагедыі „Барыс Гадуноў“. „У гэтай маўклівасці народу,—пісаў Белінскі,—чуваць страшны трагічны голас новай Немезіды“. Народ загаворыць так, што будуць зруйнаваны ўстоі царскага прыгонніцкага ладу! Успомніце сцэну на Чырвонай плошчы (у пачатку трагедыі „Барыс Гадуноў“) Пушкін іраічна падае „энтузіязм“ народу з прычыны ўзыходжання на прастол Барыса Гадунова. Натуральна, што падобныя сцэны не маглі прывесці да прымірэння паміж паэтам і Нікалаем.

Нават аднаго гэтага факта досыць для таго, каб задумацца над сутнасцю так-званага „прымірэння“ Пушкіна з Нікалаем. Прымірэнне паэта з Нікалаем трэба успрыймаць вельмі ўмоўна. Пушкін не змяніў сваіх *асноўных* палітычных поглядаў, якія ён чэрпаў у асяроддзі дзекабрыстаў. Ужо ў часе першай „прымірэнчай“ сустрэчы з Нікалаем у 1826 г. Пушкін проста і смела заявіў цару, што каб ён быў 14 снежня ў Пецербурзе, ён выступіў-бы разам з дзекабрыстамі.

Дзекабрызм не быў для Пушкіна вонкавым паэтычным гэстам. Пачынаючы з маладых сваіх гадоў, яшчэ ў гады свайго ліцэйскага жыцця, Пушкін моцна зросся з ідэямі дзекабрызма і пасля трагічнага паражэння паўстання дзекабрыстаў Пушкін доўга не мог супакоіцца. Ён не забываў сваіх сяброў і саратнікаў, якіх цар Нікалай павесіў або саслаў у Сібір.

Сярод чарнавікоў Пушкіна перыяда яго працы над „Палтавай“—паэмы, якая здавалася-б, мела на мэце прымірэнне з самадзяржаўем, на палях гэтых чарнавікоў рука паэта бессвядома рысавала профілі загінуўшых сваіх сяброў дзекабрыстаў.

У 1827 г., здавалася-б, у разгар „прымірэння“ паэта з самадзяржаўем, Пушкін напісаў свой верш „У Сібір“—паэтычны зва-

рот да сваіх сяброў дзекабрыстаў, закінутых у сібірскую катаргу. У гэтым вершы Пушкін смела пісаў:

Оковы тяжкие падут,
Темницы рухнут и свобода
Вас примет радостно у входа
И братья меч вам отдадут.

У тым-жа 1827 г. Пушкін у вершы „Арыон“ пісаў пра тое, што і пасля паражэння ён спявае „ранейшыя гімны“.

Чытайце тыя главы з рамана Пушкіна „Еўгеній Онегін“, якія былі напісаны ў гэтыя гады ўяўнага „прымірэння“ паэта з самадзяржаўем—вы знойдзеце ў іх шмат выдатных лірычных адступленняў, якія паэт прысвячае свайм сябрам дзекабрыстам. Пушкін, як вядома, напісаў дзесятую главу „Еўгенія Онегіна“, прысвечаную руху дзекабрыстаў. Гэту главу ён пасля, у 1830 г. спаліў. Пушкін меў на ўвазе закончыць раман „Еўгеній Онегін“, як палітычны раман, прысвечаны дзекабрысцкаму руху. Пра гэта ён у 1829 г., будучы на Каўказе, расказваў свайму брату. З вялікай сілай Пушкін варочаецца да тэмы дзекабрыстаў у заключных строфах рамана „Еўгеній Онегін“:

Но те, которым в дружной встрече
Я строфы первые читал...
Иных уж нет, а те далече,
Как Сади некогда сказал.
Без них Онегин дорисован.
А та, с которой образован
Татьяны милой идеал...
О много, много рок от'ял!
Блажен, кто праздник жизни рано—
Оставил, не допив до дна
Бокала полного вина,
Кто не дочел ее романа
И вдруг умел расстаться с ним
Как я с Онегиным моим.

Не, „прымірэнне“ Пушкіна з Нікалаем не азначала здраду яго вольналюбным марам юнацтва. Пушкін толькі шукаў новых шляхоў, новых форм для прадоўжвання сваёй барацьбы, пасля трагічнага паражэння дзекабрыстаў. 15 лютага 1826 г. Пушкін пісаў Дэльвігу: „Не будзем ні людзьмі з забабонамі, ні аднабаковымі, як французскія трагікі, але зірнем на трагедыю поглядам Шэкспіра“. Што азначала для Пушкіна зірнуць на трагедыю дзекабрыстаў поглядам Шэкспіра? Гэта азначала для яго зірнуць на падзеі поглядам рэаліста, які прымае гістарычную няўхільнасць падзей.

Пушкінскае чуццё геніяльнага рэаліста падказвала яму яшчэ ў 1823 г., што рух дзекабрыстаў гістарычна асуджаны на трагічнае паражэнне. У вершы „Свободы сеятель пустынный“ Пушкін прадбачыў асуджанасць паўстання дзекабрыстаў.

Луначарскі меў рацыю, калі ён пісаў, што Пушкін у гэтым сваім успрыняцці трагедыі дзекабрыстаў узвышаецца амаль што не да гегелеўскага разумення неабходнасці. Пушкін больш, чым хто-небудзь з яго сяброў дзекабрыстаў вельмі рана зразумеў соцыяльную ізаляванасць руху дзекабрыстаў. Ленін пісаў пра рух дзекабрыстаў: „Страшна далёка яны ад народу“. Пушкін—паэт з вялі-

кім рэалістычным чуццём—не мог не бачыць гэтага разрыва паміж вузкім колам дзекабрыстаў і народам. Пушкін таксама адчуў, што вузкае кола дзекабрыстаў, што „страшна далёкі яны ад народу“, хаця яны сваім паўстаннем „дапамаглі абудзіць народ“, як кажа Ленін.

Для Пушкіна паўстала пытанне пра новыя легальныя магчымасці для далейшай барацьбы супроць прыгонніцкай рэакцыі. Ён пашоў па таму шляху, па якому пайшлі пасля паражэння дзекабрыстаў многія яго сябры з лагера перадавога дваранства. Пушкін, як вядома, быў інфармаваны пра нікалаеўскі тайны „Камітэт 6 снежня 1826 г.“, які паводле ўказанняў Нікалая, напужанага падзеямі 14 снежня, павінен быў падрыхтаваць праект „рэформ“. Пушкін і спрабаваў штурхнуць Нікалая на шлях рэформ, ён думаў, што лепшая, перадавая частка дваранства заклікана садзейнічаць Нікалаю ў гэтых рэформах. Гэта сістэма палітычных ідэй ляжыць у аснове славутых пушкінскіх „Стансаў“ (1826 г.), у якіх Пушкін заклікае Нікалая быць падобным Петру I.

> Семейным сходством будь же горд;
> Во всем будь пращуру подобен:
> Как он, неутомим и тверд,
> И памятью, как он, незлобен.

„Стансы“, як вядома, выклікалі не мала абурэння сярод некаторых сяброў паэта. Сёй-той абвінавачваў паэта ў адступніцтве, у лесці. Пушкін у адказ на гэта напісаў у 1828 г. новыя стансы. Досыць нават павярхоўнага азнаямлення з гэтымі тэкстамі для таго, каб пераканацца, што для Пушкіна зварот да Нікалая быў толькі своеасаблівым манеўрам па шляху далейшай барацьбы супроць „барства дикого“. Нават у „Стансах“ 1826 г. Пушкін намякае на тое, што гаворка ідзе пра такі палітычны лад, пры якім самадзяржаўе „не презирает страны родной“, не зневажае народу. Пушкін скарыстоўвае „Стансы“ для таго, каб абрушыцца ўсёй сілай свайго магутнага таленту на прыдворных ільсцяцоў, саноўных халопаў, акружаючых трон. Апелюючы да вобраза Петра I, як да ўзора самадзержца, Пушкін следаваў традыцыям, якія былі амаль што агульнапрынятымі сярод многіх яго дзекабрысцкіх сяброў.

Як вядома, не толькі Пушкін папулярызаваў у гэтыя гады ў літаратуры вобраз Петра I, як ідэальны ўзор самадзержца. Шэраг пісьменнікаў таго часу (Пагодзін, Кірэеўскі, Шэвыроў) звяртаюцца да гэтага вобраза, ідэалізуючы яго.

У святле гэтых палітычных установак трэба ўспрыймаць і паэму Пушкіна „Палтаву“. Вобраз Петра ў „Палтаве“, гэтак патэтычна апеты Пушкіным, узнімаецца паэтам, як нейкі ўзор для Нікалая. Нікалай, аднак, захапляўся, як вядома, іншымі ўзорамі. Дзікая муштра Аракчэева, жорсткасць, двудушнасць Бенкендорфа,—вось што старанна пераймаў малады цар. І Пушкін у гэтым вельмі скора пераканаўся.

На кожным кроку Пушкін адчуваў лапу нікалаеўскай ахранкі. Нават пісьмы Пушкіна да жонкі прачытваліся ахраннікамі. Цэнзура затрымлівала самыя нявінныя вершы паэта. Для Пушкіна стала ясна, што ён не можа прымірыцца з такой сістэмай.

## III

У свядомасці Пушкіна ўжо ў 1827 г. пачынае выспяваць вобраз народу—адзінага сапраўднага саюзніка паэта. З выключнай трагічнай сілай Пушкін выразіў гэтыя свае пошукі выхада ў народ у вядомых радках:

Блажен в златом кругу вельмож
Пиит, внимаемый царями.
Владея смехом и слезами,
Приправя горькой правдой ложь,
Он вкус притупленный щекотит
И к славе спесь бояр охотит.
Он украшает их пиры
И внемлет умные хвалы.
Меж тем за тяжкими дверями,
Теснясь у черного крыльца,
[Народ], толкаемый слугами
Поодаль слушает певца.

Паэт адчувае, што яго месца не „в златом кругу вельмож“. „За тяжкими дверями“, дзе „теснясь у черного крыльца, народ, толкаемый слугами поодаль слушает певца“—вось дзе сапраўдны чытач яго. Аднак, не лёгка даецца Пушкіну гэты шлях да народу. Пушкін з цяжкасцямі вызваляецца ад шэрагу забабонаў, якія ён увабраў у сябе сваім выхаваннем, сваёй культурай. Пушкін нават часам спрабуе знайсці выхад у „царстве эстэтычнай ілюзіі“. Пошукі свабоды ў „царстве эстэтычнай ілюзіі“—гэта найбольш трагічныя пошукі паэта. Пушкін спрабуе пераканаць сябе і чытачоў, што адзіноцтва паэта—адзінае выйсце з становішча.

У 1827 г. Пушкін піша пра паэта, якому „чужда людская молва“

Тоскует он в забавах мира,
Людской чуждается молвы,
К ногам народного кумира
Не клонит гордой головы.

Але ў гэтым-жа 1827 г. Пушкін піша верш „Салавей“, у якім ён асуджае паэта, які спявае „для хладной красоты“.

В безмолвии садов, весной, во мгле ночей,
Поет над розою восточной соловей.
Но роза милая не чувствует, не внемлет
И под влюбленный гимн колеблется и дремлет.
Не так ли ты поешь для хладной красоты?
Опомнись, о поэт, к чему стремишься ты?
Она не слушает, не чувствует поэта;
Глядишь—она цветет; взываешь—нет ответа.

У 1830 г. Пушкін зноў варочаецца да матыва гордага адзіноцтва паэта. У вершы „Паэту“ Пушкін піша: „Ты царь, живи один“. Аднак, адначасова Пушкін, як сапраўдны майстар добра разумее, што не ў адзіноцтве—няхай і пратэстуючым—ратунак мастацтва. Гэты заклік служыць толькі сабе, мог у дадзеных абставінах стаць сродкам адгароджвання паэта ад арыстакратычнай чэрні, аднак, не ў гэтым выйсце. У 1831 г. у вершы „Рэха“ Пушкін зноў падкрэслівае трагізм мастака, чые песні не знаходзяць водгука.

Няма сумнення ў тым, што, абрушваючыся ў шэрагу сваіх вершаў на „чэрнь“, паэт меў на ўвазе *арыстакратычную* чэрнь, якая

„каменеет в разврате“. Адначасова нельга таксама прайсці міма таго факта, што Пушкін у некаторых артыкулах сваіх, знаходзячыся пад уплывам сваіх сяброў маскоўскіх шэлінгіанцаў,—пісаў рэзкія артыкулы супроць утылітарызма ў мастацтве. Аднак, Пушкін ставіць гэту праблему значна глыбей, чым плоскія прыхільнікі буржуазнага „мастацтва для мастацтва“.

У 1836 г. Пушкін па гэтаму поваду піша: „Адчулі, што мэта мастака ёсць ідэал, а не нраванавучанне. Але пісьменнікі французскія зразумелі адну толькі палову ісціны не аспрэчваемай і вырашылі, што і нраўственая безабразнасць можа быць мэтаю паэзіі, г. зн. ідэалам!“

Пушкіну чужая была нраўственая безабразнасць. Яму чужым было тое дэкадэнцкае мастацтва—мастацтва заняпаду, якое неаднаразова спрабавала сваю ідэйную пустату і нраўственую безабразнасць прыкрыць аўтарытэтам Пушкіна, спасылкамі на тое, што, маўляў, Пушкін таксама прапаведваў: „Ты цар, жыві адзін!“ Пушкіну глыбока чужое эстэцкае фіглярства, крыўлянне фармалістычных „наватараў“, іх „звышчалавечая“ поза. Да яго цалкам можна прымяніць словы Энгельса пра Гётэ „Гетэ быў занадта універсальны, занадта актыўная натура, занадта плоць, каб шукаць ратунку ад убоства ў шылераўскім уцякацтве да кантаўскага ідэала (сузіральнага эстэцтва—*Я. Б.*). Ён быў занадта праніклівым, каб не бачыць, што ўцякацтва ўрэшце зводзілася да замены плоскага убоства высокапарным“.

І Пушкін быў занадта ўніверсальным, занадта актыўная натура, занадта плоць, каб шукаць ратунку ад нікалаеўскага царска-прыгонніцкага ўбоства ў „хладной красоте“ эстэцтва і „звышчалавечага“ індывідуалізма. Пушкін найвялікшы наватар рускай і сусветнай мастацкай літаратуры—зло здзекваўся над эстэцкім, фармалістычным „наватарствам“, якое зводзіцца да вычурнай рыфмы, да новага слова.

„Дэліль,—піша Пушкін,—ганарыцца тым, што ён ужыў слова „Vache“... Ёсць вышэйшая смеласць. Смеласць вынаходніцтва, стварэння, дзе план шырокі ахопліваецца творчаю думкаю. Такая смеласць Шэкспіра, Дантэ“.

Пушкін мысліў наватарства, як *наватарства ідэйнае*, у першую чаргу як „смеласць вынаходніцтва“. Як сапраўдны майстра, Пушкін стаяў вышэй усякіх вузка гуртковых літаратурных забабонаў, такіх характэрных для эстэцкіх „жрацоў“. Пушкін пісаў: „Няўжо немагчыма быць сапраўдным паэтам, не будучы ні закасцянелым класікам, ні фанатычным рамантыкам—формы, абрады ці павінны абавязкова паднявольваць літаратурнае сумленне“.

Пушкіну не да форм было і не да вузкагуртковых літаратурных абрадаў! Лепшы сын рускага народу не мог замкнуцца ў адзіноту эстэцкай „вежы з слановай косці“. Хіба мог ён забыць мужыка з труною дзіцяці пад пахаю:

Вот правда, мужичок, за ним две бабы вслед,
Без шапки он; несет под мышкой гроб ребенка
И кличет издали ленивого попенка,
Чтоб тот отца позвал, да церковь отворил,
Скорей! Ждать некогда! давно бы схоронил.

Гэтыя радкі з верша „Румяный критик мой“ невыпадковыя для Пушкіна апошніх год яго жыцця. Яны намячаюць той мастацкі пунктыр, які вядзе ад Пушкіна да Некрасава, да Белінскага і Чэрнышэўскага, да вялікіх сялянскіх дэмакратаў.

Перад Пушкіным стала на ўвесь рост праблема мужыка, праблема народу. Геніяльнае рэалістычнае чуццё Пушкіна падказвала яму, што „век гандляр“—век буржуазных адносін не ў сілах вырашыць гэтую праблему. Ад „вещих зениц“ паэта нельга было скрыць таго, што пасля было наступнымі словамі адзначана Герцэнам: „Калі мы ўзнімемся некалькі вышэй, то розніца паміж Парыжам, Лонданам і Пецербургам знікае, а астаецца адзін факт: раздушаная большасць натоўпам адукаваным...“ Пушкін, праўда, не мог не бачыць гэтай розніцы. Ён пісаў Вяземскаму ў 1826 г.

„Я, вядома, пагарджаю бацькаўшчынай маёй з галавы да ног, але мне дасадна, калі іншаземец падзяляе са мной гэтае пачуццё. Ты, які не на прывязі, як можаш ты аставацца ў Расіі? Калі цар дасць мне волю, то я месяца не астануся. Мы жывем у сумным веку, але калі выабражаю Лондан, чыгункі, паравыя караблі, англійскія часопісы, або парыжскія тэатры... то маё глухое Міхайлаўскае наганяе на мяне тугу і шаленства“.

Пушкін, як вядома, рабіў спробы ўцячы за мяжу. Пушкін быў добра знаёмы з лепшымі дасягненнямі культуры буржуазнага Захаду.

Аднак, ён не мог не бачыць з вышкі свайго рэалістычнага генія эксплаататарскай і *антынароднай* сутнасці буржуазнага грамадства. Дзекабрыст Пестэль быў у захапленні ад буржуазнага прагрэса. „Фабрыкі,—пісаў ён,—адкрываюць новую вытоку багаццяў, якія не залежаць ад зямельных уласнікаў, вытоку багаццяў, якая робіць мастака грамадзянінам усіх краін і распаўсюджвае дух незалежнасці і свабоды“ *. Пушкін, як вядома, не падзяляў гэтага захаплення.

У „Егіпецкіх начах“ ён гаворыць пра залежнасць буржуазнага мастака Захаду ад буржуазнага мецэната, супроцьстаўляючы гэтаму незалежнасць рускага двараніна пісьменніка: „Вы памыляецеся, сеньор,—перапыніў яго Чарскі,—годнасці паэтаў у нас не існуе. Нашы паэты не карыстаюцца апекаю паноў: нашы паэты самі паны і калі нашы мецэнаты (чорт іх забяры) гэтага не ведаюць, то тым горш для іх. У нас няма абшарпаных абатаў, якіх музыкант браў-бы з вуліцы для складання лібрэто. У нас паэты не ходзяць пеша з дому ў дом, выпрашваючы сабе дапамогу“.

Праўда, тут-жа Пушкін іранізуе над дваранскай незалежнасцю Чарскага: „Не гледзячы на вялікія перавагі, якімі карыстаюцца паэты (прызнацца, апрача права ставіць вінавальны склон замест роднага і яшчэ сіх-тых, так званых, паэтычных вольнасцей, мы ніякіх асаблівых пераваг за рускімі паэтамі не ведаем)—як бы там ні было, не гледзячы на ўсемагчымыя іх перавагі гэтыя людзі падупадаюць вялікім нявыгодам і непрыемнасцям. Зло самае горкае, самае нясцерпнае для паэта ёсць яго годнасць і прозвішча, якім ён закляймёны і якое ніколі яд яго не адпадае. Публіка глядзіць

* Глядзі „Красный Архив“ за 1925 г. т. XIII, стар. 228.

на яго як на сваю ўласнасць; на яе погляд ён народжаны для яе карысці і задавальнення“.

Не ўваходзячы тут у разгляд таго, як Пушкін спрабаваў абараняць сваю незалежнасць ілюзорнай уладаю „600-гадовага дваранства“, я тут хочу толькі адзначыць, што Пушкін добра бачыў другі бок буржуазнага прагрэса. Досыць успомніць яго артыкул „Джон Тэнер“, у якім паэт бічуе цынізм буржуазнай дэмакратыі Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатаў: „Са здзіўленнем убачылі дэмакратыю ў яе агідным цынізме, у яе жорсткіх забабонах, у яе нясцерпным тыранстве. Усё благароднае, бескарыслівае, усё ўзвышаючае душу чалавечую—прыдушанае няўмольным эгаізмам і страсцю да задаволенасці: большасць, якая нахабна прыцясняе грамадства, рабства неграў сярод адукаванасці і свабоды“.

Няма сумнення ў тым, што гэта крытыка буржуазнай дэмакратыі абмежавана эпохай і асяроддзем Пушкіна. Пушкін не бачыць у дастатковай меры пераваг дэмакратыі Паўночнага-Амерыканскіх Злучаных Штатаў перад нікалаеўскай Расіяй. Пушкін у гэтых артыкулах не вольны яшчэ ад дваранскіх саслоўных ілюзій. Аднак нельга прайсці міма велізарнай сілы пушкінскай крытыкі „гандлярскага веку“.

У 1834 г. Пушкін піша славутыя радкі пра становішча „англійскіх фабрычных работнікаў“—надзвычайныя заўвагі геніяльна празорлівага розуму.

„Прачытайце скаргі англійскіх фабрычных работнікаў: валасы ўстануць дыбам ад жаху. Колькі агідных катаванняў, незразумелых пакут, якое халоднае варварства, з аднаго боку, з другога—якая страшэнная беднасць. Вы думаеце, справа ідзе пра пабудову фараонавых пірамід, пра яўрэяў, працуючых пад бічам егіпцян. Зусім не, справа ідзе пра сукны пана Сміта, або пра іголкі пана Джэксона. І заўважце, што ўсё гэта ёсць не злоўжыванне, не злачынства, але адбываецца ў строгіх межах закона. Здаецца, што няма ў свеце больш няшчаснага, чым англійскі работнік, але паглядзіце што робіцца там пры вынаходніцтве новай машыны, якая пазбаўляе раптам ад катаржнай работы тысяч пяць або шэсць народу і пазбаўляе іх сродкаў да пражыцця“.

Нарэшце, ва ўрыўку „Што такое дваранства“,—урыўку не вольным ад саслоўных ілюзій Пушкіна, маюцца такія меркаванні:

„— Хто складае дваранства ў рэспубліцы?
— Багатыя людзі, якімі народ корміцца.
— А ў дзяржаве (манархічнай)?
— Ваенныя людзі, якія складаюць гвардыю і войска гасударава.
— Чым канчаецца дваранства ў рэспубліцы?
— Арыстакратычным кіраваннем.
— А ў дзяржаве?
— Рабствам народу.

А=Б“

А = Б у тым сэнсе, як гэта пасля разумеў Герцэн, калі ён казаў, што ў апошнім ліку няма розніцы паміж Пецербургам і Лонданам.

Пушкін у апошнія гады свайго жыцця ўсё часцей і часцей пачынае задумвацца над праблемай народнага, сялянскага паўстання, хаця з цяжкасцямі перамагае свой страх перад ім. Таксама, як перамагаючы шэраг рознагалоссяў з Белінскім таго перыяду, Пушкін шукае збліжэння з ім. У „Пісьме да выдаўца“ (1836 г.), Пушкін піша: „Шкадую, што вы, гаворачы пра „Тэлескоп“, не ўпамянулі пра п. Белінскага. Ён выяўляе талент, які дае вялікую надзею“.

Пушкіну, які выхаваўся ў асяроддзі „страшна далёкім ад народу“, як казаў Ленін, не лёгка было перамагчы ў сабе пачуццё страху перад стыхіяй сялянскіх паўстанняў. Вядомы словы Грынёва ў „Капітанскай дачцы“: „Не давядзі бог бачыць рускі бунт—бяссэнны, бязлітасны“. Гэтыя словы Грынёва маглі ў той або іншай ступені выражаць думкі самога Пушкіна.

Пушкін, праўда, у прыпадку гневу супроць „барства дзікага“ не раз казаў, што сам гатовы зацягнуць пятлю на шыі дваранства, але гэта, разумеецца, яшчэ не азначае свядомага пераходу паэта на пазіцыі мужыка з тапаром.

Аднак, мужык з тапаром настойліва стукаўся ў свядомасць Пушкіна апошніх год яго жыцця. Пушкін бачыў перад сабою „народ толкаемый слугами“, калі ён пісаў „Гісторыю сяла Гарухіна“—надзвычайную аповесць, у якой Пушкін быў папярэднікам Салтыкова-Шчэдрына. Усе памятаюць славутыя радкі з дзённіка:

„1-га мая—снег. Трышка за грубасць біты. 6-га—карова бурая пала. Сенька за п'янства біты. 8-га—надвор'е яснае. 9-га—дождж і снег. Трышка біты па надвор'ю.“

Чытач—сучаснік Пушкіна добра расшыфроўваў рэвалюцыйны сэнс вонкава-бескрыўднага „Летапіса сяла Гарухіна“.

Белінскі недвухсэнсоўна намякаў на рэвалюцыйны сэнс „Гісторыі сяла Гарухіна“, калі ён пісаў: „Летапіс сяла Гарухіна“—жарт вострый, мілы і забаўны, у якім, хаця ёсць і сур'ёзныя рэчы, як напрыклад, прыбыццё ў сяло Гарухіна упраўляючага і малюнак яго кіравання“. Праблема народнага паўстання стаіць перад Пушкіным у няскончаным творы „Сцэны з рыцарскіх часоў“. Невыпадкова Чэрнышэўскі, ідэолаг сялянскай рэвалюцыі заявіў у сваіх артыкулах пра Пушкіна, што „Сцэны з рыцарскіх часоў“ „павінны быць у мастацкіх адносінах пастаўлены не ніжэй „Барыса Гадунова“, а быць можа і вышэй.“ Чэрнышэўскі не дарма так высока ацаніў гэты незакончаны твор.

У „Сцэнах з рыцарскіх часоў“ паэт вельмі празрыста раскрывае пакутныя свае пошукі выйсця ў вобразе Франца—„беднага рыцара“.

Францу ненавісны буржуа-бацька. Ён здзекваецца над бессэнсоўнай сквапнасцю яго. Франца захапляе яркае, слаўнае жыццё ўсемагутных рыцараў. Але першая сутычка з гэтым асяроддзем напамінае яму аб тым, што ён „мужык, подлае стварэнне,“ вартае толькі аплявухі. Франц прагне помсты. Апынуўшыся без грошай бацькі, які пазбавіў яго спадчыны, зацкаваны замкам, Франц узнімае паўстанне васалаў. З дубінамі і косамі яны нападаюць на рыцараў. Рыцары падаюць, аглушаныя ўдарамі, але броня рыцар-

скіх даспехаў ратуе іх. Дапамога, што падаспела ў пару, адразу мяняе становішча, Франц аказваецца пераможаным.

У святле соцыяльных шуканняў Пушкіна гэты лёс Франца гучыць вельмі шматзначна. Пушкін і сябе бачыў па сутнасці ў ролі падобнага да Франца „беднага рыцара“. Ён мог-бы аб сваім жыцці сказаць словамі Франца, трагічнага ў сваёй адзіноце:

Жил на свете рыцарь бедный,
Молчаливый и простой,
С виду сумрачный и бледный,
Духом смелый и прямой,
Он имел одно виденье,
Непостижное уму,
И глубоко впечатленье
В сердце врезалось ему.

Гэтае „відзенне, недасяжнае розуму“ не пакідала ні на хвіліну вялікага паэта.

Пушкін з кожным годам усё больш упіраўся ў праблему народнай сялянскай рэволюцыі.

У „Дуброўскім“, у „Капітанскай дачцы“ Пушкін зноў і зноў звяртаецца да тэмы народнага паўстання.

У „Дуброўскім“ Пушкін выводзіць вобраз бунтуючага мужыка ў асобе каваля Архіпа, які жорстка распраўляецца з іспраўнікам і яго прыказнымі. Ён іх запірае і падпальвае дом. Ён—„страшны мужык!“. Але гэты „бессэнсоўны і бязлітасны“ бунтар з сапраўдным благародствам кідаецца ў полымя, каб ратаваць кошку, якая засталася на даху ахопленага пажарам дома. „Страшны мужык“ авеяны высокай чалавечнасцю.

Яшчэ раз вяртаецца Пушкін да тэмы благародства паўстаўшага народу ў „Капітанскай дачцы“.

У раздзеле другім, у сцэне сну Грынёва, пакутная думка Пушкіна аб лёсе „бессэнсоўнага і бязлітаснага рускага бунту“ выступае з выключным напружаннем. Грынёву, засцігнутаму буранам у стэпу і заснуўшаму ў кібітцы, сніцца, што ён прыехаў дадому, да хворага бацькі. Але ў пасцелі аказаўся не бацька.

„Замест бацькі майго, бачу ў пасцелі ляжыць мужык з чорнай барадой, весела на мяне пазіраючы. Я ў недаўменні павярнуўся да матушкі, гаворачы ёй:—Што гэта азначае? Гэта не бацюшка, і з якой мне рацыі прасіць благаславення ў мужыка?—Усё роўна, Пятруша,—адказала мне матушка,—гэта твой пасаджоны бацька; пацалуй у яго ручку, і няхай ён цябе благаславіць...—Я не згаджаўся. Тады мужык падскочыў з пасцелі, выхапіў сякеру з-за спіны і пачаў махаць ва ўсе бакі. Я хацеў бегчы...І не мог; пакой напоўніўся мёртвымі целамі, я спатыкаўся аб целы і слізгаўся ў крывяных лужах... Страшны мужык ласкава мяне клікаў, гаворачы: „Не бойся, падыйдзі пад маё благаславенне“.

Гэты сон набывае асобае гучанне, калі ён асэнсоўваецца ў святле разважанняў Пушкіна над лёсам сялянскага паўстання. „Мужык з сякерай“ неадступна следуе за Пушкіным амаль да апошніх гадоў яго жыцця. „Не бойся, падыйдзі пад маё благаславенне“—шэпча ён паэту. Пушкін, як і ўсё яго пакаленне дваранскіх

рэвалюцыянераў ледзьве перамагае свой страх перад „бессэнсоўным і бязлітасным рускім бунтам“. Але ён ужо падсвядома адчувае велічную магутнасць народу, які ўзяўся за сякеру.

Хіба не велічны і благародны вобраз Пугачова ў сюжэтным матыве „заячага тулупа“? Хіба не прыгожы Пугачоў, калі ён наіўна пахваляецца сваімі перамогамі і пытаецца ў Грынева: „Як ты думаеш, ці мог-бы прускі кароль са мной падужацца?“

Яшчэ больш выдатная казка Пугачова аб вароне і аб арле. У адказ на намёкі Грынёва аб надыходзячай гібелі, Пугачоў расказвае яму казку аб тым, як арол не згадзіўся жыць падобна да ворана трыста гадоў і жывіцца падаллю. „Чым трыста гадоў жывіцца падаллю, лепш раз напіцца жывой крыві, а там, што бог дасць“.

Нельга не ўспомніць аб паэтычнай пераклічцы гэтай пугачоўскай казкі з горкаўскай казкай „Пра сокала і вужа“. Фальклорна-песенныя эпіграфы да раду раздзелаў у „Капітанскай дачцы“ ствараюць тую нелегальную атмасферу велічы Пугачова і яго ўдалых сяброў, якую нельга знішчыць ніякімі добранамернымі публіцыстычнымі рэмаркамі Грынёва аб „бессэнсоўным рускім бунце“. Вобраз народу перамог знешнюю добранамернасць „пиита, внимаемого царями“. „Страшны мужык“ уладарна прыйшоў у пушкінскую свядомасць.

* *
*

Усё жыццё Пушкін шукаў выйсця ў народ. Гэта было адзіна магчымае, хоць і пакутна цяжкае, выйсце з той трагічнай адзіноты „адшчапенства“, у якой ён апынуўся, як і апынуліся яго сябры— дзекабрысты. „Вузкае кола гэтых рэвалюцыянераў. Страшна далёкія яны ад народу“—так піша Ленін аб гэтым першым пакаленні дваранскіх рэвалюцыянераў пачатку 19 стагоддзя.

Пушкін перамог гэту адчужанасць ад народу. Ён стаў лепшым сынам рускага народу. Да яго сапраўды не зарасла народная трапа.

## *Хроніка*

### Сход совецкіх пісьменнікаў БССР па пытанню падрыхтоўкі да XX гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі

25 сакавіка ў Доме пісьменнікаў пачаў сваю працу сход совецкіх пісьменнікаў Беларусі, прысвечаны падрыхтоўцы да XX гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі. Сход заслухаў даклад намесніка старшыні праўлення ССПБ тав. Александровіча. Па дакладу на працягу чатырох дзён былі разгорнуты шырокія спрэчкі.

Тав. Александровіч у сваім дакладзе расказаў сходу, як класавыя ворагі нацдэмы і трацкісты, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці, арудавалі ў арганізацыі ССПБ. Гэта здарылася таму, што крытыка і самакрытыка сярод пісьменнікаў была не ў модзе. Сярод пісьменнікаў звіло сабе гняздо падхалімства і ўгодніцтва. Заклятыя ворагі народу, Жылуновіч, Зарэцкі, Сташэўскі, Баранавых, Вольны і іншая сволач, якія пралезлі ў шэрагі пісьменнікаў, рабілі сваю контррэволюцыйную справу.

Тав. Александровіч прывёў прыклады дрэннай работы праўлення ССПБ, страты рэволюцыйнай пільнасці. Далей т. Александровіч інфармаваў сход, над чым працуюць пісьменнікі да XX гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі.

Спрэчкі, якія цягнуліся чатыры дні, праходзілі пад знакам крытыкі і самакрытыкі. На сходзе выказалася больш трыццаці чалавек.

На сходзе з прамовай выступіў загадчык культасветнага аддзела ЦК КП(б)Б тав. Ткачэвіч.

### Над чым працуюць беларускія пісьменнікі

□ **Андрэй Александровіч**—працуе над паэмай, у якой імкнецца стварыць вобраз большэвіка-беларуса.

□ **Змітрок Бядуля**—напісаў аповесць пра фашысцкую інтэрвенцыю ў Іспаніі. Аповесць называецца „Любоў і нянавісць".

□ **Платон Галавач**—напісаў новую аповесць пра вызваленне Беларусі ад белапалякаў. Аповесць называецца „Яны не пройдуць".

□ **Кузьма Чорны**—напісаў новую п'есу „Расплата за маладасць".

□ **Пятрусь Броўка**—піша паэму пра беларускую жанчыну—батрачку.

□ **Мікола Хведаровіч**—працуе над паэмай аб стракапытаўскім паўстанні і аб гераічнай барацьбе палескіх комунараў.

□ **Аркадзь Куляшоў**—працуе над паэмай пра трактарыстаў соцыялістычных палёў.

□ **Эдуард Самуйлёнак**—канчае раман аб Грузіі і раман „Пагібель воўка".

□ **Міхась Лынькоў**—працуе над раманам з часоў нямецкай акупацыі.

### Выйшлі з друку наступныя кніжкі:

□ **Мікола Хведаровіч**—„Усім сэрцам", зборнік вершаў.

□ **Ільля Гурскі**—Вясна, п'еса для калгасных гурткоў.

□ **Янка Купала**—„Прымакі" і „Паўлінка" п'еса для самадзейных гурткоў.

□ **Рыгор Кобец**—„На заставе", п'еса для самадзейных гурткоў.

□ **Праф. Замоцін**—„А. С. Пушкін"—манаграфія.

### Сталін у беларускай паэзіі

Паэтычная секцыя ССПБ рыхтуе зборнік вершаў пра вялікага Сталіна. У зборніку будуць змешчаны вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Андрэя Александровіча, Пятруся Броўкі, Пятро Глебкі, Міколы Хведаровіча, Эдзі Агняцвет, Аркадзія Куляшова. Зборнік даручана скласці А. Кучару.

## Зборнік песень народаў БССР

Кіраўніцтва па справах мастацтваў пры СНК БССР разам з фальклёрнай камісіяй Акадэміі Навук БССР рыхтуе да друку зборнік песень народаў Совецкай Беларусі. У зборніку будуць змешчаны 185 песень на беларускай, яўрэйскай і польскай мовах, якія пяюцца ў Беларусі, і песень другіх народаў Совецкага Саюза.

Сярод сабраных песень ёсць многа такіх, якія распяваліся ў час прыгонніцтва. У зборнік увойдуць песні перадкастрычніцкага перыяду, песні часоў грамадзянскай вайны і песні перыяду будаўніцтва соцыялізма.

Значная частка песень запісана на алімпіядах мастацкай самадзейнасці рабочых і калгаснікаў.

Зборнік выйдзе з друку да 11 ліпеня, к дню XVII гадавіны вызвалення Беларусі ад белапалякаў.

## Песні і казкі аб Леніне і Сталіне

Фальклорная камісія Акадэміі навук БССР сабрала многа цікавых матэрыялаў народнай творчасці пра Леніна і Сталіна.

Дванаццаць навуковых работнікаў і кампазітараў накіроўваліся ў раёны Беларусі і наведалі каля 30 калгасаў, у тым ліку калгасы беларускага Палесся. Імі запісана звыш 300 песень і казак пра Леніна і Сталіна.

У калгасе „Чырвоны маяк“ Мазырскага раёна зафіксаваны песні аб Леніне, аб Сталіне, складзеныя калгасніцай Грэчнай. Да гэтых песень калгаснікі стварылі мелодыі і выконваюць іх хорам. Шэраг песень з мелодыямі запісаны з дапамогаю фонографа.

## Літаратурны гурток на граніцы

У пагранічным атрадзе, якім камандуе палкоўнік Шмідт, створан творчы літаратурны гурток. У яго склад уваходзіць і пагранічнік зверхтэрміновай службы т. Чэроў. Ён піша вершы. Тэматыка яго твораў пагранічная, у іх ён адлюстроўвае жыццё і побыт, і гераізм пагранічнікаў. На такія-ж тэмы піша творы лейтэнант Рачкоў. У тым-жа літаратурным гуртку працуюць і старшы лейтэнант т. Круціхін, пагранічнік т. Крыніца, старшы лейтэнант тав. Лапцеў.

## Украінскія совецкія пісьменнікі да XX-годдзя Кастрычніка.

Калектыў украінскіх совецкіх пісьменнікаў і паэтаў рыхтуецца да сустрэчы XX-годдзя Кастрычніка новымі мастацкімі творамі.

Пісьменнік-драматург І. Мікітэнка прымае ўдзел у дзяржаўным усесаюзным конкурсе драматургаў. Ён рыхтуе п'есу пра вялікую пролетарскую рэволюцыю і пра ролю ў ёй Леніна. Тав. Мікітэнка рыхтуе таксама другую частку рамана „Ранак“.

У гэтым-жа конкурсе бярэ ўдзел і А. Карнейчук, які працуе над п'есаю на аналагічную тэму. У яго новай п'есе ён таксама імкнецца паказаць вобраз кіраўніка пролетарскай рэволюцыі—Леніна.

Рыхтуюць новыя п'есы драматургі: І. Качарга, С. Левіціна, аўтар вядомай п'есы („Усцім Кармалюк“) В. Сухадольскі, і інш.

Андрэй Галоўка канчае другую частку рамана „Маці“, у якой паказан перыяд грамадзянскай вайны на Украіне. Іван Кірыленка рыхтуе раман „Равеснікі“—пра пакаленне, якое народжана рэволюцыяй. Пятро Панч напісаў для рэдакцыі „Двух пяцігодак“ аповесць „Мір“—пра нямецкую акупацыю на Украіне. Іван Ле працуе над гістарычным раманам „Украіна“, у першай частцы якога паказвае барацьбу украінскіх прыгнечаных мас за сваё вызваленне.

О. Капыленка—піша другую частку рамана „Дужа добра“—пра совецкую школу. Ю. Яноўскі напісаў п'есу пра нямецкую акупацыю, а таксама піша аповесць „Капітаны“, пра грамадзянскую вайну на Украіне. Ю. Смоліч канчае раман пра нямецкую акупацыю. Г. Кацуба—рыхтуе раман пра жыццё і барацьбу рабочых Крыварожжа, А. Любчанка—закончыў раман пра новы соцыялістычны Донбас і яго людзей. К. Гардзіенка—напісаў раман „Дзеці зямлі“, пра цяжкае жыццё работніцы на капіталістычных прадпрыемствах. В. Кузміч напісаў гісторыю вядомага на Украіне сяла Вішнякі. І. Сенчанка—напісаў раман пра стары Луганск.

Працуюць над новымі творамі да XX-годдзя Кастрычніка пісьменнікі: А. Шыян, В. Торын, С. Скляранка, Д. Галушка, О. Кундзіч і інш.

Совецкія паэты Украіны прыходзяць да XX-годдзя Кастрычніка з новымі творамі. Як першую калектыўную

працу трэба адзначыць вялікую калектыўную паэму, напісаную паэтамі П. Тычынаю, М. Рыльскім, Л. Первамайскім, М. Бажаном, С. Галаванiўскім, І. Куліком, М. Тэрэшчэнка, І. Феферам, П. Усенка, М. Іогансенам, Н. Ушаковым. Асноўны герой паэмы—сімвалічны Іван Галота, прадстаўнік найбяднейшых колаў Украіны. Сын калісьці прыгнечанага украінскага народу, які праходзіць праз усю гісторыю вызваленчай барацьбы, аж да светлых дзён вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

П. Тычына канчае вялікую паэму пра легендарнага героя грамадзянскай вайны Г. Катоўскага.

М. Рыльскі піша вершаваны раман пра совецкую жанчыну, а таксама напісаў лібрэто оперы „Шчорс".

Л. Першамайскі піша паэму „Маладасць брата"—пра ўдзел комсамола ў грамадзянскай вайне.

М. Бажан канчае паэму пра Сяргея Міронавіча Кірава.

В. Сасюра рыхтуе паэму „Чырвонагвардзеец".

Тэрэшчанка піша паэму „Сустрэча з краінай".

Акрамя таго ныйдуць новыя зборнікі паэзіі: І. Муратава, Е. Фаміна, Т. Масенка, С. Кжыжаніўскага, Е. Віргана, Чэпурнога, і інш.

Як дасягненне украінскіх паэтаў трэба адзначыць і тое, што яны падрыхтавалі для перакладу на рускую мову анталогію украінскай паэзіі ў трох тамах, якая адлюстроўвае народную творчасць, фальклор (I том), класічную украінскую паэзію (II том), паслякастрычніцкую украінскую паэзію (III том). Над перакладамі працуюць лепшыя маскоўскія, ленінградскія паэты: М. Асееў, П. Антакольскі, А. Безыменскі, А. Суркоў, М. Святлоў, А. Пракоф'еў, В. Лугаўской, М. Галодны і інш.

## Марыя-Тэрэса Леон і Рафаэль Альберці ў Маскве

У Маскву з Іспаніі прыехалі вядомыя іспанскія рэволюцыйныя пісьменнікі Марыя-Тэрэса Леон і Рафаэль Альберці. На пероне Кастрычніцкага вакзала гасцей сустракалі прадстаўнікі саюза совецкіх пісьменнікаў В. Стаўскі, А. Фадзееў, паэт—ордэнаносец Арменіі Наіры За р'ян, нямецкі рэволюцыйны пісьменнік Вілі Брэдэль, прадстаўнікі совецкага друку і інш. Маскоўскія пісьменнікі наладзілі іспанскім таварышам цёплую сустрэчу і прыпаднеслі ім кветкі.

Пры выхадзе з будынка вакзала адбыўся кароткі мітынг, на якім Марыя-Тэрэса Леон і Рафаэль Альберці выступілі з гарачым прывітаннем да масквічоў ад імя абаронцаў рэспубліканскай Іспаніі.

Гасцей, і ў іх асобе, гераічных абаронцаў Мадрыда і ўсіх працоўных рэспубліканскай Іспаніі вітаў адказны сакратар саюза совецкіх пісьменнікаў тав. В. Стаўскі.

## Прыём іспанскіх пісьменнікаў Рафаэля Альберці і Марыі-Тэрэса Леон таварышам Сталіным

20 сакавіка таварыш Сталін прыняў для гутаркі іспанскіх пісьменнікаў Рафаэля Альберці і Марыю-Тэрэсу Леон. Гутарка прадаўжалася дзве гадзіны.

## Рафаэль Альберці і Марыя-Тэрэса Леон аб гутарцы з таварышам Сталіным

Дзве гадзіны, праведзеныя з таварышам Сталіным, занадта кароткі тэрмін, каб зразумець і выразіць, чым ён з'яўляецца і што сабой уяўляе.

Першыя мінуты нашай сустрэчы з ім мы былі ахоплены хваляваннем. Мы гаварылі так проста і сардэчна з правадыром вялікага Совецкага Саюза. Таварыш Сталін яшчэ сардэчней, яшчэ чалавечней, чым усё, што можна сказаць пра яго. Мы былі здзіўлены дакладнасцю і правільнасцю яго слоў і меркаванняў аб іспанскіх справах. Ён гаварыў з намі самым сардэчным чынам аб нашых героях, нашых народных правадырах, нашых сялянах, нашых пісьменніках.

З ласкавай усмешкай гаварыў ён аб сваіх сімпатыях да нашай адважнай моладзі. Іншыя пісьменнікі, яго наведваўшыя, асабліва падкрэслівалі яго энергію, яго цвёрдасць. На нас зрабілі моцнае ўражанне яго дабрата, яго веданне людзей, яго жаданне бачыць іх шчаслівымі.

Зусім асобная здольнасць таварыша Сталіна вырашаць у сваім розуме тыя пастаянныя праблемы, якія ставіць перад ім шчасце яго велізарнай краіны, і тое, што ён знаходзіць у ім месца і для нашай радзімы.

*РАФАЭЛЬ АЛЬБЕРЦІ*
*МАРЫЯ-ТЭРЭСА ЛЕОН.*

### Таварышу Сталіну

Пакідаючы Совецкі Саюз, мы хочам выказаць Вам, як лепшаму прадстаўніку вялікага народу, нашу падзяку за братнюю гасціннасць, аказаную нам совецкім народам за велізарную любоў, якую ён праяўляе да лёсу нашай радзімы.

Мы шлем Вам прывітанне, запэўняючы Вас у пачуццях нашай цвёрдай і пачцівай дружбы.

*РАФАЭЛЬ АЛЬБЕРЦІ*

*МАРЫЯ—ТЭРЭСА ЛЕОН.*

### Перад юбілеем Шота Руставелі

Па ўсёй Грузіі ідзе падрыхтоўка да святкавання 750—годдзя з дня нараджэння геніяльнага паэта грузінскага народу Шота Руставелі. Паэма „Віцязь у тыгравай скуры" будзе выпушчана на грузінскай мове ў акадэмічным і масавых выданнях. На рускай мове, акрамя існуючага перакладу Бальманта, „Віцязь у тыгравай скуры" будзе выданы ў перакладах Петрэнка і Цагарэлі. Асобныя часткі будзе перакладаць паэт Антакольскі. Над перакладам паэмы для дзяцей працуе ленінградскі паэт Забалоцкі. „Віцязь у тыгравай скуры" выдаецца таксама на мовах братніх рэспублік—Азербайджана, Арменіі і Украіны.

Дзяржаўны універсітэт Грузіі выпускае паэму Шота Руставелі на англійскай і французскай мовах.

Да юбілея выпускаецца альбом ілюстрацый з старадаўніх грузінскіх рукапісаў паэмы, шэраг зборнікаў, манаграфій і маркі з партрэтам Шота Руставелі. Рыхтуецца вялікая выстаўка, прысвечаная вялікаму паэту і яго эпосе. Мяркуецца правесці „Месячнік Руставелі", у часе якога адбудуцца ўрачыстыя паседжанні, даклады і вечары ў сталіцы рэспублікі—Тбілісі, у аўтаномных рэспубліках Абхазіі і Аджарыі, у Паўднёва-Асецінскай аўтаномнай вобласці і ў шэрагу гарадоў і вёсак Грузіі. У дні месячніку будзе пастаўлен помнік Шота Руставелі. Мяркуецца таксама правесці ў Тбілісі пленум саюза совецкіх пісьменнікаў і сесію навуковых установ Грузіі.

Юбілей Шота Руставелі будзе праздзен у Грузіі, як усенароднае свята.

### „Кабзар" Шэўчэнка на грузінскай мове

Культурная сувязь дружбы паміж пісьменніцкімі арганізацыямі Украіны і Грузіі садзейнічае развіццю шырокай цікавасці грузін да творчасці класікаў і сучасных пісьменнікаў Украіны. Вялікая падзея—пераклад на грузінскую мову „Кабзара" Шэўчэнка. Аднатомнік выйдзе ў пачатку красавіка тыражом у 5000 экз. У перакладах „Кабзара" прынялі ўдзел многія паэты Грузіі.

У лютым выйшла з друку асобным выданнем паэма „Кацярына" ў перакладзе Чыкавані. Выданне разышлося поўнасцю, многія творы Шэўчэнка друкуюцца ў грузінскіх перыядычных выданнях.

### Шасцідзесяцігоддзе пісьменніка А. С. Новікава-Прыбоя

24 сакавіка споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння совецкага пісьменніка Алексея Сілыча Новікава-Прыбоя. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і. Доўгі час быў матросам, удзельнікам славутага цусімскага бою ў руска-японскую вайну і сведкай гібелі другой ціхаакеанскай эскадры ў 1905 годзе.

Сапраўдная літаратурная дзейнасць Новікава-Прыбоя пачалася пасля Кастрычніка і атрымала найбольшы росквіт у нашай соцыялістычнай рэчаіснасці. Пісьменнік стварыў цэлую серыю выдатных апавяданняў, якія паказваюць жыццё маракоў царскага флота. Яго раман „Цусіма" добра вядомы мільёнам совецкіх чытачоў.

Зараз пісьменнік працуе над новай аповесцю „Капітан першага ранга". Герой аповесці ў царскім флоце быў веставым, а за гады вялікай пролетарскай рэволюцыі скончыў марскую школу, ваенна-марскую акадэмію і з'яўляецца выдатным капітанам першага ранга чырвонага флоту.

Праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў наладзіла ў доме пісьменнікаў вялікі вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння А. С. Новікава-Прыбоя. Юбіляр атрымаў шмат тэлеграм ад братніх совецкіх пісьменнікаў Украіны, Беларусі і інш., а таксама атрымаў прывітанне ад праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў СССР.

### Памерла Агрыпіна Караванава

28 лютага ў Свярдлоўску пасля доўгай хваробы памерла Агрыпіна

Карэванава, аўтар вялікай, ярка напісанай кнігі „Маё жыццё“, якая выйшла ў выданні „Гісторыі заводаў“ з уступам М. Горкага.

Агрыпіна Карэванава—дачка прыгоннага уральскага рабочага. Яна нарадзілася ў 1869 г. Сваю кнігу Карэванава напісала ва ўзросце 66 гадоў. У апошні час яна працавала над новай кнігай.

### Чацверты том „Ціхага Дона“

Пісьменнік Міхаіл Шолахаў скончыў работу над першай паловай чацвертага тома вядомага рамана „Ціхі Дон“.

Дзяржаўнае выдавецтва мастацкай літаратуры прыняло да друку першую палову чацвертага тома „Ціхага Дона“. У яе поўнасцю ўваходзіць сёмая частка рамана. Гэтую частку Дзяржлітвыдат выпусціць у маі асобнай кнігай, тыражом у 20 тысяч экземпляраў.

### У Ленінградскім аддзяленні саюза савецкіх пісьменнікаў

17 сакавіка адбыўся сход членаў ленінградскага аддзялення саюза савецкіх пісьменнікаў. За ўвесь час існавання саюза—з жніўня 1934 г. праўленне ўпершыню сустрэлася з сваімі выбаршчыкамі. Праўленне саюза ператварылася ў бюракратычную канцылярыю, якая была адарвана ад пісьменніцкай масы.

Аб шкодніцкай рабоце антысавецкіх трацкісцкіх элементаў, якія пралезлі ў літаратурную арганізацыю, гаварылі ў сваіх дакладах Н. Тіханаў і С. Свірын. У рабоце сходаў прымалі ўдзел прыехаўшыя з Масквы т.т. Стаўскі і Вішнеўскі.

### Паэты Крыма

Дзяржлітвыдат выпусціў зборнік „Паэты Крыма“. Гэта—вершы пераклад на рускую мову твораў сучасных паэтаў Крыма. У кнігу ўвайшлі вершы 11 паэтаў. Грамадзянская вайна, умацаванне савецкай улады, соцыялістычнае будаўніцтва ў Крыму, радасць свабоднай творчасці і працы,—такія тэмы вершаў.

У зборнік увайшлі творы старэйшых пісьменнікаў: Ібчы, Шэмы-Задэ, Тархана, Іргад-Кадыр, Алтанлы, з маладых пісьменнікаў: Алядзін, Аміт, Бахшыш, Джаўтабелі, Джаманклі, Сулейман.

Пераклады вершаў зроблены Барысам Брыкам і Арсеньем Таркоўскім.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*

РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

## ЗМЕСТ





Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *Х. Абрамава*

Здана ў набор 2/III—37 г. Падпісана да друку 17 [illegible] г. Аб'ём 13 друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000 Папера 62×94 1/16. Тыраж 2.000 экз.
Зак. № 301 Галоўлітбел № 134.

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку

